# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
# КАНЦА XVIII – ПАЧАТКУ XX ст.

## У ДАКУМЕНТАХ І МАТЭРЫЯЛАХ

Хрэстаматыя

Укладальнік і навуковы рэдактар –
доктар гістарычных навук А.Ф. Смалянчук

Вільня
ЕЎРАПЕЙСКІ ГУМАНІТАРНЫ УНІВЕРСІТЭТ
2007

УДК 947.6“17/19”(082)
ББК 63.3(4 Беи)
Г51

Рэцэнзент
доктар гістарычных навук, прафесар *М.В. Біч*

Г51 **Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах.** Хрэстаматыя / уклад., навуковы рэдактар А.Ф. Смалянчук. – Вільня: ЕГУ, 2007. – 302 с.

ISBN 9955-9878-2-0.

“Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах” – гэта зборнік гістарычных дакументаў, многія з якіх друкуюцца упершыню, а таксама фрагментаў навуковых даследаванняў і публіцыстычных твораў.

Хрэстаматыя дазваляе пазнаёміцца з заканамернасцямі і асаблівасцямі гісторыі Беларусі ў перыяд яе знаходжання ў складзе Расійскай імперыі. Укладальнік імкнуўся паказаць значэнне як унутраных, так і знешніх фактараў гістарычнага развіцця. Пры гэтым ён зыходзіў з таго, што галоўным суб’ектам айчыннай гісторыі з’яўляецца карэннае насельніцтва беларускай зямлі, і ў першую чаргу беларусы. Дакументы і матэрыялы Хрэстаматыі адлюстроўваюць розныя погляды на праблемы беларускай гісторыі і носяць дыскусійны характар.

Адрасаваная выкладчыкам, студэнтам ВНУ і вучням старэйшых класаў гімназій і ліцэяў з паглыбленым вывучэннем гуманітарных дысцыплін, а таксама ўсім, каго цікавіць гісторыя Беларусі.

**УДК 47.6“17/19”(082)**
**ББК 63.3(4 Беи)**

**ISBN 9955-9878-2-0**

# Змест

**Раздзел III**
**Беларусь на пачатку XX ст.**

# Прадмова

Даўно заўважана, што народ, які не мае памяці і не ведае сваёй гісторыі, не мае і будучыні. Калі мы без гісторыі, то і Гісторыя без нас.

Хочацца верыць, што перыяд бяспамяцтва, які на беларускай зямлі аказаўся вельмі працяглым, мінуў назаўсёды. На пачатку 90-х гг. XX ст. Беларусь дзякуючы палітычным пераменам і энергічнай працы навукоўцаў стала нарэшце самастойным аб’ектам гістарычных даследаванняў. Спробы некаторых гісторыкаў-публіцыстаў і асобных палітыкаў і сёння глядзець на Беларусь як на “Заходні край Расіі” або “Крэсы ўсходнія Польшчы” выклікаюць ужо не столькі абурэнне, колькі ўсмешку.

Але ў працэсе адраджэння лепшых традыцый беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі канца XIX – пачатку XX ст. і пераасэнсавання напрацовак савецкай навукі мы не адразу заўважылі, якую вялізарную ролю ў тлумачэнні беларускага гістарычнага лёсу пачаў адыгрываць вобраз “ворага”. У многіх сучасных даследаваннях не адчуваецца аўтарскай упэўненасці, што менавіта беларусы з’яўляліся галоўным суб’ектам, а значыць, Стваральнікам уласнай гісторыі. Імкненне паказаць (а іншым разам і перабольшыць) трагедыйнасць мінулага Айчыны непрыкметна абярнулася перабольшваннем фактару чужароднага або іншаземнага ўмяшальніцтва. У выніку асобныя старонкі беларускай гісторыі пачалі нагадваць свайго роду “гісторыю палявання”, напісаную зайцам. Сапраўды, шматлікія эпізоды нашай гісторыі прымушаюць казаць пра тое, што беларуская зямля часта станавілася аб’ектам вайсковай агрэсіі, пляцоўкай асіміляцыйных эксперыментаў і заложніцай чужой палітыкі. Аднак упэўнены, што айчынная гісторыя павінна быць прасякнута пачуццём уласнай адказнасці за ўласны гістарычны лёс. Гэта дазволіць пераадолець свайго роду правінцыяльны самаізаляцыянізм і рэальна зразумець, чаго мы вартыя ў чалавечай гісторыі.

Зварот першаснай увагі на ўласны ўклад у гісторыю, успрыманне расіян, палякаў, немцаў і іншых не як ворагаў, а як суседзяў, гістарычны лёс якіх мае шмат агульнага з беларускім, павінны стаць нормай сучаснай гістарыяграфіі. Гісторыя не з’яўляецца выключна

барацьбой за выжыванне. Гісторыя – гэта таксама партнёрства і супрацоўніцтва, якое толькі і дазваляе будаваць будучыню.

Хрэстаматыя “Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах” распавядае пра гэтак званы “расійскі перыяд” беларускай гісторыі. Укладальнік імкнуўся паказаць уласны ўклад беларусаў у сваю гісторыю. Магчыма, некаторыя дакументы і матэрыялы выклікаюць даволі сумныя разважанні пра гэты ўклад, але Гісторыя – гэта Праўда, якая не палохаецца свайго адлюстравання нават тады, калі яно больш бянтэжыць, чым умацоўвае дух.

Асноўную частку кнігі складаюць гістарычныя дакументы, у тым ліку матэрыялы дзяржаўных органаў улады, а таксама тых арганізацый, якія змагаліся супраць расійскай улады, статыстычныя дадзеныя, запіскі падарожнікаў, успаміны дзеячаў навукі і культуры і інш. Дакументальную частку дапаўняюць фрагменты публіцыстычных твораў і навуковых даследаванняў. Большасць тэкстаў на старонках вучэбных выданняў не друкавалася.

Пры адборы дакументаў укладальнік імкнуўся прадставіць усе сферы жыцця Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.: сацыяльна-палітычную, эканамічную, культурна-нацыянальную і канфесійную. Прысутнічала жаданне пазбегнуць адназначнасці ў трактоўцы гістарычных падзей, паказаць іх усебакова.

Тэксты згрупаваны ў тры раздзелы – “Беларусь ад падзелаў Рэчы Паспалітай да адмены прыгоннага ладу. 1795–1861 гг.”, “Беларусь у 60–90-я гг. XIX ст.”, “Беларусь на пачатку XX ст.”. Тэкстам папярэднічае кароткі нарыс гісторыі Беларусі азначанага перыяду, падрыхтаваны Сяргеем Токцем і аўтарам гэтых радкоў.

Матэрыялы размеркаваны па тэматычных блоках. Унутры блокаў пераважае храналагічны прынцып іх размяшчэння. Хаця ў некаторых выпадках ён спалучаецца з тэматычным. Гэта абумоўлена як метадычнай мэтазгоднасцю, так і характарам публікуемых тэкстаў. Напрыклад, неабходнасцю даць блок дакументаў і матэрыялаў, якія адносяцца да аднаго пытання, але былі напісаны ў розны час.

Большасць тэкстаў прадстаўлена на мове і з усімі лінгвістычнымі асаблівасцямі арыгінала. У некаторых выпадках яны друкуюцца ў перакладзе. Так, з польскай мовы на беларускую зроблены пераклад тэкстаў № 2, 17, 20, 21, 123, 128, 169, 171, 173, 192 (пер. А. Смалянчук), № 3 (пер. У. Емяльянчык), № 49, 50, 55, 66 (пер. К. Цвірка), № 58 (пер. М. Хаўстовіч), № 73 (пер. Г. Кісялёў). Іншыя пераклады перадрукоўваюцца з выданняў, дзе перакладчыкі не пазначаны. Спасылкі на гэтыя выданні прыводзяцца ў звычайным парадку.

Дакументы датуюцца пераважна па старому стылю. Устаўкі ў тэксты, якія не з’яўляюцца часткай арыгінала, заключаны ў квадрат-

ныя дужкі. Тлумачэнні і заўвагі ўкладальніка даюцца з яго ініцыяламі. Купюры ў тэкстах пазначаны шматкроп’ем у квадратных дужках.

У канцы кожнага блока размешчаны пералік прыкладных пытанняў і заданняў для абмеркавання тэкстаў. Пытанні і заданні разлічаны на фарміраванне ўмення абагульняць, параўноўваць, суадносіць факты і падзеі, даваць ім уласную ацэнку, рабіць высновы. Кнігу завяршае слоўнік гістарычных і састарэлых тэрмінаў, імянны паказальнік з кароткімі персаналіямі і спіс выкарыстаных крыніц і літаратуры.

# Нарыс гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.

**Грамадска-палітычнае жыццё ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.** У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. этнічна беларускія землі былі інкарпараваны ў склад Расійскай імперыі, і да Першай сусветнай вайны іх гістарычны лёс, палітычнае, гаспадарчае і культурнае развіццё цесна звязаны з дзяржавай Раманавых. Абшар сучаснай Беларусі насялялі ў той час каля 3 млн чалавек. У тэрытарыяльна-адміністрацыйным плане беларускія землі пасля падзелаў увайшлі ў склад пяці новаўтвораных губерняў: Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай. Віцебская і Магілёўская губ. у афіцыйных дзяржаўных дакументах называліся “беларускімі”, а Віленская, Гродзенская і Мінская – “літоўскімі”.

У пабудове сваёй палітыкі на ўсходніх абшарах былой Рэчы Паспалітай царскае самадзяржаўе зыходзіла з таго вызначальнага прынцыпу, што гэта спрадвечна рускія землі, “возвращенные от Польши”. Дадзеная формула стала ўжывалася ў імперскім заканадаўстве і ў афіцыйных дакументах. Адсюль вынікала галоўная канчатковая мэта палітыкі царызму на гэтай тэрыторыі – поўная, канчатковая і незваротная уніфікацыя з велікарускімі землямі імперыі. Аднак разам з тым царскі ўрад мусіў лічыцца з мясцовай шляхтай, якая ўяўляла сабой вялікую палітычную і культурную сілу і без якой ён быў проста не здольны кіраваць далучанымі землямі. Таму ў першай трэці XIX ст. царызм захаваў у “Заходніх”[1] губернях шматлікія асаблівасці ў сістэме суда і саслоўнага самакіравання з часоў Рэчы Паспалітай, а таксама ў сістэме асветы, дзе па-ранейшаму панавала польская мова і большасць школ кантралявалася каталіцкім духавенствам.

[1] “Заходнімі” ў афіцыйнай расійскай дакументацыі называліся Валынская, Віленская, Віцебская, Гродзенская, Кіеўская, Магілёўская, Мінская і Падольская губ.

Праўда, напачатку імператрыца Кацярына II зрабіла шэраг даволі актыўных уніфікацыйных захадаў адносна далучаных да расійскай дзяржавы зямель Рэчы Паспалітай. Гэтыя захады датычылі як сістэмы мясцовага дзяржаўнага кіравання, так і рэлігійнага жыцця. Напрыклад, царскі ўрад спрабаваў з дапамогай гвалтоўных метадаў пераводзіць уніяцкае насельніцтва ў праваслаўе. Аднак пасля ўзыходжання на прастол Паўла I наступіў адносна працяглы перыяд параўнальна ліберальнай палітыкі расійскіх улад у “Заходніх” губернях. Дзеля паляпшэння стасункаў з мясцовай шляхтай расійская ўлада вярнула старадаўнія назвы і часткова функцыі шляхецкіх устаноў. У сферы грамадзянскага судаводства працягвалі дзейнічаць нормы Літоўскага статута. Дзякуючы намаганням асабістага сябра імператара Аляксандра I Адама Чартарыскага актыўна развівалася ў гэты перыяд польскамоўнае школьніцтва пад кіраўніцтвам лепшага ў Расійскай імперыі Віленскага універсітэта. Абсалютная большасць чыноўнікаў губернскіх і павятовых дзяржаўных устаноў набіралася з мясцовай шляхты, прадстаўнікі якой нават займалі пасады начальнікаў губерняў. Праўда, афіцыйнае дзяржаўнае справаводства яны мусілі весці на расійскай мове.

Ліберальны кірунак царскай палітыкі на былых землях Рэчы Паспалітай у значнай ступені быў абумоўлены і знешнепалітычнымі абставінамі. Расія актыўна ўдзельнічала ў войнах з Напалеонам і мусіла клапаціцца пра спакой унутры дзяржавы. Аднак пасля ўступлення ў межы Расійскай імперыі ў 1812 г. войскаў французскага імператара значная частка шляхты Беларусі і Літвы перайшла на яго бок, паколькі спадзявалася, што Банапарт адродзіць незалежную Рэч Паспалітую. З мясцовых жыхароў было сфарміравана некалькі вайсковых злучэнняў, якія змагаліся супраць расійскай арміі. Многія памешчыкі беларуска-літоўскіх губерняў актыўна працавалі ў органах кіравання, створаных у тыле французскай арміі. Новым уладам прысягнулі таксама вярхі каталіцкага і уніяцкага духавенства. Аднак вайсковая ўдача здрадзіла вялікаму французскаму палкаводцу, а беларускае сялянства пачало партызанскую вайну супраць тых войскаў, якія заняліся рабаўніцтвам краю. Гэтая вайна, нягледзячы на яе скарацечнасць, прынесла велізарныя матэрыяльныя і людскія страты Беларусі, наступствы якіх яшчэ доўгі час адбіваліся на гаспадарчым жыцці.

Пераход часткі шляхты Літвы і Беларусі на бок Напалеона не паўплываў істотна на палітыку расійскага самадзяржаўя на беларуска-літоўскіх землях. Надалей адбываўся росквіт польскамоўнай сістэмы адукацыі, а мясцовы чыноўніцкі корпус фарміраваўся з тутэйшых ураджэнцаў. У сценах галоўнай навучальнай установы – Віленскага універсітэта панаваў дух вальнадумства і “ліцьвінскага” патрыятызму.

Праявай гэтага стала заснаванне ў 1817 г. тайнага таварыства філаматаў, вакол якога пазней утварыліся больш шырокія і масавыя арганізацыі "прамяністых" і філарэтаў. Сябры азначаных таварыстваў абвяшчалі сваёй мэтай культурна-асветніцкую дзейнасць на карысць адраджэння Рэчы Паспалітай. Сярод іх было шмат таленавітай моладзі. Дастаткова назваць вялікага паэта Адама Міцкевіча, навукоўца-прыродазнаўцу Ігната Дамейку, філолага Восіпа Кавалеўскага, паэтаў і перакладчыкаў Адынца, Тамаша Зана і інш. У большасці сваёй яны паходзілі з этнічна беларускіх абшараў і называлі сябе "ліцьвінамі", разумеючы пад гэтым прыналежнасць да духоўнай і гістарычнай спадчыны Вялікага княства Літоўскага. Безумоўна, што адначасова яны былі і патрыётамі Польшчы – Рэчы Паспалітай. У 1823 г. таварыствы філаматаў і філарэтаў былі выкрыты паліцыяй, а найбольш актыўныя ўдзельнікі высланы за межы Беларусі і Літвы.

Палітычная сітуацыя на беларуска-літоўскіх землях пачала змяняцца ў 20-х гг. XIX ст., калі ўрад імператара Мікалая І стаў рабіць захады, накіраваныя на абмежаванне культурных асаблівасцей і ўзмацніліся тэндэнцыі да русіфікацыі. Гэта была праява агульнага працэсу ўзмацнення рэакцыі і паліцэскіх метадаў ва ўнутранай палітыцы расійскага самадзяржаўя ў дадзены перыяд.

Паўстанне 1831 г. стала адным з пераломных момантаў гісторыі беларускіх зямель у XIX ст. Пасля яго падаўлення царскае самадзяржаўе пачало прадпрымаць рашучыя крокі ў кірунку іх уніфікацыі і асіміляцыі з цэнтральнымі губернямі імперыі. Фактычна для царскага ўрада гэта была зручная падстава для апраўдання жорсткага палітычнага курсу. Паўстанне ахапіла пераважна заходнія рэгіёны Беларусі. Галоўную ролю ў яго арганізацыі адыгрывала мясцовая шляхта. Паўстанне таксама падтрымала каталіцкае і частка уніяцкага духавенства. Значную частку паўстанцаў складалі сяляне, якіх да ўдзелу ў партызанскіх атрадах актыўна заахвочвалі самі памешчыкі. Праўда, большасць сялянскага насельніцтва паставілася да гэтых падзей досыць індыферэнтна, што тлумачылася невыразнай аграрнай праграмай паўстанцкага кіраўніцтва, а таксама адмоўным стаўленнем да паўстання большай часткі уніяцкага прыходскага духавенства, якое мела істотны ўплыў на сваіх прыхаджан. На дапамогу паўстанцам Беларусі і Літвы з Каралеўства Польскага падыйшлі атрады Гелгуда і Хлапоўскага. Яны нават спрабавалі ўзяць Вільню, аднак пацярпелі паражэнне. Да восені 1831 г. на беларускіх землях баявыя дзеянні фактычна завершыліся.

Пасля падаўлення паўстання ўрад абрынуў рэпрэсіі на яго ўдзельнікаў. Маёнткі паменай шляхты, якая выступіла супраць урада, былі канфіскаваныя ў дзяржаўную казну. Пачалося актыўнае

правядзенне палітыкі "разбору" шляхты, у выніку якой значная частка найбяднейшых прадстаўнікоў прывілеяванага саслоўя губляла свае правы. Таксама была абмежавана самастойнасць шляхецкага саслоўнага самакіравання. Скасоўваліся ўсе асаблівасці шляхецкіх выбарных устаноў, якія яшчэ захаваліся з часоў Рэчы Паспалітай. Права ўдзелу ў выбарах надавалася паводле закона 1835 г. толькі тым землеўладальнікам, якія не менш 10 гадоў былі на дзяржаўнай службе. Такім спосабам урад імкнуўся засцерагчыся ад пранікнення ў шляхецкія ўстановы "ненадзейнага элементу".

Адначасова ўрад спрабаваў узмацніць свае пазіцыі ў "Заходніх" губернях шляхам прыцягнення сюды расійскага чыноўніцтва. Дзеля гэтага апошняму надаваліся службовыя ільготы ў выпадку пераезду на новае месца. Аднак істотнага эфекту такая палітыка не прынесла і па-ранейшаму большая частка мясцовага дзяржаўнага чыноўніцтва на беларускіх землях складалася з прадстаўнікоў мясцовай шляхты каталіцкага веравызнання. Праўда, вышэйшыя і найбольш адказныя пасады ў мясцовым адміністрацыйным апараце пасля 1831 г. займалі ўжо выключна расіяне ці прыбалтыйскія немцы.

Вялікае сімвалічнае значэнне мела скасаванне дзеяння III Літоўскага статута, асобныя артыкулы якога працягвалі захоўваць сваю моц у галіне грамадзянскага заканадаўства. Трэба адзначыць, што большасць з іх ужо даўно састарэла і не адпавядала патрабаванням часу, але ў свядомасці мясцовай шляхты Літоўскі статут быў сімвалам былой дзяржаўнай і палітычнай велічы свайго краю. Царскі ўрад напачатку спрабаваў прыстасаваць нормы Статута да расійскага заканадаўства. Дзеля гэтага была нават створана спецыяльная камісія, важную ролю ў працы якой адыгрываў выдатны знаўца права і гісторыі ВКЛ Ігнат Даніловіч. Менавіта апошні прапанаваў называць старажытную мову Статута беларускай. Планавалася яго выданне на трох мовах – беларускай (старабеларускай. – С. Т.), расійскай і польскай. Вялася таксама падрыхтоўка да выдання асобнага Зводу законаў "Заходніх" губерняў. Але пасля падаўлення паўстання 1831 г. гэтая ідэя была царскім урадам адкінута і ўзяты курс на поўную уніфікацыю ўсяго заканадаўства. Ужо ў 1831 г. скасоўвалася дзеянне Статута ВКЛ на тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губ. А ў 1840 г. канчаткова адмянялася яго дзеянне і на астатніх абшарах Беларусі і Літвы. У адпаведным царскім указе гаварылася: "(...) мы признали за благо распространить вполне силу и действия Российских законов на сие издревле русские по происхождению, правам и навыкам их жителей области"[2]. У гэтым жа кірунку быў выдадзены загад імператара

[2] Полное собрание законов Российской империи. Собр. II (далей: ПСЗ II). Т. 8. № 13591.

Мікалая I аб забароне называць у афіцыйным справаводстве Віцебскую і Магілёўскую губ. “беларускімі”, а Віленскую, Гродзенскую і Мінскую – “літоўскімі”.

Адной з важнейшых падзей гісторыі Беларусі XIX ст., якая істотным чынам паўплывала на гістарычны лёс беларускага народа, стала скасаванне уніяцкай царквы ў 1839 г. і далучэнне вернікаў-уніятаў да праваслаўя. Фактычна царскі ўрад пачаў падрыхтоўку да ліквідацыі уніі яшчэ да паўстання 1831 г., абапіраючыся на прарасійскую праслойку уніяцкага духавенства на чале з Іосіфам Сямашкам. Пасля падаўлення паўстання засталося толькі пытанне часу. У 1834 г. уніяцкаму прыходскаму духавенству было загадана перарабіць унутранае ўбранства сваіх храмаў такім чынам, каб яны не адрозніваліся ад праваслаўных. Гэтая акцыя выклікала пасіўны супраціў часткі духавенства і вернікаў. Аднак ён быў падаўлены ўладамі, а найбольш зацятыя супраціўнікі ўз’яднання з ліку святароў і манахаў высланы ў расійскія манастыры. Пасля гэтай чысткі ад нелаяльных элементаў былое уніяцкае, а з 1839 г. ужо праваслаўнае духавенства стала галоўнай апорай царскага ўрада сярод беларускага сялянскага насельніцтва. Скасаваннем уніі і выдаленнем непакорных святароў царызм фактычна пазбавіў каталіцкую шляхту Беларусі ідэалагічнай сувязі з сялянскім людам. А галоўнае, знік вельмі важны ідэалагічны чыннік, які адрозніваў беларусаў ад расіян і палякаў і стрымліваў працэс іх нацыянальна-культурнай асіміляцыі.

На пачатку 50-х гг. XIX ст. царскі ўрад прадпрыняў яшчэ шэраг крокаў, скіраваных супраць шляхты беларускіх зямель. Яшчэ болей абмяжоўваліся паўнамоцтвы шляхецкіх саслоўных устаноў. Асабліва дыскрымінацыйным быў указ, паводле якога сыны мясцовых землеўладальнікаў каталіцкага веравызнання абавязваліся паступаць на дзяржаўную службу па-за межамі Беларусі. У лютым 1855 г. Мікалай I даручыў генерал-губернатарам “Заходніх” губерняў прызначаць на ўсе найбольш адказныя дзяржаўныя пасады рускіх чыноўнікаў праваслаўнага веравызнання шляхам пераводу іх з унутраных рэгіёнаў імперыі.

Аднак пасля паражэння Расійскай імперыі ў Крымскай вайне і ўзыходжання на прастол Аляксандра II надыходзіць час лібералізацыі ўнутранай палітыкі самадзяржаўя. Царскі ўрад скасаваў частку дыскрымінацыйных абмежаванняў, якія датычылі мясцовай шляхты. Так, яе прадстаўнікі, напрыклад, атрымалі роўныя правы з расійскімі служачымі для паступлення на дзяржаўную службу. У навучальных установах было дазволена выкладанне польскай мовы. Пачалася падрыхтоўка сялянскай рэформы, а таксама рэформаў мясцовага самакіравання і сістэмы адукацыі. У грамадстве наспявалі кардыналь-

ныя пераўтварэнні, якія мусілі істотным чынам змяніць існуючы сацыяльна-палітычны лад.

**Гаспадарчае і сацыяльнае развіццё ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.** У беларускай савецкай гістарыяграфіі сцвярджалася, што далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай станоўча адбілася на гаспадарчым іх развіцці, паколькі Беларусь увайшла ў агульнарасійскі рынак. Гэты погляд захаваўся і ў выдадзеных у 1994 г. Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі "Нарысах гісторыі Беларусі": "Уцягванне Беларусі ў агульнарасійскую гаспадарчую сістэму пашырала рынак збыту прадуктаў земляробства, садзейнічала пэўнай эканамічнай арыентацыі і спецыялізацыі"[3]. У якасці абгрунтавання вышэйназванай тэзы даследчыкі прыводзілі дадзеныя аб павелічэнні колькасці насельніцтва, найперш гарадскога, валавых збораў збожжа і іншых сельскагаспадарчых культур, росце колькасці прадпрыемстваў і г. д. Аднак пры гэтым звычайна не тлумачылася, у якой ступені менавіта фактар далучэння да Расійскай імперыі садзейнічаў эканамічнаму росту, і не прыводзілася параўнанняў з дынамікай гаспадарчага развіцця беларускіх зямель у другой палове XVIII ст. У найгоршым гаспадарчым становішчы ў першай палове XIX ст. знаходзілася, напрыклад, Віцебская губ., якая ў першую чаргу з прычыны свайго геаграфічнага становішча павінна была скарыстаць перавагі далучэння да агульнарасійскага рынку. Акрамя таго, адной з падставовых тэзаў беларускай савецкай гістарыяграфіі была тэза аб крызісе феадальна-памешчыцкай сістэмы гаспадарання, праявай якога стала пагаршэнне становішча беларускага сялянства – самай шматлікай катэгорыі насельніцтва. Гэта зноў-такі фактычна супярэчыла палажэнню пра дабратворны ўплыў далучэння да імперыі. А ўвогуле, на нашу думку, цяжка гаварыць пра нейкую гаспадарчую палітыку царскіх улад на беларускіх землях. Некаторыя акцыі ўрада, якія ўплывалі ў пэўнай ступені на гандаль і гаспадарку, мелі пад сабой ідэалагічныя, а не эканамічныя прычыны. Гэта датычыла, напрыклад, высялення яўрэяў, якія пераважна займаліся гандлем, з сельскай мясцовасці і 50-вярстовай прымежнай зоны. Цікава, што тут царызм знаходзіў поўнае паразуменне з мясцовай шляхтай. Апошняя таксама лічыла яўрэйскае насельніцтва прычынай цяжкага эканамічнага становішча беларускага краю.

Аднак, нягледзячы на адсталасць гаспадаркі Беларусі, прынамсі ў параўнанні з суседнімі польскімі і прыбалтыйскімі землямі, у першай палове XIX ст. назіраецца відавочны эканамічны рост. Цэнтрамі

---

[3] Нарысы гісторыі Беларусі. У 2 ч. Ч. 1. Мінск, 1994. С. 267.

развіцця гандлю, прамысловасці і рамёстваў былі гарады і мястэчкі. Гарадское насельніцтва Беларусі вырасла з канца XVIII ст. да сярэдзіны XIX ст. прыкладна ў чатыры разы, з 79 да 230 тыс.[4] Праўда, рост гэты ў значнай ступені быў абумоўлены перасяленнем яўрэйскага насельніцтва ў гарады з сельскай мясцовасці.

Колькасць мануфактур з 1828 па 1858 г. павялічылася з 3311 да 6508, а рабочых на іх – прыблізна ў 5 разоў[5]. Але большасць складалі дробныя прадпрыемствы з невялікай колькасцю работнікаў. Буйныя мануфактуры і фабрыкі звычайна належалі багатым землеўладальнікам, якія мелі патрэбныя для іх заснавання грошы, зямлю і прыгонных сялян у якасці таннай рабочай сілы. Сярод усіх прамысловых прадпрыемстваў пераважалі вінакурні, на якіх збожжа і бульба з памешчыцкіх гаспадарак пераганялася ў гарэлку. Сярод галоўных перашкод у развіцці прамысловасці былі вузкасць мясцовага рынку і недахоп капіталаў. Насуперак палажэнням савецкай гістарыяграфіі пра перавагі агульнарасійскага рынку для беларускай гаспадаркі паступовыя прыкметы наступлення прамысловай рэвалюцыі найбольш выразна праяўляліся на захадзе Беларусі. У памежных паветах Гродзенскай губ. назіралася найбольш высокая канцэнтрацыя фабрык і мануфактур, у заснаванні якіх галоўную ролю адыгрывалі нямецкія прадпрымальнікі.

Вузкасць унутранага рынку таксама стрымлівала развіццё гандлю. У яго арганізацыі вельмі істотную ролю адыгрывалі шматлікія кірмашы. Вываз тавараў з беларускіх зямель пераважаў над іх увозам. Галоўнымі артыкуламі экспарту былі сельскагаспадарчыя тавары, а таксама лес і гарэлка. Вядучую ролю ў арганізацыі гандлёвых сетак адыгрывалі яўрэйскія купцы. Неабходнасць выплаты дзяржаўных падаткаў таксама падштурхоўвала сялян выходзіць на гарадскія рынкі. Аднак у цэлым сувязь сельскага насельніцтва з рынкам была яшчэ вельмі слабая і сялянскія гаспадаркі мелі паўнатуральны характар.

Становішча сялянства, якое складала абсалютную большасць насельніцтва Беларусі, пасля далучэння да Расійскай імперыі практычна не змянілася. Паводле высноў беларускай гістарыяграфіі, на працягу першай паловы XIX ст. назіраецца павышэнне адпрацовачных павіннасцей прыгонных сялян і скарачэнне іх зямельных надзелаў за кошт павелічэння панскага ворыва. Матэрыяльнае становішча сялян у гэты перыяд звычайна было вельмі цяжкім. Спосабы вядзення сялянскай гаспадаркі знаходзіліся на прымітыўным узроўні і амаль не адрозніваліся ад старажытных часоў. Масавы голад і эпідэмічныя за-

---

[4] Лютый А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX вв. Минск, 1987. С. 147, 196.

[5] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Минск, 1975. С. 492.

хворванні заставаліся звыклай з'явай у тагачаснай беларускай вёсцы. Уціск з боку паноў-землеўладальнікаў дапаўняўся дзяржаўнымі падаткамі і рэкруцкімі наборамі.

Крытычная сітуацыя, якая склалася ў сельскай гаспадарцы ўсёй Расійскай імперыі, прымушала царскі ўрад шукаць шляхі выхаду з крызісу. Рэформы пачаліся ў дзяржаўнай вёсцы. У 1839 г. імператар падпісаў заканадаўчыя дакументы, згодна з якімі ў "Заходніх" губернях утвараліся спецыяльныя ўстановы для кіравання казёнными маёнткамі, падпарадкаваныя новаўтворанаму Міністэрству дзяржаўных маёмасцей. Дзяржаўныя сяляне атрымалі права на саслоўнае самакіраванне, пачалося правядзенне люстрацыі казённых маёнткаў і паступовы перавод сялян з адпрацовачных павіннасцей на грашовы аброк. У цэлым рэформа 1839 г. станоўча паўплывала на жыццё дзяржаўнай вёскі.

У 40-х гг. XIX ст. урад таксама ўзняў пытанне аб увядзенні ў памешчыцкіх маёнтках абавязковых інвентароў, якія б рэгулявалі памеры сялянскіх павіннасцей на карысць уладальнікаў. У 1844 г. было зацверджана імператарам палажэнне аб утварэнні ў "Заходніх" губернях спецыяльных камітэтаў для разгляду і зацвярджэння інвентароў памешчыцкіх маёнткаў. Аднак справа гэтая пасоўвалася вельмі марудна з прычыны супраціву памешчыкаў. У 1852 г. імператар падпісаў указ аб увядзенні ў беларуска-літоўскіх губернях інвентарных правіл, згодна з якім сялянам пакідалася зямля, што знаходзілася ў іх карыстанні. Аднак гэтая рэформа фактычна не прынесла сялянам ніякіх палёгкаў у іх становішчы. Названыя крокі ўрада ў кірунку некатарага рэфармавання сацыяльных адносін на беларускай вёсцы былі выкліканы таксама ў пэўнай ступені імкненнем царызму выкарыстаць супярэчнасці паміж сялянствам і шляхтай у сваіх мэтах. У цэлым дадзеныя аграрныя пераўтварэнні 40–50-х гг. XIX ст. насілі палавінчаты і незавершаны характар. Ключавой праблемай заставалася існаванне прыгоннага права. Значная частка памешчыкаў Беларусі і Літвы разумела гістарычную неабходнасць скасавання прыгону, праўда, пры гэтым спадзявалася пакінуць у сваіх руках усю зямлю. Таму зусім невыпадкова, што падрыхтоўка сялянскай рэформы пачалася з беларуска-літоўскіх губерняў.

**Навука і культура. Зараджэнне беларусазнаўства ў першай палове XIX ст.** На працэсы развіцця культуры Беларусі ў XIX ст. вялікі ўплыў аказвалі ідэі Асветніцтва і рамантызму. Як ужо адзначалася вышэй, далучэнне да Расійскай імперыі не паўплывала істотна на стан асветы. Сістэма школьніцтва, закладзеная славутай Адукацыйнай камісіяй, атрымала далейшае развіццё ў першай трэці

XIX ст. Цэнтрам навукі і культурнага жыцця на абшарах былога ВКЛ быў утвораны ў 1803 г. на базе былой Вышэйшай школы Віленскі універсітэт. Ён адначасова стаў адміністрацыйным цэнтрам аднайменнай навучальнай акругі, у склад якой уваходзілі былыя ўсходнія землі Рэчы Паспалітай. Віленскі універсітэт знаходзіўся на першым месцы ў Расійскай імперыі па колькасці студэнтаў. Тут выкладалі такія выдатныя даследчыкі, як філосаф, астраном і матэматык Ян Снядэцкі, яго брат біёлаг Ежы Снядэцкі, батанік Станіслаў Юндзіл, медыкі Франк і Пелікан і многія іншыя. У сценах універсітэта дынамічна развівалася гістарыяграфія ВКЛ, да прадстаўнікоў якой належалі выдатныя гісторыкі Іосіф Лялевель, Ігнат Даніловіч, Ігнат Анацэвіч, Іосіф Ярашэвіч. У абуджэнні цікавасці грамадства да культурнай спадчыны ВКЛ і старабеларускай пісьмовай традыцыі вялікую ролю адыграў вядомы славіст Міхал Баброўскі. Цікава, што Міхал Баброўскі, Ігнат Даніловіч, Ігнат Анацэвіч, Іосіф Ярашэвіч, філолаг Платон Сасноўскі, выдавец Антось Марціноўскі паходзілі з уніяцкага прыходскага духавенства. На думку некаторых гісторыкаў, менавіта ў гэтым асяроддзі зараджаюцца парасткі беларускай нацыянальнай ідэі.

Пасля паўстання 1831 г. Віленскі універсітэт быў закрыты царскім ўрадам як рассаднік бунтарскіх ідэй, а навучанне ў сярэдніх і пачатковых школах пераводзілася на расійскую мову: “(...) для доставления юношеству Западных губерний образования в духе русском, необходимо стараться, дабы русский язык посредством первоначального воспитания сделать там народным”[6].

Пасля закрыцця Віленскага універсітэта цэнтрам навукова-культурнага жыцця сталі перыядычныя выданні “Ateneum”, “Teka Wilenska”, “Rubon” і інш. Тут друкаваліся шматлікія навуковыя артыкулы, прысвечаныя гісторыі і культуры Беларусі. Найбольш вядомымі і актыўнымі выдаўцамі такіх часопісаў былі пісьменнік Ігнат Крашэўскі і этнограф, археолаг, гісторык Адам Кіркор.

Адным з важнейшых кірункаў развіцця гуманітарных навук на беларускіх землях у першай палове XIX ст. стала вывучэнне традыцыйнай народнай культуры. Гэтая тэндэнцыя была абумоўлена ўплывамі Асветніцтва і рамантызму, абуджэннем сярод адукаванага грамадства цікавасці да старажытнай дахрысціянскай культуры і гісторыі, сляды якой яны бачылі ў звычаях і традыцыях простага люду. Пэўную ролю тут адыгрывалі і палітычныя прычыны – паражэнні ў барацьбе з расійскім самадзяржаўем прымушалі мясцовую шляхту, асабліва яе перадавую частку, шукаць згоды і паразумення з сялянствам, якое даволі абыякава ставілася да патрыятычных заклікаў паўстанцаў. Першыя спробы літаратурнай творчасці на беларускай мове з’яўляліся па

[6] ПСЗ II. Т. 8. № 6569.

сутнасці спробамі наладзіць масток паміж мясцовай польскамоўнай шляхецкай культурай і беларускамоўнай культурай простага люду, данесці да сялян на зразумелай ім мове набыткі і вартасці шляхецкай цывілізацыі.

Пачынальнікам навуковага беларусазнаўства, археалогіі і фалькларыстыкі стаў ураджэнец Міншчыны Зарыян Даленга-Хадакоўскі (Адам Чарноцкі), які быў у маладосці арганізатарам тайнага антыўрадавага гуртка і патрапіў за гэта ў ссылку, а пазней, змяніўшы прозвішча, заняўся навуковай дзейнасцю. Менавіта Даленга-Хадакоўскі адным з першых пачаў друкаваць у перыядычных выданнях артыкулы пра беларускую народную культуру.

Вывучэнне сялянскай мовы, фальклору, традыцый і звычаяў абвяшчалася адным з накірункаў асветніцкай дзейнасці філаматаў і філарэтаў. Актыўны ўдзельнік гуртка філарэтаў Ян Чачот, блізкі сябар і зямляк Адама Міцкевіча, стаў адным з найбольш вядомых даследчыкаў беларускага фальклору. Пасля вяртання з царскай ссылкі ён выдаў у выніку карпатлівай збіральніцкай працы фалькларыстычнае даследаванне “Сялянскія песні з-над Дзвіны і Нёмана”. Народныя тэксты Чачот перакладаў на польскую мову, а ў апошніх выданнях падаваў у арыгінале. Ён таксама заклікаў інтэлігенцыю да вывучэння беларускай мовы і сам склаў яе невялікі слоўнічак.

Значны ўклад у развіццё беларусазнаўства ўнеслі такія выдатныя даследчыкі, як браты Яўстах і Канстанцін Тышкевічы, Адам Кіркор і многія іншыя. У перыядычных выданнях Вільні, Пецярбурга, Масквы і Варшавы ў гэты перыяд выходзіць вялікая колькасць матэрыялаў, прысвечаных беларускаму фальклору, мове, звычаям і традыцыям. У 1840 г. палітычны эмігрант Аляксандр Рыпінскі выдаў у Парыжы фалькларыстычнае даследаванне “Беларусь”. У работах Паўла Шпілеўскага, сына прыходскага святара з Міншчыны, уздымалася праблема паходжання беларускай мовы і яе месца сярод іншых славянскіх моў. Актыўныя даследаванні беларускай мовы праводзілі Станіслаў Мікуцкі і Іван Насовіч.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, якія склаліся пасля закрыцця Віленскага універсітэта, працягваецца вывучэнне гісторыі Беларусі. Асаблівае значэнне мелі “Гістарычныя звесткі пра выдатныя месцы Беларусі з далучэннем і іншых звестак, што да яе адносяцца” (1855) М. Без-Карніловіча і “Агляд гісторыі Беларусі са старажытных часоў” (1857) В.Турчыновіча. Фактычна ўпершыню ў гэтых кнігах гісторыя Беларусі разглядалася як асобны прадмет даследавання. Турчыновіч, напрыклад, заяўляў, што “Беларусь мае ўласную гісторыю”.

Адной з важнейшых культурных падзей у першай палове XIX ст. стала адраджэнне літаратуры на беларускай мове. Яе пачынальнікам,

калі не лічыць ананімных аўтараў, можна назваць Яна Чачота, які першым падпісваў сваім прозвішчам беларускамоўныя вершы. Гэтыя вершы мелі асветніцкі характар і прызначаліся для сялян. Хоць яны не вызначаліся высокім мастацкім узроўнем і не ішлі ў параўнанне з польскімі вершамі паэта, але паклалі пачатак станаўленню новай беларускамоўнай літаратуры. Амаль адначасова з Чачотам займаўся літаратурнай творчасцю Ян Баршчэўскі, ураджэнец Полаччыны. Яго пяру таксама належала некалькі вершаў на беларускай мове. Галоўны твор Баршчэўскага “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях” быў напісаны на польскай мове, аднак на аснове беларускіх народных паданняў. Паступова да беларускамоўнай літаратуры далучаліся новыя аўтары, а для некаторых з іх творчасць на беларускай мове становіцца нават асноўным кірункам іх дзейнасці. Сярод іх трэба назваць Арцёма Вярыгу-Дарэўскага і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. На жаль, большасць твораў першага да нас не дайшла, а Дунін-Марцінкевіч становіцца фактычна першым класікам беларускай літаратуры. Яго творчасць мела выразны асветніцкі кірунак і ставіла мэтай данесці да сялянскага насельніцтва ў яго “простай” мове промні асветы і высокай шляхецкай культуры. Дзеля гэтага, напрыклад, Дунін-Марцінкевіч перакладаў Адама Міцкевіча. Ён таксама спрабаваў праз літаратуру прапагандаваць ідэю класавага міру і гармоніі ў стасунках спаланізаванай шляхты і сялянства. Беларускамоўная творчасць, у прыватнасці Дуніна-Марцінкевіча, выклікала сярод некаторых польскіх крытыкаў заўвагі, што гэта творчасць не мае сэнсу і нават нясе ў сабе пагрозу для польскай літаратуры на беларускіх землях. Супраць гэтага падыходу і ў абарону беларускамоўных твораў выступіў вядомы пісьменнік і літаратурны крытык Літвы-Беларусі Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч. – *С.Т.*), які сам спрабаваў пісаць на беларускай мове. На думку Сыракомлі, беларуская мова мела такія ж правы на літаратурную апрацоўку, як і іншыя славянскія мовы. Такім чынам, у першай палове XIX ст. былі закладзены першыя падваліны працэсу станаўлення і развіцця беларускамоўнай літаратуры, галоўны ўклад у адраджэнне якой унеслі прадстаўнікі мясцовай шляхецкай інтэлігенцыі, выхаваныя ў польскамоўнай культурнай традыцыі.

Неад’емнай часткай культурнага жыцця тагачаснага беларускага грамадства, найперш гарадскога, быў тэатр. У гарадах і мястэчках актыўна дзейнічалі прыватныя тэатральныя трупы, якія працавалі на камерцыйнай аснове. З’явіліся сталыя гарадскія тэатры з прафесійнымі акцёрскімі калектывамі. Яны далучылі шырокае кола насельніцтва да набыткаў сусветнай драматургіі. У шляхецкім, чыноўніцкім і афіцэрскім асяроддзі вялікай папулярнасцю кары-

стаўся аматарскі тэатр. Тэатральнае жыццё ў гэты перыяд было двухмоўным – польска-расійскім. Царскі ўрад імкнуўся ўзмацніць кантроль над тэатрамі. Праведзеная ў 1845–1847 гг. на Беларусі і Літве тэатральная рэформа па сутнасці ліквідавала вандроўныя трупы і ўскладняла гастрольную дзейнасць тэатральных калектываў, абмяжоўвала іх свабоду ў выбары рэпертуару.

У гэты перыяд робіць свае першыя крокі беларускамоўны тэатр. Пачатак яго дзейнасці звязаны з іменем В. Дуніна-Марцінкевіча. У 1841 г. адбылася прэм'ера яго першага аматарскага спектакля – камічнай оперы "Рэкруцкі яўрэйскі набор", музыку да якой напісаў С. Манюшка. У 1852 г. са сваімі роднымі і сябрамі паставіў камічную оперу "Ідылія", многія героі якой размаўлялі і спявалі на беларускай мове. На жаль, пасля гэтага беларускамоўны тэатр у сілу палітычных прычын спыніў сваё існаванне больш чым на паўстагоддзя.

Высокага ўзроўню на беларускіх землях у першай палове XIX ст. дасягнула выяўленчае мастацтва. Вялікую ролю тут адыграў Віленскі універсітэт, дзе на кафедры жывапісу працавалі такія выдатныя майстры, як Ф. Смуглевіч і Я. Рустэм, а на кафедры скульптуры – А. Ле Брун і К. Ельскі. На пачатку XIX ст. у мастацтве Беларусі дамінуе класічны стыль. Аднак паступова ўсё больш моцнымі становяцца рамантычныя павевы, якія ламаюць устаноўленыя класіцызмам стэрэатыпы і каноны, бо апошнія ўжо пачалі стрымліваць свабоду творчасці. Найбольш папулярнымі жанрамі беларускіх мастакоў былі пейзажны, гістарычны і партрэтны жывапіс. Творы В. Дмахоўскага, Ю. Карчэўскага, К. Русецкага, Я. Дамеля, Я. Сухадольскага, М. Кулешы, І. Хруцкага, В. Ваньковіча, І. Аляшкевіча і іншых сталі яркім набыткам беларускага і еўрапейскага мастацтва. Закрыццё Віленскага універсітэта пазбавіла беларуска-літоўскія землі асноўнага цэнтра падрыхтоўкі высокапрафесійных мастакоў. Аднак, нягледзячы на гэта, і ў далейшым захавалася мясцовая школа жывапісу са сваімі адметнымі рысамі.

Класічны стыль на пачатку XIX ст. дамінаваў і ў беларускай архітэктуры. Паводле канонаў гэтага стылю ўзводзіліся адміністрацыйныя будынкі, палацы і храмы. Аднак паступова назіраецца размыванне рысаў класіцызму і ў будаўніцтве пачынае панаваць эклектыка, для якой было характэрным даволі вольнае спалучэнне асаблівасцей розных стыляў і эпох. Палітыка царызму таксама накладала свой адбітак на развіццё архітэктуры. Так, урад абмяжоўваў, асабліва пасля паўстання 1831 г., свабоду будаўніцтва каталіцкіх храмаў, якія звычайна з'яўляліся найбольш манументальнымі архітэктурнымі збудаваннямі на беларускіх землях, а некаторыя касцёлы нават перараблялiся на праваслаўныя цэрквы.

Такім чынам, палітыка расійскага самадзяржаўя накладала даволі істотны адбітак на працэс культурнага развіцця беларускіх зямель. Вастрыё гэтай палітыкі было накіравана на абмежаванне польскамоўнай культуры і звязаных з ёй ідэалагічна і псіхалагічна формаў выяўленчага мастацтва і архітэктуры. Адначасова ўрад максімальна спрыяў развіццю расійскамоўнай культуры, пераважна ў яе афіцыёзным варыянце, і нават экспартаваў розныя формы гэтай культуры на Беларусь. Аднак адной з галоўных новых з'яў у культурным жыцці на беларускіх землях стала ў разглядаемы перыяд зараджэнне і развіццё ўласна беларускай па сваёй форме і зместу вышэйшай культуры.

**Гаспадарчае і грамадска-палітычнае жыццё ў другой палове XIX – пачатку XX ст.** Прыгонны лад, які працяглы час з'яўляўся падмуркам усяго комплексу сацыяльна-эканамічных адносін у Расійскай імперыі, у XIX ст. канчаткова ператварыўся ў перашкоду развіцця краіны. Пагаршэнне эканамічнага становішча, нарастанне сялянскага антыпрыгонніцкага руху ставілі ў парадак дня пытанне пра адмену прыгонніцтва. Ініцыятарамі гэтай рэформы яшчэ ў першай палове XIX ст. былі землеўласнікі Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Аднак улады Расійскай імперыі толькі пасля паражэння Расіі ў Крымскай вайне (1853–1856) зразумелі неабходнасць і непазбежнасць рэфармавання.

У сваім выступленні на агульным сходзе Дзяржаўнага савета 28 студзеня 1861 г. імператар Аляксандр II адзначыў вялізарнае значэнне адмены прыгоннага ладу: "Дело об освобождении крестьян, которое поступило на рассмотрение Государственного совета, по важности своей я считаю жизненным для России вопросом, от которого будет зависеть развитие её силы и могущества"[7]. Імператар таксама звярнуў увагу на неабходнасць паляпшэння ўзроўня жыцця сялян. Але перавагу свайго новага становішча апошнія адчулі не адразу.

У адпаведнасці з імператарскім Маніфестам ад 19 лютага 1861 г. сяляне станавіліся вольнымі людзьмі. Зямля маёнткаў абвяшчалася ўласнасцю памешчыкаў. Аднак частку яе закон абавязваў прадаць былым прыгонным. Прадугледжвалася, што выкупіць свае надзелы сяляне змогуць не раней чым праз 9 гадоў. Да таго часу захоўваліся ўсе павіннасці. Выкупныя плацяжы сялян значна перавышалі рэальны кошт зямлі. Фактычна сяляне павінны былі плаціць не толькі за зямлю, але яшчэ і за свабоду. Гістарычныя дакументы адлюстравалі незадавальненне былых прыгонных. Сяляне чакалі зусім іншую "зямлю і волю".

[7] Русская старина.1880. № 2. С. 375–378.

Аднак у эканамічным развіцці Беларусі дзякуючы рэформе адбываліся пэўныя пазітыўныя зрухі. У пачатку 1880-х гг. трансфармавалася структура сельскай гаспадаркі. Значнае месца пачала адыгрываць малочная жывёлагадоўля. У севазвароце павялічылася доля тэхнічных культур. Вялікае значэнне мела будаўніцтва новых шляхоў зносін, асабліва чыгуначных магістралей (Маскоўска-Брэсцкай, Лібава-Роменскай і Палескай). Хутка развівалася прамысловасць. Калі ў 60-я гг. XIX ст. прамысловасць Беларусі знаходзілася пераважна на дробнатаварнай і мануфактурнай стадыях развіцця, то ў канцы 90-х гг. у ёй ужо дамінавалі фабрыкі і заводы. Адбыўся пераход ад ручной працы да машыннай вытворчасці. Значна ўзрасла колькасць гарадскога насельніцтва. Тым не менш па-ранейшаму большую частку таварнай прадукцыі давалі буйныя абшарніцкія гаспадаркі, якім належала да 55% зямлі[8]. Сялянскія гаспадаркі былі менш звязаны з рынкам. Значная іх частка захоўвала дробнатаварны і нават патрыярхальны характар. Праблемай беларускай вёскі нават пасля выкупу сялянамі часткі памешчыцкіх зямель заставалася малазямелле.

Працэс рынкавай пераарыентацыі сельскай гаспадаркі суправаджаўся разарэннем многіх маёнткаў. Гэта павінна было прывесці да пэўнага задавальнення сялянскага попыту на зямлю і ў перспектыве да фарміравання моцнага сярэдняга класу ў беларускай вёсцы. Аднак у Беларусі гэты працэс ішоў вельмі марудна. Пэўную замаруджанасць абумоўлівала палітыка царызму, які імкнуўся да насаджэння ў Беларусі рускага памешчыцкага землеўладання. Палітычныя абмежаванні забараналі набываць зямлю мясцовым польскім памешчыкам, беларускім сялянам-католікам і яўрэйскай грамадскасці. У выніку зямля амаль не паступала на продаж. Зямельны рынак быў бедным, бо названыя катэгорыі рабілі ўсё, каб не выпусціць яе са сваіх рук.

Тым не менш у параўнанні з дарэформеннай эпохай эканамічнае становішча сялян палепшылася. Наступствам гэтага стаў сапраўдны дэмаграфічны выбух у Беларусі. У другой палове XIX ст. колькасць насельніцтва амаль падвоілася. У 1897 г. у Беларусі (у сучасных межах) пражывала 6,5 млн чалавек[9] ( у 1858 г. – каля 3,3 млн).

Рэформа 1861 г. была першай з цэлага шэрага рэформаў (земская, ваенная, судовая, школьная і інш.), якія праводзіліся ў 60–70-я гг. XIX ст. Яны спрыялі пэўнай лібералізацыі грамадскага жыцця ў Расіі, паступоваму ўключэнню ў яго былых прыгонных рабоў. Аднак у Беларусі і Літве гэтыя рэформы або не праводзіліся наогул, або ўводзіліся

[8] Церашковіч П., Чаквін І. Беларусы // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 471.

[9] Первая всеобщая перепись населения Российской империи. 1897 г. Т. II, IV, XI, XVII, XXII, XXIV. Спб., 1904–1905.

ў абмежаваным выглядзе. Прычына хавалася ў расійска-польскім супрацьстаянні, якое рэзка абвастрылася на пачатку 60-х гг. XIX ст.

Гэта быў час уздыму вызваленчага руху ў Польшчы, Беларусі і Літве. Ужо з канца 50-х гг. царскія ўлады ў гэтым рэгіёне адчувалі рост варожасці да сябе з боку карэннага насельніцтва. Вялікую ролю ў падрыхтоўцы паўстання ў Беларусі адыграла радыкальная плынь мясцовых лібералаў, сярод якіх вылучалася постаць Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага (1838–1864). Менавіта ён у 1861 г. заснаваў у Гродне рэвалюцыйную арганізацыю і быў галоўным аўтарам славутай “Мужыцкай праўды”. Газета заклікала сялян уздымацца на барацьбу супраць расійскага прыгнёту: “[...] hłum, zdzierstwo i niesprawiedliwość wychodzić ad samoho Cara – jon to z nas wybieraje wojsko, jon to z nas wydzieraje hroszy niby na potrebu naroda, a uziauszy sia zausimi hyclami za ruki, adno nas ciemiężyć, trymaje u niawoli. [...] Dziery z nas Car, dzierecie z nas czynouniki jeho chacia da astatniej szkury; no pamiatajcie szto i na nas prydzie para. Pamiatajcie szto kali mużyk razhulaječ sia, to jak świet szeroki, krou wasza paljeć sia!!!”[10]

У студзені 1863 г. у Польшчы пачалося паўстанне. Варшаўскія палітыкі пачалі яго без узгаднення з Літоўскім правінцыйным камітэтам (ЛПК), якім кіраваў К. Каліноўскі. Абвешчаная ў Варшаве праграма паўстання фактычна ігнаравала патрабаванні радыкальных лібералаў Беларусі і Літвы па аграрным пытанні. Тым не менш ЛПК падтрымаў паўстанне. Спробы ўлад не дапусціць пашырэння паўстання на Беларусь аказаліся марнымі.

Лёс барацьбы з царызмам у значнай меры залежаў ад пазіцыі сялянства, якое не мела сімпатый ні да памешчыкаў, ні да царскіх чыноўнікаў. Радыкальныя лібералы на чале з К. Каліноўскім імкнуліся ператварыць паўстанне ў Беларусі ў сялянскую рэвалюцыю. Расійскія ўлады таксама выдатна разумелі значэнне сялянскай пазіцыі і рабілі захады, каб перацягнуць сялян на свой бок. Урэшце рэшт іх уступкі (напрыклад, дазвол сялянам выкупляць памешчыцкую зямлю і інш.) у сукупнасці з абмежаванасцю сацыяльнай і нацыянальнай праграмы Цэнтральнага нацыянальнага камітэта спрыялі таму, што значная частка сялянства не падтрымала паўстанцаў альбо паставілася да іх варожа. Тым не менш у краі разгарнулася партызанская вайна.

З сярэдзіны мая 1863 г. падаўленнем паўстання ў Беларусі і Літве кіраваў віленскі генерал-губернатар граф Мураўёў, які атрымаў надзвычайныя паўнамоцтвы. Невыпадкова гісторыя замацавала за ім мянушку “вешальніка”. Карнікі перамагалі. Усе намаганні К.

[10] Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Минск, 1988. С. 128–129. (Фрагмент № 4 “Мужыцкай праўды” друкуецца з захаваннем усіх асаблівасцей арыгінала.)

Каліноўскага і яго паплечнікаў дабіцца пералому ў ходзе барацьбы былі безвыніковымі. З дапамогай рэпрэсій М. Мураўёў прымусіў частку памешчыкаў і каталіцкага духавенства адмовіцца ад падтрымкі паўстання. Яны падпісалі вернападданніцкія звароты (адрасы) на імя цара. У выніку здрады ў студзені 1864 г. трапіў за краты кіраўнік паўстання ў Беларусі і Літве. 10 сакавіка 1864 г. у Вільні быў прыведзены ў выкананне смяротны прысуд ваенна-палявога суда над Кастусём Каліноўскім. Паўстанне было разгромлена. Беларусь уступіла у змрочную паласу рэпрэсій і ўзмоцненай русіфікацыі краю.

У цяжкіх і неспрыяльных умовах праходзіў працэс утварэння беларускай нацыі. Большая частка Беларусі ўваходзіла ў межы пяці губерняў: Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Магілёўскай і Менскай. Па выніках перапісу 1897 г. 73% насельніцтва Беларусі (у сучасных межах) прызналі сваёй роднай мовай беларускую. Па падліках польскага дэмографа і гісторыка Пятра Эберхардта нацыянальная структура насельніцтва выглядала наступным чынам: беларусы – 4356,2 тыс. (67,8%), яўрэі – 910,9 тыс. (14,2), палякі – 838,9 тыс. (13,0%), рускія – 224 тыс. (3,5%)[11]. Нацыянальна-культурнае жыццё беларусаў, як і іншых нярускіх народаў Беларусі і Літвы, працякала ва ўмовах дзеяння выключных законаў, накіраваных на поўную русіфікацыю краю. Гэта насаджэнне рускага землеўладання, засілле рускіх чыноўнікаў, забарона нацыянальнай школы, друку на польскай, літоўскай і беларускай мовах (лацінкай) і г.д. Культурнае жыццё замерла. Гэтаму спрыяла і адсутнасць дастатковай колькасці навучальных устаноў. Пасля закрыцця ў 1864 г. Горы-Горацкага земляробчага інстытута ў Беларусі не засталося ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Не хапала і школ сістэмы сярэдняй адукацыі. Народныя школы, разлічаныя на сялянскіх дзяцей, маглі ахапіць толькі нязначную іх частку. Да таго ж і ўзровень адукацыі, асабліва ў народнай школе, быў даволі нізкім. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывала руская мова навучання, якую вучні проста не разумелі. Адной з галоўных мэт расійскага царызму ў адукацыі была русіфікацыя краю.

**Станаўленне нацыянальнай ідэі і развіццё беларускай культуры ў другой палове XIX – пачатку XX ст.** Паступова разгортваўся беларускі нацыянальны рух. У канцы 70-х – пачатку 80-х гг. XIX ст. справу К. Каліноўскага працягнулі беларускія народнікі – прыхільнікі сацыялістычнай ідэалогіі ў яе расійскім (герцанаўскім) варыянце. У шэрагу публіцыстычных твораў яны ўпершыню тэарэтычна абгрунтавалі існаванне самастойнага беларускага

[11] Эберхардт П. Дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі: 1897–1989. Менск, 1997. С. 45.

этнасу: “Обратимся к нашей Родине. Эта страна (Беларусь. – *А.С.*) имеет все оригинальные особенности, которые сообщают ей своеобразную физиономию и самым естественным образом выдвигают её как особую отрасль славянского племени [...] Народ, живущий здесь, благодаря непроходимости болотов, песков и, редеющих ныне, лесов, сохранил до сих пор чистый тип славянского племени. [...] Разделяя в продолжении многих веков одну и ту же горькую участь от своих “благодетелей” – Польши и Великороссии, – народ Белоруссии чувствует свою органическую связь и отличает свои интересы от интересов поляков и великороссов [...] Ко всему этому нужно прибавить, что Белоруссия имеет свой особенный язык, который, по мнению опытных филологов, представляет много интересного, как остатки наиболее сохранившегося чистого славянского наречия.[...] Все эти особенности Белоруссии дают право на автономную федеративную самостоятельность в семье других народностей России в будущем”[12].

Высновы, якія рабіла беларуская моладзь народніцкага накірунку, у значнай меры грунтаваліся на выніках этнаграфічных даследаванняў 60–70-х гг. Вывучэнне мовы, фальклору, звычаяў, матэрыяльнай культуры беларусаў сведчыла, нярэдка насуперак жаданням арганізатараў экспедыцый, пра непаўторнасць і багацце культуры беларусаў.

Узмацненне русіфікацыйнай палітыкі адмоўна паўплывала на развіццё беларускай культуры. Фактычная забарона беларускага друку прывяла да таго, што да 1889 г. не ўбачыў свету ніводны беларускі мастацкі твор. З канца 80-х гг. цэнзура прапускала ў друк толькі асобныя творы, блізкія па характары да фальклорных, паколькі беларуская мова па-ранейшаму афіцыйна не прызнавалася[13].

Першым у поўным сэнсе слова беларускім паэтам і пісьменнікам стаў Францішак Багушэвіч (1840–1900). Паказальна, што па цэнзурных умовах ён не здолеў апублікаваць у Расіі ніводнага свайго мастацкага твора. Пры дапамозе польскіх дзеячаў за межамі Расійскай імперыі выйшлі з друку два зборнікі: у Кракаве “Дудка Беларуская” (1891, 1896) і ў Познані “Смык беларускі” (1894). Заслуга Ф. Багушэвіча не толькі ў тым, што менавіта ён парушыў амаль трыццацігадовае маўчанне беларускай літаратуры. Паэт у сваёй прадмове да “Дудкі беларускай” першым з дзеячаў культуры абвясціў існаванне самастойнага беларускага этнасу, акрэсліў этнічную тэрыторыю беларусаў, з

12 “Гомон”. № 2. Лістапад 1884 г. // Публицистика белорусских народников. Минск, 1983. С. 109–121.

13 Біч М. Беларускае Адраджэнне ў XIX – пачатку XX ст. Гістарычныя асаблівасці, узаемаадносіны з іншымі народамі. Мінск, 1993. С. 14.

годнасцю і гонарам адстойваў “святасць” і “людскасць” беларускай мовы і веліч беларускай гісторыі.

Пачаткам палітычнага этапу гісторыі беларускага нацыянальнага руху стала заснаванне зімой 1902–1903 гг. Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) – першай нацыянальнай палітычнай партыі. Стваральнікамі і кіраўнікамі гэтай партыі, якая на пачатку свайго існавання больш нагадвала палітычны клуб, былі браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч, Казімір Кастравіцкі, Фелікс Умястоўскі, Вацлаў Іваноўскі, Алесь Бурбіс. У праграму БСГ, відаць, не без уплыву Польскай сацыялістычнай і Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партый было ўключана патрабаванне дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. У 1903–1904 гг. БСГ цесна ўзаемадзейнічала з гэтымі партыямі, а таксама з Мінскай арганізацыяй расійскай Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў).

На працягу другой паловы XIX ст. у этнічнай самасвядомасці беларусаў адбываліся істотныя змены. Сярод насельніцтва пашыралася назва “беларусы”, якая, праўда, яшчэ не мела агульнаэтнічнага і ўласна нацыянальнага зместу і асэнсоўвалася часцей як тапонім. Адначасова ўжываліся канфесіянімы (“рускія” і “палякі”), а жыхары паўночна-заходняй і цэнтральнай частак Беларусі нярэдка называлі сябе “тутэйшымі”[14].

На пачатку XX ст. развіццё прамысловасці ў Беларусі паскорылася. У 1915 г. доля прамысловай прадукцыі складала 15% агульнай вытворчасці Беларусі. Тэмпы прыросту насельніцтва па-ранейшаму былі даволі значнымі. У 1909 г. у Беларусі (у сучасных межах) пражывала 7,4 млн чалавек[15]. Абвастрылася аграрная перанаселенасць, і пачаліся масавыя міграцыі за межы Беларусі. Асноўнымі накірункамі міграцыі былі Сібір, ЗША і Канада. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Беларусі жыло каля 8 млн чалавек, у тым ліку 5,5 млн беларусаў[16].

Вялікае значэнне для беларускай гісторыі XX ст. мела рэвалюцыя 1905–1907 гг. Ужо ў студзені 1905 г. па беларускіх гарадах пракацілася хваля забастовак, дэманстрацый і мітынгаў. Кіраўнікамі рабочага руху выступалі пераважна расійскія сацыял-дэмакраты і Яўрэйскі рабочы саюз (БУНД). Вясною 1905 г. пачаўся масавы сялянскі рух. Досыць актыўна ў гэтых падзеях удзельнічала Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ). Менавіта яна разам з Партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў) арганізавала ў Мінску ў сакавіку 1905 г. сялянскі з’езд, які прайшоў пад рэвалюцыйнымі лозунгамі.

[14] Церашковіч П., Чаквін І. Беларусы… С. 472.

[15] Эберхардт П. Дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі... С. 61.

[16] Там жа . С. 68.

Уздым рэвалюцыі ў кастрычніку 1905 г. страсянуў самыя асновы самаўладдзя. Беларусь прыняла актыўны ўдзел ва Усерасійскай палітычнай стачцы. Рэвалюцыйны рух здолеў вырваць у царызму такую ўступку, як Маніфест ад 17 кастрычніка 1905 г. “Аб удасканаленні дзяржаўнага ладу”. Гэты заканадаўчы акт абвяшчаў увядзенне ў Расіі дэмакратычных свабод і надзяляў Дзяржаўную думу заканадаўчымі паўнамоцтвамі. Але гэта была адносная перамога рэвалюцыі. Адразу пасля з’яўлення Маніфеста ўлады, быццам, схамянуўшыся, узмацнілі рэпрэсіі. 18 кастрычніка ў Мінску пралілася кроў. Быў расстраляны масавы мітынг, загінула каля 100 чалавек. Чарнасоценны “Саюз рускага народа” пры ўдзеле або маўклівай згодзе мясцовай адміністрацыі, паліцэйскіх чыноў і часткі праваслаўнага духавенства арганізаваў некалькі яўрэйскіх пагромаў. Аднак вярнуць краіну ў часы неабмежаванага самаўладдзя ўжо было немагчыма.

Неад’емнай часткай вызваленчай барацьбы ў Беларусі з’яўляўся беларускі нацыянальны рух. Яго арганізатарам, ідэйным і палітычным кіраўнікам з’яўлялася БСГ. Вялікую ролю ў развіцці гэтага руху адыграў беларускі друк – газеты “Наша доля” і “Наша Ніва”. Апошняя стала сапраўдным цэнтрам беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Першы нумар “Нашай Нівы” выйшаў 10 лістапада 1906 г. Газета рашуча выступала супраць велікарускіх шавіністаў, якія імкнуліся да поўнай асіміляцыі беларусаў, крытыкавала пазіцыю па нацыянальным пытанні сяброў польскай партыі нацыянальных дэмакратаў. Пры гэтым сама газета, як і кіраўнікі беларускага руху, ніколі не станавілася на шавіністычныя пазіцыі ў адносінах да іншых народаў: “Ніхто не забараняе беларусу знаць мову суседніх нацый – расейскую і польскую, ад каторых яму ёсць чаго навучыцца: расейскі і польскі народ маюць вялікую навуку – вялікую культуру. Не карыстаючыся з іх, беларус не зможа развівацца, не зможа дайсці свету навукі; вось чаму варта і трэба пазнаваць тыя мовы. Ад шчырага сэрца мы радзім: “Свайго не цурайся – чужому навучайся!” Абы гэта было добра і разумна”[17].

Выдатных поспехаў у гэты перыяд дасягнула беларуская літаратура. Вядучую ролю ў літаратурным працэсе адыгрывалі Янка Купала (Іван Луцэвіч), Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч), Максім Багдановіч і Максім Гарэцкі. Пасля адмены ў 1905 г. забароны на беларускамоўныя публікацыі ўзніклі беларускія выдавецтвы: “Загляне сонца і ў наша ваконца” ў Пецярбургу, “Наша Ніва”, “Наша хата” і “Палачанін” у Вільні. У 1908–1914 гг. выйшлі ў свет 77 беларускіх кніжак агульным накла-

[17] Наша Ніва. 1907. № 33.

дам 226 600 асоб[18]. Развівалася беларускае тэатральнае мастацтва. У 1910 г. была заснавана Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага. Характэрнай рысай усёй беларускай прафесійнай культуры таго часу было абуджэнне агульнаэтнічнай свядомасці.

Значны крок наперад зрабіла і беларуская навука. Трэба адзначыць тую вялікую ролю ў пашырэнні нацыянальнай свядомасці, якую адыграла з'яўленне кнігі Вацлава Ластоўскага "Кароткая гісторыя Беларусі" (1910). Фарміраванню нацыянальнай свядомасці як сістэмы навуковых поглядаў спрыяла публікацыя першых тамоў фундаментальнай працы Яўхіма Карскага "Беларусы", артыкулаў гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага.

Перыяд рэвалюцыі быў часам нацыянальнага абуджэння і іншых народаў беларускага краю. Істотным фактарам нацыянальна-культурнага і палітычнага жыцця Беларусі стаўся польскі нацыянальны рух, у якім дамінавала так званая краёвая плынь. Краёўцы выступалі з ідэяй яднання ўсіх этнасаў Беларусі і Літвы на глебе агульнасці інтарэсаў краю. Яны спрабавалі пашырыць сярод мясцовага грамадства палітычнае разуменне нацыі, пры якім галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці з'яўляўся крытэрый грамадзянскай (дзяржаўнай) прыналежнасці. Кастанцыя Скірмунт на старонках «Кур'ера Літэўскага» сцвярджала: "Краёвая ідэя – гэта гармонія трох адвечных элементаў краю: літоўскага (разам з латышскім), польскага і русінскага на іх спрадвечнай Айчыне Літве і Беларусі; гэта згода гэтых элементаў у сумеснай грамадскай працы для агульнага дабра пры свабодным і самастойным культурным развіцці кожнага з іх. Гэтую ідэю, а, дакладней, ідэалогію прадыктавалі нам стагоддзі нашай гісторыі. Яна караніцца ў глыбінях нашай свядомасці, прабіваецца праз сполахі навальніц і няўдач, застаецца тайнай марай нашых народаў"[19].

Перамены адбываліся і ў эканамічным жыцці Беларусі. З 1909 г. пачаўся прамысловы ўздым, які працягваўся да пачатку Першай сусветнай вайны. Тэмпы развіцця прамысловасці Беларусі былі вышэйшыя, чым у цэлым у імперыі. Значна павялічылася колькасць прадпрыемстваў і занятых на іх рабочых. Беларуская прамысловасць уцягвалася ў агульнарасійскі працэс канцэнтрацыі прамысловай вытворчасці і капіталаў. Ужо ў час рэвалюцыі пачаліся сур'ёзныя пераўтварэнні на вёсцы. Улады, разумеючы, што бедная вёска стрымлівае развіццё эканомікі краіны і з'яўляецца ачагом сацыяльнай напружанасці, пайшлі на правядзенне шырокага комплексу рэформаў. Іх ініцыятарам выступіў кіраўнік урада Пётр Сталыпін.

18 Нарысы гісторыі Беларусі ў 2-х частках. Ч. 1. С. 432.
19 Kurier Litewski. 1912. Nr 99.

Зыходным пунктамператварэнняў стала разбурэнне сялянскай абшчыны, перадача надзельнай зямлі ва ўласнасць сялян і актыўная перасяленчая палітыка. Але ў правядзенні рэформы ў Беларусі моцна адчуваліся праявы расійскага каланіялізму. Па-ранейшаму ўлады актыўна заахвочвалі рускіх памешчыкаў набываць зямлю ў Беларусі. Апроч таго, за кошт дзяржаўных земель тут быў створаны фонд для рускіх сялян-перасяленцаў. І гэта пры вострым малазямеллі мясцовых беларускіх сялян.

У рамках той жа сталыпінскай вялікадзяржаўнай палітыкі трэба разглядаць і земскую рэформу ў Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губ. (1911). Парадак выбараў па нацыянальных курыях ("руская" і "польская") не дазваляў беларускім сялянам паўплываць на рашэнні мясцовага земскага самакіравання. Царскі ўрад у чарговы раз праігнараваў існаванне беларусаў як самабытнай нацыі. Беларусь заставалася ўнутранай калоніяй Расіі.

Летам 1914 г. распачалася сусветная вайна. Праз год усім сваім цяжарам яна навалілася на Беларусь. Прыпыніўся працэс нацыянальна-культурнага Адраджэння. Сярод насельніцтва раслі антыўрадавыя і антываенныя настроі. Беларуская вёска адчувала недахоп рабочых рук, пакутавала ад бясконцых рэквізіцый збожжа, коней, буйной рагатай жывёлы і г.д. на патрэбы войска. У 1915 г. фронт падзяліў Беларусь на дзве часткі, сувязі паміж якімі амаль што не існавала. Адступленне рускай арміі суправаджалася масавым, часта прымусовым, бежанствам соцень тысяч людзей на ўсход. Больш за 1 млн чалавек было эвакуіравана ў цэнтральныя раёны Расіі, Паволжа, на Украіну. Толькі ў Маскве пасялілася больш за 120 тыс. беларусаў, у Петраградзе – 100 тыс. Сярод бежанцаў узніклі шматлікія беларускія дабрачынныя, культурна-асветніцкія і палітычныя арганізацыі, якія адыгралі значную ролю ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці.

Актывізаваўся нацыянальны рух і на тэрыторыі, акупаванай германскімі войскамі. У Вільні ўзнік Беларускі народны камітэт на чале з Антонам Луцкевічам. Гэтая арганізацыя была каардынатарам дзейнасці ўсіх беларускіх палітычных сіл на захад ад лініі фронту. У 1915 г. у Вільні адчынілася першая легальная беларуская школа, у 1916 г. распачала працу беларуская настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы. На ўсход ад лініі фронту на тэрыторыі, якая ўсё яшчэ знаходзілася пад уладай расійскага імператара, ролю кіраўніка беларускага руху адыгрываў Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Яго ўзначальваў з канца 1916 г. Раман Скірмунт.

Вайна паскорыла наспяванне новага рэвалюцыйнага крызісу. У канцы лютага 1917 г. расійскае самаўладдзе было звергнута. У Мінску ўзнік Часовы грамадскі камітэт парадку, у які ўвайшлі і прад-

стаўнікі Савета рабочых дэпутатаў. Рэвалюцыйныя падзеі спрыялі актывізацыі дзейнасці беларускіх нацыянальных арганізацый. 25–27 сакавіка ў Мінску адбыўся з'езд іх прадстаўнікоў. Быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з Раманам Скірмунтам. Камітэт павінен быў кіраваць дзейнасцю па дасягненні аўтаноміі Беларусі ў межах дэмакратычнай і федэратыўнай Расійскай рэспублікі. Але спробы дэлегацыі БНК у Петраградзе весці перамовы з Часовым урадам пра аўтаномію Беларусі скончыліся безвынікова. Новыя расійскія ўлады не збіраліся прадастаўляць беларусам права на аўтаномнае існаванне. Не збіраліся гэтага рабіць і кіраўнікі бальшавіцкай партыі, якія ў кастрычніку 1917 г. захапілі ўладу.

У парадку дня ізноў стаяла пытанне пра кансалідацыю ўсіх беларускіх нацыянальных сіл. Усебеларускі з'езд, які распачаў сваю працу 5 снежня 1917 г. у Мінску, павінен быў вызначыць далейшы накірунак развіцця беларускага руху. З'езд прыняў рашэнне пра стварэнне Усебеларускай рады сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў, якая павінна была ўзяць уладу ў Беларусі ў свае рукі і арганізаваць выбары ва Усебеларускі ўстаноўчы сход. Гэта рашэнне не задаволіла кіраўнікоў бальшавіцкіх арганізацый, якія яшчэ ў канцы кастрычніка – пачатку лістапада 1917 г. пры дапамозе салдат Заходняга фронту захапілі ўладу ў буйных гарадах Беларусі. У ноч на 17 снежня 1917 г. Усебеларускі з'езд быў сілай разагнаны. Многія дэпутаты былі арыштаваныя. Удзельнік з'езда Аляксандр Цвікевіч пазней пісаў: "Нихто и в мыслях не допускал, что могли найтись преступные насильники, осмелившиеся посягнуть на высокое Национальное собрание в самый ответственный момент его деятельности [...] Заговор против суверенного хозяина белорусской земли провели и осуществляли пришельцы со стороны в лице "Совета Народных Комиссаров Западной области и фронта". Цепляясь за свою власть и боясь, что народ, взявшийся за дело творения своей государственности, выкинет их из их застенка, они вооружённой силой разогнали Всебелорусский съезд"[20]. Усебеларуская Рада была вымушана перайсці на нелегальнае становішча.

У лютым 1918 г., калі пры набліжэнні да Мінска германскіх войскаў бальшавіцкія ўлады пакінулі горад, выканкам Усебеларускай рады ўтварыў першы беларускі ўрад – Народны сакратарыят Беларусі. Нягледзячы на тое што германскія ўлады не прызналі легітымнасці Народнага сакратарыяту, беларускі ўрад дзейнічаў. Насуперак усім неспрыяльным умовам, у тым ліку непрызнанню беларускага ўрада буйнейшымі дзяржавамі Еўропы, актывізацыі вялікадзяржаўнай антыбеларускай агітацыі з боку бальшавікоў і інш., быў узяты курс на

---

[20] Цвикевич А. Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики. Киев, 1918. С. 10.

пабудову незалежнай беларускай дзяржавы. 9 сакавіка 1918 г. было абвешчана ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Была абрана Рада БНР як вышэйшая заканадаўчая ўстанова. 25 сакавіка 1918 г. Рада абвясціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай дзяржавай. Беларускае нацыянальна-культурнае і палітычнае Адраджэнне дасягнула свайго апагея. Усведамленне каштоўнасці ўласнай дзяржаўнай незалежнасці стала неадʼемнай часткай беларускага нацыянальнага руху.

*Сяргей Токць* (Гродна)
*Аляксандр Смалянчук* (Гродна)

**Раздзел I**

# Беларусь ад падзелаў Рэчы Паспалітай да адмены прыгоннага ладу. 1795–1861 гг.

## ПАДЗЕЛЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ. ПАЎСТАННЕ 1794 г.

### 1. Апошні сейм Рэчы Паспалітай. Гродна, 1793 г.

В понедельник [23 сентября 1793 г.], вместе с рассветом, город принял тот же воинственный вид, как и три недели назад. Два батальона гренадёр окружили Королевский замок, а против ворот его поставлены 4 пушки и при них артиллеристы с зажжёнными фитилями.

Когда разнеслась весть об аресте четырёх послов[1], король неоднократно посылал министров и своего секретаря к Сиверсу (надзвычайнаму паўнамоцнаму пасланніку Расіі. – *А.С.*) с просьбой об освобождении арестованных. Но Яков Ефимович [Сиверс] отказал наотрез [...] Послы, собравшись в сеймовой зале, угрюмо сидели на своих местах в ожидании заседания. Только генерал Раутенфельд, одетый в полную форму, прохаживался среди царствовавшей тишины.

Когда прибыл король, маршал хотел открыть заседание и произнёс обычные слова: "Сессия загоена!" (адкрыта. – *А.С.*) "Нет, не загоена, не загоена!"– закричали с разных сторон. Встал Гославский и объявил, что заседание не может быть открыто, пока не будут освобождены четыре арестованных посла. [...] Тотчас же со всех сторон поднялись голоса, повторявшие тот же протест против насилия и требовавшие освобождения четырёх послов.

Крики и замешательства продолжались часа два; палата наконец приняла предложение Миончинского отправить депутацию к русскому посланнику с просьбой об освобождении арестованных.

[...] Сиверс собственноручно написал сейму ноту, заключавшую отказ освободить послов. [...] По прочтению этого ответа маршал сеймовый хочет перейти к чтению двух нот русского посланника, но

[1] Так называлі дэпутатаў сейма. У далейшым гл. слоўнік тэрмінаў.

крики и шум не дозволяют ему открыть заседание. Со всех сторон слышны голоса: "Нет более сейма! Нет заседания под игом насилия!" Члены оппозиции собираются посредине залы и не допускают секретаря начать чтение нот. [...]

Секретарь пытается прочесть [...] проект прусского договора об уступке земель [...] Но его прервали вновь поднявшиеся крики. Оппозиция не хотела слушать проекта, не вносимого в палату никаким её членом [...] Король предлагает об освобождении арестованных послов и о прекращении ареста самого сейма. Палата приняла это предложение [...] В двенадцатом часу делегация воротилась и донесла, что посланник остаётся непоколебим [...] На просьбу об освобождении послов он отвечал, что если бы получил приказ из Петербурга освободить их, и тогда бы не сделал этого, а прежде отправил бы курьера с объяснением, что освобождение их несовместимо с интересами императрицы. В заключение он торжественно заявил, что войска не удалятся до тех пор, пока не будет принят проект [...], что даже если он будет вотирован и не получит большинства, то генерал Раутенфельд имеет на этот счёт особые приказания [...]

Маршал приказывает секретарю начать чтение. Но едва тот хотел начать, как оппозиция снова встрепенулась: Кимбар, Стоинский, Янковский, Нарбут, Богуцкий и другие литовские послы (дэпутаты ад Вялікага княства Літоўскага. – *А.С.*) криками своими покрывают голос секретаря [...]

По временам шум и замешательство в палате сменялись мертвым молчанием. Часть послов спала; слабый, ослабевший от старости и волнения король также не мог противиться дремоте. Но едва секретарь по приказанию маршала начинал чтение проекта, как снова голос его терялся среди криков оппозиции [...]

Раутенфельд вышел из залы и отправился к Сиверсу за приказаниями. В собрании водворилась мертвая тишина. Немного спустя генерал воротился и громко объявил, что все послы будут задержаны в этой зале до тех пор, пока не исполнят требований посланника. [...] Затем Раутенфельд вручил записки от Сиверса королю, епископу Коссаковскому и маршалу Тышкевичу. Последнему Сиверс писал, что в случае упорства самому королю не будет дозволено оставить трон и что он велит принести в залу соломы, на которой сенаторы могут отдыхать до тех пор, пока не будут выполнены его требования.

Оппозиция и после того противилась чтению трактата; но наконец уступила убеждениям противной стороны и усильным просьбам большинства. Воцарилось глубокое молчание, посреди которого секретарь прочел проект трактата, а потом и декларацию сейма. В этой

декларации указывалось на насилия, причиненные сейму 2 сентября и в настоящем заседании, на незаконный арест послов, на задержание под стражей всего сейма в позднюю ночную пору, вместе с королем, удрученным летами и столькими огорчениями. “Поставленные в такое положение, мы объявляем, что, будучи не в состоянии даже с опасностью для жизни избегнуть последствий насилия, поручаем потомству, может быть, более нас счастливому, те способы к обороне Отечества, которых теперь нет в нашей власти. В силу упомянутых причин мы принуждены принять предоставленный в избу проект посланника, противный нашей воле и нашим правам”.

После прочтения документов в зале продолжалось то же гробовое молчание. Слышался только глухой мерный звук от шагов русских часовых, ходивших по коридору и под окнами сеймовой залы. Замковые часы пробили три часа утра. Раутенфельд, смущенный этим оригинальным способом сеймования, встает и просит короля обычным способом привести к решению внесенные проекты. Король сухо ответил ему, что не в его власти заставить послов прервать молчание. Тогда Раутенфельд сказал, что он должен ввести в залу отряд гренадеров. Он направился к дверям. Но в эту минуту сеймовый маршал возвышает свой голос и обращается к палате с вопросом: “Согласна ли она принять внесенные проекты?” При этом вопросе группа оппозиционных послов, как бы пробужденная из своего оцепенения, спешит снова заявить протест. [...] Маршал вторично объявляет, что он принужден будет обратиться к вотированию, если не произойдет единогласие. Затем он ставит следующий вопрос: “Согласны ли сеймующие сословия, чтобы депутация подписала проект, предоставленный русским посланником?” Мертвое молчание. Маршал повторяет свой вопрос; потом спрашивает в третий раз. Тоже молчание.

Тогда Белинский (маршал сейма. – *А.С.*) поспешно объявляет проект трактата принятым “единогласно” и приглашает членов конституционной делегации снабдить его своей подписью. В 3,5 часа утра окончилось это так называемое “немое заседание”.

В то же утро некоторые члены оппозиции занесли в гродских книгах протестацию против неслыханного насилия, употребленного двумя соседними дворами. [...]

*Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 г. Последний сейм Речи Посполитой. М., 1870. С. 201–209*

### 2. Паланецкі універсал Тадэвуша Касцюшкі. 7 траўня 1794 г. Фрагмент.

Загадваю [...] Парадкавым камісіям ваяводстваў і земляў усяго краю, каб выдалі наступныя распараджэнні:

1. Давесці люду, што ў адпаведнасці з правам ён знаходзіцца пад апекай Краёвага ўрада.

2. Што кожны селянін з'яўляецца вольнай асобай. Ён мае права жыць там, дзе хоча. Але павінен давесці парадкавым камісіям, куды ён накіроўваецца, а таксама выплаціць усе даўгі і дзяржаўныя падаткі.

3. Што павіннасці люду змяншаюцца. Той, хто адбываў паншчыну 5 або 6 дзён у тыдзень, будзе працаваць на два дні менш. Хто працаваў 3 або 4 дні, будзе працаваць на адзін дзень менш. Хто працаваў два дні, таксама – на адзін дзень менш. Хто працаваў адзін дзень у тыдзень, той будзе працаваць адзін дзень у два тыдні. [...]

5. Тыя, хто прыме ўдзел у паўстанні, вызваляюцца ад паншчыны на час знаходжання ў войску. Пасля вяртання дадому паншчына аднаўляецца. [...]

7. Калі хто-небудзь са старастаў, эканомаў або камісараў парушыць вышэйазначаныя распараджэнні і абцяжарыць павіннасцямі люд [...], то ён будзе аддадзены пад крымінальны суд. [...]

*Tadeusz Kościuszko w historii i tradycji. Warszawa, 1968. S. 56*

### 3. Са звароту Тадэвуша Касцюшкі да жыхароў Беларусі і Літвы. 2 чэрвеня 1794 г.

Літва! Землякі і суайчыннікі мае! На вашай нарадзіўся зямлі і ў запале праведным для маёй Бацькаўшчыны адгукаецца ўва мне найасаблівейшая схільнасць да тых, пасярод каторых пусціў карані жыцця [...]

Літва! Слаўная змаганнем і грамадзянскасцю, доўга нешчаслівая праз уласных сыноў здрады, абяцаю стаць сярод вас з удзячнасцю за давер ваш да мяне, калі дазволяць мне вайсковыя абставіны [...] Хто ж я ёсць, як не ліцвін, зямляк ваш, вамі абраны? [...]

*Емяльянчык У. Паланез для касінераў. Мінск, 1994. С. 73*

### 4. Аляксандр Сувораў і бітва каля в. Крупчыцы. Верасень 1794 г.

18 жніўня з Нямірава (на Украіне) па загадзе фельдмаршала Румянцава з атрадам у чатыры з паловай тысячы чалавек рушыў на Беларусь у накірунку Бярэсця [...] А. Сувораў [...]

Атрад А. Суворава ішоў вельмі хутка. Па дарозе ён пастаянна папаўняўся. На падыходзе да Кобрына войска будучага фельдмаршала налічвала ўжо болей за 11 тысяч чалавек пры 39 гарматах.

Дарэчы, званне "фельдмаршал" А. Сувораў атрымае ад імператрыцы якраз за падаўленне паўстання Т. Касцюшкі, а "навука перамагаць" на гэты раз прыстасоўвалася да простага, не дасведчанага ў вай-

сковай справе беларускага селяніна-касінера... Таму да высокага вайсковага звання “фельдмаршал” герою, але чужой дзяржавы-імперыі, пасуе і яшчэ адно, ганебнае – “душыцель паўстання”...Як кажуць, дзе іх “слава”, там наша гора...

Але вернемся пад Кобрын. 15 верасня К. Серакоўскі атрымаў загад [...] выступіць пад Крупчыцы недалёка ад Кобрына, каб паспрабаваць стрымаць імклівы рух Суворава. У Серакоўскага на той час было да 10 тысяч войска і 28 гармат. [...]

Галоўнае павінна было вырашыцца пад Крупчыцамі, дзе абралі сабе пазіцыю паўстанцы Серакоўскага і куды сцягваў паступова свае сілы Сувораў.

Бітва пачалася раніцай 17 верасня і працягвалася да трох гадзін дня. З інфармацыі “шматлікіх шпегаў” (шпіёнаў. – *А.С.*) [...] А. Сувораву былі добра вядомы бакавыя шляхі і падыходы да асноўнай пазіцыі атрада К. Серакоўскага перад Крупчыцкім манастыром кармелітаў. У выніку флангавых абыходаў і ўдараў, перайшоўшы р.Трасцяніцу, атрады А. Суворава выйшлі ў тыл паўстанцам, захапіўшы пануючае над іх пазіцыяй узвышша. Гэта і прадвызначыла зыход бою.

Каб не паставіць увесь свой атрад пад знішчальны агонь варожай артылерыі, К. Серакоўскі быў вымушаны аддаць загад аб адыходзе з-пад Крупчыц. Сам Сувораў даў даволі высокую адзнаку мужнасці паўстанцаў, адзначыўшы, што “атакаваны непрыяцель змагаўся моцна больш, чым пяць гадзін”. К. Серакоўскі ў сваім рапарце Т. Касцюшку вызначыў самаахвярнасць многіх удзельнікаў бітвы. Асабліва адзначыў мужнасць падпаручніка Рудзінскага, які, нават смяротна паранены карцеччу, адмовіўся пакінуць поле бою, з апошніх сіл заахвочваючы паўстанцаў да змагання. У гэтай бітве паўстанцы страцілі да дзвюх тысяч чалавек забітымі, параненымі і прапаўшымі без звестак. Многія з яе ўдзельнікаў, у асноўным мясцовыя сяляне-касінеры, уцяклі ў Крупчыцкі манастыр кармелітаў, дзе спрабавалі схавацца, але былі там пасечаныя казакамі Суворава.

Пасля кароткага адпачынку К. Серакоўскі ноччу 14-гадзінным маршам адвёў свае войска пад Бярэсце, мяркуючы, што там у яго будзе час, каб перагрупаваць сілы. Але ўжо ў 6 гадзін раніцы 19 верасня ізноў быў атакаваны сувораўскім атрадам. Гэты нечаканы напад прывёў да катастрофы “корпуса” К. Серакоўскага, з якога ад разгрому ацалела толькі 700 чалавек. 2645 чалавек было забіта і паранена альбо трапіла ў палон. Асабліва цяжкай была страта ўсіх гармат, якіх паўстанцам і так не хапала [...]

Цяпер наперадзе ў Суворава была толькі Варшава. У тыле засталіся невялікія часткі разбітага корпуса К. Серакоўскага, пераважна касінеры. На іх проста палявалі. Як адзначаў той жа Сувораў: “Разбе-

жавшихся при сражении в леса, кои не сдаются и сами не являются, перестреливают поныне егеря и иная пехота, как то и в болотах, кои в них не потонули".

*Емяльянчык У. Паланез для касінераў. С. 112–114*

### 5. Палон Тадэвуша Касцюшкі. 10 кастрычніка 1794 г.

10 кастрычніка здарылася бітва пад Мацеевіцамі – пераломная ў паўстанні. Калоне, якую Т. Касцюшка вёў на Варшаву, перакрыў шлях корпус Ферзэна. Бой цягнуўся амаль поўны дзень. Гарматны агонь рускіх рассеяў конніцу, у схватках з пяхотай палеглі касінеры, кіраваць боем стала немагчыма, было відавочна, што рускія бяруць перамогу. І Касцюшка на чужым кані ў роспачы блукаў па полі бітвы, сярод параненых і палеглых, адшукваючы сваю кулю сярод мноства тых, што пасвіствалі навокал. Але куля трапіла ў каня, калі Касцюшка ўцякаў ад купкі казакаў. Падсечаны конь паваліўся, Касцюшка вылецеў з сядла і, не жадаючы ганьбы палону, уклаў пісталет у рот і спусціў курок. На бяду ці на дабро, Бог ведае, асечка.

Набеглі казакі, адзін стрэліў, другі з каня ўдарыў Касцюшку пікаю ў нагу; неяк аказаўся тут карнет Фёдар Лысенка – распалены боем, ён ударыў бяззбройнага паўстанца палашом па галаве [...] Касцюшка страціў прытомнасць. Казакі сцягнулі з яго боты, з кішэні вынялі залаты гадзіннік, з пальцаў знялі некалькі пярсцёнкаў з надпісам "Айчына абаронцу свайму", якімі Касцюшка ўзнагароджваў замест медалёў.

Побач ляжаў драгун з ягонай конніцы, што прыкінуўся забітым. Але бачачы, як рабуюць Касцюшку, як заліла ягоны твар кроў, ён не стрываў і пачаў крычаць: "Начальніка забілі! Касцюшку!..." Казакі збянтэжыліся, пачалі крычаць Касцюшку ў вуха, каб прывесці ў сябе. Нарэшце абмылі твар вадой. Касцюшка апрытомнеў, тады адзін спытаў: "Ты Касцюшка?" Той шэптам вымавіў: "Так. Вады..."

Палон кіраўніка паўстання шмат чаго абяцаў казакам; узрадаваныя, яны панесліся дакладваць па камандзе. Прымчалі афіцэры, знайшлі нейкую падводу, Касцюшку паклалі на голыя дошкі і павезлі. Падводу трэсла на няроўным полі, галава яго білася аб дошку. Трэба аддаць належнае казакам, яны не вытрывалі такое назіраць і нехта разважліва сказаў: "Хоць гэта і вораг, але ўсё ж і ён чалавек". Казакі надзелі на пікі два шынялі, і на такіх насілках панеслі палоннага да генералаў.

*Тарасаў К. Памяць пра легенды. Мінск, 1990. С. 207–208*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактарызуйце ўмовы, у якіх працаваў апошні (Гарадзенскі) сейм Рэчы Паспалітай.

2. Пры якіх умовах Рэч Паспалітая магла супрацьстаяць агрэсіі з боку Расіі, Прусіі і Аўстрыі?

3. Якое значэнне для сялян меў Паланецкі універсал Т. Касцюшкі?

4. Ці адчувалася ў дзейнасці Т. Касцюшкі тое, што яго Радзімай была Беларусь?

5. Якую ролю ў нашай гісторыі адыграў А. Сувораў?

6. Якім мог быць лёс Беларусі ў выпадку перамогі паўстання?

7. Дайце ацэнку тэзіса савецкага гісторыка Л. Абэцэдарскага, які лічыў падзелы Рэчы Паспалітай прагрэсіўнай з'явай беларускай гісторыі і сцвярджаў, што ў канцы XVIII ст. адбылося ўз'яднанне рускага і беларускага народаў.

## СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ ПАСЛЯ ДАЛУЧЭННЯ ДА РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. ВАЙНА 1812 г.

### 6. Прапановы генерал-губернатара Чарнышова, зацверджаныя Кацярынай II. 13 верасня 1772 г.

1. С будущего месяца не соизволено ли будет указать начать по учрежденному порядку перепись душ; но как слово "души" в сих губерниях в сем случае необыкновенно, то назвать перепись сию поголовною переписью и, положа равной с прочими в государстве крестьянами семигривенной оклад, назвать сии семь гривен "поголовные", в числе же сего окладу брать по одному четверику муки с каждого по штатной цене.

С евреев сбор положить также поголовной по одному рублю с каждой и приписать их к кагалам, которые и учредить по рассмотрению губернаторов и по надобности.

С купечества по одному рублю двадцати копеек с головы.

Сбор сих поголовных денег начать с 1 генваря.

2. Дворянству подать от себя в губернские города списки о их дворянстве, чтобы впредь без высочайшей воли никто себя тем достоинством не почитал, и потому бы принадлежащим только дворянству правом, кроме действительных дворян, не мог никто пользоваться [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. 1772–1903 / пад рэд. Н.М. Нікольскага. Мінск, 1940. С. 10–11*

### 7–8. Рэкруцкія наборы.

Уводзіліся таксама рэкруцкія наборы, якіх раней Беларусь не ведала [...]. Рэкрутчына ўспрымалася горшым з зямных бедстваў, провады ў салдаты болей паходзілі на хаўтуры. Павіннасць, уведзеная Пятром I у 1699 г., вызначала пажыццёвае знаходжанне ў войску; чалавек, якога аддавалі ў рэкруты, практычна назаўжды пазбаўляўся сям'і, сваякоў, роднай хаты і Радзімы. Толькі ў 1793 г. гэты тэрмін быў абмежаваны 25 гадамі; тады ў расійскай арміі неслі службу беларускія салдаты па 20 рэкруцкіх наборах. Наступнае памяншэнне тэрміна службы – да 20 гадоў – адбылося ў 1834 г., а потым да 15 – у 1856 г.

У рэкруты бралі мужчын ва ўзросце 19–35 гадоў. Так што той, каму цудам удалося чвэрць стагоддзя заставацца жывым у бясконцых кампаніях і паходах, пакідаў армію або 60-гадовым старым, або 45-гадовым чалавекам, які не меў ні кала ні двара. [...] Беларускі народ, які складаў у 1811 г. дзесятую частку 40-мільённага жыхарства імперыі, пастаўляў у рэгулярныя войскі да 15 працэнтаў рэкрутаў.

*Тарасаў К. Памяць пра легенды. Мінск, 1990. С. 233–234*

Мне не раз приходилось видеть рекруцкие наборы [...]. Никто не знал, на кого падет черед: это было делом произвола мелких властей – старост, волостного писаря, старшин. В крепостное время в это дело вмешивался пан и сдавал неугодных. А потом мелкие власти решали, кого взять, и брали того, кто не мог откупиться [...]. Кто не мог откупиться, единственное средство было – скрыться на время набора, а если тебя схватили – бежать. Это дезертирством не считалось. Пройдет набор – скрывавшийся опять возвращался. Но скрываться приходилось много лет, пока выйдет из годов. Хватали, разумеется, тех, кто всего менее того ожидал. Их заковывали в колоды и сковывали руки сзади. Я видел не раз, как молодые рекруты, скованные парами, шагали по базару: правая нога одного и левая другого забиты в колоду, а кроме того – ноги и руки скованы цепями. И вот, лязгая цепями, они ступают сначала заколоженными ногами, а затем переставляют пару боковых.

Бывало, что, сломав колодки и разбив цепи, парень убегал босой, нагишом. Один такой беглец имел шейный платок и им попеременно повязывал босые ноги, ибо выпал снег, и был сильный мороз, а он был в одной рубашке и в портках. Ноги отморозил и сам едва не ззяб, но все же бежал.

Таких повествований много ходило. Помогать таким беглецам всякий считал своим долгом [...]

*Богданович А. Мои воспоминания // Неман. 1994. № 7. С. 77–78*

**9. З пісьма Г. Дзяржавіна пра голад у Беларускай губ.[2] 26 чэрвеня 1800 г.**

Заходил я в [...] некоторые владельческие селения и видел врасплох в бедных хижинах настоящий образ жизни поселян. Лучшие из них едят пушной, или пополам с мякиной, хлеб, доставая и тот покупкой и займом со дня на день на дневное пропитание, а другие употребляют пятую только долю ржи, смешивая с четырьмя частями мякины, иные и того не имеют, а едят вареный щавель или хлебают из отрубей и выжимок вареную, по их названию, кислицу [...]. От таковой пищи все вообще вялы, тощи и бледны, как мертвецы.

Сравнивая их с самыми беднейшими великороссийскими крестьянами, не усумнился бы я сказать, что они находятся в самом жалостнейшем положении и терпят такой голод, который скоро их поморит и которого притом, судя по неимуществу, нигде у них ни в гумнах, ни в закромах никакого хлеба, ниже скота и домовых птиц (кроме инде только весьма малейшего количества лошадей и коров), в полной мере едва ли отвратить возможные найдутся средства, но поелику привычка и самые ужаснейшие вещи делает сносными, а нужда научает терпению, то я могу удостоверить о довольном их равнодушии или это уже отчаяние, что и самые младенцы без вопля сносят недостаток пищи, шатаются с матерями, сбирая ягоды, грибы и щавель [...].

*Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов / ред. В. Чепко, В. Жигалова. Т. 4. Минск, 1979. С. 144–145*

**10. З данясення гарадзецкага земскага спраўніка. Беларуская губ. Люты 1797 г.**

В Городецком у. в мятежности и непослушании находятся.

1е. В старостве Езерицком содержателя графа Сологуба, составляющего у себя по ревизии 10 тыс. душ, вышли все крестьяне из [...] повиновения наместнического правления предписания, но и не повиновались сенатскому указу, [...] 9-го прошедшего декабря при фольварке Веровье, собравшись более 300 чел. с дубьями, рогатинами и ружьями, прибили до полусмерти земского исправника, любощинского секретаря Углика и протчих чиновников, отказываясь непослушанием указу, и не дозволяли оный прочесть после того, хотя Суражский нижний земский суд через наместническое правление был наряжен для произведения о сем на месте следствия и приведения крестьян в должное повиновение графине Сологубовой, но оный съез-

2 Беларуская губ. існавала з 1796 па 1801 г. У яе ўваходзіла большасць тэрыторыі сучасных Віцебскай і Магілёўскай абласцей.

жал два раза в староства, но собранная толпа людей с дубьями при фольварке также не допустила, почему следствие не произведено, но сверх же сего хотя для усмирения оных и Полоцкой экономии директор г. Верёвкин был приехавши, но, однако, и ему по требованию, как в Городке управителей, старост, войтов и тивунов мужи не явились, так его в самое староство не допустили до въезду; в протчих же вотчинах мятежности: а именно: г. Древича, г. Ракасовского, г.Корсака, волости Обольской содержателя графа Бурынского, какие мятежности состоят о вышедшем из должного послушания крестьян, сведением от тех помещиков в суд прошением точные копии при сем в.в. на уважение и рассмотрение представляется, за донесением, что без воинской команды привести в должное послушание невозможно, и о сем было представлено наместническому правлению, от которого последовали предписания и увещания тихим и благоразумным образом крестьян и о приведении в повиновение которое, хотя члены по такому предписанию съехали на место и увещевали, читая им именной е.и.в. Указ, состоявшийся в 29-й день генваря, однако, они не токмо оному не повиновались, но и слушать не согласились, произведя грубости и брани, что ниже и члены суда в опасности находятся, выехать для комисиев в уезд команды в Городецком у. для усмирения сих мятежников еще никакой не имеется, хотя в суд от Полоцкого наместнического правления неоднократно присылали просьбы [...]

*Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времён до 1917 г. / сост. А. Игнатенко, В. Сидорцов. Минск, 1977. С. 181*

### 11. Са справаздачы мінскага губернатара за 1809 г.

В течение 1809 г. крестьяне кн. Радзивиллов в Слуцком и Игуменском поветах в разных деревнях, а также помещика Юдицкого в Речицком пов. деревень Черемис и Просмычь, не восхотев исполнять ту повинность помещикам своим, которую прежде сего они не отбывали по разным помещитским расчётам и обстоятельствам и которая, однако, есть у крестьян здешних обыкновенная, воспротивились сим новым их распоряжениям и никак не могли быть наклонены к повиновению оных, возмечтав, что они шляхта или люди вольные, обсевшие издревле по договорам, и якобы новая повинность до них не относилась, до такой, наконец степени ослушания приведены были, что не только не внимали действию земской полиции, но и пренебрегали воинскою командою, которая употреблена была в Речицком и Игуменском пов. на усмирение, жертвуя имуществом и всем стяжанием своим до тех пор, пока по исследовании не открыты были зачинщики сего бунта и не осуждены к должному наказанию, в Слуцком только пов. возмутившиеся крестьяне не обращены были одним

только внушением полиции к повиновению и к своим хозяйственным упражнениям, которыми с начала весны на своих жилищах не хотели заниматься и не мыслили даже засевать свои поля хлебом в намерении привести себя совсем до истощения, чтоб не быть способными к исполнению повинностей крестьянских своему господину.

Вникая в подробность сих обстоятельств, нашёл, что до присоединения Польши (дакладней, Рэчы Паспалітай. – *А.С.*) к России многие богатые помещики имели у себя из своих крестьян род войска: казаков, гусар, стрельцов и пр., – которые от всех работ и повинностей крестьянских были свободными, а потому те люди, считая и теперь себя не в крестьянском звании, ныне, когда наследники тех господ восхотели сих людей обратить в повинность крестьянскую, то они считают оное насильством [...]

*Хрестоматия по истории Белоруссии... С. 238*

### 12. Запіска графа Міхала Клеафаса Агінскага імператару Аляксандру I пра адраджэнне Вялікага княства Літоўскага. 15 траўня 1811 г. Фрагмент.

[...] Частка Польшчы, далучаная да Расійскай імперыі, складала калісьці асобнае самастойнае валоданне – Літву, яшчэ перад актам уніі Літоўскага княства з Каралеўствам Польскім. Жыхары яго спрадвеку адрозніваліся ваяўнічым духам, клапаціліся пра свае правы і былі верныя сваім манархам, адзначаліся мужнасцю і любоўю да Бацькаўшчыны. Гордыя сваім паходжаннем, ліцвіны, нягледзячы на аб'яднанне сваёй правінцыі з Польшчай, захавалі свае звычаі, свой цывільны кодэкс, мясцовае кіраванне, сваё войска, вярхоўны суд, міністраў, дзяржаўных саноўнікаў і нават сойм, які збіраўся па чарзе ў Варшаве і Гародні. Усе гэтыя прывілеі былі такімі дарагімі для літоўцаў, што, нягледзячы на ўсялякія намаганні і красамоўныя перакананні шматлікіх дзяржаўных дзеячаў, немагчыма было схіліць літоўцаў да адмовы ад сваіх прывілеяў [...]

Цяпер, Найяснейшы Пане, надышла хвіля, калі Вы здолееце праверыць прыхільнасць літоўцаў і разам з тым знішчыць уплыў Напалеона, які снуе надзею паміж імі пра ўзнаўленне Польшчы; час паказаць інтарэс, які маеце ў іх лёсе [...] і назаўжды ўшанаваць адданасць Вам гэтага васьмімільённага насельніцтва, якое будзе апорай Расіі з таго боку, адкуль менш за ўсё яна абаронена, не гаворачы пра тое, што гэтым Вы б схілілі на свой бок сэрцы палякаў, жыхароў Варшаўскага княства.

Арганізуючы гэтыя восем губерняў, паводле мясцовых асаблівасцяў краю і характару жыхароў, і спыніўшы злоўжыванні, якія закраліся ва ўнутранае кіраванне гэтай правінцыі, Ваша Імператарская Вялікасць

прыдбае непарушнае права на ўдзячнасць жыхароў і атрымае на заходняй мяжы Вашай імперыі апору больш надзейную, чым усе крэпасці і войскі, што там знаходзяцца.

[...] Цяпер жа я абмяжоўваюся тлумачэннем правоў, якія можна было б надаць літоўцам, і нагадаю параўнальнае становішча ў гэтым выпадку жыхароў Літвы і жыхароў Варшаўскага княства і, урэшце, якія ёсць выгады ад гэтага для рускага ўрада.

1. Кожнаму даражэй за ўсё ўзнаўленне імя сваёй Бацькаўшчыны, дзе ён упершыню ўбачыў свет жыцця, і няма неабходнасці даказваць натуральнасць гэтага пачуцця [...]

2. Калі б кіраўніцтва Літвой было даручана аднаму начальніку, прызначанаму Вашай Імператарскай Вялікасцю з адпаведным тытулам, то справы ў гэтым краі значна спрасціліся б, былі б не такімі клапатлівымі і цяжкімі для кожнага жыхара, як цяпер.

3. Начальнік такі, як я разумею, павінен быць намеснікам імператара, мець свой двор, які б упрыгожваў усю правінцыю, стаў бы месцазнаходжаннем урада. І гэта прынесла б значную карысць гораду, ажывіла б узаемаадносіны паміж жыхарамі і ўзмацніла б грашовыя абароты.

4. Статут літоўскі заўсёды лічыўся шляхтай як найдасканалейшы кодэкс цывільных і крымінальных правоў. Таму, захоўваючы свабоды, [трэба было б] весці працэсы ў судах паводле гэтага Статута з пэўнымі мадыфікацыямі, якія практычна зрабілі неабходнымі, Ваша Імператарская Вялікасць задаволіла б адно з самых гарачых пажаданняў шляхты. Тым самым ліцвінам было б надана не больш за тое, што зроблена для жыхароў Фінляндыі, якая ўтрымлівае законы, правы і формы сваёй судовай працэдуры.

5. Надаючы ліцвінам Статут, можна было б дазволіць мець сенат альбо безапеляцыйны трыбунал, што б спыніла значную колькасць спраў у Пецярбурзе і зменшыла б заняткі сената ў сталіцы; з другога боку, гэта спрасціла б цяжэбным бакам “падарожжы”, клопаты і непазбежныя выдаткі.

6. У заключэнне трэба было б цалкам ураўнаваць ліцвінаў у падатках і спосабах іх спагнання з іншымі губернямі імперыі.

[...] Ліцвінам адным росчыркам пяра будзе вернута Бацькаўшчына, тады як варшавяне маюць цяпер толькі надзею і павінны яе акупіць яшчэ цаной уласнай крыві. Ліцвіны, складаючы частку вялікага цэлага, ганарацца тым, што з’яўляюцца падданымі імператара Аляксандра, да якога яны шчыра прывыклі; абавязаны яму за праўдзівае дабрадзейства і ведаюць, што чатырохсоттысячная расійская армія заўсёды гатова іх абараніць ад усялякага непрыяцельскага нашэсця. Варшавяне, наадварот, з’яўляюцца падданымі манарха, які залежны

ад волі Напалеона, і знаходзяцца пад цывільным кіраваннем саксонскага караля, а ў вайсковых адносінах – імператара французаў. Яны няпэўныя ў сваім лёсе, маюць перакананне толькі ў тым, што тэрыторыя іх края будзе пастаянным тэатрам ваенных дзеянняў і што яны будуць авангардам шматлікай арміі, якая будзе складацца з розных народаў. І гэтая армія будзе ісці не для абароны іх краю, не дзеля таго, каб пашырыць межы Польшчы, але каб быць накіраванай толькі туды, куды накіруюць яе інтарэсы Напалеона і ягоныя славалюбныя намеры.

[...] Ліцвіны адрозніваюцца энтузіязмам, яны верныя і прывязаныя да свайго манарха. І калі яны прагнуць быць ураўнаванымі з іншымі расійскімі падданымі ў падатках і спосабе іх спагнання, то ў той жа час яны не будуць абмяжоўвацца ў ахвярах, якія пойдуць на карысць краю, паколькі лёс іх будзе вызначаны і запэўнены. Яны будуць мужна абараняць мяжу імперыі; аддадуць усё, што маюць, калі гэта спатрэбіцца, для інтарэсаў Вашай Імператарскай Вялікасці; даставяць столькі людзей, колькі будзе патрэбна. Іх праўдзівы характар, патрыятызм, адданасць Вашай Вялікасці будуць служыць парукай у гэтым. [...]

*История Беларуси в документах и материалах / авторы-составители И. Кузнецов, В. Мазец. Минск, 2000. С. 132–136*

### 13. Становішча беларускага краю. 1812 г.

Пры Царэ Александры I у 1812 г. праз Беларусь двойчы праходзілі французы. Першы раз – ідучы на Маскву, а другі раз – вяртаючыся назад. Вайна 1812 г. прыпомніла Беларусі страшныя часы маскоўскіх і шведзкіх воен. Безпрэстанныя перэходы войск, грабежствы, пажары і др. давялі край да голаду. Былі прыпадкі, што, аграбленыя з усяго, вёскі вымiралі з голаду. Пасьля гэтых воен беларускі народ доўга не мог аправіцца, а памяць аб іх жыве яшчэ ў народзе і па сягоньняшні дзень.

Расказваюць, што калі Напалеон ішоў пад Маскву, ён нейдзе на дарозе сустрэў беларускую бабу і загадаў затрымаць яе і выпытаць, як яна хочэ: ці каб француз пабіў расейца, ці каб расеец пабіў француза? А баба, паскрэбаўшыся ў галаве, сказала: “Ды я-б, кажэ, хацела, каб француз, заняўшы Маскву, пагнаў, пагнаў, ды і сам не вярнуўся!”

*Ластоўскі В. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910. С. 95*

### 14. З рапарта Дынабургскага[3] павятовага страпчага пра паводзіны расійскіх войскаў. 27 чэрвеня 1812 г.

Казённые крестьяне старостваДинабургского донесли мне, что проходящие разные полки, команды, казаки, гусары, рекрутские партии и прочие чины делают нападения на крестьянские дома с устрашимостью, сперва домогаются денег и оные, у кого найдутся, отбирают, также берут разные вещи, скот и лошадей, словом, грабят все пожитки крестьянские [...]. Крестьяне от такого нападения решились совокупно бежать [...].

*РДВГА. Ф. 1, воп. 3, ад.з. 2564, арк. 2*

### 15. З данясення мінскага губернатара. 30 чэрвеня 1812 г.

Крестьяне староства Минского с нетерпением ждут француза. [...] Казаки и рекруты ограбили дворы крестьянские, забрав при этом 9 лошадей, 14 коров и прочую живность. Дома не пожгли, но забрали многое из пожитков [...]

*РДВГА. Ф. 1, воп. 3, ад.з. 2567, арк. 29*

### 16. З успамінаў генерала А. Ярмолава.

Поречье – первый старинный русский город на пути нашего отступления и расположение к нам жителей было уже другое. Прежде проходили мы губернии литовские, где дворянство, обольщённое мечтами восстановления Польши, возбуждало против нас слабые умы населения, или губернии белорусские, где чрезмерно тягостная власть помещиков заставляла желать перемены. Здесь, в Смоленской губ., готовы видеть в нас избавителей [...]

*Записки А.П. Ермолова о войне 1812 г. Лондон, 1883. С. 38*

### 17. З пісьма мешчаніна Ю. Юзафовіча ад 27 ліпеня 1812 г.

Калі ў гэтым месяцы праз Барысаўскі пав. праходзілі французскія войскі, то салдаты цалкам абрабавалі сялян: на палях пакасілі і пазабіралі жыта, у маёнтку Таміловічы забралі ў сялян і ўладальніка харчаванне, збожжа, быдла, хатнюю птушку, коней. Салдаты ходзяць па падворках узброенымі групамі і страляюць па людзях. Аднаго селяніна забілі і пахавалі, другога выстралам паранілі ў руку, так што і сёння ён не валодае ёю. Адна жанчына была паранена ў бок штыком і да сённяшняга дня невядома ці выжыве.

---

[3] Дынабург (сёння Даўгаўпілс) на пачатку XIX ст. з’яўляўся павятовым цэнтрам Віцебскай губ.

Прашу Яснавяльможнага пана адаслаць маё данясенне аб рабунках і забойствах куды трэба, а рэестр учыненых рабункаў гвалту, калі патрэбна, будзе мною складзены і дастаўлены ў адпаведную ўстанову.

*АВАК. Т. 37. Вильна, 1912. С. 232*

### 18. З успамінаў жыхара Віцебска. 1813 г.

Я не успел доехать до Витебска вёрст десять, как захватили меня в доме помещика Е. человек с 30 конных французских солдат. [...] Прежде всего потребовали они от хозяина вина, водки. Напившись, бросились на глазах его разбивать сундуки, шкафы, комоды, бюро; потом кинулись в кладовые, в амбары, в конюшню, в погреба, в каретной сарай; взяли лошадей и коляску, которую запрягли и нагрузили всем, что легче и дороже, с помощью наших людей, побуждая их к тому по плечам. И мой кучер Малахов никогда так проворно не работал. Взяли моих лошадей с упряжкою. Из чемодана побрали бельё, бритвы, столовый на одну персону серебряный прибор и 1500 руб. ассигнаций [...] Один из победоносцев, посмотря на мой орден, снял его у меня с шеи и уже ладился спрятать; тогда у меня потемнело в глазах; но начальник его взял у него, возвратил мне.

В тот день случились у хозяина в гостях соседи с жёнами и малолетними дочерьми; у них также отобраны лошади и дрожки, а со всех нас сняты сапоги...

Одиннадцатилетний сын друга моего находился при мне. Учившийся в гимназии, наслышался он, что Франция произвела много великих людей и что она упредила нас в науках, следственно, и во нравственности. Он смотрел на всё безбоязненно; но один из тех образцов во нравственности ударил его кулаком в висок так, что он ударился другим о край дверного замка и пробил голову. Бедный мальчик, ощутив кровь, сказал мне: “Не тревожтесь, мне не больно, только что кровь течёт”.

[...] В продолжение 6–7 дней видели мы из лесов и кустарников, как отряды армии, рассыпаясь, грабили каждодневно всё, что могли найти в помещичьих и крестьянских домах, и разоряли всех тех, которые с ними никогда не сражались, крича и уверяя, что они пришли на защищение и восстановление разоряемого и умерщвляемого ими населения.

*Отрывки из записок витебского жителя Г.Д. // Сын Отечества. 1813. № 10. С. 172–178*

**19. Французская акупацыя.**

У цяжкім становішчы апынулася жыхарства акупаванай французамі Беларусі. І ўлетку, і ўвосень 1812 г. Напалеон патрабаваў ад Беларусі і Літвы харчоў для войска і сена для коней. Былі ўведзены падаткі з даходаў [...]. Жахлівых памераў дасягнулі паборы натурай [...]

У кастрычніку ад Мінскай губ. запатрабавалі 10 тыс. кароў, Віленскую губ. у снежні абавязалі здаць 27 тыс. галоў гэтай жывёлы. "Напалеон і каровы" – спалучэнне, мабыць, нязвычнае, але даволі праўдзівае. З дапамогай арміі ён стаў дыктатарам, армія забяспечвала пашырэнне яго імперыі, але армію трэба карміць і карміць няблага. Матэматычныя здольнасці Банапарта добра паспрыялі імгненнаму знікненню статка на Беларусі і Літве. Апетыт "вялікая армія" мела фантастычны, каб яго задаволіць, беларускіх сялян прымушалі аддаць чужынцам усё, а самім паміраць з голаду. Апроч афіцыйных пабораў з кожнага двара напалеонаўскія рэквізітары пад выглядам добраахвотнага ахвяравання выцягнулі па 2 пуды сена і саломы, па 5 кг гароху, па 90 кг жыта і аўса. Абвясціўшы сябе вызваліцелем Беларусі і Літвы ад "русскога гнёту", імператар тым не менш патрабаваў у свой скарб усе нядоімкі папярэдняй адміністрацыі. Так, у Мінскай губ. ён сабраў падаткаў 539 тыс. руб. серабром і яшчэ ўсе запазычанасці ўрада Аляксандра І.

Бедствы, якія абрушыліся на акупаваныя тэрыторыі, цалкам пацвярджалі тыя даўнія, шырока распаўсюджаныя сярод простага народу пагалоскі, што Напалеон і ёсць апакаліпсічны звер. Пра такую абмалёўку Банапарта паклапаціўся Сінод яшчэ ў 1807 г., падрыхтаваўшы, па падказцы царскага двара, падчас няўдалых для расійскай арміі бітваў з французамі пасланне да ўсіх праваслаўных хрысціян, якое выкрывала Напалеона. Але па звычцы разбіваць лоб, калі загадаюць маліцца, творцы звароту перастараліся і абвясцілі Банапарта папярэднікам Антыхрыста. Памяць аб гэтым пасланні, прачытаным святарамі ва ўсіх цэрквах, трымалася ў народзе – не кожны год, нават не ў кожнае стагоддзе царква называе сваім парафіянам імя канкрэтнага абранніка Сатаны. Але зараз, у час вайны, сказанае тады прыгадвалася як прароцкае, – сапраўды, паборы, рабункі, спаленні, гвалт над мірным жыхарствам, паўсюдная смерць, усланыя трупамі палі мала чым адрозніваліся ад канца свету. Наўрад ці той біблейскі канец быў бы для беларускага насельніцтва больш жахлівым.

*Тарасаў К. Памяць пра легенды. С. 240*

**20. Загад Галоўнай паліцыйнай управы французскай адміністрацыі. 18 ліпеня 1812 г.**

Разглядзеўшы скаргу В.Ф. Янкоўскага, што сяляне в. Кузевічы Барысаўскага пав. узбунтаваліся, на павіннасць звычайную дворскую не выйшлі і слухаць пра яе не жадаюць, нават памешчыка свайго зневажаюць, паліцыйная ўправа загадвае Камісіі паліцыі Барысаўскага пав. паслаць на месца свайго супрацоўніка разам з падкамісарам і, зрабіўшы следства, арыштаваць і пакараць віноўных. Для бяспечнага праезда і правядзення следства Камісія павінна звярнуцца да мясцовага каменданта з заявай пра выдзяленне афіцэра і салдат. [...]

*АВАК. Т. 37. С. 206*

**21. Заклік Часовага ўрада ВКЛ да сялян. 1 жніўня 1812 г.**

СЯЛЯНЕ!

Звяртаемся да вас, як да людзей, што знаходзяцца пад апекай права, як да сыноў Айчыны, якая трымаецца вашай працай і мужнасцю, а ў адказ забяспечвае вас мірам і свабодай.

Нацыя, якая адраджаецца з няволі, не можа існаваць без войска. Толькі ўзброеная сіла можа абараніць асобу і яе маёмасць.

У мінулыя часы вашых сыноў забіралі да войска, закутымі ў кайданы. Вы гублялі іх назаўсёды. Служба салдацкая канчалася разам з жыццём. Вашых сыноў пасылалі ў далёкія краіны, за рэкі і моры.

Цяпер умовы службы іншыя: ваш сын пакіне бацькоўскую хату толькі на 6 гадоў, служыць будзе ў сваім краі, у сваёй правінцыі, афіцэры будуць ставіцца да яго добра, будзе ісці за службу добрая плата, а па заканчэнні яе ён вернецца ў родную хату да сялянскай працы.

Хай не будзе прымусу ў выбарах рэкрутаў! Хай не будзе асоба будучага рыцара Айчыны зняважана кляймом нявольніка!

Самі сходы павінны выбраць неабходную колькасць рэкрутаў і даставіць іх у адпаведныя месцы. Калі ж яны ў прызначаны тэрмін не выканаюць свой абавязак, будуць прыняты самыя суровыя сродкі пакарання [...]

*АВАК. Т. 37. С. 245*

**22. З рапарта камісара паліцыі г. Докшыцы 25 кастрычніка 1812 г.**

Я собрал при помощи солдат, предоставленных мне здешним комендантом, докшицких мещан, не желающих выполнять никаких распоряжений высших властей, осуществлять реквизиции и давать какие-либо налоги, оным все относящиеся к ним объявления зачи-

тал, объяснил, сколько должны платить, какие нести повинности, сколько солдат отдать должны, также чтобы ратуша избрала доверенных и стражников кабака, предоставить квитанции и тому подобное, всё, что предписано подпрефектурой, я осуществлял. Однако мещане, игнорируя начальство, нисколько не унимаются и не выполняют распоряжений; экзекуторов, нанятых шляхтой, ругают, в дома не пускают или сами хозяева прячутся, на вызов не являются, а жёны их не признаются, кричат и оскорбляют самыми низкими словами посланных сборщиков. Никто начальством быть не хочет, и очевидный бунт производят. Поэтому при наибольших усилиях все пункты моего распоряжения не осуществимы. Не избрали доверенных и стражников, не представляют квитанции прошедших рат, не показывают даже домов и ревизий, не дают десятников, не думают о кантонистах и заместителях и не создают склада. А потому подпрефектура пусть соизволит выслать двоих, по крайней мере, польских солдат, которые бы это беспорядочное местечко привели в повиновение и наказали непослушных. Вожакам непослушания пусть соизволит прописать наказание либо разрешит лично непослушных в Борисов под суд отсылать, дав военную помощь нынешней полиции, ибо и комендант не имеет солдат и не прилагает усилий, чтобы оных заставить платить казённые сборы.

*Хрестоматия по истории Белоруссии... С. 192–193*

### 23. Адлюстраванне вайны 1812 г. у “Гісторыі Беларусі” М. Доўнар-Запольскага.

[...] Спрыяльная для дваранства руская палітыка не магла яго цалкам задаволіць, бо яно не магло прымірыцца з пазбаўленнем дзяржаўнасці і стратай палітычных правоў. З другога боку, паслабленні з боку рускай палітыкі давалі магчымасць бачыць слабасць рускага ўрада і ўлівалі ў розумы надзею на магчымасць барацьбы з ім. Руская ўлада не шукала апоры ў сялянстве, задаволіўшы толькі адну яго патрэбнасць – рэлігійную. Вынікі гэтай палітыкі далі пра сябе знаць пры першым жа выпадку, калі руская ўлада ў краі апынулася ў цяжкім становішчы.

Класы насельніцтва, што імкнуліся да палітычнай свабоды, не былі задаволены рускім рэжымам. Свабодная Польшча ў яе мінулым стала ўяўляцца ім тым ідэалам, да якога трэба імкнуцца, а свабода Польшчы звязвалася з магчымасцю дабіцца свабоды і на Беларусі, і ў Літве. Гэта платформа аб’ядноўвала мясцовыя нацыянальныя элементы, літоўскія і беларускія, з палякамі і раней спаланізаванымі землякамі. Таму нядзіўна, што ўсялякі заклік да свабоды Польшчы знаходзіў сабе спачувальны водгук сярод шматлікіх беларускіх эле-

ментаў. Паўтараем, што такімі элементамі былі не толькі палякі, што жылі ў нашым краі, не толькі спаланізаваныя беларусы, але і беларусы нацыянальна свядомыя і нават тыя, якія страцілі сувязі з праваслаўнай рэлігіяй. У 1812 г. і ў 1830 г. удзел беларусаў у польскай справе быў значна мацнейшым, чым удзел у 1863 г., калі аб'яднанне з Расіяй зрабілася ўжо больш трывалым.

У 1812 г., як вядома, Варшаўскае герцагства далучылася да Напалеона і падтрымала яго ў вайне з Расіяй. Уздым быў надзвычай вялікі, бо палякі малявалі сабе ружовыя надзеі на аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г. Гэты ўздым адразу ж перадаваўся ў Беларусь і Літву. Са з'яўленнем французскіх войск у Польшчы там стварыўся новы ўрад – Варшаўская канфедэрацыя. Войскі Вялікай арміі, якія прыйшлі на Беларусь, сустрэлі ў вышэйшых класах грамадства і ў гарадах самы гасцінны прыём.

Польская генеральная канфедэрацыя зрабіла сваім лозунгам ідэю адраджэння Радзімы. Калі французы з'явіліся ў Літве і на Беларусі, у Вільні быў створаны Часовы ўрад, які адразу ж далучыўся да польскай генеральнай канфедэрацыі. У складзе гэтага ўрада мы бачым найбольш вядомых прадстаўнікоў дваранства. Тут мільгаюць імёны Аляксандра Сапегі, Аляксандра Хадкевіча, Ігната Тышкевіча, Адама Храптовіча, Карла Прозара, Гаўрылы Агінскага і шмат інш. Па меры руху французаў радавітае дваранства абвяшчала пра сваё далучэнне да канфедэрацыі. Адну з першых заяў зрабілі дваране Брэст-Літоўска, Беластока, Мінскай губ. і інш. мясцовасцей. У кожнай губерні ствараліся свае часовыя ўрады, якія аб'ядноўвалі сваю дзейнасць з літоўскім урадам, заснаваным у Вільні. Трэба адзначыць, што тады ўсе яшчэ ўсведамлялі нацыянальную розніцу паміж палякамі і беларусамі, і ўрад Вялікага княства Літоўскага са сваімі адозвамі звяртаўся да нацыянальнага пачуцця Беларусі, заклікаў народнасці Польшчы, Літвы і Беларусі аб'ядноўвацца для стварэння адзінай свабоднай дзяржавы. Трэба прызнаць, што Часовы ўрад, якім кіраваў галоўны маршал Станіслаў Солтан, праявіў велізарную энергію. Ён стварыў урадавы апарат, выдаў закон аб павятовых сойміках, гарадскіх сходах і структуры гарадоў, рассылаў адозвы з заклікам да свабоды. Шмат намаганняў яму давялося прыкласці для арганізацыі фінансаў і харчавання, паколькі гэта было звязана з харчаваннем французскай арміі, для стварэння беларуска-літоўскага войска і нацыянальнай гвардыі.

Часовы літоўскі ўрад наогул абапіраўся на спачуванне ўсіх колаў насельніцтва. Нават беларускае сялянства тармазіла адыход рускіх войск і не дазваляла ім знішчаць прыпасы. Пра гарады і дваранства з яго ўздымам перад немінучай свабодай гаварыць і не прыходзіцца. Дзве мясцовыя газеты адлюстроўвалі тагачасны настрой беларускага

грамадства. Гэтымі газетамі былі выдаваныя ў Вільні “Кур’ер польскі” і “Мінская газета”; абедзьве – на польскай мове. Усялякі поспех французскай арміі выклікаў пачуццё радасці ў тагачасным грамадстве. Асабліва шчыравалі жыхары Мінска. Тутэйшы мясцовы ўрад на чале з Каменскім і Манюшкам сустракалі французаў за 2 мілі ад горада. Ва ўсіх гарадах ладзіліся ўрачыстасці і святы ў гонар Напалеона і яго войск. У Мінску на адным з такіх свят была нават пастаўлена напісаная Ходзькам п’еса “Вызваленне Літвы ці пераправа цераз Нёман”. У яе выкананні прымалі ўдзел кн. Радзівіл, Манюшка і інш. прадстаўнікі вышэйшага тагачаснага грамадства. З нагоды заняцця французамі Масквы ўсюды былі ўрачыстасці. У Мінску прэзідэнт горада Ходзька сказаў перад шматлікай грамадой прамову, у якой ён гаварыў пра ўціск з боку Расіі і тую радасць, якую адчуваюць палякі і літоўцы (г.зн. беларусы), сыны адной маці-Польшчы, пры думцы аб вызваленні краю ад рускіх.

Такі настрой, можна сказаць, быў усеагульным. Другім буйным горадам, дзе была выяўлена асаблівая прыхільнасць да французаў, быў Магілёў. Тут французы сустрэлі вялікае спачуванне не столькі ў спаланізаванага насельніцтва, колькі ў беларускага і праваслаўнага. Цэлы шэраг буйных асоб губерні апынуўся ў пераліку заўзятых прыхільнікаў французаў. Сярод іх на першым плане мы бачым мясцовага праваслаўнага епіскапа Варлаама, іераманаха Арэста. Відаць, і астатняе духавенства ахвотна ішло за сваім уладыкам і толькі нешматлікія аказалі супраціўленне. Уладыка, як і іншыя ўлады горада, прынёс Напалеону прысягу, у цэрквах памінался яго імя. З розных нагод у Магілёве ладзіліся ўрачыстасці і гаварыліся прамовы з вітаннем вызваліцеляў ад “нашых драпежнікаў”. Такую прамову гаварыў прэзідэнт горада Лускін, а ў Смаленску такую ж прамову сказаў былы літоўскі возны Прозар. І тут была заснавана народная гвардыя, і ўвогуле вышэйшы клас выказваў вялікае дагаджэнне перад французамі.

Настроі 1812 г. характарызуюць нам адносіны пэўнай часткі беларускага грамадства да рускага панавання.

*Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. С. 250–252*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Як далучэнне да Расіі адбілася на сацыяльна-эканамічным і нацыянальна-культурным становішчы насельніцтва беларускіх зямель?

2. Чаму расійскія ўлады пачалі праверку дакументаў, якія пацвярджалі прыналежнасць беларускай шляхты да дваранства?

3. Чаму рэкрутчына здавалася сялянам найгоршым з зямных бедстваў?

4. Як ставіліся да уніяцкай царквы расійскія імператары? Як насельніцтва адрэагавала на закрыццё уніяцкіх храмаў і перавод уніятаў у праваслаўе?

5. Сярод гісторыкаў працягваюцца спрэчкі пра характар становішча Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. У цэнтры спрэчак знаходзіцца пытанне, ці можна лічыць Беларусь калоніяй Расійскай імперыі. Гісторык А. Кіштымаў перакананы, што сцвярджэнне пра каланіяльнае становішча Беларусі не адпавядае гістарычнай рэчаіснасці і не можа быць навукова абгрунтавана. Ці згодны вы з думкай навукоўца? Выкажыце ўласнае меркаванне.

6. Ахарактарызуйце становішча насельніцтва Беларусі пасля нападу войскаў Напалеона на Расію.

7. Пракаменціруйце ўспаміны генерала А. Ярмолава. Чаму беларусы не глядзелі на расійскія войскі як на “выратавальнікаў”?

8. Чаму сяляне ўспрымалі французскую акупацыю як “канец свету”.

9. Як ставіліся акупацыйныя ўлады да антыпамешчыцкага руху беларускіх сялян?

10. Калі члены Магілёўскага праўлення звярнуліся да маршала Даву з пытаннем, у чым павінна заключацца іх служба, Даву адказаў: “Панове! Імператар патрабуе ад вас трох рэчаў: хлеба, хлеба і хлеба!” Якімі, на ваш погляд, былі галоўныя мэты акупацыйнага рэжыму? Ці існавала рэальная магчымасць аднаўлення Беларуска-Літоўскай дзяржавы?

## РАСІЙСКАЯ ПАЛІТЫКА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

### 24. Абмеркаванне членамі Камітэта па справах заходніх губерняў “Запіскі графа М. Мураўёва”.1 сакавіка 1831 г.

Вашему Императорскому Величеству благоугодно было высочайше повелеть нам рассмотреть представленные в.в. статс-секретарём Блудовым соображения по всеподданнейшей Записке могилёвского гражданского губернатора Муравьёва о способах сближения Белорусского края с Россиею. […] Заключения свои […] мы имеем счастье повергнуть на высочайшее благоусмотрение в.в.

I. Предположения, кои необходимо или, по крайней мере, возможно с удобностию ныне же привести в действие.

А. По части духовной:

1. Определение в Белоруссию другого православного епископа […], а равно определить и в другие три епархии губерний, возвращённых

от Польши, епископов, которые могли бы содействовать намерениям правительства [...] для приготовления торжества православной веры в сем крае. [...]

4. Воспрещение римско-католическому духовенству заниматься воспитанием юношества в домах, уничтожение духовных училищ при монастырях, заменение оных светскими и введение преподавания в них наук на русском языке. [...]

Надобно, чтобы министр народного просвещения и в особенности попечитель белорусского округа приложили всевозможное старание к скорейшему исполнению сих предположений, имея постоянною целью направление публичного воспитания к сближению тамошних жителей с природными россиянами. [...]

II. Предположения, кои должны быть исполнены со временем и постепенно.

Б. По части гражданской:

1. Назначение на главнейшие места в губ. русских благонадёжных чиновников и преимущественное определение русских исправников, городничих и почт-экспедиторов с предоставлением некоторых выгод по службе. [...] Но предположения сии должны оставаться в негласности. [...]

2. Мы и со своей стороны убеждены в пользе, могущей произойти от водворения русских семейств в губ., возвращённых от Польши; ибо сие может весьма много споспешествовать сближению тамошнего края с Россией. [...]

Предположение [...] о допущении всемилостивейшего пожалования казённых имений русским чиновникам в вотчинное владение, на особых правилах с ограничениями в вотчинном праве, признаётся удобнейшим, тем более, что оно служит только возобновлением и усовершенствованием плана императрицы Екатерины, которая по присоединению сего края, заботясь о введении в оный всего русского, жаловала для того казённые имения в вотчинное владение. [...]

4. Награждение знаками отличия белорусских помещиков, наиболее преданных России. [...]

III. Предположения, кои или восприяли действие или получили уже надлежащий ход:

В. По части гражданской:

1. Введение русского языка в производство вообще дел по судебным и правительственным местам. Заменение польских названий мест и должностных лиц русскими наименованиями.

2. Отмена Литовского статута и восстановление действия российских узаконений по всем частям управления. [...]

На подлинном написано собственною е.в. рукою так: “Иметь в виду для постепенного исполнения”.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 323–332*

### 25. З заключэння Часовага савета для кіравання дэпартаментам дзяржаўных маёмасцей аб перасяленні казённых сялян з велікарускіх губ. у Беларусь і Літву. 9 чэрвеня 1839 г.

Господин министр финансов [...] представил комитету о предположениях своих касательно возможности поселения русских выходцев в губерниях Виленской, Гродненской, Минской и области Белостокской [...] полагая предоставить поселенцам нижеследующие выгоды и льготы: а) отвести им по 8 дес. на каждую по восьмой ревизии мужского пола душу с предоставлением им права на безденежный отпуск для домашнего их обихода строевого леса и дров из казённых дач в случае неимения оных в отводимой им пропорции; в) даровать им при переселении пятилетнюю льготу от платежа податей и земских повинностей [...]; с) освободить на 10 лет от воинского постоя; д) сложить с них все недоимки в государственных податях, если таковые окажутся; е) отпускать безденежно из казённых дач достаточное количество леса на первоначальную обстройку домов [...] и сверх того выдать деньгами из казны на каждый двор по 100 руб.; отпускать заимообразно хлеб из ближайших запасных магазинов на первоначальное обсеменение полей и на продовольствие переселенцев до первого урожая с рассрочкой взноса занятого хлеба на 5 лет по равным частям в каждый. [...]

На подлинном журнале комитета последовала [...] собственноручная е.и.в. резолюция: “Будет полезное начало”.

*Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов / ред. В. Чепко, В. Жигалов. Т. 3. Минск, 1961. С. 220–221*

### 26. З Указа Мікалая I Сенату аб увядзенні расійскага заканадаўства і рускай мовы ў Беларусі. 25 ліпеня 1840 г.

Повелеваем:

1. Отныне впредь в губерниях Киевской, Подольской, Волынской, Минской, Виленской и Гродненской и в области Белостокской всякое действие Статута или в дополнение к оному изданных сеймовых конституций и иных постановлений прекратить, заменив их общими российскими узаконениями и наблюдая как в решении дел по существу оных, так и в образе и формах производства оных и разделения

между присутственными местами тот самый порядок, который учреждён для прочих внутренних областей империи [...].

6. Со времени обнародования и получения каждым присутственным местом сего указа нашего все дела как по правительственной, так и по судебной части, не исключая и дел дворянских депутатских собраний и предводителей, производить на русском языке, по определённым для каждого рода дел общими законами империи формам, равным образом и с того времени все вообще акты и документы, какого бы рода и наименования оные бы ни были, писать на русском языке по правилам и образцам, в Общем своде законов Российской империи установленным. [...]

*Белоруссия в эпоху феодализма... Т. 4. С. 129–130*

### 27. Указ Сената аб забароне ўжывання назваў "Беларусь" і "Літва". 18 ліпеня 1840 г.

Правительствующий Сенат слушали предложение управляющего Министерством юстиции, что управляющий делами Комитета министров, по поручению оного отношением от 26 минувшего июня, сообщил ему, что по случаю внесения по Высочайшему предписанию проекта Указа, в котором упоминались губернии Белорусские и Литовские под сими наименованиями, государь император, зачеркнув название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с поименованием губерний, каждой отдельно Витебскою, Могилевскою, Виленскою и Гродненскою; причём последовало собственноручное Высочайшее повеление: "Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая, как поименно губернии". О таковом Высочайшем повелении он, управляющий Министерством юстиции, предлагает Правительствующему Сенату.

*Гістарычны шлях беларускай нацыі. Мінск, 2001. С. 72*

### 28. Усёпадданейшы даклад аб пераўтварэнні грэка-уніяцкай царквы [...] 17 студзеня 1828 г.

После окончательного раздела Польши (маецца на ўвазе Рэч Паспалітая. – *А.С.*) государыня императрица Екатерина II, принимая меры к возвращению тамошнего народа русского племени к восточной церкви, обращала особенное внимание на губернии Минскую, Волынскую, Подольскую и Брацлавскую [...]. Ее Величество упразднили в том крае существовавшие униатские епископства, поручили их в ведение полоцкому архиепископу сего обряда Лисовскому, удалили униатского митрополита Ростоцкого от управления, уничтожили орденские власти в униатских монастырях, подчинили их Лисовскому,

запретили посвящать в униатское монашество и повелели упразднить излишние монастыри.

В Указе, данном по сему предмету генерал-губернатору помянутых губерний, Тутолмину, 1795 г. сентября 6 сказано: “Пункт 5-й: усматривая из ведомости, нам представленной, что число монастырей униатских вовсе не соразмерно числу церквей, в унии оставшихся, возлагаю на вас подробные собрать сведения о униатских монастырях [...] и уничтожить таковые, которые, не занимаясь ни просвещением юношества, ни помощию немощным и призрения требующим, суть обществу бесполезны; монахов же из сих упраздненных монастырей разместить в другие белорусские епархии, но в оставшихся отныне в монахи не постригать без особливой нашей воли” [...]

Государыня императрица Екатерина II, не обинуясь, объявила намерение свое искоренить унию [...]. В сей мысли,1-е, она упраздняла униатскую духовную власть или ослабляла действие оной [...]; 2-е, преграждала влияние римско-католического духовенства и владельцев сей же веры на совесть униатов. Повелев Святейшему Синоду в начале 1794 г. обнародовать в новоприобретенных тогда областях (кроме Литвы) увещание к народу возвратиться к благочестию, Ее Величество поручило генерал-губернатору Тутолмину оказывать в сем деле всевозможное содействие и прилежно наблюдать “чтоб никто из помещиков, временных владельцев и чиновников духовных и мирских римского и униатского закона не осмелился делать ни малейшего в том препятствия, обращающимся в благочестие, притеснения и обид. Всякое подобное покушение, яко противу господствующей вере обращаемое и означающее преслушание воле нашей, долженствует быть принято за уголовное преступление, суду подлежащее и влекущее секвестр имения до окончания дела”.

Столь строгая мера в военном еще состоянии сих областей имела свое действие, и в Минской [...] губ. составились многолюдные грекороссийские епархии.

Но когда после кончины Ее Величества наблюдение местного начальства ослабело, то противодействие со стороны тех, на коих была обращена оная мера, явилось во всех местах в сильнейшей степени.

Присоединилось к сему, что в 1797 г. бывший минский гражданский губернатор Корнеев представил Государю императору Павлу I обращение тамошнего народа в православие действием крутым и малоискусным, а священников наших малоспособными, отвратившими от себя народ. “Церкви опустели, – писал он.– Не только нет

благочестия в них, даже священникам нашим не на чем совершать богослужение” [...]

[Министр просвещения] Александр Шишков.

*Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией (АВАК). Т. 16. Вильна, 1889. С. 633–638*

**29. Рашэнне Сакрэтнага камітэта пра мерапрыемствы па ліквідацыі уніяцкай царквы. 26 студзеня 1839 г.**

1. Для успешного приведения в действие общего возсоединения униатов необходимо [...] совершенное единство в действиях и распоряжениях по сему предмету как в литовских, так в белорусских губерниях и к обузданию всех могущих быть противодействий как со стороны помещиков, так и со стороны римского духовенства. Для достижения сего единства генерал-губернаторы непременно должны быть снабжены единообразною инструкцией и особым полномочием, с помощию коего малейшие беспорядки, если бы они и случились вдруг в нескольких местах, были бы немедленно пресекаемы в самом их начале.

2. Ген.-губернатором должно быть представлено снестись с военным министром о помещении для надлежащей предосторожности под благовидным предлогом войск в те уезды, которые находятся в сомнительном положении, и с тем вместе наблюдать, чтобы оные без необходимости не ставились в деревни, населенные униатами.

[...]

4. Относительно места, где приличнее состояться акту возсоединения, а равно и времени издания указа о подчинении коллегии Синоду, надлежит предоставить обер-прокурору св. Синода к Его Величеству с всеподданнейшим докладом.

5. Поелику большая часть униатских священников дали подписки о готовности своей присоединиться к православию с условием, чтобы им дозволено было остаться при местных обычаях своих, не противных православию, а, с другой стороны, скорое изменение оных, как брития бороды и ношения нынешнего платья, лишило бы их влияния на народ, то надо удостоверить, что не будет требоваться изменения прежних, веками установленных обычаев.

Такое удостоверение от высочайшей власти удобнее сообщить секретными отношениями униатским епископам, чтобы они предъявили оное священником вместе с объявлением им синодского указа.

6. Если духовные окажут сопротивление начальству, то их можно переводить или в униатские монастыри южных губерний, окруженные православными приходами, или православные монастыри великороссийских губерний.

7. Для ободрения священников, которые лишатся помещичьих пособий, выдавать им единовременные пособия [...] (они могут составить до 360 тыс. руб. [...]

8. Наконец, Комитет, вполне разделяя мнение министра государственных имуществ о необходимости и на будущее время обеспечить постоянное содержание возсоединенного духовенства, разсуждал, что как по высочайшему повелению способы к обеспечению вообще в империи сельских причтов предоставляются совокупному рассмотрению министерства государственных имуществ и главного духовного правления, то и настоящий предмет должен быть передан на соображение министерства государственных имуществ и обер-прокурора св. Синода с тем, однако ж, чтобы ввиду важности своей, прежде всего и отдельно от общего вопроса. Самая же действительная мера – отвести по казенным имениям униатским священникам потребное количество земли, не касаясь крестьян, из фольварковых участков. Обеспечение духовенства в помещичьих имениях требует особых способов и, пока они не обсуждены, предварить помещиков римского исповедания, чтобы они удерживались от малейшего стеснения священников. Губернаторы же предупредят замеченных в противодействии видам правительства помещиков, что при дальнейшем их покушении правительство вынуждено будет взять их имения в особенный присмотр и ввести обязательный инвентарь по примеру вводимых ныне в казенных имениях.

*История Беларуси в документах и материалах. Минск, 2000. С. 161–162*

### 30. Знішчэнне беларускай уніяцкай царквы.

Асабліва старанна змагаўся з нацыянальнай верай [...] біскуп Іосіф Сямашка, які цалкам перайшоў на службу царызму. Ён прымусова ўводзіў ва уніяцкіх духоўных семінарыях і царкоўных справаздачах расійскую мову. Святары мусілі адпраўляць набажэнствы па служэбніках, прысланых з Масквы і Пецярбурга. Нязгодных чакаў суд як царкоўных і дзяржаўных злачынцаў. На вачах у вернікаў з храмаў выкідалі бакавыя алтары, ламалі арганы. Сведка тых падзей беларускі архімандрыт Мікалай пісаў: “На арганах ігралі некалькі дзён амаль бесперапынна, а народ крыжам ляжаў у царкве. У сярэдзіне і на цвінтары людзі са слязьмі на вачах гучна спявалі песні з любімага імі богагласніка – апошні раз пад гукі арганаў”. [...]

Полацкага праваслаўнага епіскапа Смарагда і віцебскага генерал-губернатара Шрэдэра сяляне-уніяты з м. Азярышча Гарадоцкага пав. за спробу перавярнуць іх у праваслаўе пастанавілі ўтапіць, і “воссоединители” ледзьве ўратаваліся. У снежні 1834 г. на дваранскіх выба-

рах у Віцебску 172 шляхціцы падпісалі акт з пратэстам супраць пераследу грэка-католікаў. Аўтарам акта быў полацкі павятовы маршалак Людзвік Беліковіч. Ён шмат ездзіў па Беларусі, агітуючы шляхту не аддаваць на здзек каланізатарам народную веру.

Урад прыгразіў незадаволеным дваранам судом і секвестрацыяй маёнткаў.

Вайна самаўладдзя з уніяй афіцыйна завяршылася 12 лютага 1839 г. [...]

Нават ва ўмовах жорсткага ўціску ў Беларускай уніяцкай дыяцэзіі – царкоўнай акрузе [...] – у 1838 г. з 680 святароў за далучэнне да праваслаўя падпісаліся толькі 186. [...]

У гонар перамогі над уніяй імператар Мікалай I загадаў выбіць медаль з надпісам: "Отторгнутые насилием (1596) возсоединены любовию (1839)". Любоў тая вельмі часта выяўлялася ў бізунах, якімі уніятаў, у тым ліку і дзяцей, прымушалі прымаць новую веру. Пра здзекі з беларускіх грэка-католікаў абурана пісаў Леў Талстой. Аляксандр Герцэн надрукаваў у 27 нумары свайго лонданскага "Колокола" за 1858 г. артыкул "Секущее православие", дзе Іосіфа Сямашку называў "Иудой во Христе, который высек себе новый памятник на спине беззащитных жертв".

Вось прыклад "радаснага" ўз'яднання цэркваў: "Со стороны гражданского начальства истязанием заведовал окружной Новицкий. Этот полицейский апостол сёк людзей до тех пор, пока мучимый не соглашался принять причастие от православного попа. Один четырнадцатилетний мальчик после 200 розог отказался от такого общения с Христом. Его снова начали сечь, и только тогда, уступая страшной боли, он согласился. Православная церковь восторжествовала!" [...]

На нашай зямлі запанавала расійская праваслаўная царква, якая на працягу амаль усёй сваёй гісторыі паслухмяна выконвала волю царскай [...] Масквы. Праваслаўю была даручана галоўная роля ў русіфікацыі і дэнацыяналізацыі беларусаў. У 1840 г. выйшла забарона прамаўляць па-беларуску царкоўныя казані. Епіскапы патрабавалі ад святароў і іхніх жонак карыстацца расійскай мовай і ў прыватным жыцці, каб даць прыклад парафіянам. Праваслаўныя папы дапамагалі душыць нацыянальна-вызваленчы рух, наводзілі карнікаў на атрады паўстанцаў 1863 г. Вядома, што за такі "гераізм" Сямашка прадставіў да ўзнагароджання медалём 496 духоўных асоб сваёй епархіі.

*Арлоў У. Таямніцы полацкай гісторыі. Мінск, 1994. С. 313–315*

**31. Вынікі далучэння Беларусі да Расіі.**

Уключэнне беларускіх зямель у склад цэнтралізаванай краіны з моцнай дзяржаўнай уладай прынесла некаторую палітычную

стабілізацыю, паклала канец феадальнай анархіі і самавольствам, якія адмоўна адбіваліся на стане сялянскай гаспадаркі і тармазілі гаспадарчае развіццё Беларусі. Былі скасаваны неабмежаваная самастойнасць і бескантрольная ўлада буйных землеўладальнікаў. Магнатам забаранялася трымаць прыватнае войска, мець свае крэпасці. Уцягванне Беларусі ў агульнарасійскую гаспадарчую сістэму дало пэўны імпульс для развіцця эканомікі. Пашырэнне рынку рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі стымулявала рост яе вытворчасці [...]

Разам з тым названыя вышэй змены ў эканоміцы часцей за ўсё аказвалі адмоўны ўплыў на становішча простых людзей. Адзначаны рост таварнасці памешчыцкай гаспадаркі меў вынікам пашырэнне панскага ворыва, што ў сваю чаргу прыводзіла да абеззямельвання значнай часткі сялянства і адчувальнага павелічэння адпрацовачных павіннасцей. Рост прамысловых вотчынных прадпрыемстваў абарочваўся для сялян дадатковым цяжарам у выкананні павіннасцей, таму што амаль усе вясковыя мануфактуры працавалі на дармавой прыгоннай працы. Значна ўзраслі памеры сялянскіх павіннасцей. Адно тое, што грашовая рэнта і дзяржаўныя падаткі збіраліся на Беларусі не папяровымі асігнацыямі, як гэта было ў расійскіх губернях, а звонкай манетай, рэальны курс якой быў значна вышэйшы, паказвае, што ішло свядомае рабаванне захопленага і багацейшага ў параўнанні з рускім беларускага селяніна.

Анексія беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі адмоўна адбілася і на сацыяльна-палітычным жыцці Беларусі. Чаго вартая была свядома праводзімая ў жыццё палітыка поўнага адмаўлення самабытнасці і адметнасці Беларусі. Афіцыйныя колы рабілі ўсё, каб абгрунтаваць створаны ў імперскім цэнтры тэзіс аб справядлівасці захопу беларускіх зямель, аб быццам бы многавяковым імкненні беларускага народу ўвайсці ў склад Расійскай імперыі. Замоўчвалася ці скажалася гісторыя Беларускай дзяржавы, сама яна аб'яўлялася "исконно русской" тэрыторыяй, а яе насельніцтва – нічым іншым, як сапсаванымі рускімі.

*Голубеў В., Крук У., Лойка П. Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны? Мінск, 1994. С. 74–75*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактарызуйце асноўныя мерапрыемствы расійскага ўрада, накіраваныя на русіфікацыю Беларусі, знішчэнне яе нацыянальна-культурных і гістарычных асаблівасцей.

2. Як была зліквідавана беларуская уніяцкая царква? Як беларусы спрабавалі адстойваць сваю веру?

3. Пракаменціруйце выказванне Усевалада Ігнатоўскага, што ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай “Беларусь трапіла з агня паланізацыі на патэльню русіфікацыі”.

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА Ў БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

### 32. Звесткі пра становішча прамысловасці. Мінская губ., 1828 г.

Минская губ. весьма скудна мануфактурами: кроме нескольких суконных, одной шёлковой поясной, малого числа поташных, стеклянных и медных заводов, других фабрик не имеется; да и в тех, кои ныне в действии состоят, производство самое малое и изделия вырабатываются простые, грубые.

Из всех фабрик замечательнейшая есть шёлковая поясная графа Витгенштейна в г. Слуцке, на коей в прежнее время вырабатывались дорогие персидские пояса, тканые золотом и серебром, употребляемые в польском наряде, но фабрика сия, по перемене польского костюма, не находя достаточного сбыта своих изделий, пришла в упадок.

Суконных фабрик хотя и немало, но производство их весьма ограничено; сукна вырабатываются одинарные и малая часть средней доброты; также байки, шерстяные материи для монашеской одежды и талесы для евреев.

Стекляные заводы в малом числе ограничиваются наиболее выделкою простой посуды и листового стекла, а медные – винокуренной и кухонной посудой: и те и другие в небольшом количестве.

Что принадлежит до поташных заводов, то производство оных ничтожное.

Всех фабрик и заводов действующих находится в сей губернии 22 [...], число рабочих 352 [...]

*Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. С. 351*

### 33. Гандаль у Мінскай губ. Са справаздачы мінскага губернатара за 1828 г.

По причине существования в разных местах соседственных губ. ярмарок, как-то: в Бердичеве Волынской, Зельве Гродненской и Бешенковичах Витебской губ., Минская губ. [...] имеет таковых весьма мало и они суть незначительные.

К числу знатнейших по здешней губ. принадлежат Минские контракты. Под сим названием существует здесь с давнего времени с 1 по

12 марта каждого года собрание дворян, имеющее целью взаимные расчёты в кредитном отношении и разные по имениям сделки.

Во времена, благоприятствовавшие владельцам недвижимых имений, имевшим удобность продавать земные произведения по высоким ценам, Минские контракты занимали почти первое место между всеми сего рода собраниями, в здешнем крае существующими, чему не в меньшей мере способствовало и соединение здесь всех дел одного из богатейших в Литве радзивилловского дома.

С обеднением владельцев, повлекшим за собой упадок частного кредита, и с переводом радзивилловского дома в Вильно Минские контракты пришли в упадок. Вместо бывших здесь в обороте миллионных сумм теперь ограничиваются оные немногими тысячами, отдаваемыми наиболее на аренду помещичьих имений, сделки почти не совершаются и, словом, собрание сие, мало-помалу теряя вид, соответственный своему началу, переменяется в ярмарку.

В 1828 г. съезд был почти такой же, как и в предшествовавшем году, именно: находилось на контрактах помещиков и дворян 1295, купцов 19, разного звания людей 249.

Купцы приезжали наиболее из Московской, Владимирской и Новгородской губ. с красным товаром, фарфором и стеклянной посудой, равно с другими изделиями российских фабрик. Торг простирался до 100 000 руб. ассигнациями. [...]

*Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. С. 428*

### 34. З запіскі Віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара. 27 лістапада 1831 г.

Белорусские губ., Могилёвская и Витебская, судя по физическому их состоянию и географическому положению, должны были бы считаться если не между богатыми, то по крайне мере между второстепенными губ. Доказательством тому служат несравненно лучшее состояние их в прежнее время, большее тогда народонаселение, значительная торговля, разные прежние заведения промышленности, обильное и свободное обращение наличных капиталов, лучшее во всех состояниях житьё, кроме крестьян помещичьих и частью казённых; качество земли, если не во всех местах, то уже в большей части, способное к произрастанию хлеба и других ценных земных произведений, каковы суть лён и пенька, и великое удобство отправлять судоходные промыслы к портовым городам большими реками Днепром и Двиною, через всё пространство губерний протекающими, но с крайним сожалением должен сознаться, что сии губернии ныне находятся в совершенном упадке и принадлежат к беднейшим в государстве.

Причины упадка благосостояния белорусских губ. суть:

Общие:

1. Разорение от нашествия неприятеля в 1812 г. [...]

7. Великое обременение земскими повинностями, происходящее от содержания многих, большое протяжение составляющих, государственных и почтовых дорог, почтовых лошадей, почтовых домов и гостиниц; от содержания и довольствования разных потребностей большого числа войск, на квартирах без всякого возмездия (аплаты. – *А.С.*) пребывающих и мимо проходящих, для коих взимаются в самое рабочее время или в распутицу в большом числе подводы под квитанции, за которые никакой не производится платы.

8. Бедственное состояние помещичьих крестьян и всего крестьянского быта, происходящее от худого их содержания и управления.

9. Отвлечение помещиками крестьян от домов их и земледелия и отправление в далёкие российские губ. для заработков. [...]

10. Невнимание в наделении их землёй надлежащего качества и в достаточном количестве. [...]

*Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. С. 198–199*

**35. Вотчынные гаспадаркі.**

Самы значны след на беларускай зямлі пакінула гаспадарчая і культурная спадчына графа [ М.П. Румянцава] ў яго гомельскіх уладаннях. [...]

М. Румянцаў, які часта бываў за мяжой, меў магчымасць на практыцы пазнаёміцца з вядзеннем гаспадаркі ў заходнееўрапейскіх краінах. Ён выкарыстаў гэты вопыт на беларускай зямлі. За некалькі гадоў гомельская эканомія ператварылася ў шматгаліновую гаспадарку з прамысловымі прадпрыемствамі, шматлікімі статкамі жывёлы, вялікімі палеткамі, на якіх высявалі замежныя гатункі сельскагаспадарчых раслін. [...]

У сваёй эканамічнай дзейнасці М. Румянцаў не толькі захаваў традыцыйныя для Беларусі галіны вытворчасці, напрыклад вінакурэнне, але і тэхнічна ўдасканаліў іх. Новыя ён заснаваў, улічваючы замежны вопыт, запрашаў замежных спецыялістаў, увозіў сыравіну, насенне і новыя пароды жывёлы. [...]

Замест дробных, малапрадукцыйных бровараў з’явіліся два новыя вінакурныя заводы – у Добрушы і Клімаўскім фальварку. Яны штодзень пераапрацоўвалі да тысячы пудоў збожжа, якое ішло не толькі з Гомельскай эканоміі, але і з Украіны. На Добрушскім вінакурным заводзе пры паравых кубах устанавілі прылады па шведскім узоры для павелічэння вытворчасці спірту.

Дзейнічалі тры шкляныя гуты: для вырабу простага шклянога посуду і зялёнага шкла для шыб (у Клімаўскім фальварку), для вырабу

крыштальнага посуду (у Студзенскім фальварку) і шкляны завод так званага багемскага шкла – празрыстага шкла для вокнаў. У Гомелі, Добрушы і Багуслаўскім фальварку былі ткацкія фабрыкі. Найбольш сучаснае абсталяванне было на Гомельскай фабрыцы. [...]

Акрамя таго, дзейнічалі дзве піваварні, медзяны і ліцейны заводы ў Добрушы, свечачны і гарбарны заводы ў Гомелі [...] трапальны завод, шматлікія млыны, кузні і лесапільні.

Прадукцыя графскіх прадпрыемстваў часткова ішла на будоўлю гомельскага палаца і на патрэбы самой эканоміі. Часам яе адпраўлялі і ў іншыя ўладанні графа. Аднак большая яе частка ішла на продаж. [...]

XIX ст. пачыналася як стагоддзе пары. Універсальны паравы рухавік паклаў пачатак прамысловай рэвалюцыі. У яе авангардзе ішла Вялікабрытанія. Аднак у Расійскай імперыі асноўнай крыніцай энергіі на вытворчасці з'яўлялася мускульная сіла чалавека, жывёл і вадзяныя рухавікі. Апошнія былі з падліўнымі вадзянымі коламі – сістэмы ўжо састарэлай на пачатку XIX ст. Менавіта таму гомельская гаспадарка пачала шукаць шляхі да іншых крыніц энергазабеспячэння.

Восенню 1818 г. графскі механік Адам Сміт прапанаваў пабудаваць у Гомелі паравую лесапільню, а па Дняпру і Сожы пусціць параход магутнасцю ў 12 конскіх сіл. [...]

За 20 тыс. руб. на пецярбургскім заводзе Бэрда заказалі паравую машыну, абсталяванне і чарцяжы парахода. Будаваў яго А. Сміт. У 1824 г. ён правёў выпрабаванне парахода. У лісце да М. Румянцава аб гэтым гаворыцца так: "По просьбе, им сделанной, пароход уходит противу воды течения в час по пяти вёрст, по течению по пятнадцати. Судно поднимает дров для пароходного котла на 2 дня или для 24 часов его действия, за собой же вверх воды никакой тягости тянуть больше не может". Як бачым, спроба аказалася не вельмі ўдалай, і ўсё ж гэта быў першы параход і першая паравая машына на Беларусі. Назвалі параход імем графа – "Мікалай". [...]

Агульны даход па гомельскім маёнтку ў 1817 г. склаў 516 636 руб.

Шматгаліновая гаспадарка патрабавала кваліфікаванай рабочай сілы. Чужаземцы служылі тут эканомамі, механікамі, узначальвалі розныя прадпрыемствы. Іх заработная плата складала ад 150 да 6000 руб. Больш за ўсіх было выхадцаў з Аўстрыі і Нямеччыны. [...] Нямала было англічан і шатландцаў. [...] Сыравара Кублі запрасілі з Швейцарыі. Ён вырабляў швейцарскія сыры вагою да паўпуда штука, усяго 50 пудоў штогод.

Як правіла, у абавязкі іншаземных спецыялістаў уваходзіла і навучанне майстэрству мясцовых сялян, з якіх набіраліся вучні. [...] Ва ўсёй гаспадарчай дзейнасці гомельскага маёнтка адчуваецца намер

пашырыць кваліфікацыю і ўдзел ва ўсіх галінах вытворчасці мясцовай працоўнай сілы. [...]

Гэта стварала перадумовы для сялянскага прадпрымальніцтва. У якасці прыкладу можна прывесці кар'еру графскага прыгоннага Васіля Прывалава. У 1815 г. ён пазычыў на год у гомельскай эканоміі 1000 руб. "для торгового промысла" [...] Прывалаў быў не адзіны багаты селянін гомельскай эканоміі. Так, у 1822 г. прыгонны Няфёд Рымараў за "вольную" для сябе і сям'і заплаціў графу 5000 руб. [...]

Аднак пры ўсіх эканамічных поспехах гомельскія ўладанні графа М. Румянцава ўяўлялі сабой толькі востраў у бяскрайнім моры прыгонніцкай Расіі.

*Кіштымаў А. Гомельскі маёнтак графа М. Румянцава: вопыт гаспадарання // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 22–25*

### 36. Распаўсюджванне бульбы.

[...] Бульба распаўсюджвалася з такой хуткасцю, як аніводная іншая культура, бо давала добры даход і не раз ратавала беларускага селяніна ад голада. У канцы 18 ст. яе садзілі амаль па ўсёй Беларусі [...]

Як і ўсё новае, бульба мела і сваіх праціўнікаў. Да бульбяных бунтаў, праўда, у нас не дайшло. Але ўсё ж канфлікты былі. У 1817 г. гаспадар маёнтка Целятнікі, што на Віцебшчыне, генерал Р. Гернгрос пачаў прымушаць сваіх сялян, каб яны садзілі на палях бульбу. За работай назіраў або сам пан, або яго памагатыя. Аднак бульба не расла: толькі зрэдку на загоне віднеўся адзін-другі кусцік. "Чаму ў вас бульба не родзіць?"– здзіўлена пытаўся генерал у прыгонных. Тыя скрэблі патыліцу і з усмешкай адказвалі: "Не, паночак! Ужо як сабе пан хочаш, а бульбе не радзіць на нашай зямлі".

Сакрэт аказаўся просты. Пасля пасадкі клубняў, калі пан адыходзіў, сяляне адкопвалі іх і ў бліжэйшай карчме аддавалі "праклятыя яблыкі" за якую кварту гарэлкі. Даведаўшыся пра гэта, Гернгрос загадаў рэзаць кожную бульбіну на чатыры часткі, каб такім чынам, тлумачыў ён сялянам, пазбавіцца, зрабіўшы крыжавідны разрэз, ад "д'ябальскага ўплыву", што нібы быў прычынай няўродзіцы. І тады сяляне перасталі выбіраць парэзаную бульбу з зямлі і з трывогай у сэрцы пабачылі на сваіх палях буяна квітнеючую бульбу, а потым і самі пачалі яе разводзіць.

Хутка бульба стала для беларусаў "другім хлебам". Яе ўраджаі па сваёй масе былі ў некалькі разоў большыя, чым ураджаі збожжа. Бульбу пачалі даваць на корм жывёле, а памешчыкі пераганялі яе на гарэлку.

*Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мінск, 1980. С. 196*

## 37. З цыркуляра мінскага губернатара. 1842 г.

В этой губернии (Мінскай. – *А.С.*) почти везде существует какое-то неприязненное расположение крестьян к их владельцам. Вникая в причины сего печального явления, я удостоверился, что неудовольствие поселян к их помещикам возникает иногда от подстрекательства злонамеренных лиц, но всего чаще от того, что владельцы передают крестьян своих в руки жестокосердных, грубых и корыстолюбивых управителей и арендаторов, которые обременяют их чрезмерными работами, истязают бесчеловечно наказаниями, невзирая ни на возраст, ни на пол, ни на болезненное состояние, и отказывают во всяком пособии к приобретению необходимых к поддержанию быта крестьянского вещей. Всё это делается обыкновенно без ведома и вопреки воле владельца; в некоторых мелкопоместных имениях утеснение прямо происходит от помещиков.

В таком положении дел ужасающие и неоднократно повторенные убийства владельца своими крестьянами и частые донесения по ведомству, что такой-то крестьянин умер, а такая-то беременная крестьянка сронила плод или кончила жизнь вследствие жестокого наказания за маловажные проступки, – обратили на себя внимание не только начальства, но и самого Государя Императора. [...]

*Россия. Полное географическое описание нашего Отечества / под ред. В. Семёнова. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. Спб., 1905. С. 111–112*

## 38. З данясення міністра дзяржаўных маёмасцей графа П. Кісялёва. 28 верасня 1837 г.

В инструкции, данной чиновникам при производстве ревизии государственных имуществ, между прочим поставлено им в обязанность о всех открывшихся при ревизии злоупотреблениях по казённым имениям, не входя в исследование оных, представлять гражданскому губернатору для принятия с его стороны законных мер.

При производстве ревизии открывается, что временные владельцы казённых имений, поступивших в их владение по всемилостивейшему пожалованию, большею частью совершенно отступили от люстрационных инвентарей, данных им в руководство при управлении имениями, крестьянские работы увеличены, уроки работами определены стеснительно, чиншевые платежи возвышены и допущены другие, подобные сему прибавления [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 177*

**57. Сымон Канарскі.**

Пасля паўстання 1831 г. усе, хто належаў да яго, мусілі ўцякаць за граніцу: у Расіі чакалі іх вялікія кары. І вось, седзючы ў далёкай чужыне, пачалі паўстанцы тыя думаць: чаму ім не пашэнціла? Біліся яны, як трэба, крыві не шкадавалі – дык чаму ж іх зваявалі?

Лепшыя і разумнейшыя паміж іх панялі, што прайгралі яны справу сваю, бо не ўвесь народ падняўся. Мужыку дрэнна жылося заўсёды: і раней, як Польшча, Літва и Беларусь былі незалежным гасударствам, – мужык гараваў пад паншчынай, як і пад Расіяй. Вось і не хацеў ён ісці ваяваць за свабоду і незалежнасць Польшчы, бо не верыў, што яму там лягчэй стане.

Тады многа паўстанцаў зразумелі і тое, што калі ў той Польшчы, за каторую яны падняліся, мужык па-старому будзе скрыўджаны і прыціснуты, то няма што яе дабівацца. І жменя гэтых ваякоў пачала даказваць людзям, што ў свабоднай Польшчы і ўвесь народ працоўны мусіць быць свабодны. “Свабода, роўнасць, брацтва!” – вось фундаменты, на якіх мусілі яны збудаваць новае свабоднае гасударства. “Трэба усім даць людскія правы; трэба скасаваць паншчыну; трэба аддаць ва ўласнасць мужыкам тую зямлю, на каторай яны працавалі,што трымалі на правах чыншу, паншчыны”, – так гаварылі паўстанцы, якія злучыліся ў “Дэмакратычнае таварыства”.

“Дэмакратычнае таварыства” злажылася за граніцай. Яно старалася аб’яднаць у адно ўсіх эмігрантаў, што паўцякалі з Расіі; яно сябравала з людзьмі, каторые дабіваліcь свабоды народнай па іншых гасударствах: Францыі, Італіі, Гішпаніі, Нямеччыне.

Але гэтага было мала. Каб па-праўдзе дабіцца таго, што голасна гаварылася, трэба было працаваць у родным краі, трэба было шырыць паміж сваімі землякамі тыя свабодныя погляды. І толькі тады можна чакаць, што ўвесь народ Польшчы, Літвы і Белай Русі патрапіць перастроіць жыццё сваё нанова.

Самы смелы ў нас ваяка за тыя светлыя думкі і жаданні быў Сымон Канарскі. І ён належыў да паўстання 1831 г., разам з таварышамі не раз быў у бітвах і разам з імі ўцёк за граніцу. І нягледзячы на тое, што ў роднай старонцы чакала яго нялёгкая кара за бунт, ён доўга не вытрываў – перабраўся праз граніцу расійскую і пасняшыў да працы паміж сваіх землякоў. Праз два з палавінай гады працаваў ён у нашым краі – губернях Віленскай, Мінскай, Гродзенскай, на Валыні і Падоллю. І навука яго глыбока западала ў душы людскія.

Аб яго рабоце дачулася правіцельства. Паліцыя ўсе сілы свае прыкладала, каб злавіць Канарскага. Доўга хаваўся ён, не кідаючы сваёй вялікай працы, але ж у канцы папаўся такі ў рукі паліцыі.

У 1839 г. пасля страшэннага катавання яго растралялі ў Вільні па прыгавору ваеннага суда, як гасударственнага праступніка. [...]

*Наша Ніва. 1907. № 21*

### 58. Заклік Ю. Бакшанскага "Да сялян смаргонскіх". 1847 г.

Нашыя сяляне або, як яшчэ гаворым, хлопы пачалі адыгрываць вельмі важную ролю ў дзісейшым (сучасным. – *А.С.*) свеце. Прычыны гэтага наступныя: 1. Здаўна ўсім вядома, што па сутнасці ўсю сілу народа складае клас, які называюць хлопамі; 2. Апрацоўка зямлі, а адсюль і ўсе сродкі да жыцця, у руках хлопаў; 3. Уся сіла вайсковая складаецца з тых жа хлопаў; 4.Вышэйшы клас або, інакш, шляхта мае маральную сілу, гэта значыць асвету і розум. Шляхта, пазнаўшы слабы бок, гэта значыць неасвету, замысліла з дапамогай свайго розуму завладнуць (уладарыць. – *А.С.*) хлопамі і падбіць (падначаліць. – *А.С.*) іх пад свой жонд-панаванне (урад. – *А.С.*); 5. Калі шляхта захапіла панаванне над хлопамі, яна пачала злоўжываць уладай, запамятала, што яны такія ж самыя людзі, што менавіта гэты клас іх корміць і абараняе ад непрыяцеля. Шляхта абыходзілася з хлопамі горш, чым са звярыма, чым даправадзіла іх да таго, што пачалі [думаць] над сваім няшчасным становішчам, пачалі набірацца розуму, пазналі сваю вялікую сілу; 6. З усіх хлопаў першымі зразумелі сваё аплаканае становішча хлопы, якія жывуць у Галіцыі, што знаходзіцца ў Аўстрыйскай дзяржаве. У мінулым 1846 г. яны сумеснымі сіламі выржнелі (выразалі. – *А.С.*) сваіх памешчыкаў і чыноўнікаў. Гэта быў жахлівы сродак, але вельмі карысны для хлопаў! Памешчыкі і чыноўнікі пачалі баяцца хлопаў, а тым самым перасталі іх цеменжыць (прыгнятаць. – *А.С.*). Цар з бояззі зменшыў паншчыну на два дні ў тыгодні (тыдні. – *А.С.*), зменшыў падаткі і земскія павіннасці. Усе пачалі хлопаў шанаваць і паважаць! У нас, у Літве, у многіх вёсках хлопы ўжо пачынаюць, у многіх месцах яны дамаўляюцца з салдатамі, патрэбна толькі ўзгодніць, што рабіць.

І вы, хлопы і мяшчане смаргонскія, павінны дамовіцца паміж сабой і з салдатамі, якія ў вас кватэруюць, напасці на афіцэраў, чыноўнікаў і выржнонць іх, а выразаўшы даць ім поўную свабоду, пагражаючы выржненцем усіх. Здабыць грошы на закупку нажаў вельмі лёгка такім спосабам: пайсці да рускіх падрадчыкаў, нібыта ў найміты на чыгунку, за задатак купіць нажы, а на працу не ісці. Усё гэта трэба рабіць вельмі скрытна.

Гэта пісьмо трэба многім старшынам паказаць.

*Fajnhauz L. Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi. 1846–1848. Warszawa, 1965. S. 217–219*

### 59. Адукацыя ў Віленскай навучальнай акрузе.

Галоўны кірунак усёй навучальнай справе ў акрузе надаваў яе папячыцель князь Адам Чартарыскі. Гэта быў моцны чалавек пры двары і ў той жа час асоба, якая ўсё сваё жыццё служыла справе аднаўлення Польшчы ў яе былых межах. На Заходні край і на Літву ён глядзеў вачыма палякаў і не адрозніваў іх ад сапраўднай Польшчы [...]

Самыя буйныя прадстаўнікі польскай нацыянальнасці паводле розуму і паводле моцна развітога нацыянальнага пачуцця сышліся ў агульнай справе кіравання школамі ў беларускіх, украінскіх і літоўскіх губернях. У іх руках школа зрабілася зброяй палітыкі, бо на універсітэт і на школу яны глядзелі з такога пункту гледжання [...] Увесь кірунак выкладання атрымаў яркую польскую нацыянальную афарбоўку [...]

Адпаведныя людзі з часам склалі апору паланізацыі, замацаваўшыся ў Віленскім універсітэце [...] Ян Снядэцкі (рэктар універсітэта. – *А.С.*), паляк паходжаннем, пераканаваны нацыяналіст поглядамі, быў, бясспрэчна, буйным вучоным-астраномам. Але палітычныя і нацыянальныя мэты ў навуцы ён ставіў на першае месца. Ён быў вялікі знаўца і аматар польскай мовы, натхняў і падтрымліваў тых вучоных, якія распрацоўвалі гэтую мову [...] Са з'яўленнем Снядэцкага ў Вільні спынілася ўсялякая апазіцыя паланізму. Пры ім зараз жа з'явілася кафедра польскай мовы [...] З вялікай заклапочанасцю паставіўся Снядэцкі да замяшчэння кафедры польскай гісторыі. Ён звярнуў увагу на маладога вучонага, бо прадбачыў у ім багатыя навуковыя здольнасці і страсную кіпучую натуру, здольную аддацца пры першай магчымасці рэвалюцыйнай барацьбе супраць Расіі. Гэта быў знакаміты Іяхім Лялевель [...]

Наогул гэта быў перыяд магутнага росквіту польскай культуры ў межах нашага краю. У 1818 г. у Вільні адкрываецца галоўнае друкарскае таварыства для друкавання твораў на польскай мове, з'яўляецца шэраг часопісаў, навуковых таварystваў. Гэта быў самы выдатны перыяд і ў развіцці Вільні як цэнтра польскай культуры. Эпоха Лялевеля [...], Снядэцкага [...] і многіх іншых ажывіла польскую думку, польскую навуку і падрыхтавала эпоху Міцкевіча і Сыракомлі. Гэта эпоха вырвала з Беларусі шмат яе выдатных сыноў, якія [...] аддалі свой розум і здольнасці польскай культуры і нацыянальнасці.

*Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. С. 258–263*

### 60. Навучанне ў Полацкай Акадэміі езуітаў. 1812–1820 гг.

Полацкі Калегіюм паўстаў у 1580 на пажаданьне Стэфана Баторага, пад кіраўніцтвам Пятра Скаргі, знакамітага прамоўцы і дзеяча Ордэну езуітаў. Першы калегіюм меў дзьве клясы і пяць вучняў. Але праз два стагодзьдзі полацкая вучэльня вырасла да рангу Акадэміі.

Праграма навучаньня ў Калегіюме не адрозьнівалася ад праграмаў іншых езуіцкіх вучэльняў Правінцыі Літоўскай, падпарадкаванай Галоўнай Літоўскай Школе – Віленскаму ўнівэрсытэту. Да паловы XVIII ст. выкладалася традыцыйная схаластыка, пазьней адбыліся пэўныя зьмены ў навучаньні пад уплывам *philosophiae recentiorum* і рэформаў Камісіі Народнай Адукацыі. У той час (1745 г.) у Полацкім Калегіюме працаваў М. Пачабут-Адланьскі [М.Пачабут-Адляніцкі. – *А.С.*], славуты астраном і рэфарматар Віленскага ўнівэрсытэту.

Пасьля падзелу Рэчы Паспалітай і касацыі Ордэну, перамены ў праграмах пачаліся таксама і пад уплывам расейскай адміністрацыі. У 1784 г. царыца Кацярына II, якая не дазволіла на сваіх новадалучаных землях абвяшчаць касацыйнае breve, па рэкамэндацыі аўстрыйскага імпэратара загадала прыняць на сваіх вучэльнях энцыклапедычную сыстэму навук, якая была ўведзеная на Львоўскім ўнівэрсытэце, дзе была ў сваю чаргу прынята праграма Венскага ўнівэрсытэту. Разам з філязофіяй, выкладанай у VI клясе, падзеленай на онталёгію, этыялёгію, псыхалёгію, касмалёгію паводле вальфіянскага падзелу; акрамя філязофіі, на факультэце вызваленых навук выкладалася астраномія, оптыка, экспэрымэнтальная фізыка і вышэйшая матэматыка. Львоўскі ўнівэрсытэт пратрываў да 1803 года, калі пасьля пераносу вучэльні да Кракава, ува Львове застаўся адно ліцэй.

Акрамя філязофіі ў Калегіюме выкладаліся клясычныя мовы, агульная гісторыя, геаграфія і арыфмэтыка, шмат выкладалася навук, неабходных не толькі для духоўнай кар’еры, але і для сьвецкай адукацыі – тэарэтычная і практычная мэханіка, цывільная і вайсковая архітэктура, балістыка, піратэхніка, гідраўліка, тэорыя рамёстваў, сталярства і жывапіс.

Такая праграма была характэрная для “хрысьціянскага асьветніцтва”, дзе захоўвалася выкладаньне падставаў неасхаластычнай мэтафізыкі, рэфармаванай пад уплывам Вольфа і хутчэй дапоўненай, чым абмежаванай выкладамі ньютонаўскай фізыкі, капернікаўскай астраноміі і вальфіянскай матэматыкі, што дазваляла выконваць максымальную адукацыйную задачу філязофіі recentiorum, якой было захаваньне рэлігійнай традыцыі і навучаньне новым навукам. Кірунак на радыкальную мадэрнізацыю праграм дзяржаўных школ, прыняты праз змадыфікаваную ўжо ў 1780 г. Віленскую Акадэмію, згодна з інструкцыямі КНА, якім улады Камісіі хацелі падпарадкаваць таксама і навучаньне ў Калегіюме, не быў прыняты полацкімі езуітамі, што прыводзіла да канфліктаў паміж кіраўніцтвамі вучэльняў.

Улады ўнівэрсытэту налягалі на ўніфікацыі праграмаў навучаньня на літоўскіх землях, дзе ўсе вучэльні, і сьвецкія і канфэсіянальныя, павінныя былі падпарадкоўвацца КНА.

Езуіты жадалі самастойнасьці ў сваёй адукацыйнай дзейнасьці, бо, атрымаўшы ад царыцы права на навіцыят, яны маглі кшталтаваць ва ўласных сьценах настаўніцкія кадры. Я. Гіжыцкі адной з прычын нежаданьня езуітаў да перамен у адукацыі паводле плянаў КНА называе кансэрватыўнае стаўленьне мясцовага насельніцтва – у езуіцкіх школах Вітэбска ў 1809 г. было ў два разы больш вучняў, чым у піярскіх школах, дзе вучыліся паводле праграмаў КНА. Лёс вучэльні між тым быў залежны ад стаўленьня да яе расейскіх уладаў. Дапамог езуітам дэ Мэстр, які ў лістах да міністра асьветы Разумоўскага пераконваў яго ў неабходнасьці самастойнасьці езуітаў, патрэбных Расіі для барацьбы зь небясьпекай вальнадумства. Павел I, спрыяльна настаўлены да езуітаў, у 1802 г. рыхтаваў загад аб пераходзе пад уладу Ордэну Віленскага Ўнівэрсытэта і літоўскіх школаў, але ў тым самым годзе пакінуў сьвет. На трон узышоў цар Аляксандр I, які на пачатку свайго кіраваньня быў настаўлены вельмі лібэральна і вярнуў Віленскаму ўнівэрсытэту несправядліва адабраныя правы. Унівэрсытэцкія ўлады пачалі праводзіць у рэчаіснасьць праграму грамадзянскага выхаваньня, пачатага ў час дзейнасьці КНА.

Расейскі ўрад з часам праводзіў праграму паступовай русіфікацыі, распрацаваную петэрбурскай Камісіяй народных школ.

У глябальных плянах расійскіх імператараў езуіты павінныя былі адыграць не апошнюю ролю – спачатку жадалі скарыстаць зь іхняй знаёмасьці ўсходу для распаўсюджваньня расійскіх уплываў на Кітай, пазьней, пасьля рэлігійнага ўпадку ў асьвечанай Эўропе, Петэрбург павінен быў стаць хрысьціянскай сталіцай Эўропы. Павел I даў прытулак у Расіі Мальтыйскаму Ордэну, Аляксандр I пасьля падпісаньня Вялікага Міру марыў пра адмысловую рэлігію экумэнічнага характару, у якой яму б было адведзена месца вярхоўнага правадыра. Езуіты, аднак, не маглі пагадзіцца на наватарскія прапановы расейскага цара, тлумачыўшы тым, што распаўсюджваньне тэкстаў, не зацьверджаных касьцёльнымі ўладамі, супярэчыць абавязкам Ордэна.

У 1814 г. пасьля абвяшчэньня адмены касацыйнага breve генерал Бжазоўскі не атрымаў дазволу на выезд да Рыму па атрыманьне паўнамоцтваў ад Папы.

На пачатку XIX ст. пры царскім двары яшчэ быў модны лібэралізм.

Віленскі і Петэрбурскі ўнівэрсытэты, якія жадалі зьмены ў сыстэме навучаньня, прысылалі візытатараў да Калегіюма. Каб унезалежніцца ад Віленскага Ўнівэрсытэта, створанага ў 1803 г. з правам надзору над усімі школамі заходніх правінцыяў дзяржавы, езуіты вырашылі падняць статус Калегіюма да рангу Акадэміі і рэалізавалі свае пляны пры дапамозе графа дэ Мэстра і князя А. Галіцына, дырэктара Дэпартамэнту іншых вызнаньняў.

Статут Акадэміі Полацкі калегіюм атрымаў 1.03.1812, у 1813 г. Полацкая Акадэмія лічыла 84 вучня, а ў 1820 – каля 700 і 30 настаўнікаў. За 8 год існаваньня са сьценаў Акадэміі выйшла больш за 100 дактароў. Уладзе Акадэміі падлягалі ўсе езуіцкія школы, якія былі на тэрыторыі Расейскай імпэрыі – Ворша, Дынабург, Краслаў, Ужвальда, Вітэбск, Магілёў, Чачэрск, Мсьціслаў, Петэрбург, Астрахань, Адэса і Раманаў.

У Полацкай Акадэміі было тры факультэты, на факультэце Вызваленых Навук выкладаліся і навукі філязофскія – лёгіка, мэтафізыка і этыка.

*Серабракоў З. Філязофія Акадэміі езуітаў у Полацку // Фрагмэнты. № 9*

**61. Полацкая акадэмія і развіццё культуры Беларусі.**

Кацярына дала дазвол адчыніць у Полацку навіцыят – установу для падрыхтоўкі езуіцкіх паслушнікаў-навіцыяў. У лютым 1780 г. некалькіх навіцыяў урачыста прынялі ў забаронены ордэн. Вестка пра гэта разнеслася па еўрапейскіх краінах і перасякла на караблях акіян. Яна азначала, што Полацк зрабіўся сталіцай Таварыства Ісуса. Яго гнаныя прыхільнікі знайшлі горад на картах і рушылі сюды з усяго свету. Як пішуць езуіцкія гісторыкі, берагі Дзвіны замянілі ордэну берагі Тыбра [...]

Ці бачыў калі-небудзь горад у сваёй гісторыі столькі сабраных разам бліскуча адукаваных талентаў? Сюды ехалі літаратары, мастакі, медыкі, бібліяфілы і гісторыкі, хімікі і астраномы. На полацкіх пляцах і вуліцах, у калідорах і залах калегіўма гаварылі тады на добрым дзесятку еўрапейскіх моваў. Аднак, паводле старога ордэнскага правіла, усе іншаземцы [...] вучылі мову народа, сярод якога пасяліліся.

Полацк перажываў новы ўзлёт. На нейкі час ён стаў адной з інтэлектуальных сталіц Еуропы, што спрыяла ўздыму калегіўма (напрыканцы стагоддзя ў ім было 300 студэнтаў) і ўсёй адукацыйнай справы ў Беларусі. Праграма 1796 г. сведчыць, што студэнты езуіцкага калегіўма апрача ранейшых дысцыплін вывучалі беларускую, расейскую, французскую і нямецкую мовы, агульную гісторыю, фізічную і практычную геаграфію, алгебру, тэарэтычную і практычную механіку і гідраўліку, цывільную і вайсковую архітэктуру, тэорыю жывапісу [...]

Імператар Аляксандр I 12 студзеня 1812 г. выдаў Указ: “Во уважение представленного нам желания Белорусского дворянства и пользу от наук от соревнования между несколькими училищами равной степени, признали Мы за полезное возвести Полоцкую иезуитскую кол-

легию на степень Академии с присвоением ей преимуществ, дарованных университетам" [...]

У сувязі з вайной заняткі ў Полацкай акадэміі пачаліся 8 студзеня 1813 г. Студэнтаў прынялі тры факультэты: тэалагічны, моваў і літаратур, філасофіі і вольных навук. У дадатак да дысцыплінаў, вядомых нам з праграмаў калегіўма, тут вывучалі прыкладную матэматыку, хімію, заалогію, батаніку, мінералогію, трыганаметрыю, палітычную эканомію і статыстыку, права.

На філалагічным факультэце вывучаліся такія мовы і створаныя на іх літаратуры, як лацінская, грэцкая, старажытнаяўрэйская, расійская, французская, нямецкая, італьянская, арабская і сірыйская. Курс той ці іншай мовы вёў педагог, для якога яна была родная і які ведаў яе да тонкасцяў [...] Узровень адукацыі ў Полацкай акадэміі дазваляў яе выхаванцам практыкавацца ў перакладах з нямецкай на старажытнагрэцкую або з французскай на лаціну.

Навучальны год доўжыўся з 15 верасня па 15 ліпеня. Штодня студэнты мелі па 6 гадзін лекцый, у аўторак і чацвер – толькі тры, астатні час прызначаўся для заняткаў гімнастыкай, маляваннем, музыкай і танцамі.

У друкарні, ці, дакладней, у выдавецтве, што дзейнічала пры акадэміі, выходзілі падручнікі па замежных мовах, па матэматыцы, паэтыцы, рыторыцы. Тут друкаваліся навуковыя трактаты, календары і літаратурныя зборнікі. У Полацку пабачылі свет "Слоўнік старажытнасцяў" і "Лацінска-польскі лексікон", былі перавыдадзены творы Фэдра, Цыцэрона, Тыбула, Непота ды іншых антычных і новых аўтараў. Выходзіў ілюстраваны літаратурна-навуковы часопіс на польскай мове "Месенчнік Полоцкі"[...].

Папаўняліся экспанатамі музей і карцінная галерэя. Па запрашэннях Расійскай акадэміі навук полацкія прафесары везлі на сталічныя выставы тэхнічныя вынаходкі.

Сорак тысяч тамоў налічвала акадэміцкая бібліятэка. Захавалася апісанне яе галоўнай залы. На ўваходзе, у нішы паміж двума маршамі сходаў, быў гіпсавы грот са статуямі Дзевы Марыі з немаўлём і ўкленчанага перад імі Ігнацыя Лаёлы. Паабапал дзвярэй наведніка сустракалі гадзіннік з боем і ртутны барометр у паліраваных жоўтых футлярах. У самой бібліятэцы 20 даўжэзных шафаў з бюстамі і вазамі ды яшчэ 6 меншых. Дзесяць масіўных сталоў на паўтара сажня даўжынёю і пры кожным – пяць абцягнутых скураю крэслаў [...]

Нягледзячы на тое што прафесура бліжэйшых універсітэтаў – Віленскага і Дэрпцкага – лічыла полацкіх калегаў правінцыяламі, альмаматэр над Дзвіною ўпэўнена ішла да таго, каб стаць іхняю годнаю канкурэнткаю. Ёй падпарадкоўваліся ўсе езуіцкія школы і калегіўмы

Расійскай імперыі, якія існавалі, апрача Полацка, у Пецярбурзе, Віцебску, Воршы, Магілёве, Мсціславе, Чачэрску, Клімавічах, Рызе, Астрахані, Адэсе, Саратаве. Аркадзь Смоліч, аўтар надоўга схаванай бальшавікамі ў спецсховішчы “Геаграфіі Беларусі”, піша, што Полацкая акадэмія мела 600 студэнтаў і 40 прафесараў. У друку з’яўляліся звесткі пра зварот айцоў езуітаў да рымскага папы з прапановай весці выкладанне па-беларуску.

З полацкіх аўдыторый пачалі свой шлях гісторык, археолаг і этнограф Канстанцін Тышкевіч, філосаф Анёл Доўгірд, астраном і філосаф Якуб Накцыяновіч, палітык і прамоўца Тадэвуш Корсак. У Полацкай акадэміі вучыўся [...] мастак Валянцін Ваньковіч. Яе дыплом атрымаў Ян Баршчэўскі. Пералік імёнаў, што ўвайшлі ў энцыклапедыі, мог быць шматкроць даўжэйшы, каб Полацк не заставаўся універсітэцкім горадам усяго 8 гадоў.

Дэмакратычныя навучальныя ўстановы зрабіліся на захопленых землях магутнай духоўнай апазіцыяй каланізатарам. Царскія ўлады хутка разгледзелі небяспеку і рыхтавалі расправу. Полацкай акадэміі было наканавана сысці з гістарычнай сцэны першаю [...]

13 сакавіка 1820 г. з царскай канцылярыі выйшаў Указ: “Иезуитов, как забывших священный долг не только благодарности, но и верноподданнической присяги и потому недостойных пользоваться покровительством российских законов, выслать под присмотром полиции за пределы государства и впредь ни под каким видом и наименованием не впускать в Россию. Полоцкую иезуитскую академию и подведомственные ей училища упразднить” [...]

*Арлоў У. Таямніцы полацкай гісторыі. Мінск, 1994. С. 355–368*

## 62. М. Доўнар-Запольскі пра навуковае вывучэнне Беларусі ў першай трэці XIX ст.

[...] Асабліва ў гэты час пасунулася вывучэнне гісторыі. Мясцовыя часопісы і штогоднікі [...] змяшчаюць шэраг гістарычных артыкулаў. З’яўляецца шмат асобных прац. Такімі былі працы Іосіфа Лукашэвіча па гісторыі рэфармацыі ў Літве і на Беларусі. Даволі плённай была навуковая дзейнасць Міхала Балінскага, які напісаў гісторыю г. Вільні (2 тамы, 1833–1837), статыстычнае апісанне г. Вільні. Разам з Ліпінскім ён выдаў вельмі каштоўную кнігу “Старажытная Польшча”, якая ўяўляе сабой гісторыка-статыстычны нарыс асобных гарадоў і правінцый. Яму належыць вялікая праца “Старая Акадэмія Віленская”, надзвычай цёпла напісаная ранняя гісторыя універсітэта і многа інш.

Да гэтай жа эпохі адносіцца дзейнасць Фёдара Нарбута, выхаванца Віленскага універсітэта, інжынера па спецыяльнасці. Ён вядомы

сваімі гістарычнымі працамі і з’яўляецца першым гісторыкам “Літвы”, пад якой ён разумеў Літву і Беларусь, прысвяціў свае працы агульнай гісторыі Беларусі са старажытнейшых часоў. У яго працах чырвонай ніткай праходзіць любоў да мінулага роднага краю. Ён напісаў шмат прац, у т.л. 9-томную гісторыю “Літоўскага народу” (1834–1841). Нягледзячы на сваю вялікую любоў да мінулага і на жаданне высветліць яго гісторыю, Нарбут яшчэ дрэнна разбіраецца ў пытаннях пра тое, чым адрозніваецца беларуская гісторыя ад гісторыі Польшчы.

Іншым характарам вылучаюцца працы прафесараў права Віленскага універсітэта Іосіфа Ярашэвіча і Ігната Даніловіча. У іх працах выразна праведзена грань паміж літоўска-беларускай гісторыяй і гісторыяй Польшчы. Хоць у загалоўках іх прац яшчэ ёсць імя “Літвы”, але абодва гісторыка права разумеюць гэтую назву ў сэнсе дзяржаўным, адрозніваючы ў будове дзяржавы ўдзел Літвы і Беларусі, усведамляюць велізарнае значэнне ў гэтай гісторыі беларускага элемента. Наогул, гэта беларусы па духу, па сваіх уяўленнях, па сваіх поглядах і паходжанні, але пісалі свае гістарычныя працы па-польску. Ярашэвічу належыць трохтомная праца пад загалоўкам “Вобраз Літвы, яе адукацыя і цывілізацыя з самых старажытных часоў да канца 18 ст.” (1844–1854) і шэраг больш дробных прац. Ва ўпомненай асноўнай працы Ярашэвіч з надзвычайнай аб’ектыўнасцю сочыць за прававой гісторыяй Беларусі. Яго навуковыя вывады і дагэтуль маюць значэнне. Гэта – першая гісторыя беларускага права і дзяржаўнага ўладкавання.

Такім жа характарам навуковага метаду вызначаюцца і працы Даніловіча, сына уніяцкага святара з Бельскага пав. Гэта быў чалавек з вельмі шырокай адукацыяй. Ён скончыў Віленскі універсітэт і заняўся выключна гісторыяй мясцовага права. Ён быў адным з вядомых прафесараў па гісторыі Літоўскага статута, па вывучэнні літоўскіх летапісаў, яму належыць выданне і тлумачэнне многіх каштоўных помнікаў нашага права. Пасля закрыцця Віленскага універсітэта Даніловіч быў пераведзены ў Харкаў, потым у Кіеў. Дарэчы, заўважым, што Даніловіч пісаў свае працы як на рускай, так і на польскай мове.

Акрамя названых асоб варта адзначыць гістарычныя працы яшчэ некаторых. Так, вядомы польскі белетрыст Іосіф Крашэўскі напісаў вялікую 4-томную гісторыю Вільні, 2-томныя “Успаміны пра Палессе, Валынь і Літву” і шэраг іншых прац. Варта ўпамянуць аб працах прафесара Мухлінскага па гісторыі літоўскіх татар. Асабліва шматлікія працы Адама Кіркора, прысвечаныя розным асобным пытанням беларускай гісторыі. Між іншым, Кіркору належыць шмат артыкулаў у

3-м томе “Жывапіснай Расіі”, выдадзенай Вольфам. Кіркор пісаў як на польскай, так і на рускай мове.

[...] Мы назвалі толькі найгалоўнейшыя імёны з вялізнай плеяды тых вучоных гісторыкаў, прававедаў, этнографаў і лінгвістаў, якія тады з вялікай карысцю працавалі над усведамленнем мінулага і сучаснасці роднага краю. Яны пісалі па-польску, але ў гэтым не трэба бачыць нейкую асаблівую тэндэнцыю з іх боку. Яны часам змешвалі ў сваім уяўленні этнаграфічныя і гістарычныя асаблівасці Польшчы, Беларусі і Літвы. Але гэта адбывалася таму, што папярэднімі дзесяцігоддзямі такая мешаніна была ўкаранёна ў розумы і Беларусь разглядалася са старога пункту погляду гістарычнага і з пункту погляду этнаграфічнага. Аднак, сочачы за іх працамі, можна заўважыць, як паступова пашыраўся іх навуковы светапогляд, і як паступова і свядома ўжо малодшае пакаленне гэтых мясцовых вучоных пераходзіла на чыста беларускую глебу, і як у іх прачыналася шчырае пачуццё любві да сваёй беларускай радзімы і да яе народу, як наладжвалася паступова крэўная сувязь паміж імі і беларускім народам. Нядзіўна таму, што некаторыя з іх у канчатковым выніку аднолькава карысталіся для сваіх пошукаў як рускай, так і польскай мовай. Ва ўсякім выпадку, гэта дружная работа на навуковай ніве з’яўляецца работай не польскай, а менавіта беларускай і літоўскай. Яна ў канчатковым выніку рабіла пэўнае ўражанне і мела пэўнае назначэнне – абуджаць беларускую нацыянальную думку і нацыянальнае пачуццё.

Вось чаму гэта эпоха ў сувязі са спробамі пісаць на беларускай мове з’яўляецца эпохай пачатку адраджэння беларускай нацыянальнасці і літаратуры. Гэта работа ішла паралельна з такімі ж работамі ў гісторыі іншых славянскіх народнасцей.

*Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. С. 352–354*

### 63. Ян Баршчэўскі. Нарыс Паўночнай Беларусі. 1843 г.

Той, хто падарожнічае з поўначы ў бок Беларусі, бачыць перад сабой велізарныя вёскі накшталт мястэчак, мураваныя, бялеючыя храмы і камяніцы двароў, шырокія засеяныя палі, сям-там невялічкія сасновыя або бярозавыя гаі, чуе не раз працяглы і гучны спеў селяніна, які далёка, наколькі можа ахапіць вока, разносіцца па палях або пералятае рэкі і даліны з мелодыяй пастуховага ражка. У нядзельныя дні, калі сонца набліжаецца да захаду, спатыкае ён вясковых дзяўчат у святочных паркалёвых, а часам і ў шаўковых сарафанах у суправаджэнні залётных юнакоў; водзяць яны карагоды, співаючы народныя песні, а старыя, седзячы на прызбах, разважаюць пра мінулыя і сённяшнія часы...

[...] Беларусь, як і іншыя народы, памятае яшчэ сваіх міфалагічных бажкоў. Русалкі, калі жыта красуе ў полі, з распушчанымі доўгімі валасамі калышуцца на бярозах і спяваюць песні; іх смех адгукаецца ў глыбіні лясоў і трывогай працінае тых, хто збірае грыбы або ягады. Лясны бог – пан дзікіх пустэчаў; каб чалавечы зрок не мог яго ўгледзець, ён пад living рознымі выглядамі хаваецца ў сваіх уладаннях; мінаючы лугі, так змяншаецца, што яго нельга ўбачыць у густой траве; ідучы праз бары, раўняецца з самымі высокімі соснамі. Ён апякун звяроў і лясных птушак. Кажуць, што бачылі вялізарныя статкі вавёрак, якіх лясны бажок перапраўляў з аднаго бору ў другі; ён рабіў гэта для таго, каб выратаваць іх ад агню, бо прадбачыў, у якім баку выбухне пажар.

Урачыстасць Купалы вядома амаль усім славянскім народам. На Беларусі 23 чэрвеня пасля заходу сонца адбываецца Купалле або свята Купалы; уначы шукаюць скарбаў; самы шчаслівы той, каму пашэнціць сарваць кветку папараці, яго зрок у глыбіні зямлі прыкмячае закапаныя скарбы, і ён столькі можа мець золата, колькі сам захоча. Кабеты разам з юнакамі і дзяўчатамі каля вогнішчаў са смаловага палення чакаюць усходу сонца, спяваючы песні:

Іван ды Мар'я,  
На гарэ купальня,  
Дзе Іван купаўся,  
Бераг калыхаўся;  
Дзе Мар'я купалась,  
Трава рассцілалась.

Іншыя падобныя песні гучаць у полі, аж пакуль сонца не зайграе на небе.

Ноч Купалы ў тым баку Беларусі (на Віцебшчыне. – *А.С.*) поўная незвычайных здарэнняў. На думку простага народа, уся прырода ў гэтую ноч весяліцца. Рыбакі бачаць азёрнае люстра, якое часам раскашуе у месяцавым ззянні, і хоць неба яснае і паветра спакойнае, бліскучыя хвалі, ударaючы ў берагі, разбіваюцца на кроплі, якія, нібы зоркі, свецяцца ў паветры. І гэтае чароўнае відовішча на зарослых чаротам берагах абуджае дзікіх качак і іншых вадзяных птушак, якія, прываблены дзівосным свячэннем вады, уздымаюцца тут і там над ясным возерам.

Дрэвы ў лесе таксама могуць пераходзіць з аднаго месца на другое; шумам сваіх галін яны размаўляюць паміж сабою: апавядаюць, што нехта, блукаючы гэтай ноччу ў лесе, знайшоў кветку папараці і ўбачыў не толькі скарбы, схаваныя ў зямлі, але і незвычайныя дзівы ў прыродзе; разумеў гаворку кожнага стварэння; чуў, як дубы сыходзяцца з розных мясцін і, зрабіўшы кола, гамоняць шолахам галін,

прыгадваючы, быццам старыя ваяры, свае гераічныя ўчынкі і даўнія заслугі. Ліпы і бярозы, збіраючыся там, хваліліся сваёй прыгажосцю; сярод іх былі некаторыя нібыта госці з суседніх садоў, класічна падстрыжаныя і выпрастаныя; тыя гаманілі пра залётнасць дваровых дзяўчат і свавольства панічоў, сведкамі якога яны не раз былі; а гэтыя крыўдныя размовы з пагардаю слухалі задумёныя хвоі і яліны; бачыў вербы, якія, стоячы над рэчкай і ўглядаючыся ў вадзяное люстэрка, пыталіся адна ў адной, што якой з іх пасуе, – і гэтыя цуды дзеюцца аж да ўсходу сонца.

Усход сонца пасля гэтай бяссоннай урачыстай ночы таксама бывае крыху асаблівы. Натоўп люду, што весяліцца ў полі, канчае песні і танцы і моўчкі скіроўвае вочы да неба, нібы падглядае на сцэну, дзе ўверсе на палаючай прасторы далягляду павінна з'явіцца штосьці незвычайнае. Узыходзіць сонца, уздымаецца над палямі і лясамі і на вачах усяго люду рассыпаецца ў небе на дробныя зіхатлівыя зорачкі, зноў збягаецца ў адзін агністы шар; яго акружае безліч вясёлкавых кругоў, і ён мігціць, кружачыся вакол сваёй восі. Гэтая праява паўтараецца некалькі разоў, і такім чынам сонца грае штогод 24 чэрвеня [...]

*Баршчэўскі Ян. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Мінск, 1990. С. 16–18*

### 64. Ян Баршчэўскі і беларускі народ.

Усё жыццё п. Баршчэўскага – адно пастаяннае самаахвяраванне дзеля паэзіі! Але, каб добра зразумець сказанае мною, трэба ведаць яго асабіста, трэба бачыць яго з кіем пілігрыма ў руках, так, як спатыкаў яго ў маіх падарожжах, пешкі, сярод простага беларускага люду, на плытах Дзвіны, у прыдарожных корчмах, не сцежках, ледзь пазначаных у лесе, і на вялікіх гасцінцах! Трэба яго бачыць у Полацку і Віцебску, калі прыбыўшы пешшу з паўночнай сталіцы, абтрасаючы пыл з абутку, спяшаецца з сям'ёй сумленнага шляхціца ўзнесці малітвы спрадвечнаму ў родным касцёле [...]

У гэтага чалавека няма марных слоў, няма рыторыкі, ён – сам змест. Свае рукапісы, або, як ён сам называе, раптуркі, пісаныя старадаўнім почыркам, ён вечна носіць з сабою. [...] Не шукай там ні моднай арфаграфіі [...], ніякай шліфоўкі, паправак, уставак – ён сячэ сякерай з усяго размаху, – затое постаці ў яго выходзяць тыповыя,

карціны ў масах. Затое ў ім няма таго ўбоства знаходак, разбаўленых на два тамы, з якіх, калі сціснеш, часта не выціскаць і кроплі зместу.

У апавяданнях Баршчэўскага я бачу першае праяўленне духу беларускага народа.

*Падбярэскі Р. Беларусь і Ян Баршчэўскі // Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. Кісялёў. Мінск, 1977. С. 69–70*

### 65. Лёс Паўлюка Багрыма.

[У м. Крошын Навагрàдскага пав. прыехалі сенатар Навасільцаў і рэктар Віленскага універсітэта Пелікан. Яны мелі заданне тайна пракантраляваць навучанне ў народнай школе, якой кіраваў ксёндз Магнушэўскі. На абедзе ў ксяндза яны папрасілі паказаць вучняў]

Пасланы ў вёску слуга прывёў ад барон і жывёлы некалькі хлопчыкаў, якія вылучаліся большымі поспехамі. Экзамен, здавалася, прайшоў як найлепей. Сенатар і рэктар хвалілі поспехі вучняў, гаворачы, што ксёндз Магнушэўскі робіць паслугу краю. Гэтая пахвала тым менш здавалася яму падступнай, што ён у глыбіні душы быў перакананы ў яе шчырасці. І вось пачаў разважаць, якія ў тых бедных хлопцах схаваны таленты, якім калі б дапамаглі развіцца, можна было б дасягнуць вялікай карысці, – што адзін асабліва мог бы зрабіцца славянскім паэтам, і як доказ выклікаў Пётрака, каб ён прачытаў уласныя вершы на беларускай гаворцы, напісаныя без чыйго-небудзь натхнення і ўзору. Заахвочаны гэтым, Пётрак дастаў сшытак і, не прадбачачы, што можа быць пакараны за тое, за што дабрадушны ксёндз яго столькі разоў хваліў, пачаў чытаць свае журботныя элегіі, з якіх толькі некалькі строф засталося ў аўтара ў памяці і якія тут мы прыводзім:

Зайграй, зайграй, хлопча малы,  
І ў скрыпачку, і ў цымбалы,  
А я зайграю ў дуду,  
Бо ў Крошыне жыць не буду.

Бо ў Крошыне пан сярдзіты,  
Бацька кіямі забіты,  
Маці тужыць, сястра плача:  
“Дзе ж ты пойдзеш, небарача?..”

Дзе ж я пайду? Мілы Божа!  
Пайду ў свет, у бездарожжа,  
У ваўкалака абярнуся,

З шчасцем на вас азірнуся.
Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчасліўшая ты бы была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я бы без паноў абыўся:
У паншчыну б не пагналі,
І ў маскалі не аддалі [...]

Такія і да таго падобныя чуллівыя нараканні хлопчыка, які меў усяго дзесятак з нечым гадоў, кранулі пачцівага ксяндза, але зусім іншы ўплыў рабілі яны на бессардэчных экзаменатараў, якія, аднак, шэсць ці сем элегій выслухалі з прытворным спачуваннем, паглядаючы толькі адзін на аднаго ў найбольш выразных месцах. Пасля прачытання сянатар загадаў аддаць яму сшытак, і абодва паехалі з абяцаннем, што падумаюць пра лёс такога незвычайнага паэта. Ксёндз яго пагладзіў у знак задавальнення і запэўніў, што гэта яму выйдзе на карысць.

Аднак якое ж было яго засмучэнне і роспач, калі праз некалькі дзён бязвінны хлопчык быў забраны паліцыяй у рэкруты, якіх ён так баяўся, а да ксяндза Магнушэўскага, чыё здароўе было аслаблена гэтай падзеяй да рэшты, прыставілі, як да арыштанта, варту. Гэта неўзабаве дабіла яго адной цяжкай думкай, што сваімі парадамі і неасцярожнасцю стаў прычынай неаднаразовага няшчасця менавіта таго класа сваіх парафіян, якіх так моцна любіў.

Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, не падтрыманы ніякай навукай, забяспечыў сабе неўміручае імя, а сваёй сям'і – пашану і дастатак; Пётрак з Крошына за талент, дадзены яму ад Бога, зазнаў самае жорсткае няшчасце!

*Яцкоўскі Ч. Аповесць майго часу // Пачынальнікі. С. 188–189*

**66. Адам Міцкевіч пра Беларусь.**

Вялікую прастору [...] займае краіна паміж Дняпром, Чорным морам, Бугам і Нёманам. Яна даўно згубіла агульную назву, бо розныя пакаленні, якія жылі тут, не прызнаюць ужо імя славян за сваё родавае... Нарманы і ляхі прыходзілі сюды са сваёй уладай, і схіляліся яны то пад скіпетрам рускіх князёў, то пад уладай Польшчы. З той пары, калі іх заваяваў дом Рурыка, яны былі ў складзе рускіх земляў [...] Тут сутыкалася каталіцкая рэлігія з усходняй царквой, шляхецкая Рэч Паспалітая з сістэмай самаўладства.

[...] З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць, сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губ., захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рысаў. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі "Літоўскі Статут" напісаны іхняй мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моваў найменш змененай. Усю сваю гісторыю на зямлі яны прайшлі ў страшэннай галечы і прыгнёце.

[...] Мова поўдня Расіі – маларуская, на якой гавораць амаль дзесяць мільёнаў чалавек, бясспрэчна, самая музычная, самая паэтычная і звонкая, але яна ніколі не была настолькі развітой, каб стаць мовай літаратурнай. На беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай, таксама размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі. Мова велікаросаў, на якой гаворыць амаль гэтулькі ж чалавек (трэба выключыць адсюль фінска-маскоўскі дыялект, які моцна ад яе адрозніваецца), вылучаецца багаццем і чысцінёй, але ў ёй няма ні цудоўнай прастаты беларускай мовы, ні гарманічнасці і музычнасці маларускай [...]

*Міцкевіч А. [Пра Беларусь і беларускую мову] //*
*Філаматы і філарэты. С. 121–122*

### 67. "Мужыцкі" Адам Міцкевіч

Фальклор, прырода, побыт і звычаі народа, сярод якога рос, выспелілі паэтычны геній Адама Міцкевіча, далі яму матэрыял для творчасці. Беларусы далі яму песні і казкі, але, на жаль, не маглі даць распрацаванай ў пэуным сэнсе літаратурнай мовы. Яны далі яму Радзіму, аднак не маглі даць таго, што аздабляе яе – тую нацыянальную, палітычную і эканамічную незалежнасць, што дазваляе генію адчуваць сябе часткай вялікага цэлага і надае сілы працаваць для ўзвелічэння свайго народа, адначасова ўзбагачаючыся і падымаючыся разам з ім. Вось чаму мы, падзяляючы славу Міцкевіча разам з палякамі, вышэйшае права на яе аддаём усё ж ім.

Ён трошкі "мужыцкі" Адам Міцкевіч [...]. У яго заўсёды будзе многа ад той зямлі, на якой ён гадаваўся і рос, той зямлі, гісторыя якой натхніла яго на стварэнне "Гражыны", "Конрада Валенрода", "Пана Тадэвуша", у значнай ступені "Дзядоў". "Літва, айчына мая!" – з замілаваннем прызнаецца ён, пачынаючы адзін з самых задушэўных сваіх твораў – "Пана Тадэвуша".

*Стральцоў М. Перад дарогай. Мінск, 1994. С. 210–211*

### 68. Адам Міцкевіч і гістарычная Літва.

[...] Мяркую, уплыў Міцкевіча на літоўскую культуру быў вельмі супярэчны. Вобраз ягонага роднага краю, ягонае мінулае і этнічныя характарыстыкі, якія трывала ўвайшлі ў сьвядомасьць не аднаго пакаленьня польскіх (і чужаземных) чытачоў, былі іншым чынам зразуметы ў краіне, якую ён небезпадстаўна лічыў за сваю ўласную. Станаўленьне новай культурнай ідэнтычнасьці Польшчы і Літвы (якая паўстала дзякуючы Міцкевічу ды польскаму рамантызму наагул) выяўляе шчыльныя адносіны любові-нянавісьці. Можна нават сказаць, што літоўская і польская культуры ўзаемна дапаўняюць адна адну, але ўвадначасьсе кожная зь іх зьяўляецца палемічным тлом для іншай. У разьвіцьці літоўскай культуры досыць лёгка разрозьніць два канфліктных накірунка, часьцяком пераплеценых міжсобку – адзін цягнецца ад Міцкевічавага аднакурсніка Даўкантаса, другі – ад Незабытаўскаса, з якім Міцкевіч ліставаўся. Дык глянем уважлівей на тое, якой уяўляў сабе Міцкевіч Літву, якім быў ягоны погляд на яе, паколькі ён сам спрыяў узьнікненьню гэтых дзьвух супрацьлеглых ідэалягемаў.

*Terminus a quo* польскага рамантызму традыцыйна атаясамляюць з тым самым годам, калі Даўкантас напісаў свой рамантычны маніфэст сучаснага літоўскага нацыяналізму “Дзеі старадаўніх літоўцаў і жамойтаў” (1822). Бачым таксама еднасьць мейсца: абедзьве плыні нарадзіліся ў Вільні. Істотная розьніца палягае ў тым, што літоўская плынь доўга не магла прабіцца з-пад зямлі, у той час як польская адразу сталася заўважнай. Даўкантас ня мог спадзявацца апублікаваць свой трактат; у той час як Міцкевіч здолеў надрукаваць “Балады ды рамансы”, хаця і меў з гэтым пэўны клопат, і ўжо на наступны дзень прачнуўся славутым. Вядома, два колішніх аднакурсніка былі асобамі рознага кшталту; да таго ж толькі адзін зь іх працаваў у адпаведным, добра разьвітым моўным і культурным асяродку. І, мажліва, істотная прычына рознасьці іхных лёсаў палягала ў тым, што думка Даўкантаса была гістарычна заўчасная, тады як погляды Міцкевіча адпавядалі некаторым рэальным грамадзкім і духоўным запатрабаваньням.

Рацыяналістычны, эўропацэнтрычны і зьвернуты да грэка-рымскай спадчыны інтэлектуальны парадак XVIII стагодзьдзя зазнаў глыбокую крызу ва ўсім цывілізаваным сьвеце. У Польшчы і Літве яе паглыбілі яшчэ больш страта дзяржаўнай незалежнасьці і напалеонаўскія войны. Было дакладна вызначана, што гісторыя разьвіваецца непрадбачліва. Новая эпістэма высунула ў першы шэраг суб’екта, здольнага крытыкаваць рэчаіснасьць і пераўтвараць яе; толькі містык і яснавідучы, то бок паэт, мог прадбачыць будучыню; ірацыянальная вера і эмоцыі здабылі перавагу над рацыянальным сьветабачаньнем.

Гэтыя агульнавядомыя характарыстыкі рамантычнага сьветапогляду дапоўніў рэгіяналізм, супрацьпастаўлены клясычнай цэнтралізацыі. Цікавасьць да цёмных, нерацыянальных асьпектаў псыхікі спрычынілася да пераарыентацыі культурных зацікаўленьняў на перыфэрыю, як гістарычную, так і геаграфічную. На мейсца магістральнай культуры пануючага цэнтра прыйшлі субкультуры, пазначаныя мэтафізічнымі прарывамі ды бунтарскім духам; гарадское тло мусіла саступіць мейсца на карысьць прымітыўным дэкарацыям, Эўропа мусіла саступіць мейсца Ўсходу.

Міцкевічу досыць-такі пашчасьціла – ён нарадзіўся на памежжы, якое лёгка можна ўспрымаць як гэткую ўсходнеэўрапейскую Шатляндыю або Брэтань. У сваёй прадмове да “Баладаў ды рамансаў” ён расхвальваў творчасьць шатлянскіх (англамоўных) паэтаў, называючы сябе іхным двайнікам, літоўскім польскамоўным паэтам. Ён меў шчасьце расьці і выхоўвацца ў Вільні, а яна была цывілізованым эўрапейскім местам зь вялікаю заходняю супольнасьцю, але адначасова і ўвасабленьнем “інакшасьці” ды экзотыкі; у пэўнай ступені яна нават належыла Ўсходу (Санкт-Пецярбург быў вэстэрнізаваны больш, хаця геаграфічна ляжаў далей на ўсход). Адзначаная кансэрватыўным каталіцызмам і барочнай архітэктурай, Вільня зьберагла ў сабе нямала ад барочнай карнавальнай традыцыі. Сярэднявечная спадчына ды рэшткі паганства таксама былі адчувальныя ў ёй. І была яна аточана незвычайным і маляўнічым краем, які адно невялічкім напружаньнем уяўленьня мог успрымацца як “дзікі”.

Сярэднявечнае Вялікае княства Літоўскае было створана і кіравалася людзьмі з паганскага племені, якое размаўляла адной са старадаўніх балцкіх моваў, якой славяне не разумелі, але да яго ўваходзілі таксама шматлікія славянскія землі, заселеныя прыхільнікамі ўсходняга праваслаўя. Увайшоўшы ў шчыльную лучнасьць з польскаю Каронай, княства стала звычайна ўспрымацца як усходнія польскія ўладаньні. Ягоныя вышэйшыя клясы збольшага навярнуліся ў каталіцкую веру і апалячыліся, аднак краіна зьберагла нямала ад свайго асаблівага характару. Літоўская мова ды ўсходнеславянскі (рускі) дыялект, які з часам разьвіўся ў беларускую мову, зберагліся ў пераважнай большасьці ў сялянскім асяродку. Існавала даўняя традыцыя супрацьстаўляць “лясную” Літву “сельскагаспадарчай” Польшчы, а таксама літоўскую адсталасьць – польскай цывілізаванасьці; разам з тым літоўская шляхта досыць часта ўспрымала ўласьцівы ёй брак вытанчанасьці за адзнаку старадаўняга паходжаньня ды высокай шляхетнасьці, гледзячы на “людзей Кароны” з кепска прыхаванай зьнявагаю. У кантэксьце эпохі Міцкевіча ўсё гэта надавала бліскучай мажлівасьці для разьвіцьця рамантычнага ўяўленьня. Літву

тады ўспрымалі як “другую палову” цывілізаванай краіны, адну з тых чароўна экзатычных краінаў, якая давала шанец аднавіць усю эўрапейскую культуру. Для Міцкевіча (а ён, дарэчы, ніколі ня быў ані ў Варшаве, ані ў Кракаве) ягоная родная глушыня ўяўляла сьвет, які цалкам не саступаў уласна Польшчы і нават пераважаў яго. Як тая звар’яцелая вясковая дзяўчына зь ягонай праграмнай балады “Рамантычнасьць”, Літва была ня з тых краінаў, на якія можна было глядзець скрозь лінзы вучонасьці (*medrca szkielko i oko*). Трэба было зьмяніць гледзішча і адкрыць у гэтым “іншым сьвеце” ягоную эстэтычную і этычную каштоўнасьць. Літва няяўна супрацьстаўлялася Кароне, як зямля духоўнай візіі – зямлі рацыянальнага розуму. Тут яшчэ жыло пачуцьцё бясконцасьці і цудаў; там панаваў абмежаваны цьвярозы розум.

У размове са Стэфанам Гарчыньскім у Дрэздэне ў 1832 годзе Міцкевіч назваў сябе “дзікім літоўцам”. Насамрэч ён меў на ўвазе сваю нонканфармісцкую натуру і незалежнасьць думкі. Але такое самавызначэньне ўтрымлівала значна больш. Экзатычная і няўціхаміраная краіна сталася сымбалем няўтаймаваных сілаў душы. Землі колішняга Вялікага княства Літоўскага былі спэцыфічным хранатопам, гэткай сымбалічнай прасторай лясоў і вазёраў, насычанай духоўнымі флюідамі і, насуперак усім засьцярогам практычнага розуму, атаясамленай з іншасьветам. Гэта быў сусьвет адасобленасьці і чараў, таямніцы і жаху, смутку, пакутаў і непакоя – то бок, там былі ўсе парадыгматычныя рамантычныя характарыстыкі, узмоцненыя, акром таго, тагачаснай адсталасьцю тых земляў, перадусім, у беларускай палове Вялікага Княства. Дыялёг у балядах Міцкевіча збольшага разгортваецца як дыялёг двух сьветаў, сьвета дня і сьвета ночы (апошні быў мэтафарычна пададзены як места Сьвіцязь, што правалілася на дно возера). У гэтым прывідным ландшафце напруга паміж жыцьцём і сьмерцьцю, паміж прыродай і культурай зьмянілася напружаньнем паміж рознымі гістарычнымі эпохамі, грамадзкімі праслойкамі і – апошняе, але ня менш важнае – паміж рознымі мовамі. Сам паэт ператварыўся ў медыума духаў, якія раней размаўлялі незразумелай мовай паганскіх плямёнаў. Дзівоснае ўварваньне трансцэндэнтных сілаў у штодзённае жыцьцё было наўпроставай аналёгіяй уварваньня правінцыйнага рамантычнага паэта ва ўсталяваны сьвет “цэнтральнай” культуры.

Вобраз Літвы як краіны, дзе панавала спрадвечнае адзінства, дапаўняўся яе мінулым. Для рамантыкаў сярэднявечча было прывілеяванай эпохай, галоўным фокусам гісторыі. А Літва валодала сярэднявечным мінулым шэкспіраўскіх вымераў, у якім шчасліва ядналіся ўсе характарыстыкі рамантычнай Поўначы і рамантычнага Ўсходу.

З аднаго боку, гэта была напаўміфічная барбарская краіна, надзеленая таемнымі творчымі сіламі, цалкам адпаведная германскай дый кельцкай Эўропе, якую паэты-рамантыкі супрацьстаўлялі сьвету Сярэдзіземнамор'я. Зь іншага боку, паганская вера літоўцаў давала ня менш мажлівасьці для рамантычных фантазіяў, чым іслам: у свой час "паўночныя сарацыны", як называлі літоўцаў крыжакі, адбілі ўсе іхныя атакі, а праз пэўны час самі адмовіліся ад паганства. Каб дадаць сюды яшчэ троху рамантычных фарбаў, нагадаем, што да літоўскай мовы і ідэнтычнасьці ставіліся дасюль як да чагосьці прысуджанага на зьнікненьне – і не без прычыны, паколькі літоўскае пісьменства, як мы ўжо зазначалі, яшчэ ня выйшла з пялюшак. Таму літоўскае мінулае зьберагалася адно ў фальклёры, у асяродку людзей неадукаваных, чыя няпісьменнасьць была роўная гістарычнай памяці. Яно лунала там, цытуючы баляду Міцкевіча, як "іерогліф, што аздабляе замшэлы камень, як надпіс, абвіты павойнікам сутнасьці, унуранай ў глыбокі сон".

Міт пра Літву як "цень" Польшчы, як контркультуру, што была тлом для культуры Захада, – адным словам, як архэтып "іншасьці" для Польскай Кароны – даў магчымасьць Міцкевічу стварыць антыкананічную парадыгму, якая выцесьніла культурны маналёг польскага асьветніцтва. Недахоп праўдзівых зьвестак пра Літву ды няпэўнасьць яе прасторава-часавых межаў давала багатую глебу для рамантычных уяўленьняў. Перш за ўсё кідаецца ў вочы зьменлівая сэмантыка самога слова "літоўскі". Яго можна аднесьці або да колішняга Вялікага княства ва ўсёй ягонай цэласнасьці, то бок, да зямель ня толькі этнічна літоўскіх, але і да этнічна беларускіх або да старадаўняй паганскай Літвы зь яе неславянскаю мовай ды спэціфічнаю культурнаю спадчынай. Міцкевіч куды часьцей ужываў гэтае слова ў першым ягоным значэньні, ён успрымаў Літву хутчэй як гістарычны рэгіён, чым лінгвістычную або культурную адзінку. Ён добра ведаў, што Вялікае княства складалася зь дзьвюх моўна асобных частак. У сваім артыкуле пра Францішка Карпіньскага (1827) ён пісаў: "Просты люд у Літве карыстаецца або рускім дыялектам, зьмешаным з польскаю мовай, або літоўскаю мовай, якая цалкам адрозная ад польскай". Верагодна, што Міцкевіч чуў літоўскую мову ў Вільне, Коўне, мажліва ў сваім родным Наваградку ці ў навакольных мясьцінах, дзе літоўскія сяляне дажылі ў некаторых сёлах да сярэдзіны XX стагодзьдзя, а таксама на эміграцкіх сходках, якія наведвалі таксама суайчыньнікі Незабытаўскаса. Фрагмэнты трох літоўскіх народных песьняў, запісаных рукой Міцкевіча ў Парыжы (у 1927 годзе іх апублікавалі Міхал Брэнштэйн ды Ян Атрэмбскі), сьведчаць пра даволі някепскае веданьне літоўскай граматыкі. Тым ня менш Міцкевіч ніколі ясна не адрозьніваў літоўцаў ад ла-

тышоў і прусаў. І, незважаючы на відавочную моўную адрознасьць, ён ужываў тэрмін "літоўскі" таксама да носьбітаў славянскіх дыялектаў, калі яны жылі на тэрыторыі колішняга Вялікага княства. Панятак Беларусі як асобнага культурнага рэгіёна выкрышталізаваўся адно каля 1830 года, і тэрмін "беларускі" ў творах Міцкевіча трапляецца толькі аднойчы (у лісьце да Ігнацыя Дамейкі за 1835 год).

Гэтую сэмантычную блытаніну ўскладняла тое, што навакольле Наваградка, хаця і населенае пераважна беларускамоўнымі, на працягу некалькіх стагодьдзяў лічылася за непадзельную частку гэтак званай Lithuania Propria – Літвы ў вузкім значэньні, што адрозьнівала яе ад "рускіх" зямель Вялікага княства. Ва ўсялякім разе, такія балады Міцкевіча, як "Марыліна магіла" і "Тры Будрысы" – нібыта вольны пераклад з аўтэнтычнага літоўскага фальклёру, – гэта або тыповыя рамантычныя падробкі, або, у лепшым выпадку, далёкія водгукі беларускіх галашэньняў і песьняў. Тое самае можна сказаць пра рытуальныя тэксты ў другой частцы "Дзядоў".

"Літоўскае" зьмешвалася ня толькі з "рускім". На іншым герархічным узроўні як "літоўскае", так і "рускае" вытлумачвалася як мясцовы варыянт "польскага". У славутым "Аглядзе войска", у "Пане Тадэвушы" дый у шмат якіх іншых творах Міцкевіч (дарэчы, як і літоўскамоўны Незабытаўскас) ужываў слова "літвін" як абсалютны сінонім слова "паляк". Хаця рамантычныя літоўскія досьледы былі надзвычай моднымі ва ўнівэрсітэцкія гады Міцкевіча, а таксама і пазьней, моўную канцэпцыю нацыі прыймалі і распрацоўвалі толькі некалькі маргінальных постацьцяў. Балцкі фальклор і этнаграфія лічыліся непадзельнай часткай польскай спадчыны, каштоўным набыткам часоў незалежнасьці; старадаўні балцкі Алімп вызначаўся як адмена агульнага славянскага Алімпу. "Ценявы бок" Польшчы быў для Міцкевіча і ягонага асяродка таксама Польшчай, як і той працілеглы бок Месяца ніколі не пераставаў быць часткаю самога Месяца.

Аднак такое стаўленьне да літоўскай мовы і літоўскай ідэнтычнасьці мела свае асаблівасьці ды дыяхранічныя адценьні. У сваіх камэнтарах да "Гражыны" Міцкевіч пагаджаўся з Ксавэрыям Богушам, віленскім вучоным, які сьцьвярджаў, што літоўская мова – гэта мова дасканалая, бясконца багатая і добра разьвітая, якая са старажытных часоў верагодна служыла крыніцай стварэньня вялікай літаратуры. Тут Міцкевіч выступіў апанентам Яхіма Лялевеля, які бязьлітасна высьмейваў Богуша. Ён таксама падзяляў думку Богуша, што хрысьціянства і вунія з Польшчай прычынілі вялічэзную шкоду гэтай уяўнай старадаўняй балцкай культуры – ідэя, праз нейкі час разгорнутая ў працах Даўкантаса ды іншых ідэолягаў літоўскага нацыянальнага руху. Зь іншага боку, калі Богуш лічыў захаваньне літоўскай

мовы справай гонару для палякаў, то Міцкевіч, верагодна, падпісаўся б пад амбівалентнай заявай сябра таварыства філаматаў Яна Чачота, на думку якога непазьбежная сьмерць тубыльскай (літоўскай або беларускай) мовы была зьявай вартай жалю, але пажаданай, паколькі яе разьвіцьцё зашкодзіла б еднасьці палякаў і чысьціні польскае мовы.

У часта цытаваных уводзінах да "Конрада Валенрода" Міцкевіч заяўляў: "Літва цяпер належыць адно мінуламу... Яна з той катэгорыі рэчаў, пра якія Шылер сказаў *"Was unsterblich im Gesang soll leben, Muss in Leben untergehen"* – тое, што жыве ў песьні, мусіць загінуць у жыцьці". Гэтыя словы звычайна тлумачацца як стратэгічны ход, пакліканы прыхаваць сапраўдны зьмест "Конрада Валенрода" ад цэнзараў. Сапраўды так, бо сярэднявечная Літва ў эпічнай паэме Міцкевіча ёсьць досыць празрыстым псэўданімам усёй Польска-Літоўскай дзяржавы, адраджэньне якой было галоўным пунктам аўтарскага credo. Аднак і тут захавалася характэрная недакладнасьць: бо калі адносіць словы Міцкевіча да рэальнай сярэднявечнай Літвы зь яе асобнай гістарычнай ідэнтычнасьцю, іх трэба было б успрымаць цалкам літаральна.

У "Кнігах польскага народу і польскага пілігрымства" Польска-Літоўская агульная дзяржава прадстаўленая як прадвесьніца аб'яднанай Эўропы дый аб'яднанага чалавецтва: "І Бог узнагародзіў іх (палякаў), бо вялікая нацыя Літва злучылася з Польшчаю, як муж злучаецца з жонкаю, дзьве душы ў адным целе. Й не было ніколі раней такога злучэньня нацыяў. Але ў будучым яны будуць. Бо гэты шлюб Літвы і Польшчы ёсьць сымбалем будучай лучнасьці паміж усімі хрысьціянскімі народамі ў імя веры і свабоды". Цікава, што паводле Міцкевіча, Літва адыгрывала дамінантную мужчынскую ролю ў гэтым шлюбе (згодна з рэальным гістарычным шлюбаваньнем літоўца Ўладыслава Ягайлы з полькай Ядзьвігай). З гледзішча на такі яе гістарычны лёс, ідэнтычнасьць сталася непатрэбнай. Цяпер яна была неадрыўная ад Польскай Кароны, нават калі і зьберагала спрадвечную містычную сілу, недасяжную для яе хаўрусьніцы.

У сваіх курсах па славянскай літаратуры ў Колеж дэ Франс (у прыватнасьці ў лекцыі, прачытанай 24 сакавіка 1843 года) Міцкевіч падсумаваў свае погляды на Літву, уключыўшы ў іх колькі новых важных элементаў. Ён зазначыў, што старадаўнія літоўцы, "найменш вядомае племя ў Эўропе", ня былі ані славянамі, ані германцамі; "іхная мова – найстаражытнейшая з тых, на якіх размаўляюць на эўрапейскім кантынэнце", мае агульныя карані з санскрытам і адначасова найменш адшліфаваная ў літаратурным ужытку. Па словах Міцкевіча, краіна, хаця і амаль не пазначаная на геаграфічнай мапе, мае надзвычай багатую і значную гісторыю. Гэтая значнасьць

перадусім выяўлялася ў духоўнай сфэры. Акурат у літоўцаў “мы знаходзім першасную дагістарычную думку, душу ўсялякай традыцыі”. “Нідзе больш рэлігійныя вераваньні не выўляюць такой неабсяжнай і цэльнай паўнаты”. У сваёй дылетанскай, хаця і вельмі адмысловай, аргумэнтацыі Міцкевіч параўнаў старадаўні анімізм літоўцаў са старажытнай рэлігіяй індусаў і вызначыў яго як найчысьцейшую форму брамінскай веры, пашыранай таксама і на абсягі палітыкі. Ён нават высунуў хімэрную гіпотэзу пра тое, што старадаўнія літоўцы былі калёніяй індусаў, якія дасягнулі ажно берагоў Балтыкі. Зь ягоных словаў, Літва была духоўна злучаная з Польшчай унікальным зьвязкам, “пэўнаю вялікаю таямніцай”, вонкавай праявай якой стаў палітычны саюз між дзьвума краінамі, “істотнейшы зваротны пункт у гісторыі Поўначы”. Насуперак усім зьменлівасьцям лёсу, гэты саюз пратрываў ажно да часоў Міцкевіча, прынамсі, на мэтафізычным узроўні. Прыгадаем яшчэ адну цытату, дзе гаворка ідзе пра тое, што літоўскі народ ня мае “аніякага пачуцьця нацыянальнай ідэнтычнасьці, ня мае ўласнай дзяржавы і нават ня трымае ў душы такіх намераў; паняткі нацыі дый бацькаўшчыны адсутнічаюць у ягонай мове”. І тым ня менш, ён прызначаны на вялікую, хаця й туманную місію. Як тое і належыць прафэтычнаму тэксту, лекцыя пра Літву сканчаецца досыць неспадзяванай высновай: “(Таму) Літоўцы ёсьць адным з тых народаў, якія жывуць спадзяваньнем”.

*Венцлава Т. Вяртаньне да роднага краю // Фрагмэнты. № 9*

### 69. Мітрафан Доўнар-Запольскі пра адток беларускіх культурных сіл.

[...] Часам лепшыя сілы беларускага народу сваімі талентамі і працамі жывілі чужыя ім культуры. Калі ўспамінаеш шэраг бліскучых імён беларусаў, што пайшлі ў лона польскай культуры, то ахоплівае і пачуццё гонару, і пачуццё суму. Гонару – таму, што беларусы далі столькі дастойных дзеячаў польскай культуры, суму – таму, што іх праца пайшла не на карысць краю і яго народу. Прыток беларускіх народных сіл у бок польскай культуры пачаўся рана, яшчэ з 17 ст. Але тады ён не меў сур’ёзнага значэння, быў з’явай спарадычнай, і, акрамя таго, беларускія культурныя сілы часам падтрымлівалі тады асаблівага роду культуру, агульную і беларусам, і палякам – культуру лаціна-польска-беларускую. Так, для 17 ст. можам назваць вядомага езуіта гісторыка Войцаха Вьюк-Каяловіча, складальніка мемуараў Альбрэхта Станіслава Радзівіла, канцлера, віцебскага ваяводу пана Храпавіцкага, празаіка, і некаторых іншых. Але ўсё ж гэтыя людзі дзейнічалі на месцы. Іншая справа 18 ст., асабліва канец яго і пачатак 19 ст., г.зн. час узмоцненай паланізацыі Беларусі. У гэты перыяд поль-

ская культура выхапіла з асяроддзя беларускай нацыі найвялікшыя розумы. Здаецца, можна без перабольшання сказаць, што вяршыні росквіту польскай культуры гэтага перыяду ў значнай ступені ўпрыгожыліся беларускімі ўраджэнцамі і часткова такімі, якія не парвалі сувязі з радзімай.

[...] Для нас мае вялізнае значэнне дзейнасць двух найвялікшых польскіх паэтаў у той ступені, у якой гэта дзейнасць звязана з Беларуссю. Нам неабходна па некалькі радкоў прысвяціць Адаму Міцкевічу і Уладзіславу Сыракомлю. Адам Міцкевіч паходзіць з Наваградскага павету, спачатку вучыўся ў Наваградку, а з 1818 г. мы бачым яго ў Віленскім універсітэце, пасля сканчэння якога ён на некаторы час трапіў настаўнікам у Коўна.

У маладосці яго бліжэйшымі сябрамі былі ўжо вядомыя нам Заны, Ян Чачот, г.зн. беларусы па духу, асабліва апошні. Дружба з імі прывяла да таго, што Міцкевіч аказаўся замешаны ў справы віленскіх тайных таварыстваў і быў высланы з роднага краю. З таго часу дзейнасць яго праходзіць у розных гарадах Расіі, а пасля 1830 г. ён з'яўляецца палітычным эмігрантам і жыве пераважна ў Парыжы. Міцкевіч быў найвялікшым польскім паэтам, але ён мала ведаў Польшчу, і лепшыя яго творы былі напісаны або сюжэты іх склаліся ў час знаходжання на Беларусі. У сваю лірыку і свой эпас ён унёс толькі тое, што дала яму радзіма, г.зн. родная Беларусь, і нават бліжэй – мясцовасць Наваградскага павету.

Міцкевіч ведаў Беларусь і цікавіўся яе паэзіяй. У многіх сваіх творах ён сам адзначаў іх крыніцы "з народных песень" або адзначаў, што гэтыя матывы ён чуў у той ці іншай мясцовасці. Становішча беларускага народу для яго, як і для большасці яго равеснікаў, было не зразумелае. У адным месцы ён выказвае думку, што "народ польскі ў Літве гаворыць рускім дыялектам, змешаным з польскай мовай, ці мовай літоўскай, якая адрозніваецца ад моў славянскіх". Ва ўсякім выпадку, Міцкевіч ведаў, любіў менавіта гэты народ, беларускі, называючы яго то польскім, то літоўскім.

[...] Другім выдатным польскім пісьменнікам, беларусам па паходжанні і па сюжэтах сваіх твораў быў Людвік Кандратовіч, які пісаў пад псеўданімам Уладзіслаў Сыракомля.

У. Сыракомля быў беларусам па паходжанні, перакананнях і па сваіх сімпатыях. Ён нарадзіўся ў 1823 г. у Бабруйскім пав. і паходзіў з дробнай мясцовай шляхты. Па ўмовах побыту гэта шляхта нічым не адрознівалася ад заможнага сялянства. Яна і тады, як і цяпер, размаўляла па-беларуску і была прасякнута ідэямі і сімпатыямі.

У гэтым народным асяроддзі і вырас вядомы паэт Сыракомля. Ён не атрымаў вялікай адукацыі, бо вучыўся толькі ў школе дамініканцаў

у Нясвіжы і адзін год правёў у школе ў Наваградку, дзе вучыўся і знакаміты Міцкевіч. Аднак гэта быў чалавек вельмі вялікіх здольнасцей і са схільнасцю не толькі да паэтычнай творчасці, але і да навуковай работы, якую ён і выявіў у сваёй гісторыі польскай літаратуры і іншых працах.

[...] У гады росквіту сваёй дзейнасці Сыракомля жыў у Вільні і ў 50-я гг. прымаў вельмі вялікі ўдзел у віленскай газеце "Литовский курьер", у часопісе "Teka Wileńska" ("Тэка Віленьская" (партфель)). Але, вядома, Сыракомля найбольшую славу заслужыў як паэт. Сыракомля быў вельмі блізкі да беларускіх паэтаў і належаў да таго ж гуртка пісьменнікаў, што і Дунін-Марцынкевіч. Але, на жаль, ён пісаў усе свае паэтычныя творы на польскай мове. Праўда, гэтая паэзія Сыракомлі прасякнута беларускім духам. Матывамі для яго паэзіі найперш служыла родная краіна ў яе мінулым і ў сучаснасці. Гэта перш за ўсё пясняр Беларусі, "Літвы", як ён і яго сучаснікі называлі сваю радзіму. Ён апяваў Беларусь, яе шчаслівую і няшчасную долю. Ён апяваў жыццё, і шляхецкае, і вясковае, але больш за ўсё яго сімпатыі схіляюцца да сялянскага люду. Ён ведае беларускую гісторыю і ахвотна робіць яе сюжэтам сваёй паэзіі.

У палітычных адносінах ён трывала стаіць на непарыўным саюзе "Літвы" і Польшчы. Сыракомля толькі аднойчы на схіле дзён быў у Варшаве, і то кароткі час. Ён усё сваё жыццё правёў на Беларусі і пераважна ў сельскіх абставінах, вельмі блізкіх да сялянства. Нядзіўна таму, што ён увесь пранікнуты духам і каларытам сваёй радзімы. У канцы свайго жыцця ён прызнаўся, што калі захоча што-небудзь прыпомніць, то адразу ж у яго памяці ўяўляецца беларуская хатка, сельская царква, а ў вёсцы – хлопцы, дзяўчаты, белабародыя старыя. "Брат у сярмязе" – вось выключны ўзбуджальнік яго натхнення. Паэт недалюблівае шляхціца, таму што той аддаляецца ад мужыка. Паэт марыць пра той час, калі шляхціц не будзе брацца за бізун, а сам са сваім селянінам возьмецца за саху. Ён упэўнены ў тым, што галеча і беднасць будуць панаваць да таго часу, пакуль блізкі ў блізкім не пазнае брата. Такія мары паэта эпохі прыгоннага права. Але Сыракомля не палітычны дзеяч, гэта чалавек, які любіць мужыка, духоўна з ім зросся. Ён так любіць свой народ, што ўпэўнены: хто аднойчы заплача, пачуўшы народную песню, той перастане здзекавацца над народам, сіла народнай песні такая, што ліцвін у золаце і ліцвін у сярмязе зліюцца ў брацкіх абдымках.

*Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. С. 342–346*

**70. З этнаграфічных назіранняў П. Баброўскага.**

Нічога не значыць, што беларусы [...] не называюць сябе гэтым сваім імем. Беларусы, не ведаючы, што яны беларусы, захавалі і ў штодзённай гутарцы, і ў песнях, і ў прыслоўях свае азначаныя нацыянальныя лагічныя формы, свой азначаны характар, свае праявы, звычаі і г.д. Беларус-селянін, ці будзе ён праваслаўны, ці католік, мае свае перакананні, сваю маральную філасофію і перадае гэта разам з мовай сваім дзецям і ўнукам. Ксёндз і памешчык ніколі не скажуць пра беларуса каталіцкага веравызнання, што ён беларус, а скажуць ліцвін. Пагутарыце з гэтым ліцвінам, і вы пачуеце беларускую гаворку. Падчас нашай працы ў Гродзенскай губ. мы мелі этнаграфічныя спісы насельніцтва ад святароў і ксяндзоў. На спісах тых сяляне, як праваслаўныя, так і католікі, названы ліцвінамі. І тут прыкладзены ўзоры іхняе мовы. Вы думаеце літоўскае? Не – беларускае. Ксёндз рабіў гэта таму, што беларусы калісьці ўваходзілі ў склад народнасцяў літоўскае дзяржавы. Мы бачым тут не палітычную памылку [...], а палітычную праўду і вельмі грубую этнаграфічную памылку.

*Насытка Я. “Тыя ж беларусы...” //*
*Беларуская мінуўшчына. 1994. № 4. С. 14*

**71. Дзейнасць братоў Яўстаха і Кастуся Тышкевічаў.**

Беларускія гісторыкі, этнографы, філолагі, фалькларысты даўно ўжо карыстаюцца пажоўклымі ад часу кнігамі – рарытэтамі і, як даследчыкі, судакранаюцца з рукапіснай спадчынай славутых вучоных Яўстаха і Канстанціна Тышкевічаў. Гэта яны, не зважаючы на свой высокі графскі тытул, бралі ў рукі рыдлёўкі і вялі раскопкі старажытных курганаў. Гэта яны здымалі з сябе сурдуты і апраналіся ў простае сялянскае адзенне, заходзілі ў хаты вясковай беднаты паслухаць шчырую гутарку пра побыт, даведацца пра абрады і забабоны ды запісаць народныя песні. У душы прысягнуўшы служыць свайму народу, браты Тышкевічы ніколі не адступалі ад сваіх перакананняў, шчыра працавалі на карысць роднага краю.

Праца, праца, праца... Яўстах і Кастусь замалада ўзяліся за пачэсную справу і, бадай на адным энтузіязме, заклалі трывалы падмурак навуковай археалогіі, а таксама этнаграфіі, фалькларыстыкі і краязнаўства. [...] Яны сцвярджалі ў грамадстве важную думку пра нацыянальную самабытнасць і гістарычную непаўторнасць Беларусі.

На вялікі жаль, многія апісаныя і даследаваныя Тышкевічамі помнікі зніклі з панарамы нашай зямлі, найперш у выніку пазнейшых акцый вандалізму, а таму іх аўтарытэтныя сведчанні сёння з’яўляюцца, можа, адзінай крыніцай, каб узнавіць праўдзівы вобраз

знішчанага аб'екта. З упэўненасцю можна сцвярджаць, што зробленае гэтымі сумленнымі вучонымі – нацыянальны скарб Беларусі, яе навуковай думкі мінулага стагоддзя.

Блізкае знаёмства з навуковай і культурна-асветніцкай дзейнасцю братоў Тышкевічаў пераконвае нас у тым, што яны сцвярджалі ў грамадстве важную думку пра нацыянальную самабытнасць і гістарычную непаўторнасць Беларусі. Ужо нават па гэтай прычыне іх нельга без агаворак адносіць да дзеячаў польскай навукі, як пераконвалі яшчэ не так даўно некаторыя даследчыкі. Якраз Яўстах і Канстанцін Тышкевічы неўсвядомлена рыхтавалі глебу для засеву нацыянальнага зерня будучай плеядай беларускай інтэлігенцыі.

[...]

Шырокая натура Яўстаха Тышкевіча імкнулася да многага: ён вёў археалагічныя раскопкі, запісваў фальклор, збіраў экспанаты для будучага музея, у тым ліку гістарычныя дакументы, старажытныя рукапісы, даследаваў этнаграфію, спрыяў ажыўленню культуры і асветы краю. Спагадлівы да чужога гора, Я. Тышкевіч заступаецца за выпускніка Харкаўскага універсітэта Эмілія Паўлікоўскага, потым за невядомага нам Фелікса Магнушэўскага, магчыма, пляменніка знакамітага аднафамільца – ксяндза, настаўніка Паўлюка Багрыма. Да сярэдзіны XIX ст. Я. Тышкевіч сфарміраваўся ў даволі вядомага дзеяча навукі і культуры. Асаблівае значэнне ён надаваў праблеме адкрыцця музея. Шмат дапамагаў яму яго старэйшы брат Канстанцін.

Як часта тады бывала ў беларускіх сем'ях, называючы сябе "ліцьвінамі", браты Тышкевічы разумелі пад гэтым сваю прыналежнасць да цэнтральнай і заходняй частак Беларусі, якія фігуравалі ў іх як "Літва" або "Руская Літва", і толькі Магілёўшчыну і ўсходнюю Віцебшчыну ды большую частку Смаленшчыны яны называлі Беларуссю, а жыхароў – беларусамі. Зразумела, яны, як і іх сучаснік У. Сыракомля, таксама "ліцьвін", не ведалі той мовы, якую мы ў канцы XX ст. чуем у сучаснай Летуве. Ніколі нашы папярэднікі не чулі і назву "Вільнюс", бо гэта для іх гучала б вельмі ненатуральна. Для той пары натуральнымі былі Вільня або Вільна. Братам Тышкевічам гэты горад бачыўся цэнтрам блізкага і роднага ім старажытнага крывіцкага племя, фактычна Беларусі. Напэўна, так гэта разумелі і ў Пецярбургу. Бо пасля звароту ў 1852 г. братоў Тышкевічаў у паўночную сталіцу, як і меркавалася, імператарская адміністрацыя вызначыла нарэшце месца адкрыцця музея старажытнасцей – Вільню.

[...]

Віленскі музей старажытнасцей амаль штодня папаўняўся новымі матэрыяламі. Яны ішлі з розных куткоў Беларусі. Бяром у рукі "Уліковы каталог прадметаў..." і пераконваемся ў тым энтузіязме, з

якім ахвяравальнікі даравалі сямейныя рэліквіі. Геаграфія прысланых прадметаў вельмі шырокая: Менск, Магілеў, Віцебск, Ворша, Наваградак, Крэва, Ліда, Горадня, Пінск, Паставы, Браслаў...

Паводле інвентара Віленскага музея, тут значацца камень з выбітым крыжам з Менскай губерні, царкоўны паднос з адлюстраваннем крыжа. Адносіцца ён да 1638 года, знойдзены каля Радашковічаў. Сярод рэліквій ёсць і звон, які адшуканы ў вёсцы Навадніца Гарадзенскай губерні, з надпісам: “В лето 6000-е 9 сот 28-е создан бысть сей святой Троицы повелением раба Божего пана Шедибора Валимонтовича, а мастер Устьек”, і нават надмагільны камень: “Во истину преставился Остафей Васильевич Тишкевич. 1558” з памет-кай, што знойдзены гэты помнік ля старажытнай царквы ў Лагойску. Сярод экспанатаў, што паступілі на адрас музея, былі слязніца ад Янкоўскага з Ігуменскага павета, пацеркі, бранзалеты, завушніцы з курганоў Лепельшчыны ад М. Кусцінскага, зноў пацеркі, толькі ўжо з Бельскага павета, ад нейкага Янушкевіча. Дзве пацеркі з сіняга шкла перадаў паэт У. Сыракомля, ён знайшоў іх на месцы раскопак старажытнага горада Кернова. Вельмі цікавыя калекцыі пячатак займалі ў музеі асобнае месца. Сярод гэтых рэліквій значацца пячаткі Куцеінскага манастыра, Супрасльскай лаўры, Забельскай дамініканскай гімназіі, Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, Віцебскай гімназіі, вялікая колькасць знакаў нумізматыкі.

Сярод геаграфічных назваў у кнізе ўліку новых паступленняў значацца і маленькія Кушляны Ашмянскага павета. У ваколіцах гэтай мясцовасці шукаў для музея рэліквіі віленскі гімназіст Францішак Багушэвіч. Шаснаццацігадоваму юнаку трапіліся старажытныя акамянеласці, славянскі гадальнік, даўні крыжык і інш. Усё гэта ён прынёс ва універсітэцкі будынак Аўла. Іх прыняў Маўрыкій Круповіч і Адам Кіркор. Не выключана, што там Францішак сустрэў і Я. Тышкевіча. Відаць, менавіта ад прызнанага паэта Уладзіслава Сыракомлі будучы беларускі адраджэнец Ф. Багушэвіч атрымаў падзяку і запрашэнне на адкрыццё музея.

Была сярод музейных рэдкасцяў статуэтка з бронзы. Даставіў яе ў музей А. Кіркор і падпісаў пад экспанатам “Мільда” – багіня кахання. Другую статуэтку прывёз Я. Тышкевіч. Яе навуковую ацэнку зрабіў і Т. Нарбут. Яны абое прыйшлі да агульнай думкі, што гэта вандэлотка, г.зн. жрыца. Знаходкі ў музей паступалі самыя розныя: ад індыйскай статуэткі і кітайскага бажка да крэўскай пячаткі і польскага сыгнета. Сам Я. Тышкевіч ахвяраваў уласную бібліятэку з трох тысяч кніг, а таксама археалагічную калекцыю з дзвюх тысяч адзінак захавання. Вялікую колькасць экспанатаў са свайго лагойскага музея перадаў і брат Канстанцін. Пра першыя крокі музея пісала прэса, і гэта “пада-

гравала" ў людзей цікавасць да новай навукова-культурнай установы. Ужо ў першыя два гады ў каталогу зарэгістравана было дзесяць тысяч музейных прадметаў. Гэта поспех! Нават наш сучаснік-калекцыянер, які ведае цану кожнаму здабытаму экспанату, не можа недаацэньваць старанай працы далёкага папярэдніка. Перад Яўстахам Тышкевічам паўстала праблема, дзе ўсё гэта падзець. І хоць усе пакойчыкі былі запоўненыя, ніводнага прадмета не адаслалі назад. Уладальнік кожнага з іх атрымліваў падзяку і запрашэнне наведаць музей пасля яго адкрыцця. Праўда, разам з матэрыяламі беларускага паходжання траплялiся і "імпартныя", што, зразумела, нейкім чынам "размывала" самабытнасць, патрабавала ад супрацоўнікаў пільнай увагі, каб не зблытаць мясцовае з завезеным.

Штолета выпраўляліся экспедыцыі, каб папоўніць музей гістарычна важнымі матэрыяламі. Сярод сяброў Віленскай археалагічнай камісіі амаль нікога не было летувіскай нацыянальнасці, таму і даследаванні вяліся ў асноўным на тэрыторыі Беларусі. Нават у Ковенскай губ. абследавалася яе паўночна-ўсходняя частка, дзе жыло пераважна беларускае насельніцтва. З такіх рэгіёнаў, як Жамойція і Дзукія, матэрыялаў паступала вельмі і вельмі мала. Ішлі знаходкі з Віленскага павета, дзе летувісаў пражывала тады толькі каля двух адсоткаў, з Троцкага павета, дзе іх было некалькі больш. Прыкладна такой была тады і "расстаноўка" навуковых сіл у Вільні. Сам Я. Тышкевіч ды ўсе яго калегі лічылі гэта натуральным і пытанне аб "дыскрымінацыі" не ўзнікала.

У канцы года на пасяджэнні Віленскай археалагічнай камісіі кожная экспедыцыя рабіла сваю справаздачу, аформіўшы яе ў выглядзе рэфератыўнага даклада. Рэчавы матэрыял паступаў у музей, а самі рэфераты змяшчаліся ў "Записках Виленской Археологической комиссии", якія выходзілі штогод. У абмеркаванні вынікаў праведзеных экспедыцый удзельнічалі многія сябры камісіі, але найбольш чынны ўдзел браў Я.Тышкевіч. Ён жа даваў устаноўкі і на наступны год. Тут вучоны зыходзіў з уласнага вопыту, а таксама з дзейнасці падобных арганізацый іншых краін.

Самым урачыстым для музея і Археалагічнай камісіі стаў дзень 1856 г., калі сабраўся народ на адкрыццё першай экспазіцыі. Прыехалі сюды і тыя, хто слаў свае экспанаты, ганаровыя госці з Вільні і іншых гарадоў Беларусі. Усім уручаўся спецыяльна напісаны верш-лісток У. Сыракомлі на памяць пра адкрыццё музея. Людзей сабралася нямала. Да ўсіх прысутных звярнуўся арганізатар і стваральнік Віленскага музея старажытнасцей, яго кіраўнік Яўстах Тышкевіч, які адзначыў важнасць гэтай падзеі для адраджэння гісторыі і культуры края. У гэты дзень ён быў у самым найлепшым настроі – ажыц-

цявілася яго даўняя мара. Ён прымаў віншаванні гасцей, новыя ахвяраванні для музея і не ведаў, што радасць гэтая будзе нядоўгай.

[...]

Настаў 1863 год. Выбухнула паўстанне, якое пачалося ў Польшчы, але, як і ў 1830 г., польская шляхта нядоўга супраціўлялася расейскай арміі і ўвесь цяжар руху перамясціўся на ўсход, у Беларусь, дзе актыўнасць атрадаў інсургентаў адзначалася яшчэ і ў 1864 г. У гэтым была выключная заслуга Кастуся Каліноўскага. Думы правадыра беларускага паўстання былі блізкія і многім супрацоўнікам музея, сябрам Археалагічнай камісіі.

Віленская казённая адміністрацыя разглядала музей старажытнасцей як адзін з цэнтраў "польскай інтрыгі" і па загадзе генерал-губернатара М.М. Мураўёва ў 1864 годзе ён фактычна быў зачынены. Спыніла сваю дзейнасць і Віленская археалагічная камісія. Замест яе працавала іншая – "Комиссия для разбора и приведения в известность и надлежащий порядок предметов, находящихся в Виленском музеуме древностей". У інспіраваную М.М. Мураўёвым камісію былі ўключаны І.П. Карнілаў – папячыцель навучальнай акругі, М.В. Глебаў-Стрэшнеў – сваяк М.М. Мураўёва, П.А. Бяссонаў – дырэктар навучальні, фалькларыст і этнограф, М.Ф. Гарбачэўскі – архіварыус, а таксама А.Р. Пшчолка – настаяцель сабора. На пасяджэннях камісіі не раз прысутнічаў цывільны губернатар С.Ф. Панюцін. Усе яны былі прыхільнікамі пецярбургскай арыентацыі. Дзеля прыліку ў склад гэтай "світы" ўключылі і самога Яўстаха Тышкевіча, аднак з яго думкамі ніхто не збіраўся лічыцца. Кіраваў камісіяй А.Д. Сталыпін, бацька вядомага Пятра Сталыпіна, міністра ўнутраных спраў, старшыні савета міністраў. Цікавасць да работы камісіі праяўлялі і нават прысутнічалі пры разборах матэрыялаў музея грамадзянскі губернатар С.Ф. Панюцін, адзін з самых першых гісторыкаў паўстання 1863–1864 гг. В.Ф. Ратч, палкоўнік П.В. Баброўскі.

Да ўсяго меў дачыненне ў краі сатрап Мураўёў, даваў ён указанні і па рэарганізацыі музея, каб тут надалей былі "живые свидетельства искони присущей здешнему краю русской жизни". Для пяцідзесяцігадовага Я. Тышкевіча гэта азначала крах яго надзей. На яго вачах экспанаты музея "рэвізавалі" і як "шкодныя" адпраўлялі ў Маскву. Але і гэта яшчэ не ўсё. Бадай, найбольшую крытыку вытрымаў вядомы вучоны з боку польскіх экстрэмістаў, якія абвінавачвалі яго як кіраўніка музея і Археалагічнай камісіі ў самых розных грахах. Словам, ён атрымліваў удары як справа, так і злева.

Я. Тышкевіч вельмі перажываў за унікальныя музейныя калекцыі, з якімі ўлады паступалі бесцырымонна. Супрацьстаяць гэтай афіцыёзнай кампаніі місіянераў было проста бессэнсоўна, і ён прымае ра-

шэнне зняць з сябе паўнамоцтвы куратара-кіраўніка музея. З вялікім болем у душы археолаг у 1865 г. пакідае Вільню і пасяляецца ў невялікім мястэчку Біржы, якое належала яго сваяку Язэпу Тышкевічу, таксама археолагу. Сум па музейнай справе, заняпад грамадскага жыцця пасля задушэння паўстання, закрыццё некаторых перыядычных выданняў, паўсюдная русафобія – усё гэта канчаткова выбіла Я. Тышкевіча з каляіны нармальнага жыцця. Не вельмі ўзрадавала яго і вестка аб пераглядзе рашэння мураўёўскай камісіі і вяртанні з Масквы ў Вільню вывезеных экспанатаў. Назад трапілі далёка не ўсе прадметы, толькі 206 адзінак захавання. Не вярнулася, напрыклад, унікальная аршанская кальчуга са славянскімі пісьмёнамі. Яна і да сённяшняга дня экспануецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

Я. Тышкевіч зразумеў, што больш яму не давядзецца вярнуцца да музейнай дзейнасці. Частка яго збораў з Віленскага музея старажытнасцей пазней трапіла ў калекцыю польскага этнографа З. Глогера, а потым у Нацыянальны музей у Варшаве. Толькі невялікая частка з тых калекцый засталася ў Вільні. Нават не дасведчанаму ў гэтых справах чалавеку было зразумела, што тут задумана стварыць фактычна новы музей паводле мураўёўскага ўзору. Неўзабаве так яно і здарылася. Толькі дзякуючы стараннем беларускага археолага І. Луцкевіча частка Тышкевічавых збораў увайшла ў фонд Беларускага нацыянальнага музея ў Вільні (1921–1945). У пасляваенны час новымі ўладамі тыя калекцыі былі падзеленыя і трапілі ў розныя музеі Летувы, а старыя супрацоўнікі рэпрэсіраваныя.

*Каханоўскі Г., Каханоўскі А. Руплівец нашай старасветчыны. Мінск, 1991*

### 72. Цытович[5]. Слова два о языке и грамотности Белой Руси. 1843 г.

[...] Думаю о незапамятном наречии кривичей, или, лучше, о последней их литературе, составившейся под влиянием литератур малорусской и великорусской [...] Теперь забыт Статут Литовский, а было время, когда язык его государственный имел даже свою грамматику. Доктор Скорина, Кирилл Иерусалимский и пр[очие] известны только между филологами, хотя язык их существует. Значительная часть народа русского долго ещё говорить будет по-белорусски. Считая непреложным положение наших языковедцев, что грамотность литовско-русская, а потому и наречие белорусское составляет средину между

[5] Верагодным аўтарам артыкула з'яўляўся выкладчык Полацкага духоўнага павятовага вучылішча Іосіф Цытовіч. Артыкул быў апублікаваны ў часопісе "Маяк" (1843, т. IX, кн. XVII) (заўвага ўклад.).

грамотностей мало- и великорусских, я, однако ж, не сомневаюсь, что этой грамотности надлежало бы дать большее значение в общем деле образования нынешнего нашего языка. Конечно, не в сей краткой статье, можно бы, однако ж, указать на многие коренные законы русского слова в наречии белорусском. Чуть ли не в нём сохранилась первобытная простота языка "русьского". Самое положение страны, где теперь говорят по-белорусски, говорит в пользу моего мнения. Возрождение его грамотности при переходе князей из Киева в Полоцк и Смоленск и последующие события политические ручаются за сохранение в этом наречии общеславянского начала и ставят его на первом плане возрастающего теперь наречия великорусского.

Обращая такой взгляд на теперешнее белорусское наречие, я часто думал, что тщательная разработка его может вести к драгоценным открытиям при изыскании начал родного языка нашего, так перепутанного под чужим ему влиянием; может в свою очередь служить к обогащению и украшению его [...]

Конечно, многое можно написать на сем наречии. Но для кого? Но для чего? Для многих и для многого. Дух грамотности заметно проникает в самые крайние классы бедных белорусцев, хотя собственно для них у нас ничего не пишется. Почему знать, нельзя ли вызвать и из них мужичков-грамотеев? На вопрос мой, почему бы в свободное время не взять книгу и не прочесть, один молодой грамотный парень отвечал так: "Яно й што б и чаму... вот ци у пана на цирядзе, ци дома об святках и возьмиш книгу, прочитаишь, да што ж – не па наськаму... виш ты, брав я у бацьки Базылига книшку, – здаетца, читаиць йон – усё разбирешь, зачнешь сам – ничога ни зрозумеишь". Не сыщется ль перо ловкое, перо трудолюбивое, которое посвятит себя на пользу миллионов этих, так сказать, меньших братий великой семьи нашей, не проложит ли им путь к дальнейшему образованию самыми близкими, сообразными их силам, вкусу и обычаю? И почему бы этим меньшим братьям не развить общий смысл своего общества до полной духовной жизни отечества своего и быть членами его не бессознательно...

[...] Народность наша больше, чем когда-нибудь, нуждается в учителе, при своих знаниях бессознательных – в руководителе, указывающем путь и цель всеобщего стремления. И мы в свою очередь, если не пополним собою народности общерусской, то по крайней мере составим с нею, и в короткое время, одно нераздельное целое!

*Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. Кісялёў. 2-е выд. Мінск, 2003. С. 8, 11*

## 73. Ян Чачот. Прадмова да зборніка народных песень. 1845 г.

[...] Грунтоўны роздум над гэтай мовай, на якой на нашай памяці любілі размаўляць паміж сабою старыя паны, што яшчэ жывуць, на якой дагэтуль гавораць паны і аканомы з сялянамі, на якой пісалі ў нас некалі афіцыйныя акты, застанецца цалкам якому-небудзь здольнаму, можа, селяніну, што праз навуку ўзнімецца да больш глыбокага разгляду дасканала вядомай яму мовы.

[...] Для пазнання крывіцкай мовы добра было б паслухаць хатнія размовы сялян, але гэта нялёгка зрабіць апранутаму ў сурдут, хіба калі б пераапрануцца ў сярмягу і пад выглядам селяніна з чужога маёнтка пайсці на вечарынку або ў карчму. Але больш прыстойным спосабам навучыцца мове і зрабіць адносна яе назіранні быў бы той, калі б хто заняўся слуханнем паданняў і іх дакладным запісам, папярэдне навучыўшыся майстэрству хуткага пісьма, бо гэта літаратура, што засталася спрадвеку ў памяці сялян, дагэтуль зусім яшчэ не кранутая. Гэта быў моўны скарб куды багацейшы, чым кароценькія песенькі, у якіх сустракаюцца часцей за ўсё толькі любоўныя словы і няма выразаў, што малююць іншыя пачуцці і ўяўленні. Скупая гэта мова і неачэсаная, бедная назоўнікамі і ўсімі выразамі, звязанымі з разумовымі паняццямі, аднак, як і кожная, яна павінна абавязкова мець свае асаблівасці і арыгінальнасць.

[...] Іншыя дыялекты славянскага паходжання больш шчаслівыя, бо нават такія, як, напрыклад, краінскі, краацкі і далмацкі, кожны з якіх паасобку не налічвае і трохсот тысяч жыхароў, што гавораць на ім, паводле сведчання Ліндэ, маюць свае граматыкі і слоўнікі, прычым 1584, 1595 і 1670 гг. Тут наадварот, крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва, не мае нічога болей, апрача катэхізіса, выдадзенага нядаўна ў Віленскай епархіяльнай друкарні, якога бачыць мне, аднак, не здарылася. Менавіта цяпер пара адплаціць за гэта занядбанне мінулых вякоў і ўзяцца за ўкладанне граматыкі і слоўніка крывіцкага дыялекту, калі ён, за невялікімі выключэннямі, яшчэ ў поўнай чысціні; бо хоць бы хацелі вучыць сялян іншаму дыялекту, яны не зразумеюць яго дастаткова, не маючы тэрмінаў гэтага іншага, выкладзеных на сваім уласным дыялекце. Цудоўная гэта была б работа для сельскіх ксяндзоў і паместнай шляхты, што мае хоць якую адукацыю. Хоць складанне добрага слоўніка і граматыкі патрабавала б ведаў і здольнасцей Кнапскіх, Капчынскіх і Ліндэ, аднак, маючы пратораную імі дарогу, наследаванне ім не было б такім цяжкім, як гэта каму-небудзь здавалася б, а той, хто ўзяў бы на сябе гэтую працу, заслужыў бы ўдзячнасць не толькі цяперашняга пакалення, але і больш пэўную ў будучым, бо калі мы рады бачыць

рэшткі кельцкай або герульскай мовы, што засталіся ў дакументах, можа, калі-небудзь будзе абуджаць такую ж і непустую цікавасць помнік крывіцкага дыялекту, які, трэба сумнявацца, каб сам стаў пісьмовым і развіваўся самастойна.

Даручаючы гэтую маю працу добразычлівай прыхільнасці чытачоў, чулых да лёсу сялян чалавечых сэрцаў і ласкавай увазе даследчыкаў славяншчыны, малю цябе, Божа, каб ты таксама даў мне час і магчымасць для яе завяршэння і меў ласку блаславіць!

*Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. С. 86, 96, 99*

### 74. З дарожных заметак рускага мастака Івана Захарава. 1854 г.

Случилось мне быть на кермаше в Белорусии. На эти праздники стекается обыкновенно множество народу, который утром отправляется к обедне, а потом танцует до поздней ночи. Для белорусских девушек кермаш магическое слово. Ещё задолго до праздника оне толкуют про кермаш и условливаются, как и с кем отправиться на праздник, а в самый день кермаша их ничто не удержит: ни работы, ни усталость, ни другие какие-либо обстоятельства, и хотя бы праздник происходил вёрст за двадцать от места их жительства, женщины с самого раннего утра отправляются туда пешком и во всём наряде, целый день танцуют и поздно вечером расходятся по домам, тоже пешком.

Я всегда удивлялся, как они могут ещё работать на другой день после таких переходов, особенно в летнее время. Но, видно, белорусские женщины готовы всё перенести, лишь бы иметь случай отличиться в танцах на сельском празднике...

Мужчины тоже стараются, по своему, выказать свою ловкость и молодечество. Стоит взглянуть и на молодого парня в белой рубашке, подпоясоного красным кушаком, на котором висит медная гребёнка, и на солдата в мундире или в шинели на-распашку, одною рукою подкручивающего усы [...] и на кучера, безпрестанно поглаживающего свою бороду; и на лакея, который так любит щегольнуть своим нарядом и светским обхождением [...]

Белорусские танцы разнообразны и имеют большое сходство с неаполитанским народным танцем, тарантелой: такие же обороты, такая же живость и почти те же мотивы музыки.

[...] Наряд белорусских женщин очень красив и опрятен. Как женщины, так и девушки повязывают голову большим красным платком, носят ситцевую юбку, а сверх юбки плисовый спенсер, обшитый галунами, без рукавов; рубашка всегда чистая и очень белого полотна.

Наряд мужчины весь белый, особенно летом: рубашка холстинная белая, кафтан белый, тоже холстинный, только потолще, и наконец шапка из войлока тоже белая; всё это как нельзя лучше оправдывает название Белоруссии.

Здешние жители невысоки ростом, смышлёны и остроумны, отличаются весёлым характером и страстно любят справлять праздники, для которых ничего не жалеют.

*Захаров И.Д. Путевые заметки русского художника.*
*Ч. 1. Спб., 1854. С. 110–113*

### 75. Сялянская хата. З этнаграфічных назіранняў. 1853 г.

Месцяцца яны (вёскі. – *А.С.*) звычайна непадалёку ад рэчкі, каля лугу па адзін бок і каля поля – па другі. Перасякае яе вуліца – з хатамі на адным баку і з хлявамі на другім. Часам касцёл, царква і заўсёды карчма ўзвышаюцца пасярэдзіне ці ў канцы сяла. Па абодвух яго канцах стаяць вароты, якія большую палавіну года не замыкаюцца. Пры варотах часам стаіць крыж, часам бяроза альбо ігруша, альбо пафарбаваны ў белыя і чорныя палосы слуп з надпісам назвы вёскі і колькасці хат, воддаль – мясцовыя могілкі з простымі заімшэлымі крыжамі. Гэта агульны выгляд літоўскай (беларускай. – *А.С.*) вёскі, характэрны як для маіх былых ваколіц, так і іншых ваколіц краю.

Прыгледзімся бліжэй да асобнай хаты з яе прадметамі. Перад нашымі вачамі жыва ўстае яе вобраз, але слабае пяро не здолее некалькімі хай і трапнымі штрыхамі яе апісаць. Вось доўгая і вузкая, павернутая бокам да вуліцы, з чатырма дробнымі вокнамі пабудова. Сцены яе зрублены з акруглых яловых ці сасновых бярвенняў. Накрыта яна саламянай страхой, якая найчасцей пашарпана і цвіце зялёным мохам. Над ёю выдзеўбаны пень, дрэва выконвае функцыю коміна. У сярэдзіне пабудовы відаць вузкія, адзінарныя дзверы з драўлянай закруткай, перад імі ляжыць калода ці камень – своеасаблівы ганак. Акружае яе абкладзеная дрэвам і засыпаная зямлёй прызба, на якой вечарамі ці ў свята любіць наш селянін пасядзець, пагаманіць у коле сям'і ці суседзяў.

Насупраць – невялікі маляўнічы свіронак, які называецца ў некаторых мясцовасцях клеццю. Далей – падпаветка з адкрытым саламяным дахам. Там захоўваюцца сохі, бароны, калёсы і іншыя гаспадарчыя прылады. Невялікая стайня, ці абора, дапаўняе вясковы падворак, агароджаны жардзяным плотам, упрыгожаны часам садком, дзе расце старая расахатая ігруша, стаіць адзін-другі вулей пчол, расце на градах шыракалісты тытунь, жаўцее высокі сланечнік, зелянее вясельная рута, пасаджаная дзявочымі рукамі, ці раскашуецца гожы куст таямнічай, у народных песнях апетай, каліны. На другім баку

вуліцы – гумно са збожжам, шчуплае, як той кавалак хлеба, што спажывае наш селянін, а перад ім – высокі драбінасты пераплот, дзе пад восень убачыш, як на выставе, увесь плён сялянскай нівы, альбо студня з доўгім характэрным жураўлём, а часам – гняздо бусла, таямнічага апекуна шчаслівай, выбранай ім хаты. Буслінае гняздо – уцеха гаспадара, прадмет ушанавання і зайздрасці суседзяў.

Мы апісалі знешні выгляд хаты, цяпер увойдзем у яе сярэдзіну. Там цёмна, часта дымна і вільготна. Галоўная рэч і аздоба хаты – вялікая печ каля парога, на якой у дні марознай зімы грэюцца старыя і дзеці. Паўз сцены – шырокія і тоўстыя лавы з дубовых і сасновых дошак. Перад лавай – доўгі і вузкі стол. Месца ў хаце, дзе яны зыходзяцца з двух бакоў за сталом, называецца покуць – ганаровае месца, дзе садзіцца толькі гаспадар – галава сям'і ці запрошаны ў нядзелю добры госць. У іншым кутку хаты стаяць малыя жорны, якімі мелюць збожжа. Большую палавіну года яны глухія, толькі ўвосень стукаюць на досвітку і вечарамі. Вось унутраны выгляд хаты нашага селяніна, вось карціна, якую, не жадаючы паэтызаваць, мы паказваем ва усёй сваёй праўдзівасці.

У такіх вось хатах нараджаюцца, жывуць і паміраюць людзі нашых вёсак.

*Сыракомля У. Добрыя весці. Мінск, 1993. С. 310–312*

### 76. Жыццё беларускага селяніна. З этнаграфічных назіранняў. 1853 г.

Перыяд дзяцінства і першай маладосці нашага селяніна абодвух полаў можна апісаць некалькімі словамі. Да гадоў дзесяці бегае ён самапасам у адной кашулі і босы. Летам, калі старэйшыя ідуць на работу, ён застаецца разам з равеснікамі ў вёсцы, гуляе з імі, дратуе суседскія агароды, латошыць садавіну альбо забаўляецца ў пяску ці ў гразі. Калі мінае дзесяць гадоў жыцця, а то і раней, ён адзяе шату сталасці – суконную сярмягу і лапці з ліповай кары. Ён памагае ўжо мацеры гадаваць малое дзіця, бацьку – пасвіць раніцай валы, ганяе на начлег коні, потым – ідзе грэбці сена, бо ўжо з дванаццаці гадоў лічыцца як рабочая душа і значыцца ў інвентары. У больш маладзейшым веку, чым колішні рымлянін, атрымлівае селянін сваё грамадзянства, якое выражаецца тут адбываннем летніх талок, што ў некаторых мясцовасцях называюць гвалтамі. Там праходзіць яго перыяд фармавання сэрца і ведаў. Маральнае і духоўнае навучанне абмяжоўваецца для яго засваеннем штодзённай малітвы, мясцовых песень і казак [...]

З пятнаццаці ці васемнаццаці гадоў пачынаецца ў маладога чалавека перыяд сталасці – плечы яго ўзмацнелі, рукі прывыклі да плуга, касы і сякеры, у грудзях пачалі віраваць маладыя пачуцці. Ён спявае

ўжо тужлівую песню: “Палавіна лет мінае, я шчасця не маю... Хаджу, блуджу, хаджу, блуджу, як то слонца ў крузе. Куды пайду, ці што раблю, усё сэрца ў тузе”. І ў сэрцы русакосай дачкі сяла нараджаецца нейкі невыразны сум, у галаву прыходзяць хвалюючыя думкі, ёй хочацца ўпрыгожыць шыю шклянымі пацеркамі, галоўку – кветкай ці чырвонай калінай, паглядзецца ў вадзе, ці да твару яе строі, ці гожая яна сабой.

І наступае для маладых сэрцаў пара кахання. Усё мае цяпер для іх асаблівае значэнне: і сумесная праца ў полі абодвух полаў, і нядзельныя паходы ў царкву ва ўсёй красе іх убогіх строяў, і танец у карчме альбо ў панскім двары на дажынках, і гулянкі на гаманлівых зімовых вечарніцах, узаемныя падражніванні, песні, жартоўныя кпіны [...]

Але наш селянін жыве занадта рэальным жыццём і таму не мае часу аддавацца доўга чарам кахання. Як сон, мінаецца пара пустаты: селянін жа наш перш за ўсё – рабочая істота, і яго сямейныя сувязі – гэта вынік гаспадарчых камбінацый, яны амаль не маюць дачынення да яго кахання. Нельга сказаць, каб гэты малады чалавек не пакахаў ніводнай з вясковых дзяўчат ці, наадварот, кахаў усіх. Але, калі панскі двор ці бацька вырашыць, што яму пара жаніцца, ён з халоднай крывёю пасылае сватоў да ўсіх па чарзе дзяўчат у ваколіцы, не надта клапоцячыся, каб выбраць тую ці іншую. У дзяўчыны ёсць, як быццам, прывілей у выбары, але і тут акалічнасці альбо чужая воля аказваюць рашаючы ўплыў на яе рашэнне. Дастаткова зірнуць на вясельныя песні і абрады, каб пераканацца, што дзяўчына, аддадзеная чужой волі, становіцца хутчэй паланянкай, чым спадарожніцай жыцця будучага мужа [...]

А ў чужой старане, у чужой хаце першыя хвіліны маладой жанчыны рэдка калі бываюць шчаслівыя, бо не любоў, а выпадак зрабіў маладых мужам і жонкай. Трапіўшы ў лона чужой сям'і, не ведаючы яе духу і яшчэ не прыжыўшыся там, даводзіцца ёй сутыкацца з бацькамі і раднёй мужа, таму хутка становіцца косцю сямейнай нязгоды [...]

Але паступова туга мінаецца, маладая жанчына прывыкае да новай сваёй ролі. Агульнасць долі і нядолі збліжае яе з чужой сям'ёй. Пасля турботы і ўцехі мацярынства ды гаспадарчыя клопаты выбіваюць з маладой галавы дзявочыя мроі.

Мужчына пасля шлюбу становіцца адразу самастойным чалавекам. Цяжкая праца, сціплая яда і надта ж прыцягальнае гарачае пітво – вось увесь змест яго жыцця. Панскі двор, блізкае мястэчка, царква і карчма – вось адзіныя пункты, вакол якіх душой і целам кружыцца ён увесь свой век. Жывучы сёння і толькі для сёння, часта паўтарае прымаўку: “Дзень наш – век” і жыве з дзіўнай безагляд-

насцю на заўтра. Забыўшы пра вясновы голад, ледзь толькі дачакаецца больш-менш ураджайнай восені, шчодра спраўляе дзяды (памяць памерлых. – *У.С.*), зернем аплачвае з працэнтамі арандатару даўгі за выпітую гарэлку, потым п'е ў нядзелю за гатоўку, п'е датуль, пакуль нічога не застанецца, і ён просіць новую пазыку, а таксама дапамогі ў пана [...]

Калі глядзіш на яго збоку, ствараецца ўражанне, што з сям'ёй звязвае яго толькі прывычка [...]

Але з аднаго павярхоўнага позірку меркаваць пра душу нашага селяніна было б несправядліва і вельмі крыўдна для яго. Дзіця прыроды, ён не прывык крывіць душой, а чуласць сваю выяўляе ў дзіўных формах. О, ёсць глыбіня у яго грудзях! Паглядзіце, як гэты паважны гаспадар сям'і ў вольную ад турбот хвіліну бярэ на калені малое і ўрачыста садзіцца з ім на прызбе сваёй хаты, паглядзіце, як шмат у сялян песень пра тугу мацеры па сыне, які апынуўся на чужыне ці быў забіты на вайне – ён там і сокал, ён і сонца, і ўся яе ўцеха, а паглядзіце, якая доўгая і ціхая жальба, якая святая памяць пануе ў хаце па нябожчыку! А цяпер спытайцеся, колькі добры пан можа прывесці доказаў прыхільнасці да сваіх падданых! Ёсць, паўтараю, глыбіня пачуццяў у гэтых загарэлых касцістых грудзях, прыкрытых грубай і падранай світкай. Намаляваўшы з натуры знешні выгляд нашага люду, мусім вам падаць без ідэалізацыі яго няроўны ўнутраны свет. Іншым разам, ды і не адзін, можа, раз, калі, карыстаючыся правам мастака, расхінём перад вамі яго сэрца, вы ўбачыце, якая сіла пачуццяў хаваецца ў гэтым дзікім на выгляд, але ціхім дзіцяці прыроды.

У некалькіх словах можна паказаць увесь год нашага люду – з гэтакіх гадоў сплятаецца ўсё яго жыццё. Усю зіму малоціць ён панскае збожжа і возіць з лесу дрэва. Каля святога Мацея, калі, як кажуць, ужо зіма пацее, абходзіць ён шчодрую вялікапосную пятніцу, потым адпраўляе вялікапосную споведзь і ў вясновы голад святкуе Вялікдзень. У пачатку красавіка выходзіць у поле з сахой. У канцы чэрвеня распачынае касьбу і жніво. А ў дзень святога Іллі (20 ліпеня) у яго ўжо, паводле прымаўкі, поўная печ хлебнага цеста. Гэта наступіла для яго пара дастатку – прыходзіць Божае Праабражэнне, час усялякага выспявання, і бачыш часовае багацце ў хатах і гумнах. У дзень Маткі Боскай Зельнай ён асвячае калоссе, а на святога Барталамея, згодна з даўняй прымаўкай, пачынае асеннюю сяўбу. На святога Мікалая аплачвае падаткі, а рэштку гадавых збораў спажывае ў час калядных урачыстасцяў, якія праз колькі дзён шчодра, са свінінай і гарэлкай, спраўляе. А потым пакорліва распачынае сваю звычайную чараду работ і голаду.

Такі перыяд сталасці селяніна. Але вось пачынаецца зіма яго жыцця, пачынаецца досыць позна, бо ў гэтым бясконцым змаганні з працай і нястачамі набыў моцнае фізічнае здароўе. Паступова горбяцца плечы, звешваецца галава, моршчыцца твар, пачынаюць трэсціся рукі. Мужчына, як звычайна ў старасці, набывае шаноўнае імя дзеда і, пакашліваючы, глядзіць на сваё маладое пакаленне, якому з'ўляецца галавой і вышэйшым аўтарытэтам. Жанчына, гожая калісь жанчына, адчувае, як з часам блажэе яе твар, ведае, што імя бабы, якое ёй цяпер даюць і якое прыраўніваецца да слова "чараўніца", абражае яе, яна з абыякавасцю глядзіць цяпер на сваё адзенне і, пачынаючы бурчаць і лаяць маладое пакаленне, памалу рыхтуецца да смерці. Дзед няньчыць сваіх унукаў альбо, калі асіраціў яго Бог, ідзе пасвіць вясковую жывёлу. Баба, седзячы на печы з кудзеляй, прамаўляе пацеры, спявае традыцыйныя песні, расказвае казкі, вучыць малых дзяцей і ўнукаў.

*Сыракомля У. Добрыя весці. С. 313–319*

**77. Палешукі ў этнаграфічных назіраннях А. Кіркора.**

Жизнь этих людей (палешукоў. – *А.С.*), обречённых на вечную борьбу с природою и умеющих, однако, побеждать те жизненные препоны и затруднения, которые им ставит на пути эта природа, должна была сложиться иначе, нежели у их соседей. Она выработала особые черты, взгляды, понятия, выработала без всякого постороннего влияния науки, школы, даже живого слова, доходящего до слуха Полешука только в исключительных случаях. Не может же он часто посещать не только города и местечки, но даже соседние сёла и деревни, отстоящие одна от другой на пятьдесят и более вёрст. Христианство водворилось здесь крепко. Полешук религиозен, набожен, любит обрядность; но он не мог отрешиться от унаследованных в течение многих столетий суеверий, предрассудков и того поэтического настроения, которое сохранилось у него во взглядах на жизнь и атмосферические явления, присущих прапраотцам его ещё со времен язычества. Вот почему наши этнографы так высоко ценят пинские песни и обряды, в которых ещё так часто и так же живо рисуется мифологическая подкладка.

Сама природа указала Полешуку пути для его неутомимой деятельности. Она сделала его земледельцем, скотоводом, охотником, рыболовом. Она же предоставила ему всевозможные средства к преодолению трудностей, поставляемых климатическими условиями. И, в самом деле, в сфере указанной ему деятельности он достиг возможного совершенства. А эти успехи нелегко достались ему, они – следствие той неутомимой тысячелетней борьбы, которую он ведёт со стихией, следствие опытности, которая поставила его вне условий, общеупот-

ребительных в других местностях, но непримиримых к его мрачной полудикой природе. Поселите на берегу Припяти из других стран поселянина, он пропадёт. Полешук же, относительно, преуспевает. Полешук – консерватор по принципу. Он дитя своей природы, он верен заветам своих предков, как в нравах и обычаях, так и в ведении своего хозяйства и прибавочных занятий, для него прибыльных и приятных. Заброшенный в бесконечные, дремучие леса, среди непроходимых болот и тундр, он не знаком ни с какими нововведениями и улучшениями, его обстановка, род занятий, привычек, даже самая наружность не изменились в течение целых столетий. Есть такие жители, которым не удавалось побывать даже в своём уездном городе. Только торговцы, разъезжающие по городам со своими произведениями, да жители местностей, ближайших к пристаням судоходных рек, или совершающие плавание на байдарках и барках – переняли кое-что от других; но они не имеют никакого влияния на большинство, на массы этих болотно-лесных обитателей, для которых самый мир оканчивается за пределами родного селища.

*Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье.*
*Минск, 1993. С 345–346*

**78. Палешукі ў падарожных запісках І. Сербава.**

Полешуки в общем народ умный, живой и трудолюбивый. Со стороны он кажется как будто бы неповоротливым и сонливым, особенно когда бредёт с волом по болоту, но на деле он сметлив, быстр и ловок. Болото кормит полешука, оно даёт ему всё необходимое для жизни. На болоте он пасёт своё гоуядо (статак? – *А.С.*), здесь же на островках он делает загоны и засевает на них хлеба. Живут полешуки в большом достатке, имеют основательные постройки, много скота и достаточно хлеба. Между ними есть богачи, располагающие наличностью в десятки тысяч рублей. Той специфически вонючей грязи и копоти, с которыми обыкновенно принято связывать представление о нашей деревне, на Полесье уже нет. Здесь, наоборот, во всём видна хозяйливость, опрятность и достаточная чистота. Вообще следует отдать должную справедливость полешукам: они [...] выработали среди неприветливой природы крепкую закалённую натуру болотного обитателя, создали здоровый быт и отчасти свою самобытную культуру.

*Сербов И.А. Поездка по Полесью летом 1912 г. //*
*Записки Северо-Западного отдела Русского географического*
*общества. 1914. Кн. 4. С. 84–85*

**79. Беларускія татары.**

В отношении быта Татары [...] разделяются на три класса: 1) владельцев имений с крестьянами; 2) оседлых в Татарских колониях и поселениях и 3) живущих в городах и местечках.

Татары-помещики небогаты, вообще мелкопоместны, не многие из них имеют более 100 душ, и они, по ограниченным своим средствам, предпочитают военное служение. Названия их фамилий или приняты были ими от жён, или переделаны с их давних Татарских имён и прозваний. Дворянские роды Базаревских, Соболевских, Кричинских, Халецких, Сульковичей, Бучацких, Корицких, Беляков, Барановских, Янушевских, Юзефовичей, Адамовичей постоянно отличались и отличаются на поле боя и в гражданских должностях верностию, преданностию законным властям, храбростию, правосудием и безкорыстием [...]

Колонии Татар [...] состоят из усадеб, при которых находится земля, пожалованная им первоначально в равном количестве, а потом увеличенная по заслугам и от прикупки некоторых угодий, а оттого мы видим ныне у одних более, у других менее земли. Главное занятие их составляет земледелие. Среди этих жителей есть также много знаменитых дворянских фамилий.

Они по большей части высокого роста, стройны, черноволосы, цвет лица смуглый, черты лица правильны, физиономия и осанка выразительны; они благородны в обхождении, в разговорах рассудительны, вобще гостеприимны, кротки и воздержны: словом не сходствуют совершенно с Монгольскими племенами. Женщины делаются заметно белее в сравнении со своими прабабками и отличаются скромностию. Усадьбы таковыя были прежде и в королевских и в земских имениях, а сохранившиеся до сих пор названия: Татаровщина, Татарское кладбище и пр. во многих помещичьих имениях свидетельствуют о их существовании там с XV столетия.

Наконец, Татары, поселенные в городах и местечках, включены в мещанское звание, живут в особых кварталах или улицах, называемых Татарскими, и занимаются по большей части, как и в прежние времена, разведением огородних овощей; от сбыта их на здешних рынках приобретают себе весьма значительные выгоды, особливо в г. Минске, где число всех Татар доходит до 400 душ; кроме того некоторые из них занимаются там коннозаводством, и потому для приготовления сена имеют огромные луга на берегах Свислочи. В других городах, например в Пинске Минской губ., выделывают сафьян и кожи; в г. Новогрудке, также Минской губ., главное их занятие составляет извоз (фурманский промысел). Виленские Татары занимались некогда продажею полотна и ниток.

В нравственном отношении они честны, добры, ласковы, живут согласно с другими жителями, но не сливаются с ними. Почти никогда не были они изобличены по уголовным делам. В домашнем быту они миролюбивы, очень редко между ними бывают ссоры и вражды. Потребности у них весьма ограничены.

П.М. Шпилевский в своём путешествии по Полесью и Белорусскому краю описывает их костюм так: "Мужчины приняли костюм белорусских мещан, т.е. ходят в смазных выростковых сапогах, серых, длинных сюртуках и в шапках с козырками. Женщины сохранили свой национальный костюм: они носят яркие, пёстрые, по преимуществу оранжевые и жёлтых цветов, короткие шлафроки, с широкими рукавами; плечи покрывают красными, длинными платками; на шею вешают по несколько снурков крупного бисера, с разными коралловыми и серебряными фигурками, также бусами, переходящими из рода в род и сохранившимися у них, кажется, со времён пленничества (XIV–XV стст. – *А.С.*); в уши вдевают огромныя серебряныя серьги; головы повязывают пёстрыми, ярких цветов платками в виде чалмы, с большими над лбом узлами и длинными по бокам головы концами; ноги большею частию обувают в коротенькие сапожки с подковками и красными каблуками". Детей своих стараются обучать арабской грамоте, и этим почти ограничивается у них знание арабского языка.

*Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. Спб., 1857. С. 46–49*

## 80. Рускія перасяленцы-стараабрадцы.

В губерниях: Витебской и Могилёвской раскольники первоначально жили отдельными слободами, придерживаясь своим обычаям; время и любовь сроднили некоторых потомков давних выходцев с природными Белоруссами.

Старообрядцы трезвы, расторопны и трудолюбивы, но горды и недоверчивы: между ними честное слово действительнее всяких письменных обязательств. В избах и одежде соблюдают чистоту и опрятность; любят жить в довольствии, занимаются домостроительством, пчеловодством, извозами; по деревням скупают мёд, воск, сушёные белые грибы, полотна, нитки; у помещиков в садах закупают яблоки, груши, ягоды, развозят их по городам и местечкам вместе с огородными овощами из нанимаемых в предместьях огородов.

*Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся / сост. М.О. Без-Корнилович. Спб., 1855. С. 240*

### 81. Яўрэі ў Беларусі.

Зараз-жа пасьля “брацкага” прылучэння Беларусі да Масквы [...] Беларусі надавалася роля жыдоўскага[6] “гетто” [...] Перашкаджаючы ўсякімі спосабамі разсяленню жыдоўскага элементу ў каранных расійскіх губ. за “шкадлівасць”, расійскі ўрад, лічыўшы Беларускі край чужым, забраным, паволі стварыў тут астрог для жыдоўскай люднасьці, уключыўшы Беларусь у ганебнейшую ў гісторыі царскай Расіі, прагрымеўшую на ўвесь сьвет, так званую “черту еврейской оседлости”.

Тут на Беларусі, болей чым у сумежных краех жыдоўскага гетто, твaрыўся іх эканамічны і культурно-нацыянальны быт доўгімі годамі.

Зразумела, што гэтая творчасць ні магла ні рабіць уплыву на характар краю, як і сама яна павінна была пераняць нікаторыя яго асобнасьці, праз што тварыўся натуральны абмен культурнымі вартасьцямі паміж жыдамі і беларусамі.

Суседзтво гэтых двух нацыяў тварыло такія жыццёвыя ўмовы і эканамічныя стасункі, у якіх адна нацыя без другой ні магла абыйсціся.

Гандаль і рамёслы ў нашым краі развівалі жыды. І трэба сказаць, што ў гэтым кірунку яны досіць ажывілі наш край і праз увесь час прыносілі яму шмат карысьці. [...] Месты і мястэчкі, у якіх салідную перавагу мело жыдоўскае насяленне, давалі беларускім сялянам мажлівасьць нормальнага тавараабмену. Гандляры і рамеснікі таксама былі ніабходзімы ў гэтым глухім (у бытнасьці пад Расіяй) краю, дзе ні было ніякай эконамічнай культуры. Кавалі, шаўцы, краўцы былі людзі першай важнасьці і пашаны ў вёсках. Да іх прыходзілі ў свой час ні толькі па справах іх спэцыяльнасьці, але так сабе: “пагутарыць з разумнымі людзьмі”, параіцца аб розных справах і г.д.

Жыды стараліся зменьшыць цэны на прадукты, як у рамёслах, таксама і ў гандлю; яны здавальняліся драбніцамі, бо фізычныя патрэбнасьці былі ў іх вельмі малыя. Дзякуючы пасрэдніцтву ўсюды бываючага жыда-скупшчыка, селянін збываў на мейсцы ўсе свае прадукты. А скупшчык-жыд пры ўсёй сваёй вялікай працы быў такі самы бедны, як яго сусед – селянін [...]

*Бядуля З. Жыды на Беларусі. Бытавыя штрыхі. Менск, 1918. С. 5-9*

---

[6] У канцы XVIII – пачатку XX ст. яўрэяў у Беларусі называлі жыдамі. Нічога зняважлівага ў гэтым слове не было.

**82. Цыганы ў Беларусі.**

Царскі ўрад (пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. – *А.С.*) пачаў прымаць розныя загады, каб пасяліць цыганоў па вёсках. Яшчэ пасля першага падзелу 1772 г. Кацярына II выдала ўказ аб залічэнні цыганоў у стан сялянства і аб зборы з іх падаткаў. У 1791 г. з'явіўся ўказ, паводле якога цыганам быў вызначаны гадавы тэрмін для аселага пасялення па вёсках. За выкананнем пастановы сачылі ваяводскія камісіі і ўлады на месцах. Але гэтыя загады [...] не мелі жаданых вынікаў.

У 1812 г. цыганам у гарадах і мястэчках было загадана прыпісацца да мяшчанскага стану. Тады багатыя цыганы запісаліся ў купцы, а больш бедныя – у мяшчане. З тымі, хто не выканаў указу, абыходзіліся як з бадзягамі. Але новазапісаныя мяшчане і купцы ўлетку ўсё адно вялі вандроўнае жыццё [...]

Цыганы стараліся сяліцца непадалёку ад Слоніма, Менска, Барысава, Слуцка і ў мястэчку Мір. Яны займаліся пераважна конегадоўляй, токарствам, выраблялі скуры. Зробленыя цыганамі ліповыя і дубовыя міскі і талеркі славіліся сваёй прыгожаю аздобаю. Былі сярод цыганоў таксама шаўцы, кавалі, слесары.

Яшчэ з часоў цыганскага караля Яна Марцінкевіча славу цыганскае сталіцы атрымала мястэчка Мір. Там цыганы заснавалі папяровыя, суконныя, ткацкія і футравыя мануфактуры, якія квітнелі ў XVIII ст., а ў сярэдзіне наступнага пачалі занепадаць, але ткацкія вырабы мірскіх цыганоў па-ранейшаму мелі добры попыт.

Шмат хто з цыганоў ў XIX ст. пачаў арэндаваць агароды, а некаторыя мелі і ўласныя дамы. Аднак значная частка, як і раней, з вясны да восені вандравала, жыла ў намётах, а зімой прасілася да сялян у еўні або ў старыя свабодныя хаты.

Цыганы паміж сабой заўсёды гаварылі на сваёй мове, а з астатнімі на беларускай і расійскай. Вядома, што ў мінулым стагоддзі (XIX. – *А.С.*) мужчыны звычайна апраналіся ў расейскае сялянскае адзенне. Жанчыны насілі кашулі з белага палатна і паркалёвыя спадніцы яркага колеру, а зверху так званую "капу" – кавалак якой-небудзь шарсцяной (часам баваўнянай) тканіны, пашытай так, каб свабодна праходзіла галава і каб апранаха прыкрывала левую руку. На галаву надзявалі яркую хустку, павязаную накшталт турэцкай чалмы. На шыі насілі мноства каралёў і маністаў. Узімку апраналі паўкажушкі на заечым або кашачым футры.

*Калінін В. Цыганы на Беларусі // З гісторыяй на "Вы". Вып. другі. Мінск, 1994. С. 337–338*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ці можна лічыць дзейнасць філаматаў і філарэтаў першай хваляй беларускага нацыянальнага адраджэння? Калі так, то ў чым праяўляўся беларускі патрыятызм удзельнікаў тайных таварыстваў?

2. Якое месца ў планах рэвалюцыянераў-дзекабрыстаў займала Беларусь? Як вы лічыце, чаму былы філамат М. Рукевіч прыняў удзел у заснаванні дзекабрысцкага Таварыства ваенных сяброў?

3. Якія сацыяльныя групы насельніцтва Беларусі ўдзельнічалі ў паўстанні 1830–1831 гг.?

4. Ці існавала ідэя, якая аб'ядноўвала ўсіх дзеячаў грамадскага руху 20–30-х гг. у Беларусі?

5. Чым адрознівалася дзейнасць рэвалюцыйных дэмакратаў сярэдзіны 30–40-х гг. ад дзейнасці іх папярэднікаў у 20 – пачатку 30-х гг.?

6. Чаму лёс рэвалюцыйных дэмакратаў 30–40-х гг. склаўся больш трагічна, чым іх папярэднікаў?

7. Якім чынам працягвалася паланізацыя беларускага насельніцтва пасля далучэння Беларусі да Расіі?

8. Якія вышэйшыя навучальныя ўстановы існавалі ў Беларусі і Літве ў першай трэці XIX ст.? Якую ролю яны адыгрывалі ў культурным развіцці? Што было прычынай закрыцця Полацкай езуіцкай акадэміі?

9. Пракаменціруйце сцвярджэнне, што ў творах Я. Баршчэўскага ўвасобілася "першае праяўленне духа беларускага народу".

10. Чаму так трагічна склаўся лёс П. Багрыма? Ці мог ён стаць беларускім Бёрнсам або Шаўчэнкам?

11. Якое месца займала Беларусь у жыцці і творчасці Адама Міцкевіча?

12. Ахарактарызуйце ўмовы развіцця беларускай культуры ў першай палове XIX ст.?

13. Што, на погляд этнографа і гісторыка П. Баброўскага, сведчыла пра існаванне беларусаў і беларускай культуры?

14. Як узбагачалі культуру беларускай зямлі культурныя традыцыі і здабыткі татар, яўрэяў, палякаў, рускіх перасяленцаў-стараабрадцаў, цыган?

**Раздзел II**

# Беларусь у 60–90-я гг. XIX ст.

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫЯ І ПАЛІТЫЧНЫЯ ПЕРАМЕНЫ 60–70-х гг. XIX ст.

### 83. Са справаздачы магілёўскага губернатара за 1858 г.

Земледелие составляет главный предмет занятий дворян Могилёвской губ., так как по недостатку отчасти капиталов, отчасти предприимчивости другие отрасли промышленности в настоящее время ещё мало развиты. Но и самое земледелие находится почти повсеместно на низкой ступени и только в благоприятные годы вполне вознаграждает труд земледельца и обеспечивает существование его. Главная, основная причина неудовлетворительного состояния сельского хозяйства заключается в существовавших доселе крепостных отношениях, при которых крестьяне, не имея возможности располагать работою своею и не имея прав собственности на обрабатываемую ими землю, неохотно употребляли труд свой на возделывание полей, которые всегда могли быть отобраны от них [...]

Если крепостное право, с одной стороны, парализовало деятельность крестьян, то, с другой стороны, оно препятствовало развитию и усовершенствованию земледелия в помещичьих хозяйствах и совершенно разрушало благосостояние дворянства. При всеобщей почти бедности крестьян, произведённой тем же крепостным правом, которое в белорусских губ. гораздо более имело характер личного рабства, чем в губ. великороссийских, могилёвские помещики были вынуждены снабжать крестьян на свой счёт рабочим скотом, часто кормить их в продолжение по крайней мере 6 месяцев в году и платить за них казённые подати. Барщинная работа, небрежно отбываемая слабосильными лошадьми и волами мелкой породы, поставляла их в необходимость, при огромной трате рабочих сил, довольствоваться плохой обработкой полей, производительность которых с года на год уменьшалась.

Таким образом, в настоящее время Могилёвская губ. приобрела репутацию губернии бесплодной, между тем как некоторые уезды оной, как-то: Гомельский, Рогачёвский, отчасти Быховский и Мсти-

славский – могут по качеству почвы быть причислены к самым плодородным, во всех же остальных, за исключением лишь некоторых песчаных местностей, земля при хорошей обработке и достаточном удобрении даёт весьма удовлетворительный урожай [...]

*Хрестоматия по истории Белоруссии... С. 211–212*

## 84. З сакрэтнага пісьма віленскага генерал-губернатара. 25 верасня 1857 г.

Представители дворянства трёх губ. (Виленскай, Гродзенскай и Ковенскай. – *А.С.*), по тщательном обсуждении всех обстоятельств возложенного на них дела, в особых учреждённых для того в городах Вильно, Гродно и Ковно Комитетах, представили мне следующие свои откровенные соображения:

По Виленской губ.

Из числа семи шесть уездных предводителей, поддержанные большинством членов Комитета, изъяснили: 1.Обсуждая все возможные средства к улучшению быта крестьян, в т.ч. и усовершенствованию существующего инвентарного положения, они приведены к тому убеждению, что все таковые постановления не могут далее представлять верной поруки в прочном устройстве крестьянского сословия и что основанием этого устройства может быть только прекращение крепостного состояния, при неприкосновенности вотчинных прав помещиков на землю [...]

По Гродненской губ.

Комитет, обсудив предложенное ему дело, также единогласно признал полезным и выгодным как для крестьян, так и для дворянства прекращение крепостного права и сопряжённых с ним особенностей, при оставлении, однако, ненарушимыми прав владельцев в их собственности [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 373–375*

## 85. З імператарскага рэскрыпта на імя віленскага генерал-губернатара Назімава. 20 лістапада 1857 г.

Виленскому военному, Гродненскому и Ковенскому генерал-губернатору.

В губерниях: Ковенской, Виленской и Гродненской были учреждены особые Комитеты из предводителей дворянства и других помещиков для рассмотрения существующих там инвентарных правил.

Ныне министр Внутренних дел довёл до моего сведения о благих намерениях, изъявленных сими Комитетами относительно помещичьих крестьян означенных 3-х губ.[1]

Одобряя вполне намерения сих представителей дворянства Ковенской, Виленской и Гродненской губ., как соответствующих моим видам и желаниям, я разрешаю дворянскому сословию оных приступить теперь-же к составлению проектов, на основании коих предположения Комитетов могут быть приведены в действительное исполнение, но не иначе, как постепенно, дабы не нарушить существующего ныне хозяйственного устройства помещичьих имений.

Для сего повелеваю:

1. Открыть теперь же в губерниях Ковенской, Виленской и Гродненской, по одному в каждой приуготовительному Комитету, а потом для всех трёх губ. вместе одну общую Комиссию в г. Вильне [...]

Губернские Комитеты, по открытии их, должны приступить к составлению по каждой губ. [...] подробного проекта об устройстве и улучшении быта помещичьих крестьян оной, имея при этом в виду следующие главные основания:

1. Помещикам сохраняется право собственности на всю землю, но крестьянам оставляется их усадебная оседлость, которую они в течение определённого времени приобретают в свою собственность посредством выкупа; сверх того предоставляется в пользование крестьян надлежащее, по местным удобствам, для обеспечения их быта и для выполнения их обязанностей перед помещиком количество земли, за которое они или платят оброк, или отбывают работу помещику.

2. Крестьяне должны быть распределены на сельские общества; помещикам же предоставляется вотчинная полиция и

3. При устройстве будущих отношений помещиков и крестьян должна быть надлежащим образом обеспечена исправная уплата государственных и земских податей и денежных сборов [...]

Открывая таким образом дворянскому сословию Ковенской, Виленской и Гродненской губ. средства привести благие его намерения в действие, на указанных мною началах, я надеюсь, что дворянство вполне оправдает доверие, мною оказываемое сему сословию призванием его к участию в сем важном деле, и что при помощи Божией и при просвещённом содействии дворян дело сие будет кончено с надлежащим успехом.

---

[1] Маецца на ўвазе прапанова губернскіх камітэтаў аб адмене прыгоннага ладу пры недатыкальнасці памешчыцкай зямельнай уласнасці.

Вы и начальники вверенных вам губерний обязаны строго наблюдать, чтобы крестьяне, оставаясь в полном повиновении помещикам, не внимали никаким злонамеренным внушениям и лживым толкам [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 379–380*

### 86. З прамовы Аляксандра II на агульным сходзе Дзяржаўнага савета 28 студзеня 1861 г.

Дело об освобождении крестьян, которое поступило на рассмотрение Государственного совета, по важности своей я считаю жизненным для России вопросом, от которого будет зависеть развитие её силы и могущества [...]

Я надеюсь, господа, что при рассмотрении проектов, представленных в Государственный совет, вы убедитесь, что всё, что можно было сделать для ограждения выгод помещиков, сделано; если же вы найдёте нужным в чём-либо изменить или добавить представляемую работу, то я готов принять ваши замечания; но прошу только не забывать, что основанием всего дела должно быть улучшение быта крестьян и улучшение не на словах только и не на бумаге, а на самом деле [...]

Взгляды на представленную работу могут быть различны. Потому все различные мнения я выслушиваю охотно, но я вправе требовать от вас одного, чтобы вы, отложив все личные интересы, действовали как государственные сановники, облечённые моим доверием. Приступая к этому важному делу, Я не скрывал от Себя всех тех затруднений, которые нас ожидали, и не скрываю их и теперь, но, твёрдо уповая на милость Божию и уверенный в святости этого дела, Я надеюсь, что Бог нас не оставит и благословит нас кончить его для будущего благоденствия любезного нам Отечества [...]

*Русская старина. 1880. № 2. С. 375–378*

### 87. З “Мясцовага палажэння аб пазямельным упарадкаванні сялян у губ. Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай і часткі Віцебскай”. 19 лютага 1861 г.

[...] 3. С обнародованием настоящего Положения оставляются в постоянном пользовании временнообязанных крестьян, за установленные на основании сего Положения повинности в пользу владельцев, все те усадебные и полевые земли и угодья, коими крестьяне пользовались до утверждения настоящего Положения, за исключением лишь случаев, указанных в нижеследующих трёх статьях.

4. Не включаются в состав крестьянского надела те угодья пахотные и сенокосные, которые пахались и убирались крестьянами из

части произведённого или которые владелец отдавал крестьянам временно, сверх постоянного их надела, за плату деньгами или произведениями.

5. Равным образом те помещики из губ. Виленской, Гродненской, Ковенской и Минской, которые после введения инвентарных правил, при переводе крестьян на оброк, отдали им сверх инвентарного надела в оброчное пользование все свои фольварковые земли или часть оных, имеют право, по надлежащем удостоверении в том местного мирового посредника и с разрешения губернского по крестьянским делам присутствия, обратить эти фольварковые земли в своё непосредственное распоряжение.

6. Если бы за оставление в пользование крестьянам всего нынешнего надела [...] осталось в непосредственном распоряжении помещика менее трети общего количества принадлежащих ему угодий, то помещик имеет право удерживать в своём непосредственном распоряжении до трети общей совокупности удобных земель [...]

8. Помещик ни в коем случае не обязан увеличивать впоследствии надел, оставляемый в постоянное пользование крестьянам на основании настоящего Положения [...]

*Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1 / под ред. К. Шабуни, В. Жигалова. Минск, 1983. С. 36*

### 88. З рапарта пінскага земскага спраўніка. Люты-сакавік 1861 г.

И хотя до сих пор порядок нигде нарушаем не был, но по слухам мне известно, что между крестьянами возрождается ропот и недоверие с той стати, что народ этот в здешней стороне до того необразован, что не в состоянии понять, в чём заключается личная свобода; они полагали, что, будучи освобождены от крепостной зависимости помещиков, освобождаются от всяких в пользу их повинностей и что состоящие в пользовании крестьян угодья перейдут в их собственность безвозмездно [...]

*Восстание 1863 г. Материалы и документы. М., 1964. С. 521*

### 89. Са справаздачы магілёўскага губернатара за 1861 г.

Крестьян Могилёвской губ. [...] высочайший е.и.в. Манифест об улучшении быта их застал в положении рабства в полном смысле этого слова. Они были рабами не столько по закону, сколько на самом деле, по убеждению даже, что иначе и быть не может. Они переносили тяготы излишней барщины, жестокие наказания, посмеяние над честью жён и дочерей как нечто должное, доставшееся им в удел

от предков. Только в последней крайности или при постороннем побуждении они решались жаловаться местным властям или убегали из своих деревень и бродили без видов до перемены владельца или до других благоприятных обстоятельств. При таких условиях весть о свободе не могла быть ими встречена иначе как с горячей благодарностью, но не удивительно также, что под свободою они понимали прежде всего совершенное уничтожение ненавистных им обязательных отношений и, преимущественно, барщинной повинности к помещикам. Что же касается до дарованных им гражданских и общественных прав, то понятие о выгодах этих было для них менее доступно, а потому и менее удовлетворяло их ожиданиям.

Поэтому естественно, что по объявлении им высочайше утверждённого Положения о крестьянах и в Могилёвской губ. обнаружились, хотя и в незначительных размерах, во многих местах между крестьянами беспокойства и беспорядки; эти беспорядки заключались преимущественно в том, что крестьяне переставали служить барщину или требовали от помещиков других уступков вследствие сложного понимания Положения. Редко, впрочем, беспорядки эти требовали несколько строгих мер к их прекращению, нигде они не принимали характер волнения или возмущения против органов правительства и весьма часто прекращались одним убеждением или разъяснением Положения [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. ІІ. С. 392–393*

### 90. З рапарта міністра ўнутраных спраў аб сялянскіх хваляваннях з 1 студзеня 1861 г. па 19 лютага 1863 г.

День обнародования Манифеста не мог не сделаться в каждом месте днём общего народного праздника [...]

За первым впечатлением радости и сочувствия к крестьянской реформе наступила другая пора [...]

Не видя сразу достаточных немедленных улучшений, крестьяне пришли в недоумение: в чём воля? Объяснениям помещиков, священников и чиновников они не поверили. Не удовлетворились также тем, что им читали из Положений полуграмотные их чтецы, которых они нанимали целыми деревнями. Чтецы эти, не понимая сами, что читали, путали статьи, относящиеся к разным периодам, толковали их криво и становились невольными подстрекателями. Были также примеры несомненной злонамеренности или корысти.

[...] Март прошёл спокойно, но с апреля месяца начались и шли, постоянно возрастая в числе, донесения из разных губ. о возникающих между крестьянами недоразумениях и волнениях [...]

В том же апреле месяце было сообщено о волнениях крестьян Виленской губ. в уездах: Виленском, Ошмянском, Лидском и Свенцянском [...], в Гродненской – в уездах: Белостокском, Брестском, Пружанском, Слонимском, Сокольском, Бельском и Кобринском и в инфляндских уездах Витебской губ. [...]

Возникшие беспорядки в 4 уездах Виленской губ. наибольшие размеры приняли в одном из них – Ошмянском у. Здесь крестьяне не только отказывались от отбывания всяких повинностей, но даже нанесли побои тем из одновотчинных поселян, которые не разделяли их мнения. Сборищем волновавшихся крестьян служило м. Ивье, имение гр[афини] Замойской (4 тыс. душ), где под предводительством двух главных подстрекателей собрались крестьяне не только из окрестных мест Виленской, но даже и из Новогрудского у. Минской губ. Толпа расположилась табором на базарной площади, объявила, что государь даровал им свободу и они потому никаких повинностей исполнять не обязаны. Продолжительные увещания не имели успеха. Для прекращения этих беспорядков в м. Ивье было введено 4 роты солдат, при содействии которых толпа была разогнана и подстрекатели арестованы, после чего крестьяне изъявили полную покорность и дали обещание повиноваться властям и отбывать установленные повинности. С прекращением беспорядков в Ивье восстановилось спокойствие между крестьянами и в других уездах, без употребления строгих мер; только наиболее упорные и подстрекатели были подвергнуты полицейскому наказанию [...]

*Хрестоматия по истории Белоруссии... С. 281–282*

### 91. Характар рэформ 60–70-х гг. у Беларусі.

Царизм [...] осуществил в Белоруссии фактически то, о чём он мечтал как принципиальный противник всяких представительных и бессословных начал, на что не мог пойти в стране в целом. Он не ввёл здесь земства, лишил выборности мировых судей, ввёл новые судебные учреждения лишь после того, как свёл до минимума независимость судей и гласность судопроизводства, и изъял политические дела из суда присяжных, ограничил контингент учащихся средних и высших учебных заведений, свёл на нет дворянское выборное сословное представительство, лишив местных помещиков возможности выступать с общественно организованными требованиями перед правительством. Уступки политического характера были здесь минимальны и совершенно безвредны для абсолютизма.

*Самбук С. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. Минск, 1985. С. 109*

**ПЫТАННІ**

1. Чаму правячыя колы Расіі пайшлі на адмену прыгоннага ладу? Чаму ў сваёй прамове на сходзе Дзяржаўнага савета 28 студзеня 1863 г. Аляксандр II падкрэсліў, што справа вызвалення сялян мае для Расіі жыццёвае значэнне?
2. Як планавалі правесці адмену прыгоннага ладу памешчыкі Беларусі? Ці здзейсніліся іх пажаданні?
3. Як сялянства ўспрыняло рэформу 1861 г.? Ці можна пагадзіцца са сцвярджэннем міністра ўнутраных спраў, што “день обнародования Манифеста не мог не сделаться... днём общего народного праздника”? Аргументуйце свой адказ.
4. У якіх гаспадарках выкарыстоўвалася новая сельскагаспадарчая тэхніка?
5. Чаму, за выключэннем адмены прыгоннага ладу, іншыя рэформы 60–70-х гг. у Беларусі або не праводзіліся або праводзіліся ў абмежаваным выглядзе?

## СТАНОВІШЧА ЭКАНОМІКІ Ў 60–90-Х гг. XIX ст.

### 92. Са справаздачы магілёўскага губернатара за 1889 г.

В значительной ещё части помещичьих имений задолженность увеличивается, леса продаются, запашки уменьшаются, поля обращаются в залежи или отдаются с доли. Эти имения, постепенно ослабляясь, близятся к падению; после чего они должны перейти или в руки крестьян, или же в руки землевладельцев, число коих тоже немалое ныне, ведущих хозяйство аккуратно, а нередко и в образцовом порядке с улучшенным полеводством и усовершенствованными машинами и орудиями обработки.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 643*

### 93. Са справаздачы магілёўскага губернатара за 1860–1861 гг.

Немногие их них (прамысловых прадпрыемстваў губ. – *А.С.*) имеют действительное значение фабрик или заводов и приносят в торговом значении существенную пользу для губернии. По большей части это скорее ремесленные заведения, основанные на ручном производстве, которые то открываются, то закрываются.

[...] К главным предметам вывоза из произведений фабрик и заводов Могилёвской губ. относятся: кожа, стекло, смола, скипидар и изделия чугунно- и медно-плавильных заводов, затем сахар, крупа, крупчатая мука, бумага, частью потребляются на месте, частью выво-

зятся в соседние губернии; прочие же произведения фабрик и заводов потребляются по преимуществу внутри губернии.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 707*

### 94. З даведкі фабрыканта Шарашэўскага аб вытворчасці на тытунёвай фабрыцы ў Гродне. Снежань 1895 г.

Фабрика была основана в 1862 г. [...]

По вступлении И.Л. Шерешевского на фабрику (1873 г. – *А.С.*) она приняла тотчас оживленный характер: он внёс в дело значительный капитал и стал работать энергично. Вместо практиковавшегося до тех пор способа покупки табаку из посреднических рук стали мало-помалу покупать его на плантациях в России, турецкий табак в Одессе и сигарный за границей. Табачное производство фабрики, доходившее раньше до 40 тысяч руб. в год, стало постепенно разрастаться. В 1878 г. был приобретён дом для фабрики, поставлен паровик и начали изготовлять курительный табак на крошильных станках. Два года спустя был построен по правую сторону фабрики каменный дом, наняли ещё рабочих, число которых увеличивалось с каждым годом, так что в 1882 г. оно достигло 600 [...]

В настоящее время фабрика действует при паровом котле в 30 л.с. и расположена в 110 комнатах, в коих работает до 1500 человек. Годовое производство в 1894 г. простиралось на сумму 1,5 млн. руб., а в сем 1895 г. – до 2 млн. руб. [...]

Фабрика имеет собственно ею открытые склады для продажи изделий в г. Варшаве, Лодзи, Ломже, Люблине, Вильно и распространяет свой сбыт по Северо-Западному краю и отчасти другим районам. Кроме того фабрике принадлежат склады для сырого табаку в некоторых отдельных зданиях г. Гродно, а также в местах произрастания табаку. Вне фабрики устроена коробочная мастерская, в коей работает до 100 человек, столярная – для выделки ящиков, занимающая 30 рабочих. Благодаря фабрике, нуждающейся в печатании этикеток, в городе возникли две обширные типографии, доставляющие заработок нескольким десяткам рабочих [...]

С помощью субсидии казны фабрика открыла училище для малолетних девочек числом до 100. С 1896 г. открывается также при фабрике отделение ссудо-сберегательной кассы Государственного банка. В период своего существования фабрика удостоилась следующих медалей:

в 1882 г. на Московской Всероссийской выставке, в 1883 г. Амстердамской, в 1885 г. в Нью-Орлеане [...], в 1889 г. на Всемирной Париж-

ской выставке, в 1894 г. в Парижской Академии наук и искусств, в 1893 г. на Всемирной выставке в Чикаго.

Фабрикант Шерешевский.

*Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 2. / под ред. М. Бича, А. Михальченко. Минск, 1990. С. 125–126*

**95. Колькасць прамысловых прадпрыемстваў і рабочых. 1897 г. Табліца.**

| Губерні | Колькасць прадпрыемстваў | Колькасць рабочых | Кошт прадукцыі (тыс. руб.) |
|---|---|---|---|
| Віленская | 355 | 7 290 | 11 558 |
| Віцебская | 304 | 4 861 | 5 331 |
| Гродзенская | 843 | 17 967 | 21 646 |
| Менская | 496 | 8 450 | 8 618 |
| Магілёўская | 482 | 8 912 | 8 697 |
| Усяго: | 2 480 | 47 480 | 55 879 |

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 736*

**96. Рост насельніцтва гарадоў Гродзенскай губ. 1861–1896 гг. Табліца.**

| Горад | 1861 | 1896 |
|---|---|---|
| Гродна | 21 176 | 64 183 |
| Брэст | 17 859 | 41 757 |
| Слонім | 10 590 | 27 495 |
| Ваўкавыск | 5 074 | 9 047 |
| Пружаны | 4 788 | 8 659 |
| Кобрын | 8 749 | 14 414 |
| Беласток | 16 211 | 62 991 |
| Бельск | 3 571 | 7 940 |
| Саколка | 3 279 | 6 752 |

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 733*

**ПЫТАННІ І ЗАДАННІ**

1. Якія працэсы пачалі адбывацца ў сельскай гаспадарцы пасля адмены прыгоннага ладу?

2. Ахарактарызуйце працэсы, якія мелі месца ў развіцці прамысловасці 60–90-х гг. XIX ст. Пра якія тэндэнцыі ў эканамічным жыцці сведчыць рост колькасці гарадскога насельніцтва?

## ПАЎСТАННЕ 1863–1864 гг. КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ.

### 97. Мінск напярэдадні паўстання.

Што такое быў Мінск у сярэдзіне мінулага стагоддзя? У той час ён налічваў за сваімі плячыма васемсот год гісторыі. Быў калісьці багаты і слаўны, але за апошнія дзвесці год падупаў і ператварыўся ў вельмі правінцыяльны губернскі горад. Некалькі дзесяткаў вуліц, дзесяткі тры палацаў, з сотню добрых дамоў, кляштараў, цэркваў і касцёлаў, 35–40 тыс. насельніцтва. На месцы цяперашняга паштамта – поле, па Свіслачы – гарадская мяжа, на месцы тэатра імя Я. Купалы і далей – яр, куды скідалі смецце, падпісчыкаў газет было мала, гасцініц не было.

І, аднак, гэты невялікі горад ніколі не быў горадам вернападданых, а ў сярэдзіне XIX ст. настрой яго жыхароў зрабіўся ўжо рэзка антыўрадавы. Ідыёцкая палітыка ўлад, ганебная для айчыны, сацыяльны і нацыянальны ўціск, бяздарнасць і грубасць усёй дзяржаўнай машыны не маглі не выклікаць у душах сумленных людзей гнеў і пагарду. [...]

На працягу цэлых дзесяцігоддзяў рассаднікам крамолы ў горадзе была гімназія. Нягледзячы на рэжым, на аблюбаваныя начальствам розгі і стаўленне на калені (а можа, менавіта і дзякуючы гэтаму), вучні яе ненавідзелі самаўладства. Увесь час узнікалі інцыдэнты.

Тадэвуш Корзан, мінчанін, удзельнік паўстанцкага атрада на Ковеншчыне, супрацоўнік герцэнаўскага "Колокола", пазней успамінаў, што аднаго вучня білі розгамі за патрыятычныя непадцэнзурныя вершы, а другога, які парэзаў нажом партрэт Мікалая І, здалі ў салдаты [...]

У 1857 г. у Мінскай гімназіі было 538 вучняў, перад паўстаннем – 600. Пасля паўстання – 240... І нездарма пры першых прыкметах рэвалюцыйнага выбуху ля дзвярэй гімназіі паставілі варту на чале з маёрам Варанцом. Губернатар ведаў, што робіць! Ва ўсіх атрадах пазней змагаліся мінскія гімназісты. Так, пасля разгрому атрада Карла Свянтолдыча сярод забітых быў вучань сёмага класа Мінскай гімназіі Сулістроўскі, а сярод акрываўленых вязняў, без ніякай лекарскай дапамогі прывезеных у Мінск, хлопчык дзесяці-дванаццаці год, вучань першага класа гімназіі Бароўскі. Нават дзіцячыя сэрцы не цярпелі несправядлівасці! [...]

І справа была вядома не толькі ў гімназіі. Агульны дух большай часткі гараджан у Мінску быў непакорлівы і бунтарскі. Разначынцы, шляхта, гарадская бедната, сярэднія класы ненавідзелі стала і зацята. Холад насельніцтва зразумеў нават Аляксандр II, які наведаў Мінск восенню 1858 г. Дарэчы, цікава, што пасля гэтага візіту імператары больш у горадзе не бывалі. Не хочам сказаць, што пабойваліся, але, ва

ўсякім разе, ведалі, што будуць адчуваць сябе няёмка. Мінск заусёды быў нязручным для тыранаў горадам.

Агульны дух непаслушэнства і адкрытых маніфестацый валодаў Мінскам у тыя часы. Калі у 1861 г. прыйшла звестка пра смерць выдатнага польскага дзеяча і гісторыка Іаахіма Лялевеля, гараджане вырашылі адправіць набажэнства за ягоную душу. Губернатар добра ведаў, што за асоба Іаахім Лялевель, і набажэнства не дазволіў. І тады горад знайшоў выхад. Якраз памёр нікому не вядомы цёзка Лялевеля Іаахім Кудзіновіч. Набажэнства было заказана па ім, балазе і касцёл і царква ў такіх выпадках ужываюць толькі імя. Начальства было ў непаразуменні: такая нязначная асоба, а на набажэнстве – палавіна горада.

У сувязі з расстрэлам дэманстрантаў у Варшаве ўзнікла і другая форма маніфестацый: нашэнне жалобных убораў. Жанчыны насілі чорныя сукні, не ездзілі на балі і не танцавалі. У жалобе быў увесь горад.

Рэвалюцыйная агітацыя працвітала [...] Распаўсюджвалася нелегальная літаратура, была створана рэвалюцыйная арганізацыя. Многія людзі на знак дэманстрацыі хадзілі ў народных беларускіх касцюмах, каб нават вонкава паходзіць на мужыкоў.

Душою мінскіх “чырвоных” была Каміла Марцінкевіч, дачка славутага беларускага пісьменніка. Яе гурток, па словах В. Кошчыца, “згуртаваў усё, што было самае патрыятычнае”. Інкрымінаваўшы дзяўчыне спяванне ў катэдральным касцёле патрыятычнага гімна і нашэнне жалобных убораў па забітых у Варшаве, улады абвясцілі яе вар’яткай і пасадзілі ў дом для вар’ятаў, пасля вымушаны былі выпусціць (ля дома ўвесь час збіраліся людзі і кідалі да агароджы кветкі), але пазней пасадзілі ў турму і выслалі.

Мінчане сустракалі ссыльных, якіх везлі пасля варшаўскіх падзей у Сібір, ля заставы горада і дапамагалі ім: давалі ежу, грошы і вопратку [...]

Бунт вось-вось павінен быу выбухнуць. У паветры пахла порахам. У гімназіі і ў іншых установах збіралі грошы на зброю і самую зброю. Людзі ехалі з грашыма за мяжу, каб закупіць стрэльбы. Жыхары адкрыта казалі: “Каго не будзе з намі, таму кулю ў лоб; прыйшоў час знішчаць ворага ўсімі мерамі” [...]

*Караткевіч У. Горад паўстае. 1863–1864 г. //*
*Збор твораў у 8 т. Т. 8, кн. 2. Мінск, 1991. С. 256–259*

**98. З успамінаў удзельніка паўстання Фелікса Ражанскага.**

В Гродно в 1861 г., успешно завершив юридическое образование, приехал Константин Калиновский с целью создания конспиративного кружка и политической деятельности. На основе личных знакомств и связей такой кружок ему удалось создать. В него вошли: Эразм Заблоцкий, губернский секретарь, доктор Юзеф Заблоцкий, Валерий Врублевский, офицер, инспектор егерской школы, Ян Ванькович, офицер, Феликс Рожанский и Ильдефонс Милевич, землемеры, ксёндз Гинтовт из Гродно, ксендзы Ян Зарижский и Игнатий Козловский из окрестностей города и ещё несколько иных лиц [...]

Все вышеназванные придерживались демократических принципов и их называли партией красных потому, что они выдвигали программу подготовки масс к народной революции, которая ставила своей целью свержение самодержавия и уничтожение крепостничества, а также достижение национальной самостоятельности...

Доктор Заблоцкий писал патриотические стихи на польском языке, Рожанский – на белорусском. Последний совместно с Константином Калиновским издавал демократическую газету “Мужицкая правда”, которая подписывалась псевдонимом “Ясько-гаспадар из-под Вильни”. Несколько песен и “гутарак” на том же языке издал Бронислав Шварце в Белостоке.

Конспиративный кружок расширил своё влияние в Гродненской, Виленской, Минской и Ковенской губ., посылая на должности сельских учителей и волостных писарей студентов и вообще патриотическую молодёжь, которая активно проводила революционную работу, действуя с энтузиазмом и самопожертвованием.

Народ ждал избавления от самодержавного и крепостнического гнёта и всюду относился к агитаторам доброжелательно, многочисленные доказательства чего были даны как накануне, так и в ходе самого восстания.

В целях ознакомления с действительным настроением людей, а также для противодействия агитации, проводимой правительством посредством попов и иных угнетателей народа, Калиновский и Рожанский регулярно совершали успешные пешеходные странствия по всему краю, переодеваясь в различные одежды. Завязывая контакты с людьми, распространяли они свою газету и разъясняли крестьянам, на чьей стороне надо бороться и каким путём можно сбросить ненавистный гнёт. Благодаря этой работе отряды смогли продержаться в Литве от весны до поздней осени, т.к. крестьяне активно помогали восставшим продовольствием и проводниками, несмотря на трудно-

сти и суровые кары, которые им угрожали со стороны официальных властей...

*Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия / сост. Р. Платонов, Н. Сташкевич, В. Шалькевич, А. Гесь. Минск, 1988. С. 159–160*

**99. "Мужыцкая праўда". № 1. 1862 г.**

Дзецюкі!

Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі, –цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ вучыць сваёй мужыцкай праўды [...]

Ад маскаля[2] і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць. Но не доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, дзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду. Вазьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржымся разам! А калі паны схочуць трымацца з намі, так няхай жа робяць па святой справядлівасці, бо калі іначай – так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе.

Гэту "Мужыцкую праўду" напісаў і зноў пісаці будзе Яська-гаспадар з-пад Вільні

*Беларуская літаратура XIX ст. Хрэстаматыя / скл. А. Лойка, В. Рагойша. 2-е выд. Мінск, 1988. С. 216–217*

**100. "Мужыцкая праўда". № 2. 1862 г.**

Дзецюкі!

Калі Бог стварыў усіх вольнымі і ўсім даў адзінакую душу, так скуль жа гэта ўзялося, што адзін марнуе да і над збыткуе, а другі, бедны, паншчыну служыць альбо аброкі ў казну плаціць?

[...] Быў то калісьці народ наш вольны і багаты. Не помняць гэтага нашыя бацькі, но я вычытаў у старых ксёнжках, што так калісьці бывала. Паншчыны тагды ніякай не было. І няма чаго таму дзівавацися, бо было лесу шмат, поля колькі хочаш, а людзей то мала, так нашто ж служыць паншчыну за зямлю, калі кожны мог лесу выцерабіць, хату сабе паставіць і меці сваё поле.

---

[2] Маскалямі ў той час называлі расійскіх вайскоўцаў і чыноўнікаў.

[...] Но калі Маскаль з Немцам хітрасцею нас падбіў і пайшоў ронд маскоўскі, так і ўсё зрабілася па-чартоўску. Стаў зараз Маскаль свій ронд уводзіць у нашым краі і кажа: “Мужык, давай рэкрута, мужык, давай падаткі, да і паншчыну яшчэ служы альбо плаці аброк у казну!” Так якая ж тут ужэ справядлівасць, калі ўсенька, што цяжка, зваляюць на мужыка, калі з яго дзяруць астатню шкуру, б’юць і плакаць не даюць! [...]

Так з гэтага пісьма і відна: што мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу паном, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць; но калі будзе вайна з маскалём за нашу вольнасць, то той час трэба ўсім ісці на вайну проціў маскаля. А то для таго, каб хутчэй прагнаць маскаля з яго сабачым рондам, і каб ніколі, ніякай, нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі, і каб на век вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы. А калі вас хто будзе падмаўляці рабіці іначай: чы то спраўнік, чы то акружны, чы то лапсэсар, чы то пан, то вы яго не слухайце, бо то пэўна ашуканства, што за царскія або панскія грошы вечнай вашай згубы хоча!!

Яська-гаспадар з-пад Вільні

*Кастусь Каліноўскі. За нашу вольнасць. Творы, дакументы / уклад. Г. Кісялёў. Мінск, 1999. С. 29–30*

**101. “Мужыцкая праўда”. № 7. 1863 г.**

Дзецюкі!

Доўга маўчаў я, не казаў вам нічога, бо хацеў разгледзецца добра да разабраць, што гэта дзеецца на свеце, штоб ужо спавясціць вас па справядлівасці да сказаць, як наказуе Бог да сумленне, што нам цяпер трэба рабіці. Ждаць моўчкі больш ужэ нязмога! [...]

У Польшчы мужыкі таксама, як і мы, спадзяяліся на цара да ждалі волі ад яго, да як пабачылі, што цар толькі лёстачкамі душу выймае, а новымі падаткамі, некрутамі ды чыншамі астатню сарочку з ніх здзерці хоча, от усі разам з віламі да косамі пайшлі дабівацца зямлі да праўды, а іншы і святой уніяцкай веры. От і дабілісь. Выйшаў ужэ Польскі Маніхвэст. Зямля вольна даецца ўсім мужыкам, бо гэта іхня зямля з дзядоў-прадзедаў, за гэту зямлю ніхто не мае адрабляць паншчызны і чыншаў ніякіх нікому плаціць; падушнага больш не будзе, а толькі падымнэ, як колісь плацілі; некрута больш не будзе, а ўсі мужыкі, і паны, і мяшчане, усяк адслужыць 3 гады ў сваёй зямлі і зноў сабе вольны. Уніяцкія касцёлы, што маскалі забралі, аддаюцца назад уніятам, і хто хоча, мае права хрысціць дзяцей па-уніяцкі, да уніяцкіх ксяндзоў ісці да споведзі і па-старому Богу маліцца, як яшчэ бацькі нашы малілісь.

Но цяпер самі разбірайце: дзе больша праўда, ці ў польскім маніхфэсце, ці ў царскім? [...]

Падумайце добра, да памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! Нас цар ужэ не падмане – не падвядуць маскалі! Няма для ніх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба – для ніх мы глухі і немы і нічога не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі да з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды – а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сцерагці будзем да ўведамляць, адкуль на ніх цягне нячыста маскоўска сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. – А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам да бацькам.

Яська-гаспадар з-пад Вільні

*Кастусь Каліноўскі. За нашу вольнасць. Мінск, 1999. С. 37–39*

**102. Маніфест Літоўскага правінцыйнага камітэта. 1 лютага 1863 г.**

1. З сённяшняга дня ўсе сяляне і іншыя жыхары ўсё роўна якога паходжання і веравызнання з'яўляюцца свабоднымі як старапольская шляхта.

2. Нацыянальны польскі ўрад аддае панскім і скарбовым сялянам навечна ў поўнае ўладанне без чыншаў і выкупаў тую зямлю, якую яны мелі да гэтага часу, а ўсе распараджэнні маскоўскага ўрада адмяняе [...]

3. За гэта сяляне павінны, як шляхта, абараняць польскую краіну, грамадзянамі якой з'яўляюцца з сённяшняга дня.

4. Батракі, адстаўныя салдаты і ўсе неаседлыя, якія толькі пойдуць абараняць польскую краіну ад маскалёў, атрымаюць самі ці іх сем'і ўзнагароду – вучастак зямлі па меншай меры ў тры моргі.

5. Польскі ўрад узнагародзіць сялян за панесеныя імі ахвяры з нацыянальных фондаў.

6. Калі хто-небудзь не будзе паслухмяны гэтаму Маніфесту, будзь ён пан, селянін, ці чыноўнік, ці хто-небудзь іншы, будзе пакараны па ваеннаму польскаму праву [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 486*

**103. Тэлеграма маёра Лелякова. Люты 1863 г.**

31 января 2000 мятежников напали на Пружаны, перерезали часовых, сожгли острог, выпустили арестантов, ограбили казначейство.

*Дакументы и матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 493*

### 104. Паўстанне на Міншчыне.

Амаль адразу на Міншчыне пачалі пілаваць тэлеграфныя слупы. Ад Маладзечна да Слуцка. Пачаліся напады на паштовыя эстафеты, рэквізіцыя ўрадавай пошты (потым яе звычайна палілі) і экспрапрыяцыя грошай на патрэбу паўстанню. Пад Нясвіжам спалілі вісячы мост. Мінскія разначынцы і рамеснікі, а таксама 6 тыс. беднай шляхты ў наваколлі горада ўяўлялі сабой парахавую бочку, да якой трэба было толькі паднесці кнот. Першы мінскі атрад быў арганізаваны ў лютым, а ўжо 14 лютага ўзнікла следчая камісія па палявых справах пад старшынствам палкоўніка Рэйхарта. Чуткі, што даходзілі да яе, былі ўсё больш трывожныя. Атрад інсургентаў (паўстанцаў. – *А.С.*) у рэйдзе са Слоніма на Мінск праехаў праз Мір. Другі атрад таксама праехаў праз Мір, кіруючыся на Налібоцкую пушчу.

Пачыналася малая вайна. Паўстанцы хапалі прыгнятальнікаў і расстрэльвалі іх. Атрады (партыі) раслі ў колькасці. Толькі пад Слуцкам дзейнічалі чатыры партыі, у якіх было да 500 чалавек. Рэйхарт, лаючы мяцежную інтэлігенцыю, даносіў: “Впрочем и некоторые туземцы православные не лучше их... тому служит доказательством то, что нашлись между ними охотники присоединиться к повстанцам”.

Але адначасова даходзілі і чуткі, радасныя для ўлад. Папы падбухторвалі сялян супраць паўстанцаў, кажучы, што гэта паны, якія вырашылі вярнуць прыгон. І цёмнае сялянства сям-там верыла ім і не ішло ў партыі, а дзе-нідзе і дапамагала ўраду. У Карэлічах, напрыклад, сяляне на чале з папом зрабілі вобыск у падазроных сялян і дробнай шляхты. Тыя, у каго былі знойдзены зброя або медальёны ці патрыятычныя паясы з гербам, былі схоплены. Іх вялі, каб аддаць у рукі ўлад, і білі. Білі тыя самыя сяляне, за шчасце якіх гэтыя людзі рызыкавалі жыццём.

Арышты пракаціліся і па Мінску. Схопленых кінулі ў турму, у былы кляштар бернардынак. Аўтар “Успамінаў сучасніка” Паўловіч (ён таксама сядзеў там) прыгадвае, што суседам ягоным быў Цюндзявіцкі, першая ахвяра мураўёўскага тэрору на Беларусі. Гэты чалавек быў з буйной барысаўскай шляхты, служыў афіцэрам царскай арміі. Паўстанцкі ўрад прызначыў яго начальнікам аднаго з атрадаў. Але галоўным пунктам абвінавачванняў было распаўсюджванне “Мужыцкай праўды” К. Каліноўскага. Новага слова баяліся.

Цюндзявіцкі мужна чакаў канца. На Вялікдзень арыштаваныя спявалі песні, і гэта былі апошнія спевы ў жыцці чалавека, якому было суджана адкрыць сабою доўгі і страшны мартыролаг на Беларусі.

Калі яго выводзілі з турмы на страту, ён вітаў сяброў. Гурмы людзей ішлі за ім па вуліцах. Месца расстрэлу было на разгалінаванні

Койданаўскага і Ігуменскага трактаў, недзе ў раёне цяперашняй фабрыкі-кухні або паштамта.

Было гэта 21 мая. Яму было 23 гады, і ён спакойна выслухаў прыгавор. Ужо стоячы ля слупа, ён папрасіў, каб яму не завязвалі вачэй:

– Я ўсё-такі салдат і змагу глядзець у вочы смерці.

То былі апошнія яго словы. У гэты час закукавала зязюля, лічачы яму гады, якіх не будзе. І тады прадзерлася праз натоўп і кінула да слупа букет кветак невядомая нікому дзяўчына з вёскі Палонная. Ён хацеў яшчэ нешта сказаць народу, але тут забілі барабаны, а пасля грымнуў залп. Людзі бралі змочаны крывёю пясок як талісман нянавісці.

Пасля над магілаю паставілі варту, але ўсё роўна народ абсыпаў капец кветкамі, усё роўна моладзь складала вершы і спявала песні, усё роўна, па сведчанню Паўловіча, “да яго магілы ішоў незлічоны натоўп усіх саслоўяў, вераванняў і нацыянальнасцей”.

Гэта праўда. Гераічная смерць за народ не ведае веры і нацыі.

І людзі стаялі вакол, а дзеці, якім нічога не маглі зрабіць, непрыкметна бралі ў іх вянкі і кветкі і складалі на палявую магілу сярод жытоў [...]

*Караткевіч У. Збор твораў. Т. 8, кн. 2. С. 259–263*

**105. З заключэння 2-га Заходняга камітэта. Сакавік 1863 г.**

Безнадёжный для поляков характер задуманной ими борьбы будет продолжаться только до тех пор, пока сельское население будет оставаться верным русскому правительству. Двигатели революции поняли это и в настоящее время в форме Манифеста, который по отзыву генерал-губернатора быстро распространяется, объявляют крестьянам, что земля отдаётся им в собственность безвозмездно, и в то же время обещают вознаграждение за сие помещикам, другими словами, привлекают на свою сторону большинство населения, не отталкивая меншинства. Нельзя положительно утверждать, чтобы крестьянство воздержалось от такого столь обольстительного для них соблазна. Если крестьяне поверят возможности исполнения делаемого им обещания, то правительство будет поставлено в весьма затруднительное положение, ибо в таком случае революция обнимет весь край и проникнет во все классы народа. Можно опасаться также, что обольстительный для крестьян соблазн перейдёт за пределы Западных губ., и тогда гибельные последствия будут неисчислимы [...]

При таких обстоятельствах остаётся одно средство: предоставлением новых льгот удержать за собой сельское население Северо-Западных губ.[...] Ныне оно ещё поверит более скромным обещаниям

законного и твёрдого правительства, чем шаткому и ненадёжному соблазну революционной партии. Но надо торопиться, крестьяне могут быть обольщены, и тогда ничто кроме силы оружия не будет в состоянии их разубедить [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 448*

### 106. З Указа Аляксандра II Сенату ад 1 сакавіка 1863 г.

При утверждении в 19-й день февраля 1861 г. обоих Положений о порядке освобождения помещичьих крестьян из крепостной зависимости, Мы признали необходимыми по особым условиям сельского быта в губ. Виленской, Гродненской, Ковенской, Минской, а также Динабургском, Дриссенском, Люцинском и Режицком у. Витебской губ. издать отдельное местное Положение для поземельного там устройства временно-обязанных крестьян. На основании сего Положения и постановления, после того изданных, независимо от предварительного определения в уставных грамотах размера повинностей, следующих в пользу помещика с каждого крестьянского участка, размер сих повинностей подлежит ещё поверке в видах окончательного установления [...] надлежащей соразмерности крестьянских повинностей с особыми местными условиями. Поверка эта возложена на учреждаемые в сих губерниях и уездах поверочные комиссии.

Признавая ныне необходимым по местным обстоятельствам, означенных губерний и уездов облегчить и ускорить в оных прекращение обязательных отношений между помещиками и поселенными на их землях временно-обязанными крестьянами посредством выкупа сими последними земель их надела с содействием правительства, Мы повелеваем принять для сего следующие меры:

1. В губ. Виленской, Гродненской, Ковенской и Минской и в Динабургском, Дриссенском, Люцинском и Режицком у. Витебской губ. с поверкою повинностей соединяется и выкуп поселенными на помещичьих землях временно-обязанными крестьянами состоящих в пользовании сих крестьян угодий.

2. Все обязательные поземельные отношения между помещиками и поселенными на их землях временно-обязанными крестьянами в вышепоименованных губерниях и уездах прекращаются с 1 мая сего 1863 г.[...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 446*

### 107. З данясення маёра Штэйна ад 19 красавіка 1863 г.

Начальник 2-й пехотной дивизии генерал-лейтенант Манюкин 16 числа сего месяца, получив известие, что значительная шайка мятеж-

ников собралась в окрестных лесах м. Гродка, отправил для преследования их 2 отряда: один из Белостока, а другой из г. Соколки, оба эти отряда, соединясь вместе, наткнулись на позицию мятежников 17 числа близ имения Платовщизна Белостокского у., в лесистом и болотистом месте, у реки Супрасль, атаковали их и нанесли инсургентам совершенное поражение, несмотря на отчаянную их оборону; мятежников, кроме утонувших в большом числе в реке, убито с лишком 200 человек, в т.ч. и беглые офицеры Либавского пехотного принца Карла Прусского полка капитан Эйтманович, штабс-капитан Роман, подпоручик Баранцевич и смотритель Сокольского егерского училища корпуса лесничих подпоручик Врублевский[3] (все они уроженцы Западных губ., римско-католического исповедания), в плен взято 30 человек, а также забран весь обоз, лошади, оружие и печать воеводы Гродненского воеводства; с нашей же стороны убито нижних чинов 3 и ранено 21, из них 6 человек тяжело; численность вышесказанной шайки мятежников простиралась до 700 человек, под начальством какого-то Духонского.

Из числа взятых в плен ученик Белостокской гимназии, 4 класса, Мушинский, который показал, что в означенной шайке мятежников кроме его было более 10 человек учеников Белостокской гимназии и с лишком 20 из Свислочского пятиклассного училища [...]

*Дакументы і матэрылы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 512*

### 108. З рапарта палкоўніка Сакалова. 4 траўня 1863 г.

В Чаусовском у. находившаяся шайка мятежников через фольварок Мошки расположилась ночевать в господском доме этого фольварка, помещик которого Маковецкий с семейством своим за день перед сим выехал в г. Могилёв; крестьяне этого имения, собравшись ночью в значительном числе, вооружённые кто чем мог, пришли на двор фольварка с целью задержать шайку, увидя это, мятежники разбежались в беспорядке, так что крестьяне успели несколько из них захватить и в том числе расходчика денег и при нём найдено 7025 руб., деньги вчерашнего числа чрез своего приходского священника доставили к начальнику губ., арестованных же мятежников сдали в волостное правление, которые и доставлены также в г. Могилёв под конвоем [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 518*

[3] Маёр памыліўся. Усе пералічаныя ў данясенні афіцэры засталіся ў жывых і працягвалі барацьбу.

## 109. Загад Літоўскага правінцыйнага камітэта. 11 чэрвеня 1863 г.

Прыказ ад Ронду польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі літоўскай і беларускай.

Вы пэўне зачулі, што цяпер устаноўлены Ронд Польскі, што гэты Ронд Польскі аддае вам без ніякага выкупу і чыншоў тую зямлю, на якой сядзелі вашыя бацькі і дзяды, што гэты Ронд Польскі дае вам праўдзівую вольнасць, як у Французоў, гдзе ніхто не смее крыўдзіць прастога чалавека, што гэты Ронд Польскі верне яшчэ вашу даўнішнюю справядлівую веру дзядоў і прадзедаў?!

Дурыць вас маскаль, талкуючы вам, што гэта паны падняліся, каб павернуць назад паншчыну – ён хоча воду скаламуціць, каб у вадзе мутнай па старому рыбу лавіці. Но дзело нашэ – не дзело панское, а справядлівой вольносці, якой вашыя дзяды ды бацькі здаўна ждалі, а якую маскаль з кровопійцамі вашымі спыніці хочэ!! Дзело нашэ – гэта дзело такой вольносці, якую сам бог, прыйшоўшы на гэты свет, хацеў устанавіці і за якую проліў сваю кроў сьвятую і цярпеў крыжовыя мучэньня!

Но мінула ўжэ паншчына, мінула ваша крыўда – і ніякая сіла яе не паверне, ні маскоўска, ні чартоўска! Цяпер то настаў час, што кажному будзе одмерано так, як ён сам сабе намерыць. Пан будзе ліхі – пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі – то і мужыка павесім, а дворы іх і сёла з дымом пойдуць і будзе справядлівая вольносць – бо гэтага сам бог ужэ хочэ і прэчыстая маці!

За вашую долю кроў праліваюць справядлівыя людзі, а вы – як тыя Каіны ды Іўды Скарыёты – добрых братоў продавалі ворогам вашым!

Но Ронд Польскі пытае вас, а якім вы правом смелі помогаці маскалю ў нечыстом дзелі?! Гдзе ў вас быу розум, гдзе ў вас была праўда? Чы згадалі вы на страшный суд божый? Вы скажэце, што гэта рабілі паневолі – но мы, людзі вольные, немаш у нас неволі! А хто з вас хочэ неволі маскоўскай – тому мы дамо шыбеніцу на галіні!

Еднак справядлівы Ронд Польскі на Літве і Беларусі, беручы на розум:

што маскаль, пануючы над вамі і дзеручы сам ды пазваляючы кожнаму вас абдзіраці, не ўчыў вас ні чытаці, ні пісаці;

што вы сігодня дурныя як авечкі;

што над вамі няма яшчэ змілаваньня боскага, бо вы адступіліся ад яго праўдзівай веры.

Для таго справядлівый Ронд Польскі не даходзіць на вас людской крыўды, адно прыказуе вам:

не памагаць ужо больш маскалю ні ў чым, бо ён мусіць ужо не дужы, калі просіць вашэй помочы. А калі гдзе маскаль быў дурны да даў вам стрэльбы, то вы ў ночы закалоўшы салдатоў маскоўскіх, у лес уцекайце, бо гэта лепш будзе за ўсё.

Міліцыі і караўлоў па сёлах каб ніякіх нігдзе не было, бо калі зловяць каго ў караулі бо ў міліцыі, то калі не цяпер, то пазьней, без адгаворкі павесіць.

Чыншоў, аброкоў і падаткоў у казну маскоўскую да і панам ніякіх больш не плаціць, бо гэта зямля ўжэ ваша, а вы для Ронду Польскага належыце і падаткі адно да казны польскай плаціць маеце.

Гэты Прыказ мае быць чытаны ў кожнай цэркві да ў кожном косьцелі, по ўсіх сёлах і дворах для ведома ўсего народу. А хто гэтому прыказу спрэчэн будзе, таго – ці ён поп, ці ксёндз, мужык ці пан, усякага данасіць да Ронду Польскага, каб можна было позьней павесіць або, сзваўшы граматду і зрабіўшы справядлівы суд, без адгаворкі весьці на шыбеніцу! Бо хто хочэ крыўды людской – той нехай лепш сам марно прападае!

Дан у месці Вільні, у дзень сьвятога Варфаламея лета господня 1863.

*Восстание в Литве и Белоруссии. 1863–1864 гг.*
*М., 1965. С. 29–30*

### 110. З данясення палкоўніка Лосева пра расстрэл у г. Лідзе Віленскай губ. 24 траўня 1863 г.

Лидского у. ксёндз Раймонд Земацкий и помещичий сын Альберт Лясковкч, обвинённые в чтении крестьянам возмутительного манифеста и за подстрекательность их к мятежу; по конфирмации начальника края 24 мая в 11 часов утра на базарной площади расстреляны.

Во время следования преступников на место казни собралось много народа, в особенности польских женщин, которые кричали, плакали и падали в обморок, но порядка ни в чём не нарушилось [...]

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 524*

### 111. З данясення маёра Штэйна. 8 жніўня 1863 г.

Белостокского у. обитатели селения Яворовки (шляхтичи), состоящего из 27 дворов, с самого начала настоящего польского мятежа оказывали содействие мятежникам, кроме того впоследствии многие из них принимали участие в мятеже, устраивали притоны для шаек, на лодках, укрываемых ими на островах, протекающих вблизи селения рек Супрасля и Нарвы (Нарава. – *А.С.*), перевозили мятежников

из Царства Польского в Гродненскую губ. и обратно, одним словом, всеми мерами благоприятствовали выгодам мятежников.

За таковые преступные действия шляхтичей селения Яворовки по распоряжению начальника края жылые дома оного с хозяйственными строениями отрядом наших войск под начальством военного начальника здешнего уезда палковника Мантейфеля 6 сего августа сожжены до основания, а скот, всё движимое имущество вместе с жителями доставлены в г. Белосток, где оные до дальнейшего распоряжения, в числе 61 мужского и 80 душ женского пола, содержатся под арестом, а имущество продаётся с аукционного торга и вырученные за сие деньги по требованию будут высланы к начальнику Гродненской губ.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 533*

### 112. Вернападданніцкі адрас цару ад часткі дваранства Гродзенскай губ. 20 верасня 1863 г.

Всемилостивейший государь!

Восстание в Царстве Польском, к крайнему прискорбию, отразилось и в Гродненской губ. По случаю происходящих революционных действий, страна ввергнута в несчастное положение, в особенности дворяне, владеющие недвижимыми имениями.

Составляя одно целое и нераздельное с Россией, под державным твоим, государь, скипетром, дворянство Гродненской губ. отвергает всякое участие в революционных действиях и осмеливается просить твоего, августейший монарх, милосердия.

Подвергая судьбу нашу на всемилостивейшее воззрение, заявляем чистосердечно тебе, великий государь, чувства нашей верноподданической преданности [...]

(следует 1600 подписей)

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II. С. 540*

### 113. Арышт і смерць Кастуся Каліноўскага. 10 сакавіка 1864 г.

Спатрэбіліся дзве роты салдат, каб схапіць аднаго чалавека. Была цёмная і снежная ноч 29 студзеня 1864 г. Салдаты абкружылі квартал Святаянскіх муроў і распачалі планамерны вобыск. Чалавек жыў адзін. Аб яго месцазнаходжанні ведалі два-тры бліжэйшыя сябры. Каб не здрада – яго нельга было б знайсці. Ён лічыў за лепшае рызыкаваць толькі сваёй галавой. Калі ўжо здарыцца бяда – хай з яго смерцю перарвуцца галоўныя ніці падпольных тайн. Але ў горшае ён не верыў. Сам шчыры, просты і аддадзены справе паўстання, ён верыў у нязломную цвёрдасць людзей, якія рабілі з ім адну справу.

Дзве роты салдат і адзін чалавек. Салдаты абкружалі Свянтаянскія муры ў Вільні. Пачаўся пошук чалавека, які кіраваў адсюль паўстаннем у Беларусі і Літве, не даючы згаснуць полымю, ратаваў самае каштоўнае – сяброў, братоў, людзей. Дамагаўся, каб вясною паўстанне выбухнула зноў…

Чалавек ішоў сходкамі насустрач салдатам, несучы свечку ў руцэ. Так яны і сутыкнуліся. Адзін нёс святло. Другія выраслі са змроку.

– Як ваша прозвішча?

– Вітажэнец, – спакойна адказаў малады чалавек.

Яго схапілі за рукі. Агеньчык скаціўся па каменных прыступках. Згаснуў.

Уласна кажучы, гэта быў канец. Бо ні на допытах, ні на судзе чалавек не зрабіў нічога, каб палегчыць сваю долю. Чалавека павесілі на Лукішскай плошчы ў Вільні.

Яго звалі Кастусём Каліноўскім, і за тыдзень да страшнай ночы 29 студзеня яму мінуў дваццаць шосты год. За такі час большасць людзей паспявае зрабіць мала. А гэты паспеў стварыць вольную беларускую прэсу, пасеяць насенне народнага гневу, узрасціць яго і зжаць пасеў. Спачатку ён кіраваў паўстанцамі Гродзеншчыны, а потым усклаў на свае юныя плечы паўстанне ўсёй Беларусі і Літвы. І калі белае панства здрадзіла і пакінула ўзброены народ, Каліноўскі ўзначаліў яго і неймавернай сілай волі трымаў гэты цяжар пяць месяцаў.

Што гэта азначала, можна ўявіць хоць бы з таго, што супраць паўстанцаў Беларусі і Літвы царызм кінуў 120 тыс. багнетаў і шабель пры належнай колькасці артылерыі. На аднаго паўстанца было 5 салдат. І гэты адзіны быў дрэнна ўзброены, а ў пяцёх была вывучка, гарматы. І, аднак, людзі змагаліся, Кастусь ствараў сетку арганізацый і атрадаў. Нават у апошнія дні. І гэтыя яго трагічныя апошнія часіны, гэтая тытанічная праца, гэтая мужная ўпэўненасць у тым, што яшчэ не скончана барацьба, гэтая гатоўнасць біцца да канца, гэтая невычэрпная любоў да волі, да Радзімы, да дэмакратыі, – робяць асобу Каліноўскага самай трагічнай і велічнай у гісторыі Беларусі, яе нацыянальным героем. [...]

...Калі яго вялі на пакаранне, ён, як і ўсе “чырвоныя”, трымаў кулак левай рукі на тым месцы, дзе білася сэрца. Стары ўмоўны знак змоўшчыкаў: Люблю Беларусь!

Грымелі барабаны. І пад гэты пошчак была зроблена адна з самых чорных спраў, якія ведала беларуская гісторыя.

Гэта было 10 сакавіка 1864 г. у дзесяць гадзін трыццаць хвілін раніцы.

*Караткевіч У. Гэта было 10 сакавіка 1864 г. //*
*Збор твораў. Т. 8, кн. 2. С. 253–255*

### 114. З паказанняў К. Каліноўскага следчай камісіі. 26 лютага 1864 г.

26 февраля 1864 г. призванный для допроса в Особую следственную комиссию дворянин Константин Калиновский отозвался, что, отвечая на вопросы комиссии с откровенностью относительно характера действий и личного участия своего в деле бывшего восстания в крае, он, Калиновский, поставлен в затруднение и невозможность быть в такой же мере правдивым и точным в показаниях относительно соучастников своих преступлений. На требование комиссии о побудительных причинах к такому с его стороны заявлению Калиновский дал следующее показание.

Выработав трудом и жизнью сознание, что если гражданская откровенность составляет добродетель, то шпионство оскверняет человека, что общество, устроенное на иных началах, недостойно этого названия, что следственная комиссия, как один из органов общественных, не может отрицать во мне этих начал [...], я счёл необходимым заявить следственной комиссии, что в её допросах насчёт личностей, ею указываемых, я [...] должен быть сдержан в своих показаниях. [...] Причины и последствия мною хорошо продуманы, а сознание чести, собственного достоинства и того положения, какое я занимал в обществе, не дозволяет мне следовать по иному пути.

*Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. С. 84–85*

### 115. Апошняе пісьмо К. Каліноўскага

Пісьмы з-пад шыбеніцы

Браты мае, мужыкі родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду.

Прымі, народзе, па шчырасці, маё слова прадсмяротнае, бо яно як бы з таго свету толькі для дабра твайго напісана.

Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой шчыра палюбіць. Но як дзень з ночай не ходзяць разам, так не ідзе навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, но на пагібель нашу.

Для таго-то, народзе, як толькі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тады і ты не аставайся ззаду,

но, ухапіўшы за што зможаш, за касу, сякеру, і цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе!

Марыська чарнаброва[4], галубка мая,
Дзе ж падзелася шчасце і ясна доля твая?
Усё прайшло, як бы не бывала,
Адна страшна горыч у грудзях застала.
Калі за нашу праўду бог нас стаў караці
Ды ў прадвечнага суду вялеў прападаці,
То мы прападзем марна, но праўды не кінем,
Хутчэй неба і шчасце, як праўду абмінем!
Не наракай, народзе, на сваю бяздолю,
А прымі цяжкую кару – прадвечнага волю.
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго свету табе адзавуся.
Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе,
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра твайго.
А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тады за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, народзе, старасці свабодна.
Яська-гаспадар з-пад Вільні.

*Беларуская літаратура XIX ст. Мінск, 1988. С. 225–226*

### 116. З успамінаў пра К. Каліноўскага аднаго з кіраўнікоў “партыі белых” Я. Гейштара.

Это была натура вспыльчивая, но справедливая, без малейшей тени лицемерия. Предан был душой и сердцем народу и Отчизне, однако сторонник крайних революционных теорий, не останавливавшийся даже перед развязыванием гражданской войны, помышлявший к тому же о самостоятельности Литвы. Был он несравненным образцовым конспиратором, душой Комитета (Літоўскага правінцыйнага камітэта. – *А.С.*), безупречным исполнителем тех распоряжений, которые сам разделял...

При первом знакомстве доказывал мне, что участие шляхты и помещиков в восстании не только не нужно, но и вредно. Народ сам за-

[4] Па меркаванні многіх даследчыкаў, “Марыська чарнаброва” – гэта вобраз беларускай зямлі. Некаторыя даследчыкі, публікуючы дакумент, пачыналі яго са слоў “Беларуская зямелька”.

воюет себе свободу и потребует собственность у помещиков. В порядке снисхождения допускал участие шляхты в рядах повстанцев, но не в своих поветах, а только там, где её не знали. Впрочем, Калиновский хотел, чтобы народ великодушно простил шляхте преступления прошлого, но говорил, что, если бы она и погибла, постигла бы её заслуженная кара, и страна ничего бы от этого не потеряла. Этот человек был, несомненно, самой выдающейся фигурой в составе Комитета [...] Он был образцом стойкого конспиратора; только он один мог на протяжении нескольких месяцев, несмотря на разгул террора, работать в Вильно так, как никто. Будучи непрерывно преследуемым, он приходил к воротам Доминиканского монастыря, чтобы попрощаться с теми, кого уводили на смертную казнь, не прекращая ни на минуту своей деятельности.

*Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. С. 166–167*

**117. Са справаздачы шэфа корпуса жандараў князя Далгарукава за 1863 г.**

Характер собственно военных действий в Северо-Западном крае, руководимых варшавским революционным комитетом, был чисто партизанский. Местные топографические условия, лазутчики, набираемые волею или неволею между крестьянами и евреями, в особенности же помещики, арендаторы, управители и однодворцы, поддерживали усилия мятежников. Лесные дебри укрывали их от преследования войск, а подводы жителей служили пособием и даже средством для быстрых передвижений и развлечения внимания наших отрядов. При неудачах шайки раздроблялись и рассеивались по окрестностям, условившись относительно сборных пунктов [...]

Крестьяне в большей части случаев хранили строгую тайну и скрывали под страхом смерти следы мятежников. Войска утомлялись бесполезным преследованием, но всякая встреча с шайками при малейшей попытке к сопротивлению кончалась разбитием оных. Намерения мятежников избирать опорные пункты для систематического развития восстания решительно не удавались, и потому им оставалось волновать край способами террора. Ряд самых безобразных злодеяний, которых жертвами сделались многие преданные правительству лица, в том числе священники, чиновники земской полиции, крестьяне и попадавшиеся в плен военные – достаточно свидетельствуют о свирепости мятежа. Со всем тем масса крестьян, почти нетронутая обольщениями [...] оставалась в повиновении законным властям за малым исключением случаев в Тельшевском, Трокском и Лидском у. и на окраинах границ Гродненской губ. с Царством Польским [...]

Несмотря на все [...] успехи и на строгие распоряжения генерала Муравьёва, Западный край умиротворённым признан быть не может. Тревожное состояние его продолжается, злоба против правительства значительной части населения несомненна, администрация далеко ещё не достигла нормального устройства, враждебное влияние ксендзов на легковерных поддерживается, надежда на внешнюю помощь не исчезает, – всё это представляет будущность края на долгое ещё время в мрачном виде, тем более что даже крестьян католического исповедания при фанатизме их духовенства нельзя считать совершенно нам преданными. Что касается до поселян православных, то они бы должны при благодеяниях, на них излитых, оставаться верными правительству, но к прискорбию смуты часто препятствуют сохранению в массах того повиновения властям, которое необходимо для общественного спокойствия, особенно когда они чувствуют свою силу. Вот почему управление ими требует большого искусства и способных деятелей, ибо сколько драгоценна преданность народа, столько опасно его своеволие.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. ІІ. С. 495–496*

### 118. Іван Цвікевіч. Канстантын Каліноўскі (гістарычны нарыс). 1922 г. Фрагмент.

Сьвядомае змаганьне за незалежнасьць і сувэрэннасьць беларускага народу пачалося яскравым выступленьнем на арэну гэтага змаганьня Канстантына Каліноўскага. Ён быў першым беларусам, каторы зразумеў, што нашыя ўсходныя і заходныя суседзі, некалькі вякоў ваеваўшыя паміж сабой і праліўшыя не адну раку крыві за ўладаньне беларускай тэрыторыяй, за права панаваньня над беларускім народам, – што яны нізашто і ніколі дабравольна ня вызнаюць права беларускаму народу распараджацца ўласным сваім лёсам. Асабістыя досьледы Каліноўскага даканчальна пераканалі яго ў гэтым і таму ён першы голасна і адважна выказаў думкі, да якіх беларускі народ дайшоў толькі праз 50 гадоў пасьля смерці Каліноўскага, перажыўшы трагедыю ўсесьветнае вайны, перажыўшы Берасьцейскі мір, і, урэшце, зьведаўшы польска-расійскую вайну і пачуўшы на целе сваім нож Рыжскага міру.

Каліноўскі першы заявіў, што калі народ хоча быць вольным – ён павінен заваяваць[5] гэту волю. Кінуўшы гэтую думку, паказаўшы шлях усім адважным духам, Каліноўскі сам стаў на гэты шлях: падняў аружнае паўстаньне супраць маскоўскага і варшаўскага дзяржаўна-нацыянальнага гнёту.

---

[5] Паўсюль разрадка аўтара.

Гэтага мала: Каліноўскі зразумеў грунтоўны варунак, пры якім магчыма нашае нацыянальнае вызваленьне. Ласьне, што гэтае вызваленьне павінна ісьці разам, злучна, крок у крок, з вызваленьнем соцыяльным. Тут крыюцца карэньні сьмелага праекту Каліноўскага – выкінуць дачыста ўсю вяліказямельную польскую шляхту з Беларусі; ось чаму ён гэтак напорыста вымагаў аграрнае рэвалюцыі і поўнае роўнасьці кляс.

Апошняй думкай Каліноўскага, якая, – у злучнасьці з дзейнасьцю з мукамі і сьмерцьцю, якую ён прыняў, – дае поўнае права яго асобе на адно з пачэсных мейсц у вызвольнай гісторыі нашае краіны, – была думка аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Сёньня прыйшоў час, калі трэба прыпомніць гэтыя думкі, надыйшоў час, калі трэба лішні раз прыпомніць, што і мы, сучасьнікі, павінны йсьці толькі рэвалюцыйным шляхам да нашае волі, адкінуўшы нават думку аб здачы на літасьць часова дужэйшых ворагаў. Знаёмячыся з істасьцю Каліноўскага, мы можам, як прыклад, знайсьці ў нашай мінуўшчыне слаўныя ўчынкі праўдзівых герояў, якія ня гнулі карку перад сілай, але ўмелі ўміраць за сваю ідэю з высока паднятаю галавою.

Аб асобе Каліноўскага захавалася надзвычайна мала матэр'ялаў. Ведама толькі, што ён радзіўся ў 1836 г. у беднай шляхоцкай сям'і. Бацька яго быў па прафесыі ткач з-пад мястэчка Сьвіслач, Горадзенскай губэрні. Ні аб складзе сям'і Каліноўскіх, ні аб дзіцячых гадох Кастантына, ні аб варунках яго выхаваньня і адукацыі да часу студэнцкіх гадоў не засталося ніякіх данных. Тыя шчуплыя матэр'ялы, што маюцца ў нас пад рукамі, кажуць аб Каліноўскім ужо таго пэрыяду яго жыцьця, калі ён выступіў на арэну грамадзка-палітычнага змаганьня, як асоба зусім сфармаваная і закончаная.

Паміма волі ўстае пытаньне: чаму ў даволі абшырнай літэратуры польскай і расійскай аб падзеях 1863 году амаль нічога няма аб асобе Каліноўскага.

Адказ просты: ні расійцам, ні паляком не было абсалютна ніякай карысьці застанаўляцца над асобай Каліноўскага як беларускай нацыянальнай і палітычнай сіле. Наадварот, самы маленькі спынак над гэтым, бязумоўна, прымусіў бы да сур'ёзнай развагі над прыкрым для іх пытаньнем аб адносінах да Беларусі, зьбіў бы іх з раз прынятага патрыотычнага курсу, пакінуў бы ў душы чытача шмат розных шкодных сумніваў. Карацей кажучы, пісаць у тыя часы (дый і ў пазьнейшыя) аб асобе і чыннасьці Каліноўскага – гэта азначала-б падагрэваць і верадаваць і без таго гарачае і балючае беларускае пытаньне; гэта азначала для расійцаў і палякаў – уласнымі рукамі вырываць з-пад ног апошні грунт, стоячы на якім абедзьве стараны гэтак крэпка ба-

ранілі свае “гістарычныя” і ўселякія іншыя правы на прылучэньне да сябе беларускай краіны [...]

У 1862 гаду Каліноўскі пераяжджае з Пецярбурга ў Вільню, дзе яго прыймаюць у лік сяброў Літоўскага паўстанчага камітэту. У той час гэты камітэт складаўся з чатырох асоб – капітана генеральнага штабу Зьвірждоўскага, двох быўшых афіцэраў расійскае арміі – Малахоўскага і Вэрыгі ды доктара Длускага. Каліноўскі ўвайшоў пятым поўнапраўным сябрам. Пасьля прыезду Каліноўскага камітэт паступова пачынае рабіць нахіл у бок рэвалюцыйна-дэмакратычных плянаў у процілегласьць плянам Цэнтральнага Варшаўскага паўстанчага камітэту, у якім партыя арыстакратычна-шляхоцкага напрамку з ідэямі буржуазна-імпэрыялістычнымі ўзмацнялася што час то болей. Пад уплыў Каліноўскага падпадаюць усе сябры Літоўскага камітэту, апрача Зьвірждоўскага, які ўважна сачыў за ўзмацаваньнем новага кірунку ў Варшаўскім камітэце і, каб дагадзіць апошняму, ваража ставіўся да чырвоных плянаў Каліноўскага. Але Каліноўскі, цьвёрда пераконаны ў справядлівасьці сваіх плянаў, энергічна і рашуча бараніў іх на паседжаньнях камітэту, дамагаючыся прыняцьця іх ва ўсей шырыні.

Прыехаўшы ў родны край, Каліноўскі пачынае на мейсцы знаёміцца з настроямі і жаданьнямі селянскіх мас: ён ходзіць па беларускіх вёсках і корчмах, агітуючы за паўстаньне і адначасна прыглядаючыся і прыслухваючыся да таго, чым жыве народ. Трэба думаць, што Каліноўскі не мінаў і панскіх двароў – на якія ў сэнсе паўстаньня пакладаў галоўную надзею Варшаўскі камітэт і ў якіх можна было пачуць шляхоцкія пагляды на справу ладжанага паўстаньня. Ходзячы і агітуючы сярод селян і стыкаючыся з поглядамі паноў, Каліноўскі зразумеў, што паўстаньне толькі тады будзе мець удачу і моц, калі падыймецца селянства, калі возьмецца за зброю беларус-земляроб. Зразумеў, што ёсьць адзіны толькі спосаб загітаваць і падняць селян – гэта неадкладна зараз-жа раздаць ім усю зямельную ўласнасьць і жывасілам выпхнуць з абшараў Беларусі вяліказямельную польскую шляхту. Каліноўскі адразу зразумеў (што потым і спраўдзілася), што мейсцовыя паны-землеўласьнікі калі і прыймуць удзел у паўстаньні, дык вельмі неахвотна, а некаторыя толькі пад прымусам і пагрозаю з боку цэнтральных арганізацый, і што гэты ўдзел будзе не далей першай няўдачы. Дзеля гэтага ён вымагаў, каб паўстанчая арганізацыя на мейсцох складалася не з паноў-землеўласьнікаў, а ласьне са здольных і сьмелых селян і беднай дробнай шляхты. Каліноўскі нават адшукаў сярод селян і беднай шляхты адпаведных асоб, каторых прапанаваў паставіць кіраваць паўстанцкім рухам і якія-б запраўды паднялі за сабою просты народ і прымусілі ўсіх паноў хоць-нехаць зямлю аддаць.

Намечаючы такі плян паўстанцкае працы і такіх выканаўцаў, Каліноўскі жадаў дасягнуць дзьвех мэтаў: першае – яму хацелася паставіць перад вачыма беларускага селянства, як у сьвятле пражэктара, яго клясавага і нацыанальнага ворага, каб у самым працэсі паўстаньня, кіраванага мужыцкай рукой пад лозунгам “усю зямлю і ўсю волю” – селянства з імі немінуча стрэнулася; другою мэтаю Каліноўскага было – шляхам поўнага падзелу ўсяе зямлі паміж селянамі аслабіць сярод іх уражэньне расійскае аграрнае рэформы 19 лютага і гэтым падняць дух дзеля змаганьня з маскоўскім чужацкім гнётам.

Побач з зямельным пытаньнем у праграме Каліноўскага стаяла пытаньне ня меншае вагі дзеля ўдачы паўстаньня – пытаньне нацыанальнае. Сама лёгіка падсказывала, што беларускае селянства магчыма ўцягнуць у аружнае паўстаньне, толькі цьвёрда ўсьвядоміўшы, што барацьба йдзе не за польскую справу, але за беларускую, што селянін бярэцца за аружжа не для таго, каб адбудоўваць старую Рэч Паспалітую, але каб сілаю ўзяць зямлю і волю для беларускага народу.

На гэтым пункце пачаліся сур’ёзныя спрэчкі Каліноўскага з Варшаўскім камітэтам. Заместа выбыўшага з Літоўскага камітэту кап. Зьвірждоўскага назначан быў з Варшавы новы сябра – Дюлоран, заўзяты прыхільнік варшаўскіх плянаў. Гэты Дюлоран падаў вестку ў Варшаву, што Літоўскі камітэт пад уплывам Каліноўскага, апрача працы па падгатоўцы паўстаньня, займаецца яшчэ агітацыяй і дзейнасьцю на карысьць нацыанальнай аўтаноміі Беларусі і Літвы і падбухторуе селян проці паноў-земляўласьнікаў. Данос Дюлорана спалохаў Варшаўскі камітэт і ён пастанавіў параліжаваць небясьпечную працу Літоўскага камітэту: без паведамленьня і згоды апошняга ён назначае ва ўсе беларускія паветы сваіх агентаў дзеля збору грошы на справу паўстаньня, уводзячы, такім чынам, на гэту тэрыторыю сваіх людзей, зьвязаных беспасьрэдна з Варшавай. Калі Каліноўскі даведаўся аб гэтым, ён на чарговым паседжаньні свайго камітэту выступіў з крытыкаю Варшаўскага камітэту і тут пачалася гарачая спрэчка з агентам апошняга – Дюлоранам, якога ў запале спрэчкі Каліноўскі сілаю выкінуў з салі паседжаньня.

Факт гэты выявіў варажасьць Літоўскага камітэту і ў асобнасьці Каліноўскага да Варшаўскага камітэту. Урэшці рэшт Каліноўскі адмаўляецца спаўняць загады з Варшавы, вымагаючы поўнай незалежнасьці ў чыннасьці на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

У часе паўстаньня шляхоцка-рэакцыйныя групы польскіх дзеячоў зрабілі пераварот у Варшаўскім камітэце і ўсьлед за гэтым абвесьцілі небасьпечны чырвоны Літоўскі камітэт распушчаным. Новы Літоўскі

камітэт быў складзен з прыхільнікаў варшаўскіх рэакцыйных кірункаў. Цікава адзначыць, што ўсе сябры Літ. к-ту прынялі моўчкі факт яго разгону і толькі адзін Каліноўскі напісаў з гэтай прычыны ў Варшаву энэргічны пратэст.

І усёж-ткі ня гледзячы на гэты пратэст і на адкрытую варажасьць яго аўтара да палітыкі Варшаўскага камітэту, апошні назначае камісарам у Горадзенскую губэрню нікога іншага як таго-ж самага Каліноўскага, бачучы ў ім асобу вельмі энэргічную, здольную і карысную дзеля справы паўстаньня. Але Каліноўскі на гэтым не супакоіўся: у патайку разам з другім сябрам Літоўскага камітэту першага складу – Малахоўскім ён працуе над плянам новага перавароту і захопленьня ў свае рукі кіраўніцтва ўсяго паўстаньня ў краю.

Варункі ходу паўстаньня спрыялі таёмнаму пляну Каліноўскага. Паўстанцкія аддзелы, кіраваныя доводцамі па загаду з Варшавы ня мелі ўдачы, паны-земляўласьнікі спалохаліся першых неўдач і пачалі ўхіляцца ад грашовай і іншай актыўнай дапамогі паўстанцам, а новы Літоўскі камітэт не надта спагадаў адважным выступленьням дробных атрадаў Каліноўскага і пачаў спыняць іх, каб гэтым аслабіць узмацненьне яго арганізацыі. Такім чынам атрымлівалася дэзарганізацыя паўстанчага руху, што давала магчымасьць расійскім войскам разьбіваць і ліквідаваць паасобныя паўстанцкія группы.

Неўдачы консэрватыўнай польскай партыі “белых” узмацнялі становішча рэвалюцыйнай партыі “чырвоных” і гэтым самым узрастала значэньне арганізацыі Каліноўскага. Уплыў апошняга яшчэ болей пасунуўся наперад, калі галоўная надзея Варшаўскага камітэту – шматлічэбнае паўстанцкае войска пад камандаю вайсковага даводцы Літвы і Беларусі Серакоўскага – была разьбіта і сам Серакоўскі папаў у палон.

Каліноўскі, ня гледзячы на гэту ўдачу расійскіх войск, яшчэ больш энергічна павёў паўстанцкую арганізацыйную працу і дабіўся таго, што праз кароткі час на тэрыторыі Беларусі ўлада апынулася ў яго руках.

Расійскі ўрад, убачыўшы, што паўстаньне не спыняецца, а ўзмацняецца, пускаючы карэньні ў гушчу сялянства, назначае дзеля хутчэйшай ліквідацыі паўстаньня генерала Мураўёва, дае яму самыя шырокія паўнамоцтвы і пасылае ў Вільню. Зараз жа па прыезьдзе на мейсца Мураўёў абвешчае інструкцыю па справе ліквідацыі паўстаньня, у якой увесь цяжар адказу за паўстаньне ўскладаўся на паноў-земляўласьнікаў. Гэта адразу адпужала ўсю заможную шляхту ад актыўнай дапамогі паўстанцам. Пачаўшыяся ўсьлед за інструкцыяй, па загаду Мураўёва сэквэстры маёнткаў і асабліва сьмертныя кары нагэтулькі напалохалі Варшаўскі камітэт, што ён рашыў часова

разпусьціць арганізацыі, ліквідаваць атрады, схаваць аружжа – адным словам, замясьці ўсе сьляды і чакаць, пакуль эўрапэйскія дзяржавы не падтрымаюць Польшчу ў яе дамаганьнях.

Падасьпеў і новы ўдар: амаль усе сябры Літоўскага камітэту арэштоўвуюцца і кідаюцца ў цытадэлю.

Гэтым момантам і карыстаецца Каліноўскі. Уласным загадам ён арганізуе новы Літоўскі камітэт і, каб вызваліцца з падпарадкаваньня Варшаўскаму камітэту, абвяшчае сябе дыктатарам Літвы і Беларусі як незалежнай дзяржаўнай адзінкі. Насьпех зложаны новы урад з Каліноўскім на чале пачынае гарачую працу, каб падтрымаць паўстанцкі рух, пашырыць яго і вясьці барацьбу далей, ня гледзячы ні на якія перашкоды, не зьвертаючы ўвагі на паніку Варшаўскага камітэту.

Але пара, спрыяючая паўстаньню, ужо прамінала. Агенты расійскага ўраду пачалі сьцеклую агітацыю сярод беларускіх і літоўскіх селян, што нібы паўстаньне робіцца польскімі панамі дзеля таго, каб умацаваць свой панскі прыгон над беларускай і літоўскай вёскай. Адначасна з гэтым па загаду Мураўёва паўсюды была арганізавана так званая “сельская стража” – складзеная толькі з адных селян, каторыя прымушаліся сачыць і лавіць паўстанцаў, або даводзіць да ведама начальства, дзе знаходзяцца паўстанцкія атрады, а также асобы, дапамагаючыя і спрыяючыя паўстаньню.

Каліноўскі, які ласьне хацеў уцягнуць селян у паўстанцкі рух, які ласьне на селян пакладаў найвялікшыя надзеі і які добра ведаў настрой і жаданьня селянскае масы, даведаўшыся аб арганізацыі “селянскае стражы”, адразу пачуў у ёй сьмяротную небясьпеку для справы і пачаў рабіць пасьпешныя контр-захады, каб утрымаць селян ад службы ненавіднаму расійскаму ўраду. Праз кароткі час Каліноўскі ўбачыў, што селяне, нацкаваныя на паноў, вельмі ахвотна памагаюць расійскім войскам тлуміць паўстаньне, а з другога боку мейсцовыя паны-шляхта, каб уратаваць сваю скуру і асабліва свае маёнткі, адракаюцца ад паўстаньня і пачынаюць навет сабіраць подпісы для “всеподданейшаго адрэсу”.

Астаўся адзіны спосаб падтрымаць паўстанцкі дух – бязьлітасны тэрор да ўсіх трусоў і здраднікаў. Урад Каліноўскага не застанавіўся перад гэтым спосабам і першым актам гэтага тэрору быў напад на старшыню віленскай шляхты Домэйко, які зьбіраў подпісы і сам падпісаўся пад “чэлабітнаю” расійскаму цару. Гэта паслужыла таму, што загады мураўёўскай улады былі падтрыманы панамі, дзеля чаго хутка была разкрыта цэнтральная канспірацыйная арганізацыя Каліноўскага. Сам ён здолеў схавацца, але большая частка сяброў былі злоўлены і павешаны. Застаўшыя жывымі паўцекалі з Вільні за

граніцу. Арганізацыя, пабудаваная надзвычайнымі высілкам, – разпалася. Не пакінуў Вільні толькі адзін Каліноўскі, адзін ён аставаўся цьвёрдым і непахібным. 26 жніўня 1863 г. Мураўёў выдае загад, па якому кожны схвачаны з аружжам у руках прысуждаецца на мейсцы на сьмерць у 24 гадзіны, а ўсім самахоць зьявіўшымся да начальства і прынёсшым аружжа давалося выбачаньне. Гэты загад уплываў на маладушных і многа паўстанцаў прыходзілі да начальства – каяцца. Упадак духа ў паустанцкіх аддзелах, хаваўшыхся па лясох, пачаў шырыцца з прыходам сьцюжы. Нестача цёплай адзежы і стравы, жыцьцё па лясох сярод сьнегу і марозу зьменшалі лік байцоў і адыймалі надзею на добры вынік.

Мацней за другіх трымаліся паўстанцкія атрады па лясох Ковенскай і Менскай губэрній. У першай – камандаваў паўстанцамі энэргічны і адважны ксёндз Мацкевіч, які вельмі спрытна вёў партызанцкую вайну і да кастрычніка 63 году ўпарта бараніўся ад акружыўшых яго атрад расійскіх войск. Нешчасьлівае здарэньне загубіла справу Мацкевіча: расійскі конны раз’езд выпадкова знайшоў яго сьпячым у лесе і прывёў у Коуну, дзе яго павесілі.

У Менскай губэрні, дзе аддзеламі паўстанцаў кіраваў Сьвентаржэцкі, доўгі час яшчэ, то тут то там, успыхвалі паўстаньня, але пасьля ўцечкі Сьвентаржэцкага за граніцу нібы настаў супакой у цэлым краю.

Каліноўскі, з надзвычайнымі труднасьцямі хаваючыся ў Вільні, ўсё-ж такі прадаўжае няўпынную і няўтомную конспірацыйную працу: нанова арганізуе контакт з паасобнымі атрадамі, знайходзіць здольных і верных людзей, прыймае ганцоў, гарачымі адозвамі і строгімі загадамі падтрымлівае падаючы дух паўстанцаў, просячы іх пратрымацца толькі да цёплай вясны, калі лічба партызанаў ізноў павялічыцца, калі лягчэй можна будзе хаваць сьляды і лягчэй пераносіць ціжары паходнага жыцьця. Увесь час зьмяняючы фаміліі, пашпарты, адзяючыся ў рожныя вопраткі ўключна да жаночых, энэргічна і ўмела працуючы дзеля падтрыманьня і пашырэньня паўстанцкага руху, Каліноўскі к канцу 1863 году даў адчуць Мураўёву і яго агентам, што пры ўсім зьнешным спакою на Беларусі і Літве кіпіць падземная рэвалюцыйная праца, кіраваная спрытнай і моцнай рукой.

Чыннасьць Каліноўскага спалохала Мураўёва і ён, думаючы, што цэнтр арганізацыі знаходзіцца ў Менскай губэрні, высылае туды спэцыяльную камісыю на чале з палкоўнікам Лосевым. Дзякуючы працы гэтае камісыі ўрэшце была выкрыта ўся Менская рэвалюцыйнапаўстанцкая арганізацыя. Большая частка арыштаваных паноў шчыра прызналася ў прыналежнасьці да арганізацыі Каліноўскага, а адзін польскі шляхціц, які стаяў бліжэй за ўсіх да К. К. пасьля посулаў

палк. Лосева выпрасіць яму памілаваньне і магчымасьць выехаць у цэнтральныя расійскія губэрні, выдаў местазнаходжаньне “небасьпечнага дыктатара”.

Адзін з галоўных супрацоўнікаў ген. Мураўёва, ачавідзец арэшту Каліноўскага, так апісвае арэшт: “Шыфраваная тэлеграма з паведамленьнем аб гэтым (дзе знаходзіцца Каліноўскі) была атрымана ў Вільні а 9 гадзіне вечара, у ёй былі апісаны прыкметы Каліноўскага і сказана, што ён жыве па фальшываму пашпарту горадзенскага шляхціца Вітальда Вітожэнца ў Сьвята-Янскіх мурох. Гэтае апошняе паказаньне было крыху неясным, бо пад гэтаю назоваю разумеўся ўвесь будынак, які калісьці належаў касьцёлу св. Яна, цягнуўся амаль што ня цэлы квартал і выходзіў адным бокам да палацу. У вялізарных будынках, каторыя належалі перш калегіі езуітаў, а потым унівэрсытэту, у той час знаходзіліся: гімназія, музэй старасьветчыны, цэнтральны архіў, абсэрваторыя, шмат кватэр для служачых і нават здаваліся прыватныя кватэры.

Зьмест тэлеграмы захоўваўся ў найглыбейшай тайне. Паліцмэйстару даручана было асабіста зрабіць спраўку ў кнігах (толькі што прыведзеных з прычыны новага году да парадку) аб акуратным адрэсе Вітожэнца і, як заўсёды здараецца пры пасьпешнасьці, імя яго прамінулася пры разгледжаньні кнігі, хоць і было ў яе запісана. Вымушаны былі зрабіць вялікі обыск і акружыць увесь св.-Янскі квартал, дзеля чаго прысланы дзьве роты салдат, падзеляныя на 10 партый, кождая пры афіцэры паліцыі і асобых чыноўніках. Імя асобы, якую належала арэштаваць, было абвешчана ім толькі ноччу, перад самым обыскам.

Каліноўскі жыў ужо другі месяц на кватэры вучыцеля гімназыі, выехаўшага кудысь у правінцыю. Яго засталі на сходах са сьвечкаю ў руцэ і, калі запыталі фамілію, ён самапэўна адказаў: “Вітожэнц” – і ў тую-ж хвіліну быў схвачан.

“Раннай раніцай, ня гледзячы на тайну, якою ўсё гэта было абстаўлена, жыды ўжо паўсюды разьнясьлі вестку аб тым, што арэштаваны “галоўны начальнік жонду”, хоць яшчэ ня ведама было, ці запраўды арыштаваны зьяўляецца Каліноўскім. Справа Каліноўскага была даручана спэцыяльнай “дамініканскай камісіі” і сам Мураўёў нагэтулькі цікавіўся ходам сьледзтва, што ўвесь час пасылаў у камісыю сваіх чыноўнікаў, якія пасьля асабіста дакладалі яму аб ходзе справы.

“Першы дзень, піша супрацоўнік Мураўёва – Масолаў, Каліноўскі толькі кусаў сабе вусны і неахвотна адказваў на пытаньня, але пад вечар ня вытрымаў і сказаў сваё запраўднае імя. Ня гледзячы на ўсе высілкі сяброў камісіі, ім не ўдалося вырваць ад Каліноўскага дэтальных даных аб асобах, складаючых рэвалюцыйную арганізацыю краю.

Ён, аднак, прызнаўся, што стаяў на чале ўраду ўсяго краю, і як відаць з паказаньняў іншых асоб, умеў падтрымаць падаючый рэвалюцыйны дух...

Дзейнасьць Каліноўскага не абмежвалася барацьбой толькі аружнай. Дыктатар Літвы і Беларусі ведаў сілу друкаванага слова і пры тым слова народнага, ведаў сілу народнай асьветы. За кароткі час, што Каліноўскі знаходзіўся на Беларусі, – ён арганізаваў патаемныя беларускія школы, стварыў у Беластоку конспірацыйную беларускую друкарню, дзе друкаваліся адозвы да беларускіх селян і адкуль выйшла некалькі нумароў (6-7) беларускай газэты – “Мужыцкая праўда”. У гэтай газэце Каліноўскі зьмешчаў свае артыкулы пад псэўданімам – “Яська гаспадар з-пад Вільні”.

Да нашага часу захаваўся зьмест двох пісем Каліноўскага, каторыя ён напісаў у турме за некалькі дзён да разстрэлу. У пісьмах сваіх ён прашчаецца са сваёй горача каханай бацькаўшчынай і сваім народам, за вызваленьне і шчасьце каторых ён прынёс у ахвяру сваё маладое жыцьцё.

Вось зьмест гэтых пісём:

1. Беларуская зямелька, галубка мая! Гдзеж-ся падзела шчасьце і доля Твая? Усё прайшло, прайшло, як-бы не бывала, адно страшэнна горыч у грудзёх застала. Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці, дый у правечнага суду вялеў прападаці – то мы прападзем марна, а праўды ня кінем, хутчэй Неба і шчасьце, як праўду абмінем! Не наракай, Народзе, на сваю бяздолю, а прыймі цяжкую кару – Правечнага волю. А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся, то я з таго сьвету Табе адзавуся. Бывай здаровы, даражэнькі Народзе!! Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе і часам спамяні пра “Яську” Твайго. А калі слова пяройдзе ў дзела, тады да бітвы станавіся сьмела, бо адно з праўдай у грамадзе згодна дажджэшся, Народзе, старасьці свабоднай!”

2. “Беларусы, браты мае родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаці і можа раз астатні! Горка пакінуць зямельку родную і Цябе дарагі мой Народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не жаль згінуць за Тваю праўду!

Прыймі, Народзе, па шчырасьці маё слова прадсьмертнае, бо яно як бы з таго сьвету толькі для дабра Твайго напісана.

Німаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тагды толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць Неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзіва ня йдзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, багацьця, і ніякай навукі, адно намі як скацінай ва-

рачаць будуць не для дабра, адно на пагібель нашу... Ваюй, Народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную. Бо я Табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над Табой маскаля ўжо ня будзе!”

Да Каліноўскага, сядзеўшага ў турме і чакаўшага сьмертнага засуду, прыходзілі некаторыя з найбольш прыбліжонных да Мураўёва асоб, каб падзівіцца на знаменітага дыктатара. Супрацоўнік Мураўёва – Масолаў, які адведываў Каліноўскага ў турме, так апісвае яго: “Каліноўскі быў гадоў 26, крэпкага складу, з абліччам чорствым і выразным, кароткія русыя валасы былі зачэсаны назад, гэткім я яго бачыў у турме за некалькі дзён да сьмерці”.

Настаў дзень казьні... Была ясная, холодная раніца. Каліноўскі йшоў на казьнь сьмела. Прышоўшы на Лукішскі пляц, ён стаў тварам да шыбеніцы і толькі часамі кідаў погляд у далёкі натоўп. Калі яму чыталі конфірмацыю, ён пачаў было рабіць увагі; так, напрыклад, калі назвалі яго імя: “шляхціц Канстантын Каліноўскі”, ён крыкнуў: “У нас німа шляхты, – усе роўныя!”... Паліцмэйстар паківаў яму галавой і прасіў замаўчаць”...

Сьмертная кара цераз павешаньне адбылася над Канстантынам Каліноўскім 7 красавіка 1864 году ў м. Вільні.

*Беларускі сьцяг. 1922. № 4. С. 10–19*

**ПЫТАННІ І ЗАДАННІ**

1. Якія падзеі грамадскага жыцця папярэднічалі паўстанню 1863 г.?
2. Назавіце асноўныя ідэі той “мужыцкай праўды”, якую імкнуўся данесці да народа К. Каліноўскі. Якую ролю ў падрыхтоўцы паўстання адыграў Гродзенскі гурток?
3. Якім чынам кіраўнікі паўстання імкнуліся пашырыць яго сацыяльную базу? Якія меры прадпрымаў урад, каб не дапусціць распаўсюджвання паўстання?
4. Чым адрозніваліся погляды “белых” і “чырвоных” на характар паўстання?
5. Якім быў сацыяльны склад паўстанцкіх атрадаў? Як ставіліся да паўстання сяляне? Чым была абумоўлена рэзкасць і рашучасць загада ЛПК ад 11 чэрвеня 1863 г.?
6. Якое значэнне для паўстання мела дзейнасць К. Каліноўскага? Пра што сведчыць тая высокая ацэнка, якую даў дзейнасці і асобе К. Каліноўскага адзін з яго ідэйных праціўнікаў Я. Гейштар? Ахарактарызуйце рысы характара К. Каліноўскага.
7. Як паўплываў на лёс паўстання арышт К. Каліноўскага і яго смяротнае пакаранне?

9. Чаму нават падавіўшы паўстанне, царскія ўлады не адчувалі сябе ўпэўнена ў Беларусі?

10. Спрэчкі вакол асобы К. Каліноўскага працягваюцца і сёння. Насуперак поглядам большасці беларускіх гісторыкаў некаторыя публіцысты і навукоўцы спрабавалі і спрабуюць прадставіць К. Каліноўскага то правадыром беларускіх шавіністаў, то дзеячам выключна польскага руху. Выкажыце свае адносіны да гэтых ацэнак.

## ФАРМІРАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX СТ.

### 119. З успамінаў Рамуальда Зямкевіча.

Паўстанне 1863 г. вельмі пашкодзіла беларускай справе. Даказана было афіцыяльна, што шмат хто з беларусаў, нават і з простых сялян, быў у паўстанні альбо так ці іначай памагаў яму ці спагадаў [...] Пачаліся арышты і ўсялякія забароны, напрыклад, гаварыць у касцёлах казанні па-беларуску, што з часам і выклікала пасля 1865 г. забарону пісаць і друкаваць.

Гэтая забарона, адзіная ў свеце, нягледзячы на яе дзікасць, была праведзена вельмі строга. Нядарма Адам Кіркор пісаў: “Беларускаму народу больш не зазвініць яго родная мова, і сам ён як народ прапаў”.

Адам Кіркор памыліўся: народ не прапаў! Збяднеў ён, заняпаў, пачаў траціць усё больш і больш сваіх сыноў, але прапасці ўсё-ткі не мог [...].

Беларускія дзеячы, нягледзячы на забарону друку, працаваць не пераставалі. Марцінкевіч пісаў і далей свае творы, хаця і не меў магчымасці пабачыць іх у друку. Апрача Марцінкевіча з’явіліся другія працаўнікі, якія павялі яго працу далей.

Да такіх належаў у поўнай меры Аляксандр Ельскі. Багаты памешчык, Ельскі з’яўляецца выдатным, шчыра і праўдзіва дэмакратычным дзеячам у Міншчыне пасля 1864 г. Пачынаючы ад 1861 г. працуе А. Ельскі і пяром. Праз 55 гадоў літаратурнай і публіцыстычнай працы Ельскі пакінуў выдатны след у гісторыі і культуры краю. Не было газеты, журнала, дзе б ён ні быў супрацоўнікам. Яго стацці ў энцыклапедыях, паадзінокія кніжкі па гісторыі, прамысловасці, культуры і прасвеце краю маюць велізарнае значэнне і для нас, хаця і пісаны ў польскай мове. Сам А. Ельскі ўважаў сябе за паляка, аднак беларусаў любіў і шанаваў. Працы Ельскага ў беларускай бібліяграфіі і колькі кніжак у беларускай мове, напісаных ім самім, для нас проста бясцэнны. Будучы гісторык краю, калі будзе студыяваць заняпад

запінаючыся. Тады апякун запытаўся ў вучняў, ці зразумелі яны. Усе дружна, і разам зь імі Хадаковіч, адказалі, што зразумелі. Апякун сказаў Хадаковічу пераказаць вершык сваімі словамі. Хадаковіч пачырванеў, закашляўся й стаіць. Тады апякун і настаўніца пачалі яму памагаць наводнымі пытаньнямі: “Ну, што-ж, увосень сонца мацней грэе ці слабей?” – “Слабей”. – Ну, а чаго ўвосень на дрэвах і па цэлым лесе становіцца менш?” Хадаковіч крыху падумаў, пасьляж схамянуўся й бойка адказаў: “Вужоў становіцца менш”. Недарэчнасьць адказу, відаць, моцна ўразіла, і ўсе трое – апякун, інспектар і настаўніца – пераглянуліся. Апякун падыйшоў бліжэй да вучня і ўсхваляваным голасам запытаўся: “Скажы, Хадаковіч, чаму табе ў галаву прыйшлі вужы?” Хадаковіч зьбянтэжыўся й таксама ўсхвалявана пачаў гаварыць: “А як-жа, а як-жа? Вось-жа тут напісана: “уж”,”уж”! І ў нас у “Добрых семенах” напісана – “уж и гадюка”. – Пры гэтым ён спрытна дастаў з-пад лаўкі падручнік “Добрые семена” і ў другой частцы падручніка хуценька знайшоў малюнак з подпісам “Уж и гадюка”.

На твары Хадаковіча зьявілася пераможная ўсьмешка. Аднак апякун ад гэтага дыялёгу адразу пахмурнеў й неяк сумна загадаў Хадаковічу сесьці [...]

Ад нас апякун пайшоў да вучняў першага году навучаньня. Зь імі ён прабыў няпоўную гадзіну. У гэтым аддзеле былі сямігадовыя дзеці – першы год з вёскі ў места. Расейскае мовы яны зусім не разумелі, і настаўніца кажнае слова з расейскае мовы перакладала на беларускую, а пасьля тлумачыла яшчэ па-беларуску й цэлы сказ. Ня толькі апякуну, але й нам, крыху старэйшым вучням, было відавочна, як цяжка гэным малым давалася разуменьне чужое мовы ў школе. Бадай кажнага вечара й на перапынках малыя ў нас пыталіся, а што такое топор, рожь, глаза, полотенце, кушать, сапоги ды іншае. Далёка не заўсёды й мы маглі дапамагчы ў гэтым меншым. Асабліва дрэнна было з вымаўленнем. Ніхто ні з нас вучняў, ні з дарослых, якія прыходзілі да нас, вымаўленьня расейскага не ведаў. На лекцыях-жа, на працягу пяцьдзесяцёх хвілінаў, трыццаць пяць напэўна трацілася на тое, каб вучні нешта зразумелі й правільна вымаўлялі па-расейску. Удадатак, дзевяцьдзесят працэнтаў зместу падручнікаў было пабудавана на расейскім матэрыяле: апісаньні Расеі, звычаяў, расейскай літаратуры. Усё гэта выраблялa ў нас неахвоту да школы, і шмат хто школу кідаў.

*Кіпель Я. Як нас вучылі // Спадчына. 1995. № 3. С. 75–88*

## 134. Праблема нацыянальнага і сацыяльнага складу насельніцтва Беларусі і Літвы на рубяжы XIX–XX стст.

Па дадзеных Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г., у межах Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Ковенскай, Магілёўскай і Менскай губ. пражывала 10 062 811 чал. Цывільнае насельніцтва, паводле падлікаў польскага даследчыка Владзімежа Вакара, складала 9 916 617 чал. […]

Многія даследчыкі выказваюць сумненні ў верагоднасці дадзеных Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі (1897) на беларускіх і літоўскіх землях, у якіх адлюстравалася моўная сітуацыя. Вядома, што перапіс адбываўся ва ўмовах актывізацыі палітыкі "располячения" г.зв. "Паўночна-Заходняга краю", і палітычная сітуацыя не магла не паўплываць на ход і вынікі гэтага перапісу. Ёсць падставы для крытычнага стаўлення таксама да вынікаў расійскіх перапісаў 1909 і 1911 гг.

Праўда, у распараджэнні даследчыкаў знаходзяцца яшчэ матэрыялы нямецкага перапісу 1916 г., які праводзіўся на акупаванай тэрыторыі Ковенскай, Гарадзенскай, частках Віленскай і Менскай губ., і польскіх перапісаў 1919 і 1921 гг. Аднак перапіс 1916 г. не насіў усеагульнага характару. Людзі самі павінны былі з'яўляцца на перапісныя ўчасткі, і частка насельніцтва праігнаравала гэты перапіс. Што датычыць польскіх перапісаў 1919 і 1921 гг., то варта адзначыць, што яны адбываліся фактычна ва ўмовах вайны. Апроч таго, на іх вынікі не магло не паўплываць імкненне польскай палітычнай эліты пашырыць межы незалежнай Польшчы коштам беларускіх зямель.

Трэба заўважыць, што толькі падчас перапісу 1919 г. ставілася пытанне пра нацыянальнасць. Прычым атрыманыя вынікі выклікалі настолькі моцны недавер даследчыкаў, што ў наступным перапісе (1921) арганізатары адмовіліся ад гэтага пытання. Ва ўсіх іншых перапісах, у тым ліку ў перапісе 1897 г., навукоўцы пры вывучэнні нацыянальнай структуры могуць карыстацца толькі дадзенымі па роднай мове і канфесійнай прыналежнасці. Прычым, пры пэўным спрошчаным поглядзе на гістарыяграфічную сітуацыю, можна адзначыць, што беларускія даследчыкі (а таксама большасць літоўскіх, расійскіх і нямецкіх) акцэнтуюць увагу на дадзеных па роднай мове, а польскія навукоўцы – на паказчыках канфесійнай прыналежнасці.

Адпаведна "моўнай канцэпцыі" вызначэння нацыянальнасці пераважную большасць насельніцтва шасці беларуска-літоўскіх губерняў, паводле перапісу 1897 г., складалі беларусы і літоўцы. Беларусы насялялі пераважна Менскую і Магілёўскую губ., большую частку Віленскай, Віцебскай і Гарадзенскай губ. Перапісчыкі зафіксавалі 5408,0 тыс. чал., якія лічылі роднай беларускую мову

(63,6% насельніцтва гэтых губерняў). Літоўцы насялялі ў асноўным Ковенскую губ., а таксама Трокскі, Віленскі і Свенцянскі паветы Віленскай губ. Тут пражывала 99,2% усіх, хто лічыў роднай мовай літоўскую. Яны складалі 41,4% ад насельніцва гэтых дзвюх губерняў (1299,7 тыс.). Яўрэі раўнамерна размяркоўваліся па ўсіх шасці губернях і складалі 14,1% насельніцтва (1414,1 тыс.). Таксама раўнамерна ва ўсіх губернях (з невялікай перавагай у Віцебскай) пражывала рускае насельніцтва. Яно складала 5,6% усіх жыхароў (565,8 тыс.).

Прыблізна такой самай аказалася колькасць палякаў – 5,6% (563,8 тыс.). Найбольш іх пражывала ў Бельскім (34,9%), Беластоцкім (29,9%), Гарадзенскім (7,3%) паветах Гарадзенскай губ., у Ковенскім (24,8%), Вількамірскім (10,1%), Новаалександраўскім (8,9%), Паневежскім (6,6%), Шавельскім (6,3%) паветах Ковенскай губ., Трокскім (11,4%), Віленскім (7,2%), Свенцянскім (6,0%) паветах Віленскай губ. і ў Менскім павеце (7,0%). Адзначым, што вынікі гэтых падлікаў па некаторых паветах выклікаюць моцныя сумненні. У прыватнасці, у Сакольскім пав. Гарадзенскай губ. польскамоўных жыхароў аказалася 1,2%, у Ашмянскім пав. Віленскай губ. – 1,7%, г.зн. іх колькасць была прыблізна роўнай колькасці палякаў у Магілёўскім (1,5%) або Аршанскім пав. (1,8%) Магілёўскай губ., што малаверагодна.

Усведамляючы ўсю **адноснасць гэтых падлікаў**, варта тым не менш супаставіць іх з паказчыкамі перапісу 1897 г. па саслоўнай прыналежнасці (табл. 1). Няцяжка ўбачыць, што пры падобным падыходзе сацыяльнае размежаванне грамадства Беларусі і Літвы, якое лёгка прачытваецца ў саслоўных катэгорыях, у вялікай ступені супадае з нацыянальным. Атрымліваецца, што пераважную большасць сялян шасці губерняў складалі беларусы і літоўцы. Значная частка гарадскога насельніцтва (рамеснікі, рабочыя, дробныя і сярэднія гандляры) належала да яўрэйскай нацыянальнасці. Вышэйшыя сацыяльныя колы грамадства Беларусі і Літвы складаліся з мясцовых польскіх памешчыкаў, звязанай з імі інтэлігенцыі, а таксама расійскага чыноўніцтва і зрусіфікаванай часткі інтэлігенцыі. Варта, аднак, звярнуць увагу на высокі працэнт беларусаў сярод патомнага (28,5) і сярод асабістага дваранства (18,5). Першая з гэтых лічбаў, відавочна, сведчыць пра вялікую колькасць беларускамоўнай дробнай шляхты. Другая лічба, магчыма, датычыла мясцовых ураджэнцаў, якія займалі ніжэйшыя прыступкі чыноўнай іерархіі і з дапамогай сваёй дэклараванай беларускасці спрабавалі ўмацаваць службовае становішча, набыць зямлю і г.д. Так, напрыклад, жыхар г. Лепеля Віцебскай губ. Мікалай Барэйка ў верасні 1912 г. звярнуўся да губернскіх улад з просьбай выдаць пасведчанне, што ён з'яўляецца беларусам. Дакумент быў патрэбны для пакупкі зямлі.

Табліца 1. Нацыянальны і саслоўны склад насельніцтва Беларусі і Літвы. 1897 г.*

| | Палякі | | Беларусы | | Рускія | | Літоўцы | | Яўрэі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць (тыс. чал.) | % ад агул. кольк. сасл. | Колькасць (тыс. чал.) | % ад агул. кольк. сасл. | Колькасць (тыс. чал.) | % ад агул. кольк. сасл. | Колькасць (тыс. чал.) | % ад агул. кольк. сасл. | Колькасць (тыс. чал.) | % ад агул. кольк. сасл. |
| Патомнае дваранства | 141,7 | 47,1 | 85,7 | 28,5 | 29,8 | 9,9 | 39,1 | 13,0 | - | - |
| Асабістае дваранства | 9,9 | 24,0 | 7,6 | 18,5 | 19,9 | 48,4 | 1,1 | 2,6 | 0,4 | 0,1 |
| Духавенства | 0,6 | 2,3 | 8,8 | 34,9 | 15,2 | 60,7 | 0,5 | 1,9 | - | - |
| Ганаровыя грамадзяне | 0,5 | 3,0 | 4,7 | 29,6 | 7,7 | 48,4 | - | - | 1,3 | 8,3 |
| Купцы | 1,0 | 4,7 | 0,3 | 1,5 | 2,1 | 10,3 | - | - | 13,7 | 66,8 |
| Мяшчане | 177,6 | 8,7 | 317,9 | 15,5 | 132,9 | 6,5 | 61,8 | 3,0 | 1369,6 | 66,8 |
| Сяляне | 226,6 | 3,2 | 5014,9 | 70,5 | 374,9 | 5,3 | 1204,9 | 16,9 | 23,9 | 0,3 |

* Падлікі, зробленыя ў межах г.зв. “моўнай” канцэпцыі вызначэння нацыянальнасці. Крыніцы: Первая всеобщая перепись населения Российской империи. 1897 г. Вып. IV. Виленская губ. 1903; Вып. V. Витебская губ. 1903; Вып. XI. Гродненская губ. 1904; Вып. XVII. Ковенская губ. 1904; Вып. XXII. Минская губ. 1904; Вып. XXIII. Могилёвская губ. 1905.

Звернем таксама ўвагу на заняткі польскага насельніцтва. Сярод тых, хто прадстаўляў у краі ўладу і права (адміністрацыя, суд, паліцыя, грамадская і саслоўная служба), палякі складалі 12,0%[6] (0,4% ад агульнай колькасці польскага насельніцтва). (Для параўнання заўважым, што рускія складалі 42,0%, а беларусы – 30,7%.) Аднак трэба адзначыць, што палякі, за невялікім выключэннем, займалі толькі ніжэйшыя дзяржаўныя пасады. Адносна значную колькасць палякаўчыноўнікаў ускосна пацвярджаюць дадзеныя па саслоўным складзе. Сярод асабістых дваран, якія ў сваёй асноўнай масе якраз і з’яўляліся чыноўнікамі, палякі складалі 24,0%.

Святары-палякі налічвалі 2,3% сярод усяго духавенства. (Для параўнання: святары-рускія – 60,7%, святары-беларусы – 34,9%.) Гэтая невялікая лічба не павінна ўводзіць у зман. Польскае каталіцкае духавенства займала прыкметнае месца ў жыцці польскага грамадства і ўсяго краю.

Аналагічна трэба ацэньваць лічбы, якія мелі дачыненне да інтэлігенцыі. Сярод людзей, якія займаліся навучальнай і выхаваўчай

6 Гэтыя і далейшыя падлікі зроблены ў межах канцэпцыі “моўнага” вызначэння нацыянальнасці.

дзейнасцю, навукай, літаратурай, мастацтвам, прыватнай юрыдычнай практыкай, медыцынскай працай, палякі складалі 9,0%. (Для параўнання: рускія – 19,3%, беларусы – 15,8%.) Але колькасна невялікая польская інтэлігенцыя адыгрывала значную ролю ў культурным і грамадскім жыцці краю. Да гэтага трэба дадаць красамоўныя дадзеныя па колькасці пісьменных сярод розных народаў. Палякі былі найбольш адукаваным народам. Пісьменных сярод іх было 45,8%. Потым ішлі літоўцы (38,6%) і яўрэі (33,0%). Апошняй была так званая "руская нацыя" (беларусы, украінцы, рускія) – 18,1%. Нельга не заўважыць, што нават паводле "моўнай канцэпцыі вызначэння нацыянальнасці" колькасць польскага насельніцтва сярод інтэлігенцыі і тых, хто прадстаўляў уладу і права, перавышала працэнтную вагу палякаў сярод усіх жыхароў краю.

Нельга не адзначыць, што лінгвістычны крытэрый пры вызначэнні нацыянальнай прыналежнасці мае істотныя недахопы. Не заўсёды нацыянальная ідэнтыфікацыя непарыўна звязана з той мовай, якую чалавек лічыць сваёй роднай. Гэтая заўвага асабліва датычыць паўзмежных этнічных зон, насельніцтва якіх звычайна размаўляе мешанымі дыялектнымі гаворкамі і разумее мовы суседніх этнасаў. У такіх зонах мова перастае быць галоўным крытэрыем нацыянальнай адметнасці. А ў дачыненні да беларусаў лінгвістычны прынцып мае яшчэ адну загану. Справа ў тым, што вясковыя жыхары, якія размаўлялі па-беларуску, звычайна называлі сваю мову "простай", "мясцовай" або "тутэйшай"[7]. Ва ўсведамленні гэтых людзей іх мова мела статус вясковай гаворкі і не параўноўвалася (тым больш не супрацьстаўлялася) з польскай або рускай мовамі. У 1897 г. звычайна самі перапісчыкі вызначалі мову значнай часткі насельніцтва як "белорусский говор". Расійскі ўрад быў зацікаўлены ў гэтым, бо "белорусскоговорящих" ва ўсіх афіцыйных матэрыялах канца XIX – пачатку XX ст. адносілі да "русского народа".

Па канфесійнай прыналежнасці насельніцтва краю дзялілася на тры групы: праваслаўныя – 53,1% (5 348,5 тыс.); каталікі – 31,1% (3128,1 тыс.), у тым ліку каталікі, што назвалі роднай мовай польскую, складалі 17,7% (555,6 тыс.); іудзеі – 14,2% (1423,3 тыс.).

Яўрэі, літоўцы, рускія і палякі мелі, па сутнасці, нацыянальныя цэрквы. Іўдаізм спавядала 99,9% яўрэйскага насельніцтва, прыкладна столькі ж літоўцаў спавядала каталіцызм, 98% палякаў таксама

---

[7] У некаторых мясцовасцях Беларусі гэтая з'ява шырока распаўсюджана нават сёння. У гэтым аўтар меў магчымасць пераканацца асабіста падчас працы польска-беларускай навуковай экспедыцыі пад кіраўніцтвам прафесара П. Эбэрхардта. Экспедыцыя працавала ў паўночных і паўночна-заходніх рэгіёнах Беларусі (Гарадзеншчына, Меншчына і Віцебшчына) у верасні 1999 г.

з’яўляліся каталікамі, 94,7% рускіх былі праваслаўнымі. Беларусы падобнага канфесійнага адзінства не мелі. Каталікі, роднай мовай якіх была беларуская, налічвалі 1026,6 тыс. (18,0%), жылі вельмі кампактна. 2/3 з іх насялялі Віленскую і Гарадзенскую губ.

Польскія навукоўцы звычайна звярталі галоўную ўвагу на паказчыкі канфесійнай прыналежнасці. Пры гэтым колькасць палякаў у Беларусі і Літве звычайна ўзрастала за кошт беларускамоўных каталікоў.

У польскай гістарыяграфіі пануе тэзіс пра свядомае заніжэнне колькасці польскамоўнага і каталіцкага насельніцтва Беларуска-Літоўскага краю ў 1897 г. Першай грунтоўнай спробай перагляду гэтых дадзеных стала даследаванне Эдварда Малішэўскага. [...] Апошняй – працы Пятра Эбэрхардта. Ён упэўнены, што толькі веравызнанне можа быць падставаю вызначэння нацыянальнасці насельніцтва, якое жыло на беларуска-польскім паўзмежжы напрыканцы XIX ст. Навуковец лічыць, што “на пераломе XIX і XX стст. у Беларусі існаваў пэўны сімбіёз паміж рэлігіяй і нацыянальнасцю. У традыцыйным грамадстве з нізкім узроўнем адукацыі замацаваліся сталыя стэрэатыпы, што звязвалі веравызнанне з нацыянальнасцю. Вернік рымска-каталіцкага касцёлу быў сапраўдным ці патэнцыяльным палякам, іудзей быў жыдам. У той самы час праваслаўны, які размаўляў на дыялекце беларускай мовы, пад уплывам часу выяўляў рост нацыянальнай свядомасці і рабіўся беларусам”. П. Эбэрхардт прызнаў, што беларусы сустракаліся і сярод каталікоў. Але ён лічыць, што такая з’ява магла мець месца толькі ў цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва, і беларускія каталіцкія вёскі былі адарваныя ад згуртаванага каталіцкага рэгіёну. На захадзе Беларусі, на яго думку, вясковае насельніцтва нашмат мацней атаясамлівала каталіцызм з польскасцю.

[...] У выніку атрымалася, што на рубяжы стагоддзяў агульная колькасць цывільнага насельніцтва Беларусі (у сучасных дзяржаўных межах) складала 6424,2 тыс. чалавек. Беларусаў было каля 4356,2 тыс., або 67,8%, яўрэяў – 910,9 тыс., або 14,2%, палякаў – 838,9 тыс., або 13,0%, рускіх – 224,5 тыс., або 3,5%. Пацвярджэннем верагоднасці гэтых разлікаў стаў, на думку П. Эберхардта, перапіс 1909 г. Ён паказаў, што рускія, беларусы і ўкраінцы разам складалі 72,9% насельніцтва Беларусі (5424,1 тыс.), а палякі – 13,2% (983,4 тыс.). Але трэба заўважыць, што ў дачыненні да ўсіх шасці беларуска-літоўскіх губерняў колькасць палякаў Беларусі і Літвы, вызначаных на падставе дадзеных па роднай мове, паводле перапісу 1897 г. (563,8 тыс., або 5,6%), фактычна пацвярджаецца паказчыкамі перапісу 1909 г. – 632,2 тыс., або 5,5%.

П. Эберхардт лічыць, што ў 1897 г. расійскія перапісчыкі аднеслі да катэгоры "беларускамоўных" усіх жыхароў польскамоўнай зоны, якая ўтварылася ў 70–90-я гг. XIX ст. на былым беларуска-літоўскім этнічным паўзмежжы. У 1897 г. тут ужо існавала беларуска-польскае і польска-літоўскае паўзмежжа. Даследчык так ахарактарызаваў сітуацыю, якая складвалася ў выніку працэсаў нацыянальнай дыверсіфікацыі: "Селянін-каталік з ваколіц Коўна, які ўжываў літоўскую мову, станавіўся свядомым літоўцам. Селянін-каталік, што ўжываў славянскія дыялекты і жыў на літоўска-беларускім паўзмежжы, станавіўся свядомым палякам, а праваслаўны селянін, што жыў <...> на вялікай частцы тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага, – беларусам. Гэтыя працэсы ў канцы XIX ст. выступалі ўжо ў выразна акрэсленай форме, і толькі праграмна запланаваная антыпольскасць перапісу, праведзенага царскай адміністрацыяй, не дала зафіксаваць гэтага факту. На рубяжы XIX і XX стст. не існавала ўжо этнічнай мяжы паміж літоўскім і беларускім народамі. Тут сфарміравалася вялізарная нацыянальная зона пераважна польскага характару з цэнтрам у Вільні, якая ўсё больш аддзяляла літоўскую тэрыторыю ад беларускай". [...]

У працы, прысвечанай нацыянальным змяненням у Літве, П. Эберхардт для рубяжа XIX–XX стст. прыняў разлікі В. Вакара. У адпаведнасці з імі ў 1897 г. у Літве (у сучасных дзяржаўных межах) літоўцы складалі 56,8% (1271,1 тыс.), палякі – 20,6% (461,6 тыс.), яўрэі – 14,3% (320,8 тыс.), рускія – 4,1% (92,4 тыс.), беларусы – 1,2% (26,0 тыс.). Усяго – 2238,5 тыс. Літоўскі дэмограф П. Гаўчас аспрэчыў гэтыя падлікі. Паводле ягоных даследаванняў, усё насельніцтва Літвы (у сучасных межах) напрыканцы XIX ст. складала 2673,3 тыс. чалавек. Сярод іх літоўцаў было 1645,8 тыс. (61,6%), яўрэяў – 350,5 тыс. (13,1%), палякаў – 258,9 тыс. (9,7%), беларусаў – 126,0 тыс. (4,7%), рускіх – 128,1 тыс. (4,8%). Як відаць, найбольшыя разбежнасці ізноў датычаць колькасці палякаў і беларусаў.

Тэндэнцыя польскай гістарыяграфіі і дэмаграфіі лічыць веравызнанне важнейшым крытэрыем вызначэння нацыянальнай прыналежнасці ў Беларусі і Літве на рубяжы стагоддзяў не знаходзіць разумення сярод беларускіх, літоўскіх і расійскіх калег. Безумоўна, на польска-беларускім этнічным паўзмежжы існаваў моцны стэрэатып атаясамлівання польскасці з каталіцызмам. Тут часта ўжываліся выразы тыпу "польская вера" і "руская вера". Але паўтарэнне састарэлых стэрэатыпаў вядзе толькі да таго, што беларусы, гістарычна падзеленыя на каталікоў і праваслаўных, знікаюць як самабытная нацыя. Апроч таго, атаясамліванне каталіцызма з польскасцю не дазваляе зразумець многія важныя падзеі беларускай гісторыі. Недапушчальна

ігнараванне (як і абсалютызацыя) такой прыкметы нацыянальнасці, як родная мова. Яна заўсёды была важнай складовай нацыянальнай свядомасці.

*Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб., 2004. С. 37–45.*

### 135. З даследаванняў М. Доўнар-Запольскага і Д. Шэндрыка.

Белорус отличается бережливостью, почти скупостью, расчётливым ведением хозяйства. На работе он отличается замечательной выдержкой, которая так мало гармонирует с его физической хилостью. Оттого белорусы – прекрасные рабочие на таких трудных работах, как гонка плотов, барж, при земляных и мостовых работах.

Белорус отличается гостеприимством, склонностью к веселью и доверчивостью, хотя её можно и не сразу снискать. Отсутствие злопамятности в белорусе резко бросается в глаза всякому, кто с ним сталкивается. Вообще он обладает кроткой натурой. Весьма возможно, что эта черта, плохо понятая поверхностными наблюдателями, создала легенду о приниженности, забитости белоруса. Это мнение широко распространённое, но оно далеко не справедливо. Вот, например, впечатление, вынесенное беспристрастным наблюдателем. “Ходячие представления о типе белорусского крестьянина, – говорит г. Грузинский, – рисуют его неказистым… тщедушным, придавленным тяжёлой жизнью в болотистом, бедном краю. Мои личные впечатления были не таковы. Я увидел белоруса крепкого сложения, хотя и худощавым… Но главное, я не заметил и следа угнетённости, забитости. Манера держать себя и говорить, действительно, отличалась от великорусской своей медлительностью, сдержанностью, но в ней виделась скорее степенная важность, не лишённая достоинства. Выразительные физиономии встречаются очень часто, а среди женщин и девушек много прямо красивых лиц”.

Эта характеристика особенно важна потому, что это наблюдение заезжего москвича. Но, спрашивается, почему же создалось, сделалось ходячим вообще невыгодное представление о белорусе? Это объясняется вот чем: в 60-х годах русские публицисты изо всех сил старались представить белорусов самым несчастным, самым угнетённым народом в мире для того, чтобы показать, как тяжело отразилось в крае господство польских помещиков и евреев. Публицисты тогда наговорили много нелепого, много неверного, забывая, что крепостное право окреплялось русскими законами, что оно едва ли легче было и

в Великороссии и что везде оно имело тяжёлые последствия. Теперь пора уже русскому обществу отвыкать от этих предрассудков.

*Россия. Полное географическое описание нашего Отечества / под ред. В. Семенова. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб, 1905. Т. 9. С. 156–158*

**136. З даследаванняў Аркадзя Смоліча.**

Розныя аўтары па-рознаму апісвалі характар беларуса. Каб давесьці, што беларусы ёсьць нейкаю ніжэйшаю расаю, а гэта было патрэбна нашым імперыялістычным суседзям, шмат хто з этнографаў пануючых народаў прадстаўляў беларуса напоўдзікуном. Трэба было шмат сумленнае працы праўдзівых вучоных, каб развеяць гэтыя памылковыя погляды.

Беларус ня мае ў характары тае рызыкі, адкрытае і грубае прастаты, характэрнае для маскоўца; ня мае, йзноў-жа, лёгкадумнасьці, сьвецкасьці і самахвальства, якімі гэтак часта вызначаюцца палякі. І ад украінца, з якім наагул беларус мае шмат супольнага, адзначаецца ўсё-ж ён сваім шчырэйшым сэрцам ды, можа, крыху большаю рухавасьцю. Наагул, характар беларуса больш паважны, спакойны і рахманы з добра разьвітаю воляю, панаваньнем над сабою і вытрываласьцяю ў працы. На першы погляд здаецца беларус крыху недаверчывым і скрытным; у кожным разе ён ня гэтак лёгка зыходзіцца з людзьмі, як масковец. Затое, як толькі ён абзнаёміцца з новым чалавекам і пераканаецца ў яго няшкоднасці, робіцца ён і даверчывым і шчырым, можа не праз меру, але ў кожным разе нагэтулькі, каб завязаць самыя прыязныя адносіны.

Беларус добры гаспадар, шануе капейку, а крыху, можа, і скупаваты. Гэта не перашкаджае, аднак, яму быць вельмі гасьцінным; як, можа, ні ў аднаго з народаў, перахавалася ў беларусаў гэтая старая славянская цната. Ведаюць добра аб гэтым людзі, якім даводзілася пехатою праходзіць па Беларусі. Падарожнага ў беларускай хаце вельмі ахвотна прыймуць, накормяць і ня толькі ня возьмуць за гэта платы (што ўважаюць сабе за абразу), але яшчэ і падзякуюць, што зайшоўся. Беларус ізноў-жа любіць павесяліцца; вясёласьць у яго шчырая, ад усяе душы; гэта відна ўжо з адпаведных песняў, прыкл., прыпевак да танцаў.

Ёсьць у характары беларуса адна важная рыса, якую згодна прызнаюць усе лепшыя этнографы. Беларус ня помніць злога і лёгка даруе сваім крыўдзіцелём. Пачуцьцё помсты ў ім неразьвіта, што адрозьнюе яго нават ад украінца, дый шмат ад якіх народаў [...]

Цікава адзначыць, што, нягледзячы на гэта, беларус ў расейскай арміі лічыўся найлепшым салдатам: адважным, цьвёрдым, вытрыва-

лым. Недахват ваяўнічасці, значыць, трэба тлумачыць толькі гэтай лагоднасьцяю, рахманасьцяю беларускага народнага характару; беларус рад каму хаця саступіць, абы была згода. Зразумела, што пры гэткай, лішняй, можа, міралюбівасьці гісторыя беларускага народу і не магла ўлажыцца іншым спосабам, як яна ўлажылася. Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыны, тае будучыны, калі справядлівасьць запануе між народамі, але быў мала падгатаваным да змагання за быт, за жыцьцё, якое йшло вакола яго і яго коштам, але на яго шкоду [...]

Тых нават, хто прадстаўляў сабе беларуса з найгоршага боку, заўсёды дзівілі прыгажосць і багацце яго народнае паэзіі, якую стварыў ён у жыцьці цяжкім, запрацаваным, загнаным. Мае беларус душу мягкую, з надзвычайна разьвітаю ўражлівасьцію ды фантазіяю. Дзякуючы ім, стварыў ён бяз ліку цудоўных казак і прыгожых высокапоэтычных песьняў, насяліў сьвет вакола сябе разнароднымі духамі, благімі й добрымі, і жывець напалову ў сьвеце гэтых духаў, не раўнуючы бы які чараўнік [...]

Тады, як у казках і легендах, ды ў народных звычаях, адбіваецца багатая фантазія беларуса, у песьнях выяўляецца глыбіня яго душы, далікатная, поэтычная, глыбока задуманая і найчасьцей нейкая засмучаная. Багушэвіч у "Дудцы Беларускай" гаворыць аб беларускай жалейцы, што яна "енча, а ня йграе, як ні выйгравай ты, а яна смутная", смутны голас дае. Гэныя словы можна сьмела аднесці і да народнае беларускае песьні; калі ня зьмест, дык голас яе ў большасці поўны задумы і смутку. Гэта, можа, і зразумела. У жыцьцёвай і гістарычнай барацьбе гэтулькі разоў беларус меў няўдачы, што жыцьцёрадасны і сьвяточны настрой ніяк ня можа ў яго быць частым і звычайным.

*Смоліч А. Географія Беларусі. 4-е выд. Мінск, 1993. С. 134–138*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Для якіх нацыянальных супольнасцей акрамя беларусаў зямля Беларусі стала Радзімай?

2. Ахарактарызуйце ўмовы, у якіх адбываўся працэс утварэння беларускай нацыі. Якія меры па русіфікацыі краю, на думку графа М. Мураўёва, былі першачарговымі і чаму? Пералічыце асноўныя накірункі палітыкі русіфікацыі Беларусі ў другой палове XIX ст. Якія вынікі мела гэтая палітыка?

3. Якое месца ў палітыцы русіфікацыі займала адукацыя? Якое значэнне мела руская мова адукацыі ў народнай школе? Ці не памыляўся рускі журналіст і гісторык М. Пагодзін, калі пасля наведвання народных школ на Полаччыне з задавальненнем адзначаў, што ўбачыў там у большай ступені рускіх, чым, напрыклад, жыхары Падмаскоўя? (Ад-

казваючы на гэтыя пытанні, яшчэ раз выкарыстайце апошняе пісьмо К. Каліноўскага.)

4. Якія прыродныя, культурныя і гістарычныя фактары, на погляд беларускіх народнікаў, спрыялі ўтварэнню беларускай нацыі? Пералічыце асноўныя аргументы доказу існавання беларускай нацыі. Ці пагаджаецеся вы з імі? Пракаменціруйце заклікі беларускіх народнікаў: “Далоў эксплуатацыю! Мы самі жадаем кіраваць сабою! Далоў чужыя рукі! Беларусь для беларусаў, а не для чуждых элементаў! Мы самі павінны заваяваць сабе свабоду, не спадзяючыся на іншых!” Чаму яны лічылі, што, толькі абапіраючыся на ўласную культуру і традыцыі, Беларусь здолее адрадзіцца да новага самастойнага жыцця? Ці згодны вы з гэтым тэзісам? Якой бачылі будучыню Беларусі беларускія народнікі?

5. Ці можна прыняць тэрор як сродак палітычнай барацьбы? Чаму ахвярай рэвалюцыйнага тэрору стаў цар-рэфарматар?

6. Расійскія публіцысты і пісьменнікі другой паловы XIX ст. звычайна паказвалі беларускага селяніна забітай і прыніжанай істотай, якую панаванне памешчыкаў давяло ледзь не да жывёльнага стану. Якім выглядаў беларускі селянін у працах этнографаў і навукоўцаў, што наведвалі беларускія вёскі і вывучалі сялянскі побыт? Чаму апісанні беларускага селяніна ў першым выпадку і ў другім сур’ёзна адрозніваліся?

7. Якія рысы нацыянальнага характару беларусаў адзначалі даследчыкі?

8. Якое месца ў гісторыі беларускай культуры заняў А. Ельскі? Ахарактарызуйце ролю ў развіцці беларускай культуры XIX ст., якую адыгралі многія нашчадкі апалячанай у XVII–XVIII стст. беларускай шляхты.

9. Як вы разумееце словы Ф. Багушэвіча: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!” Ці згодны вы з такой высокай ацэнкай мовы ў жыцці асобнага чалавека і цэлага народа?

## СТАНОВІШЧА СЯЛЯН І РАБОЧЫХ. ВЫЗВАЛЕНЧЫ РУХ У 80–90-Х ГГ. XIX СТ.

### 137. З назіранняў падарожніка. 90-я гг. XIX ст.

Быт белорусских крестьян далеко не может быть назван богатым. Только в Могилёвской губ., самой плодородной и населенной из белорусских губ., жители не терпят нужды. Самой поразительной бедностью отличается Витебская губ. Почва в ней малоплодородна, и жители сильно страдают в голодные годы. Урожаи в этой губернии даже и в лучшие годы не превышают сам-третей. К тому же и кре-

стьянские наделы не настолько велики, чтобы прокормить белоруса с семьёй [...]

От горького житья в родной деревне белорус покидает свой дом и с лопатой на спине идёт искать заработка на чужой стороне. Из Витебской губ. ежегодно тысячи белорусов уходят в Петербург, а ещё больше в Москву. Белорусы известны как хорошие землекопы, и поэтому на всех производимых земляных работах можно встретить их целыми партиями [...] Заработав немного денег, белорус возвращается в родимую хату на прежнее житьё, потому что заработанных денег хватает ненадолго и приходится либо опять идти в чужую сторону, либо голодать на родине. Впрочем, и на чужбине жизнь белоруса несладка: ходят они и без работы, терпя голод и холод, и много их погибает вдали от родины при работе на какой-нибудь железной дороге.

*Майков Г. Белорусский край. Спб., 1898. С. 35–37*

### 138. З данясення магілёўскага губернатара пра хваляванні сялян в. Зборава. 1883 г.

[ 24 чэрвеня 1883 г.]

Крестьяне д. Зборово Кистенёвской вол. Рогачёвского у. самовольно захватили луговой участок земли в 123 дес., принадлежащий помещику Выковскому, и на все увещания местных властей возвратить незаконно захваченную ими землю отвечали отказом и неповиновением [...]

[12 ліпеня 1883 г.]

Имею честь доложить в.с. (міністру ўнутраных спраў. – *А.С.*), что для успешнейшего приведения крестьян д. Зборово в повиновение мною сделано было распоряжение, чтобы по вступлению войска крестьянин этой деревни запасной рядовой Степан Демьянов, подстрекательствами которого непокорность поддерживалась, был задержан, а вместе с тем я вызвал в г. Могилёв рогачёвского исправника, находившегося в отпуске, для дачи ему необходимых по этому делу указаний. По прибытии последнего получена была из Рогачёва телеграмма, что при задержании Демьянова зборовцы выразили открытое сопротивление, впоследствии оказалось, что они пытались силою воспрепятствовать задержанию Демьянова и при этом даже нанесли ушибы одному офицеру и двум рядовым, но нападение их войска силою же отразили, не причинив никому повреждения, а тем менее увечья.

Сопротивление, выраженное в столь острой форме зборовцами, вынудило меня указать рогачёвскому исправнику, что при таком положении представляется необходимость в принятии самых энер-

гических мер для прекращения своевольства и буйства означенных крестьян [...]

Получив мои указания, рогачёвский исправник отправился на место и после двухдневных увещаний, не приведших к желаемым результатам, так как крестьяне продолжали упорствовать в неповиновении и не хотели сознаться в своей вине, он [...] вынужден был наказать более виновных розгами, после чего все зборовцы бросились перед ним на колени, сознались в своей вине, просили помилования и составили письменный приговор о раскаянии и прекращении захвата.

Докладывая о вышеизложенном, считаю обязанностью присовокупить, что в наказание за выраженное зборовцами упорное неповиновение мною [...] определено: продолжить экзекуционное занятие войсками д. Зборово до 23-го числа сего июля месяца.

*Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1. С. 231–232*

### 139. З данясення мінскага губернатара аб узброеным супраціўленні сялян хутара Алескае Мазырскага пав. 12 студзеня 1889 г.

Для исполнения возложенного съездом мировых судей Мозырского округа на пристава 1-го стана Мозырского у. поручения относительно взыскания [...] с жителей хутора Алескае мещан: М. Шевченко 423 руб., И. Цалко 180 руб. и П. Прокопенко 148 руб. 50 коп. штрафа в пользу помещика И. Ансельма за порубку леса, упомянутый пристав, 4-го сего января, совместно с поверенными помещика Ансельма, тремя полицейскими урядниками, двумя сотскими, тремя десятскими и двумя понятыми отправился на место в хутор Алескае, но при въезде в оный встречен был толпою жителей приблизительно около 25 человек, которые, вооружившись кольями, цепами и палками, начали наносить [удары] урядникам, сотским, десятским и понятым с целью прогнать их из хутора; когда же пристав приказал обезоружить толпу и объяснил ей причину своего прибытия, то толпа вновь стала вооружаться кольями и, воспрепятствовав входу пристава в дома ответчиков, имущество которых подлежало описи, разогнала скот, принадлежащий И. Цалко, и часть скота других двух ответчиков.

После входа в дом должника Прокопенки толпа ворвалась в этот дом, разбила чернильницу, побила урядника Корзуна и не допустила к составлению описи и протокола [...] В драке же преимущественно принимали участие женщины, подстрекаемые мужчинами, кричавшими: “Убивайте их, на женщин суда нет”.

Хотя толпа и разогнала скот должников, но по распоряжению пристава часть скота, принадлежащего Прокопенко и Шевченко, была

задержана, при сопровождении которого вышеупомянутые лица покушались отбить таковой, и когда попытка их не удалась, то они продолжали наносить удары сопровождавшим, ругали пристава площадными словами и хватали за одежду.

*Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1. С. 251–252*

**140. Умовы працы на Магілёўскай тытунёвай фабрыцы. З апісання Магілёўскай губерні за 1884 г.**

Внутреннее устройство фабрики и производство изделий в ней основано главным образом на силе и приложении физического труда рабочих. Заведение, выпускающее изделий на сотни тысяч, снабжено в этом отношении аппаратами, состоящими из чугунных машинок, ручных станков и других мелких вещей, стоящих в общей сложности всего 1163 руб. Все эти незамысловатые аппараты приводятся в движение руками рабочих, продающих здесь свой труд за баснословно дешёвую плату. Все рабочие [...] из самого бедного класса населения. Большую часть их составляют несовершеннолетние и даже лица женского пола.

За беспримерно ничтожную плату, доходящую до 3 руб. в месяц на всём своём содержании для постоянных и до 4 коп. за сотню папирос для работающих издельно, заводчики имеют [...] в высшей степени искусных рабочих. Работы постоянных рабочих продолжаются минимум 12 часов в сутки, а работающие издельно не жалеют себя и не думают считать часов своего дневного труда. При неизбежной, на всякой вообще табачной фабрике, убийственной для дыхания атмосфере, пользуясь обилием постоянного предложения труда [...] владельцы табачной фабрики очевидно не слишком внимательны и сами к удобствам помещения рабочих [...]

Несмотря даже на недавно устроенную вентилизацию, подобная атмосфера не перестаёт убивать здоровье рабочих, особенно детей, вследствие страшной тесноты рабочих отделений.

Только отделение крошильное отличается просторностью, все же остальное суть не что иное, как грязные конуры, сплошь занятые массами народа с едва остающимся посреди тесным и узким проходом. По самому устройству труда, большею частию требующего согнутого положения организма, постоянно однообразных движений, упражняющих и развивающих одни органы тела рабочего в ущерб другим, рабочие, пробывшие на фабрике более или менее долгое время, особенно дети, выглядят жалкими, истощёнными, с сухими бледными лицами, лихорадочно блестящими воспалёнными глазами и почти всегда с неровным учащённым дыханием [...]

*Хрестоматия по истории Белоруссии... С. 313*

### 141. Першыя рабочыя гурткі ў Мінску. 80-я гг. XIX ст.

Систематическая пропаганда среди еврейских рабочих в Минске начата была в 1883 или 1884 г. Ефимом Хургиным, вскоре по выходе его из тюрьмы, где он содержался по какому-то народовольческому делу.

Летом 1884 г. в Минск приехал Эмиль Абрамович, проведший год в Париже по окончанию Гродненской гимназии; он попытался вступить в отношения с Хургиным, с целью работать сообща в кружках последнего, но у Хургина конспирация была возведена в культ. Приезжий юноша, нигде не сидевший [...] встретил у него крайне холодный приём. Абрамович решил действовать самостоятельно. Он свёл знакомство с типографией рабочих (так у тэксце. – *А.С.*), как наиболее интеллигентных, образовал кружок, стал с ними заниматься сначала естествознанием, а сойдясь поближе, перешёл к пропаганде социализма.

Абрамович имел необычайное влияние на рабочих не только как талантливый лектор, но и как человек редких душевных качеств, беззаветно, до полного самозабвения, преданный делу. Это был демократ не только на словах, но и по натуре; в нём не было ни капли генеральства, с рабочими он держался просто, как товарищ, без всякого проблеска покровительственного тона; он никого не подавлял своим авторитетом, рабочие искренне любили его и относились к нему с глубоким уважением [...]

Знакомство моё с его кружком состоялось при весьма романтической обстановке.[...] Мы всегда искали самых уединенных мест, а потому сошлись тёмной ночью за городом на солдатском кладбище [...]

На этой сходке я ознакомился с планом занятий, который был выработан Абрамовичем и продержался в кружках Северо-Западного края в течение более чем 10-летнего пропагандистского периода, предшествовавшего организации БУНДа.

Все кружки разделялись на три степени: 1. Кружки грамотности, в которых рабочих учили русскому чтению и письму; 2. Кружки естествознания; 3. Кружки социалистические. Новички принимались только в кружки первой и второй степени, в кружки третьей степени выбирались только молодые люди и девушки, прошедшие через кружок второй степени.

[...] Пропаганда в рабочих кружках того времени ограничивалась анализом экономических оснований капиталистического строя и начертанием социалистического идеала. Политических вопросов касались мало.

[...] О классовой борьбе в то время велись только теоретические разговоры; практического значения ввиду малочисленности наших

сил при раздроблении еврейских рабочих в мелких ремесленных мастерских эти рассуждения не имели. Самыми крупными предприятиями у нас были типографии, там положено было основание профессиональному союзу типографских рабочих. Хозяева сразу обнаружили классовый инстинкт и стали донимать придирками рабочих, принадлежащих к социалистическим кружкам. Но до открытого конфликта дело не дошло.

Летом 1886 г. независимо от нас вспыхнула стихийная забастовка обойщиков. Мы сейчас же поспешили на помощь забастовщикам [...] Бастовало всего десятка полтора рабочих одной мастерской. Хозяин собирался было выписать рабочих из Вильны, но стачка через несколько дней закончилась соглашением. Была ещё забастовка учеников еврейского ремесленного училища.

[...] Сколько в наших кружках было всего рабочих, учесть было трудно.[...] По всей вероятности было не менее 250 человек. Спустя 2 года я предпринял объезд главных центров Северо-Западного края: в Белостоке и Гродно не оказалось рабочих кружков, а в Вильне [...] кружок из четырёх рабочих.

*Гурвич И. Первые еврейские рабочие кружки //*
*Былое. 1907. № 6. С. 65–74*

**142. З Маніфеста РСДРП. 1898 г.**

50 лет тому назад над Европой пронеслась живительная буря революции 1848 г. Впервые на сцену выступил – как крупная историческая сила – современный рабочий класс. Его силами буржуазии удалось смести много устарелых феодально-монархических порядков. Но буржуазия быстро рассмотрела в новом союзнике своего злейшего врага и предала и себя, и его, и дело свободы в руки реакции. Однако было уже поздно: рабочий класс, на время усмиренный, через 10–15 лет снова появился на исторической сцене с удвоенными силами, с возросшим самосознанием, как вполне зрелый боец за своё конечное освобождение.

Россия всё это время оставалась, по-видимому, в стороне от столбовой дороги исторического движения. Борьбы классов в ней не было видно, но она была и, главное, всё зрела и росла. Русское правительство с похвальным усердием само насаждало семена классовой борьбы, обездоливая крестьян, покровительствуя помещикам, выкармливая и откармливая на счёт трудящегося населения крупных капиталистов. Но буржуазно-капиталистический строй немыслим без пролетариата или рабочего класса. Последний родится вместе с капитализмом, растёт вместе, крепнет и по мере своего роста всё больше и больше наталкивается на борьбу с буржуазией.

Русский фабричный рабочий, крепостной и свободный, всегда вёл скрытую и явную борьбу со своими эксплуататорами. По мере развития капитализма размеры этой борьбы росли, они захватывали всё большие и большие слои рабочего населения. Пробуждение классового самосознания русского пролетариата и рост стихийного рабочего движения совпали с окончательным развитием международной социал-демократии как носительницы классовой борьбы и классового идеала сознательных рабочих всего мира. Все новейшие русские рабочие организации всегда в своей деятельности сознательно или бессознательно действовали в духе социал-демократических идей. Силу и значение рабочего движения и опирающейся на него социал-демократии всего ярче обнаружил целый ряд стачек в России и Польше, в особенности знаменитые стачки петербургских ткачей и прядильщиков в 1896 и 1897 гг. Стачки эти вынудили правительство издать закон 2 июня 1897 г. о продолжительности рабочего времени. Этот закон – как бы ни велики были его недостатки – останется навсегда достопамятным доказательством того могущественного давления, которое оказывают на законодательную и иную деятельность правительства соединённые усилия рабочих. Напрасно только правительство мнит, что уступками оно может успокоить рабочих. Везде рабочий класс становится тем требовательнее, чем больше ему дают. То же будет и с русским пролетариатом. Ему давали до сих пор лишь тогда, когда он требовал, и впредь будут давать лишь то, чего он потребует.

А чего только не нужно русскому рабочему классу? Он совершенно лишён того, чем свободно и спокойно пользуются его заграничные товарищи: участия в управлении государством, свободы устного и печатного слова, свободы союзов и собраний, – словом, всех тех орудий и средств, которыми западноевропейский и американский пролетариат улучшает своё положение и вместе с тем борется за своё конечное свобождение, против частной собственности и капитализма – за социализм.

Политическая свобода нужна русскому пролетариату, как чистый воздух нужен для здорового дыхания. Она – основное условие его свободного развития и успешной борьбы за частичное улучшение и конечное освобождение. Но нужную ему политическую свободу русский пролетариат может завоевать себе только сам.

Чем дальше на восток Европы, тем в политическом отношении слабее, трусливее и подлее становится буржуазия, тем большие культурные, политические задачи выпадают на долю пролетариата. На своих крепких плечах русский пролетариат должен вынести и вынесет дело завоевания политической свободы. Это необходимый, но лишь первый шаг к осуществлению великой исторической миссии

пролетариата – к созданию такого общественного строя, в котором не будет места эксплуатации человека человеком. Русский пролетариат сбросит с себя ярмо самодержавия, чтобы с тем большей энергией продолжать борьбу с капитализмом и буржуазией до полной победы социализма [...]

*Хрестоматия по истории Белоруссии... С. 318–319*

**ПЫТАННІ**

1. Што было характэрна для выступленняў сялян у другой палове XIX ст.?
2. Якім было становішча рабочых у канцы XIX ст.?
3. Што ўяўляла сабой дзейнасць першых марксісцкіх гурткоў у Беларусі?
4. Як Маніфест РСДРП характарызаваў ролю рабочага класа?

**Раздзел III**

# Беларусь на пачатку XX ст.

## РЭВАЛЮЦЫЯ 1905–1907 гг.: САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЯ І ПАЛІТЫЧНАЯ БАРАЦЬБА

### 143. З тэлеграмы гродзенскага губернатара пра забастоўкі ў Гродне і Беластоку. 17 студзеня 1905 г.

Сегодня Белостоке, Гродно забастовали рабочие некоторых промышленных предприятий. Есть основания ожидать общей забастовки. Массовых беспорядков пока не было; каких-либо требований рабочие не предъявляют. Особых поводов забастовке не обнаружено. Меры охраны приняты, помощь полиции назначены Гродно пехота, казаки; Белостоке – только пехота, т.к. военные власти здесь не разрешили поместить эскадрон в самом городе [...]

*Революционное движение в Белоруссии. 1905–1907 гг. Документы и материалы / под ред. А. Азарова и др. Минск, 1955. С. 26*

### 144. Тэлеграма начальніка Магілёўскай губернскай жандарскай управы пра забастоўку ў Гомелі. 17 студзеня 1905 г.

Гомеле беспорядки на улицах, от конвоя отбит арестант, произведено в конвой несколько выстрелов. По улицам большие толпы возбуждённом состоянии, начинаются забастовки, каждую минуту ожидаю больших беспорядков, меры принимаются. Губернатор сегодня выехал Гомель.

*Революционное движение в Белоруссии... С. 26*

### 145. З лістоўкі Віцебскага камітэта Бунда. Сакавік 1905 г.

Таварышы! Паміж расійскім пралетарыятам і расійскім самаўладствам вядзецца вайна на жыццё і смерць [...] Вялікае і важнае значэньне генеральнай бойкі, але таксама патрэбны малыя стычкі, без якіх вялікая вайна не можа абыйсціся. Такую маленькую бойку мы, Віцебскія рабочыя, перажылі на гэтых днях. Усе яўрэйскія рабочыя да аднаго кінулі працу і ўчынілі палітычную забастоўку. Забастоўка ў ад-

ным горадзе, і тым больш у правінцыйным, сама не ў сіле пакончыць з самаўладствам. Наша забастоўка, зразумела, яшчэ не перамагла абсалютызма, але, як рэвалюцыйнае дзеяньне, іграе вядомую ролю і, як пратэст, займае вядомае месца ў шэрагу пратэстаў рабочых, якія аслабляюць уладу і ўплыў тыранаў. Мы кінулі працу, мы ўсе выйшлі на вуліцу, мы паказалі ўсяму свету, што не жадаем і не можам зносіць ярма самаўладства.

Мы паказалі нашым братам, пралетарам іншых нацый, што працоўная кляса не павінна выпускаць са сваіх рук аружжа, што яна павінна быць гатова змагацца да канца за вызваленьне ад нявольніцкага гвалту. Мы мабілізавалі нашы сілы. Як салдаты перад вялікай бойкай, мы аглядалі, колькі барацьбітоў ёсць у нашым горадзе і наколькі моцна іх рэвалюцыйная адвага, мы спынілі працу, гэтым мы сказалі бадзёрым голасам капіталістычнаму міру: памятуйце, што мы сапраўдныя гаспадары жыцьця; памятуйце, што мы ведаем, хто нашыя рабаўнікі, і калі мы пажадаем, то ўсе калёсы стануць ціха. Мы спынілі калёсы капіталістычнага мірка ў Віцебску і гэтым зрабілі дэманстрацыю супраць самаўладства царскага ўраду над Расіяй і супраць самаўладства капіталу над працоўнай клясай.

Ці перамаглі мы? Так, таварышы! Мы паказалі яснасць нашага клясавага ўсведамленьня, моцнасьць нашай згоднасьці, гатоўнасьць змагацца супраць нашых ворагаў [...] Так, таварышы, мы перамаглі!

*Сацыялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905–1907 гг. / скл. М. Мялешка. Менск, 1927. С. 106–107*

**146. З пастановы з'езда беларускіх сялян. Сакавік 1905 г.**

1. Трэба, каб мужыкі па вёсках рабілі грамады-брацтва, гдзе бы ўсе маглі згаварыцца, што і як ім рабіць. Тые брацтвы павінны злучацца адно з другім праз сваіх выборных, каб зрабіць адну вялікую мужыцкую грамаду.

2. У такую грамаду можа папасьць толькі той, каго захочуць прыняць усе грамадзяне.

3. Кожный чалавек з грамады (грамадзянін) павінен чытаць як найболей кніжак, гдзе гаворыцца, як бяду мужыцкую перавесьці.

[...]

6. Грамада не павінна пазваляць чы то ўраднікам, чы становым, чы то земскім, чы панам здзековацца над сабою. Калі б каторы з іх абідзеў грамадзяніна, то ўся грамада як адзін чалавек павінна за яго заступіцца і так само здзековацца над тымі, хто яго абідзеў.

7. Мужыкі, што працуюць на панскай зямлі, чы то паробкі, чы падзённыя павінны карыстаць з таго, што зямля родзіць [...] працой. Так от улетку, як пачнецца сенакос і жніво, мы да паноў на работу ня по-

йдзем. Паробім свае, а тады скажам пану, што толькі тагда пойдзем да яго працаваць, як ён з намі падзеліцца ўраджаем па справядлівасці, а як не, то ён з поля нічога не збярэ.

8. Калі на гэта згоды не будзе, то каб панскае і казённае не глумілася, собяромся ўсім сялом, скосім, сажнем, падзелім на ўсіх і завязем да сваёй хаты, бо ўсё гэта зрабілі мы самі сваёй працай, а не казны ды паны. Потым забярэм усю зямлю [...] а калі паны тожа захочуць працаваць на зямлі, то няхай сабе разам з намі працуюць. Але павінны мы ведаць, што цар пашле на нас паліцыю, жандараў, казакоў ды салдатаў, каб бараніць сваю ды панскую зямлю ды біць і страляць нас. Тады выйдзе вялікая сварка, выйдзе вайна, і трэба нам да гэтага прыгатовіцца, трэба даставаць стрэльбы, рэвольверы і вінтоўкі, каб было чым абараніцца і заваяваць новы парадак пользованія землёй кожнаму, хто на ёй сам працуе.

*Сацыялістычны рух на Беларусі... С. 73–74*

### 147. З данясення мінскага губернатара пра сялянскі рух. 24 жніўня 1905 г.

Новогрудский у.:

Аграрное движение среди крестьян Минской губ. началось первоначально в Новогрудском у. [...] в мае месяце [...]. Уже 10 июня потребовался выезд на место управляющего губернией и.д. вице-губернатора Черноцова, предварительно вызвавшего в охваченные волнением местности кавалерию и пехотные части. Очагом беспорядков являлись м. Мир и им. Щорсы, в которых и до сего времени расположена полусотня казаков. Вице-губернатор вынужден был, быстро передвигаясь с места на место, предотвратить открытое сопротивление, оказываемое местной администрации, и охранять от разгрома помещичьи усадьбы, причём в некоторых случаях приходилось действовать силой и прибегать к аресту зачинщиков, которые содержатся и в настоящее время в Новогрудской тюрьме.

И.д. губернатора П. Курлов.

*Революционное движение в Белоруссии... С. 225*

### 148. З тэлеграмы ўпраўляючага Гродзенскай губ. 6 ліпеня 1905 г.

Гродненском, Волковысском, отчасти Сокольском, Белостокском у. почти полная забастовка, крестьяне не работают экономиях даже за отработок, положение помещиков тяжёлое, в обычном отпуске солдат вольные работы отказано, аграрных столкновений губернии сей-

час нет, Брестском у. тоже улажено, многим помещикам грозит разорение.

*Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. III. С. 510*

**149. Мінск у кастрычніку 1905 г. Хроніка падзей.**

2 кастрычніка. Нядзеля.

Забаставалі рабочыя і служачыя конна-жалезнай дарогі.

5 кастрычніка. Серада.

На мітынг яўрэйскіх рабочых у сынагозе на Падзамкавай вул. (1000 чал.) паліцыя і казакі ўчынілі напад. Па загаду прыбыўшага паліцмейстара ўсе выхады былі зачынены, пасьля чаго пачалося дзікае зьбіеньне бяззбройных рабочых. Для зьбіеньня ўжываліся шаблі, кінджалы, прыклады і нагайкі. Многія выскоквалі праз вокны, але ў глухім завулку іх чакала не менш лютая расправа. Зьбіеньне цягнулася тры чвэрці гадзіны. Ранена каля 100 чалавек, цяжкія раненьні атрымалі 8 чалавек.

[...]

На пачатку кастрычніка арганізавана аддзяленне Усерасійскага саюза чыгуначнікаў.

6 кастрычніка. Чацвер.

У розных раёнах горада адбыўся рад дэманстрацый з поваду ўчорашняга масавага зьбіеньня рабочых.

А 5-ай гадзіне ўвечары сьмяртэльна паранены акалотачны Чаховіч, які асабліва адзначыўся пры зьбіеньні.

Увечары цяжка ранен прыстаў другой часьці, дзе напярэдадні адбылася расправа з рабочымі.

Складзены спісы выбаршчыкаў у I Дзяржаўную думу: выбіральнікаў 1079, у т.л. яўрэяў 762, палякаў 217.

На губернскім сходзе прадстаўнікоў яўрэйскай буржуазіі прынята платформа земцаў.

10 кастрычніка. Панядзелак.

На першым [...] зьездзе чыгуначнікаў, які надоечы адбыўся, аднагодна пастаноўлена высунуць наступныя патрабаваньні: 8 гадзінны рабочы дзень, права арганізацыі, непакаральнасьць за стачкі, безадкладнае вызваленьне арыштаваных за ўдзел у забастоўках, скасаваньне ваеннага стану і ўзмоцненай аховы, зьніштажэньне жандарскай паліцыі, палітычныя саветы, агульнае выбарчае права, самавызначэньне нацыі і інш.

11 кастрычніка. Аўторак.

На Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы паязды ходзяць толькі між станцыямі Барысаў і Брэст.

У знак салідарнасьці з маскоўскімі выбаршчыкамі забаставалі ўсе друкарні.

12 кастрычніка. Серада.

Пачалася агульная забастоўка. Бастуюць усе фабрыкі, заводы і майстэрні. Гандлёвыя прадпрыемствы і канторы закрыты. Не працуюць таксама вадаправод і электрастанцыя. У забастовачны камітэт уваходзяць чыгуначнікі (с-р.) Жаба, Кузьняцоў (с-д.), Рэвэрэлі, Валынскі (с-д.), Гамзагурдзі (с-р.) і інш.

З ранку забаставаў увесь вучастак Маскоўска-Брэсцкай чыгункі Вязьма – Смаленск – Менск. Удзень а 4-ай гадзіне на стн. Менск Лібава-Роменскай чыгункі з'явілася каля 1000 чыгуначнікаў, якія выпусцілі пару з паравозаў і прымусілі спыніць работу на ўсіх службах кіраўніцтва. Тэлеграф, які ахоўваецца войскамі, прадаўжае працаваць. Увечары ў памяшканьні кіраўніцтва чыгунак адбыўся мітынг.

Па горадзе расклеяна абвестка губэрнатара, у якой гаворыцца, то “усялякія спробы парушаць парадак будуць прыдушаны зброяй, з прычыны чаго жыхарам прапануецца без неабходнасьці не пакідаць кватэр”.

14 кастрычніка. Пятніца.

Удзень агульная забастоўка гарадскіх рабочых абвешчана закончанай. Чыгуначнікі прадаўжаюць баставаць. На Віленскім вакзале адбыўся сход чыгуначнікаў. Пастаноўлена спыніць палітычную забастоўку, але прадаўжаць эканамічную.

Там-жа пастаноўлена высунуць наступныя патрабаванньні, у т.л. палітычныя: 1) Усеагульнае прамое галасаваньне. 2) Свабода друку, сумленьня, сходак, саюзаў, недакранальнасьць асобы і памяшканьня. 3) 8мі гадзінны рабочы дзень. 4) Абраньне ад кожнай чыгункі па 15 дэлегатаў ад служачых і рабочых для ўтварэньня камісіі, якая абмяркоўвала б чыгуначныя справы. 5) Бясплатнае навучаньне. 6) Медыцынская дапамога. 7) Зьвярненьне працэнтаў з грошай, унесеных у пенсіённую касу. 8) Выразіць пратэст губэрнатару за палітычныя арышты. 9) Зьняць з вакзала ахову.

На сходзе прачытана пісьмо вучняў, у якім яны выказваюць сваю поўную салідарнасьць з рабочымі ў барацьбе за палітычную свабоду. У часе сходу шырока распаўсюджваліся проклямацыі РСДРП і Бунду.

18 кастрычніка. Аўторак.

У горадзе з раньня нязвычайнае ажыўленьне ў сувязі з чуткамі аб канстытуцыі. Па распараджэнню губэрнатара Курлова царскі маніфэст затрыман друкаваньнем да гадзіны дня.

А 12-ай гадзіне дня ў зале III клясы вакзалу пачаўся мітынг чыгуначнікаў; з прычыны вялізнага наплыву публікі мітынг быў перанесены на пляц перад будынкам вакзала. Каля 2-ой гадзіны дня ў пры-

сутнасці 15-тысячнай масы маніфэст быў агалошаны. Прамоўцы ад розных партый адзін за адным зьмяняліся на трыбуне. [...] Сацыял-дэмакраты крытыкавалі маніфэст і зазначалі, што, пакуль цар астаўся на троне, пакуль самадзяржаўе ня зьвергнута, аб вызваленьні ня можа быць і гутаркі. Нарэшце пастаноўлена было выбраць дэпутацыю да губэрнатара, якой даручылі паставіць пытаньне аб неадкладным вызваленьні палітзьняволеных.

[...]

Дэпутацыя на чале натоўпу накіравалася да дому губэрнатара. Пасьля некаторай праналочкі Курлоў прыняў дэпутацыю. Частка натоўпу, суправаджаная казакамі, накіравалася да турмы, а другая з чырвонымі сьцягамі і пяяньнем “Марсельезы” накіравалася назад, на вакзальны пляц. У 4 з паловай гадзіны дэпутацыя вярнулася і прывяла з сабой каля 15 палітзьняволеных, вызваленых з турмы.

[...] Маса з захапленьнем вітала вызваленых.

[...]

У гэты час ля вакзала пачалося перасуваньне войскаў. Старшыня мітынгу Жаба, даведаўшыся аб гэтым, абʼявіў мітынг законченым і прапанаваў прайсціся па горадзе маніфэстацыяй. Але як толькі аб гэтым было абʼяўлена, з вісячага чыгуначнага мосту без усялякага папярэджаньня грымнуў у цэнтр усёй масы залп баявымі патронамі. Страляла рота Окскага палка, якая раптоўна зʼявілася на мосце пад камандай афіцэра. Маса здрыганулася і, ціснучы адзін аднаго, у паніцы кінулася бегчы. Усьлед за першым быў даны другі залп гэтай роты. Адначасна выстраены на дэбаркадэры станцыі атрад пехоты даў залп праз вокны залі буфэту, выходзіўшыя на пляц. Перакрыжаваная стральба цягнулася мінут 8-10. Увесь пляц быў пакрыты забітымі, ранеными і пакалечанымі. Некаторыя з тых, што ўцякалі, траплялі ў засаду каля 4-га вучастку, дзе і расстрэльваліся паліцэйскімі. Так, тут быў забіты гарадавым Якубовічам прысяжны паверaны Ентыс (с-д., прапагандыст), Прудно і інш. Усяго забіта 80 чалавек[1], ранена да 300-т, з іх цяжка звыш 100.

У памяшканьні службы збораў Лібава-Роменскай чыгункі адбылося абʼяднанае паседжанне прадстаўнікоў Менскай групы РСДРП, Бунду, эсэраў і Саюзу чыгуначнікаў. Выпрацаваны рэзалюцыі і прынят рад патрабаваньняў да ўраду ў сувязі з расстрэлам мітынгу.

20 кастрычніка. Чацвер.

Горад у жалобе. Кожныя паўгадзіны адбываецца пахаваньне. На яўрэйскіх могілках 54 трупы. На пахаваньні с-д. Ентыса прысутнічала

[1] Дадзеныя па колькасці загінуўшых спрэчныя. У “Нарысах гісторыі Беларусі” (ч. I,пад рэд. М. Касцюка і інш. Мінск,1994) прыводзяцца дадзеныя, што забіта было да 100 чалавек, каля 300 паранена (с. 388).

звыш 1000 чалавек. Раздаваліся лісткі мясцовай группы РСДРП “Кровавый табель”, “К гражданам России!” і інш., заклікаўшыя да баявой падрыхтоўкі.

24 кастрычніка. Панядзелак.

На агульным сходзе рабочых механічнага заводу “Технолог” пасьля прамовы прадстаўніка групы РСДРП адназгодна прынята рэзалюцыя пратэсту і абурэньня з поваду пагромаў, якія адбываюцца за апошні час.

[...]

Забастовачны камітэт прыняў пастанову часова спыніць чыгуначную забастоўку “для таго, каб зарганізавацца і абраць неабходныя сродкі”. Забастоўка цягнулася 11 дзён. Работа аднавілася арганізавана а 1-ай гадзіне дня.

25 кастрычніка. Аўторак.

З турмы вызвалены 16 палітзьняволеных.

26 кастрычніка. Серада.

Трэпаў (таварыш міністра ўнутраных спраў, кіраўнік Дэпартамента паліцыі і Асобнага корпуса жандараў. – *А.С.*) па тэлеграфу прапанаваў менскаму губэрнатару ў выпадку ўзнікненьня непарадкаў спыніць іх самым рашучым спосабам.

28 кастрычніка. Пятніца.

Выйшла пасьля 4-месячнага прыпыненьня газета “Северо-Западный край” (орган Мінскай групы РСДРП. – *А.С.*).

29 кастрычніка. Субота.

Старанна распаўсюджваюцца лістоўкі “чорнай сотні”.

30 кастрычніка. Нядзеля.

З поваду чутак аб маючым адбыцца пагроме на агульным сходзе рабочых і служачых Лібава-Роменскай чыгункі прынята пастанова: “Выразіць ганьбаваньне ўсім тым, хто нацкоўвае адну нацыю на другую”. Сход катэгарычна заяўляе, “што ўсякія спробы ўчыніць пагром сустрэнуць з боку рабочых і служачых самы рашучы адпор усімі сродкамі, якія ёсьць у іх распараджэнні”.

31 кастрычніка. Панядзелак.

Павялічылася небяспека пагрому з прычыны з’яўлення на яўрэйскіх дамах чырвоных знакаў. Рабочыя і служачыя Лібава-Роменскай і Маскоўска-Брэсцкай чыгунак звярнуліся да насельніцтва з абвесткай [...] што ўсякай спробе ўчыніць пагром яны дадуць рашучы адпор. Рабочыя і служачыя конна-жалезнай дарогі прынялі пастанову, у якой яны далучаюцца да рэзалюцыі рабочых механічнага завода “Технолог” з поваду пагромаў.

*Майзель Л.Н. 1905–1907 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. Менск, 1934. С. 145–168*

### 150. Маніфест Мікалая II “Аб удасканаленні дзяржаўнага ладу”. 17 кастрычніка 1905 г.

Смуты и волнения в столицах и во многих местностях Империи Нашей великой и тяжкой скорбью преисполняют сердце Наше. Благо Российского Государя неразрывно с благом народным и печаль народная – Его печаль. От волнений ныне возникших может явиться глубокое нестроение народное и угроза целости и единству Державы Нашей.

Великий обет царского служения повелевает Нам всеми силами разума и власти Нашей стремиться к скорейшему прекращению столь опасной для Государства смуты. Повелев подлежащим властям принять меры к устранению прямых проявлений беспорядка, бесчинств и насилий, в охрану людей мирных, стремящихся к спокойному выполнению лежащего на каждом долга, Мы, для успешнейшего выполнения общих преднамечаемых Нами к умиротворению государственной жизни мер, признали необходимым объединить деятельность высшего Правительства.

На обязанность Правительства возлагаем Мы выполнение непреклонной Нашей воли:

1. Даровать населению незыблемые основы гражданской свободы на началах действительной неприкосновенности личности, свободы совести, слова, собраний и союзов.

2. Не останавливая предназначенных выборов в Государственную Думу, привлечь теперь же к участию в Думе, в мере возможности, соответствующей краткости остающегося до созыва Думы срока, те классы населения, которые ныне совсем лишены избирательных прав, предоставив за сим дальнейшее развитие начала общего избирательного права вновь установленному законодательному порядку, и

3. Установив, как незыблемое правило, чтобы никакой закон не мог восприять силу без одобрения Государственной Думы и чтобы выборным от народа обеспечена была возможность действительного участия в надзоре за закономерностью действий поставленных от Нас властей.

Призываем всех верных сынов России вспомнить долг свой перед Родиной, помочь прекращению сей неслыханной смуты и вместе с нами напрячь все силы к восстановлению тишины и мира на родной земле.

[…]

*Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 82*

### 151. Яўрэйскі пагром у Воршы. 21–24 кастрычніка 1905 г.

21 кастрычніка. Пятніца. Ворша. На Саборнай плошчы адбылося зборышча, на якім паліцэйскі пісар Сініцкі выступіў з заклікам "біць жыдоў". Усьлед за гэтым быў адслужан молебен. Пратаярэй Маслаў сказаў чарнасоценную прамову і прасіў прысутных у магчыма большай колькасці з'явіцца назаўтра. Таксама выступіў з пагромнай прамовай спраўнік Высоцкі. Усьлед за гэтым натоўп, узброены стрэльбамі, сякерамі і кольлем, суправаджаны ротай салдатаў, рушыў на злучэньне з задняпроўскімі мяшчанамі, збіваючы сустрэчных яўрэяў і кідаючы каменьні ў яўрэйскія дамы.

Калі натоўп ішоў назад, каля дому Хэйфеца быў зроблены правакацыйны выстрал (Сініцкім), і ў "справу" ўмяшалася рота салдатаў. Натоўп на чале з прыставам Мадзалеўскім уварваўся ў двор. Пачаўся грабёж дому, а затым зверскі былі забіты 5 жанчын і 3 мужчын, якіх выцягвалі па адным.

[...]

24 кастрычніка. Панядзелак.

Закончыўся яўрэйскі пагром. Забіта звыш 30 чалавек, шмат раненых. У самаабароне пад кіраўніцтвам мясцовай групы РСДРП прымалі ўдзел і неяўрэйскія рабочыя. Пагром быў падрыхтаваны губэрнскай адміністрацыяй.

*Майзель Л.Н. 1905–1907 гг. на Беларусі. С. 161–165*

### 152. З пратакола прыстава Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. 17 снежня 1905 г.

После последних переговоров крестьян д. Ополь и с. Лядовичи с помещиком г. Еленским (это было 12 декабря с.г.), которым окончательно было объявлено, что он согласен лишь только на те уступки, которые им сделаны раньше, и больше дать земли не может, крестьяне всё время были в таком возбуждённом состоянии, что, несмотря на мои личные увещевания, а также капитана Афанасьева, командированного с отрядом солдат для порядка, и бездежского волостного старшины, крестьяне ежедневно собирались в разных местах толпами, а большей частью около Опольского народного училища, каждый раз решались идти на разгром имения, т.к. это громогласно на улице кричали целой толпой, для чего я совместно с капитаном Афанасьевым были всегда приготовлены к отражению крестьян, могущих идти на разгром имения, причём назначили кругом имения дозор и три ночи подряд почти не спали.

17-го сего декабря, получив около 5 часов утра от дозора и земских стражников [сведения], что крестьяне обоих селений решили оконча-

тельно наброситься на имение и начали собираться с целью напасть толпой на солдат, обезоружить их и перебить всех, находящихся в имении, немедленно было сделано распоряжение к отражению крестьян; 16 солдат под командой фельдфебеля было оставлено при барском доме для охраны находившегося в нём помещика Еленского с женой, а остальные солдаты находились при заводе.

Около же 10 часов утра собравшаяся толпа на площади при казённой винной лавке двинулась сразу к проходу в имение со стороны народного училища, а затем, когда ей было сделано фельдфебелем предупреждение вернуться назад, и толпа, несмотря на это, напирала на него, он сделал выстрел вверх из револьвера. Тогда толпа, подавшись назад, снова врассыпную бросилась с криком к направлению завода, причём на крик этой толпы со всех сторон имения также бросились другие крестьяне, которые, как будто по уговору, ожидали с другой стороны имения. Такой массой крестьяне со всех сторон начали первоначально наступать на завод, а когда на увещевания и мольбу капитана Афанасьева не идти дальше и остановиться продолжали напирать, приблизившись не более расстояния 150 шагов, г. Афанасьевым был подан сигнал приготовиться к стрельбе, но, несмотря на это, толпа приблизительно около 600 человек всё ближе подвигалась. Тогда он – Афанасьев – ещё раз стал умолять и упрашивать крестьян остановиться и разойтись, а когда и на этот раз крестьяне на просьбы не обратили никакого внимания, то тотчас после этого был дан второй и третий сигналы к стрельбе и скомандовал стрелять, но, когда всё-таки ещё некоторые продолжали наступать, был дан другой залп; после первого залпа был убит насмерть только 1 крестьянин, а после второго – 2 [...].

*Хрестоматия по истории Белоруссии.*
*С древнейших времен до 1917 г. Минск, 1977. С. 382–383*

**153. З успамінаў мінскага губернатара П. Курлова.**

14 января 1906 г. в меня была брошена вторая бомба. Я присутствовал в соборе на панихиде.

[...] По окончанию службы я вместе с другими начальствующими лицами вынес гроб из церкви и поставил его на колесницу. Позади меня стоял с крестом в руках преосвященный Михаил, епископ минский, вместе с прочим духовенством. Вдруг я почувствовал лёгкий удар в голову, на который не обратил внимания, думая, что вследствие оттепели на меня упал с крыши небольшой комок снега. Ко мне подбежал правитель канцелярии губернии со словами: “Ваше превосходительство, бомба!” Я посмотрел вниз и увидел у своих ног четырёхугольный свёрток, завёрнутый в серую бумагу. Полицмейстер по-

просил меня сесть в экипаж и уехать домой, что я и сделал. Несколько минут спустя он явился ко мне на квартиру и донёс, что немедленно после моего отъезда какая-то дама произвела несколько выстрелов из браунинга, причём он и чиновник особых поручений почувствовали, как пули скользнули по воротникам их мундиров. К счастью эти выстрелы никому не причинили вреда. [...]

Преступник, бросивший в меня бомбу, оказался неким Пулиховым, а дама, стрелявшая из револьвера, – дочерью начальника 4 армейского корпуса Измайловича. Оба были арестованы.

Расследование показало, что Пулихов бросил бомбу вверх для того, чтобы, падая вниз с высоты она ударилась о землю и разорвалась, но она, ударившись о мою голову, медленно соскользнула по рукаву и тихо упала к моим ногам, не разорвавшись. Так как у нас не было специалистов для её разряжения, то мы положили её на костёр, воздвигнутый посреди площади между домом губернатора и собором, и зажгли его. Взрыв был так силён, что в прилегающих улицах лопнули стёкла во всех домах.

Через несколько дней оба преступника были приговорены судом к смертной казни. [...] Командующий войсками Виленского военного округа заменил для Измайлович смертную казнь каторжными работами.

Курлов П. Конец русского царизма.

*Воспоминания бывшего командира корпуса жандармов.*
*Пг., 1923. С. 42–43*

### 154. З выступлення дэпутата I Дзяржаўнай думы ад Гродзенскай губ. селяніна С. Кандрашука. Чэрвень 1906 г.

[...] Нет тяжелее и горче жизни, как жизнь непросвещённого крестьянина: он всеми угнетён, всеми тесним и все на нём хотят выезжать. Он не имеет ни земли, ни прав. А без земли крестьянин жить не может. Крестьяне, посылая меня в Думу, сказали: “Иди и скажи царю и почтенным избранникам народа, чтобы они дали нам землю и права, чтобы мы с голоду не умирали”. Но когда представители народа потребовали землю у правительства и помещиков, то господа министры сказали, что их и помещичья земля священна, какая-то неприкосновенная собственность...

Теперешнее изголодавшееся крестьянство не признаёт за такой землёй никакого священного права собственности и настойчиво требует себе земли. [...]

*Государственная дума. Стенографические отчёты.*
*Сессия 1. Т. II. Спб., 1906. С. 940–941*

### 155. Выбары ў II Дзяржаўную думу ў Мінскай губ. Люты 1907 г.

У Мінскай губ. ужо даўно перад выбарамі пачалі сваю пякельную работу чарнасоценцы. Ужывалі яны ўсялякіх спосабаў, каб дабіцца свайго і паслаць у Думу чарнасоценных дэпутатаў. Яны цкавалі людзей на людзей, праваслаўных на католікаў і на жыдоў, сеялі між імі сварку і нянавісць. Патрапілі дабіцца таго, што начальства ў Пінскім і Мазырскім вуездзі не пусціла на выбары арандатараў і пленіпатэнтаў і зрабіла гэта ў дзень самых выбараў, каб не маглі яны скаржыцца на незаконны паступак. Дзеля таго ў гэтых вуездах выбралі чарнасоценцаў. Выбаршчыкі падалі скаргу ў губернскую камісію, але яе там і не разбіралі. У гарадскія выбаршчыкі ад Мінскага вуезду папалі кандыдаты “трудавога камітэту”. Было іх 6 чалавек, і яны пастанавілі на губернскіх выбарах злучыцца з мужыкамі і з палякамі, бо тады толькі ў іх будзе сіла, і яны не пусцяць у Думу ніводнага чарнасоценца. Але ж чарнасоценцы і тут не спалі: яны патрапілі зрабіць так, што “начальства” прызнала выбары ад Мінскага вуезду незаконнымі, хоць на гэта не было ніякай важнай прычыны. Дабіўшыся гэтага, чарнасоценцы заняліся ўжо толькі мужыкамі. Усіх праваслаўных выбаршчыкаў-мужыкоў, а іх было шмат, памясцілі ў архірэйскім доме, і тут праз тры дні чарнасоценцы так задурылі ім галавы, што цёмныя людзі паслухалі намовы ворагаў свабоды народнай і пастанавілі выбіраць адных чарнасоценных кандыдатаў.

Мужыкоў на архірэйскім двары добра пільнавалі і не дазвалялі нікому хадзіць да іх, каб не патрапілі яны згаварыцца з гарадскімі. Да мужыцкіх выбаршчыкаў дапускалі толькі чарнасоценцаў, нават не выбаршчыкаў. А як зайшлі да іх два чалавекі ад гарадскіх, каб зрабіць саюз, то чарнасоценцы іх вон прагналі, а паліцыя на вуліцы арыштавала іх і павяла ў вучастак, дзе трымалі іх колькі гадзін.

На выбары з’явілася 130 выбаршчыкаў, паміж каторымі чарнасоценцы мелі “сваіх” 65 галасоў. Дзеля таго, што 6 гарадскіх не пусцілі, саюз гарадскіх з мужыкамі нечарнасоценнымі і палякамі меў толькі 59 галасоў, значыць, менш, як чарнасоценцы. Вось і выбралі ўсіх чарнасоценных кандыдатаў.[...]

Як пішуць, ёсць шмат прычын, каб прызнаць выбары незаконнымі і скасаваць іх. Хутка мусіць выбаршчыкі ад Мінскай губ. з’едуцца на новыя выбары. Дай жа Бог, каб адкрыліся вочы цёмным мужыкам і каб выбралі яны сваіх шчырых заступнікаў, а не чарнасоценцаў – ворагаў свету і свабоды ўсёй працавітай беднаты!

*Наша Ніва. 1907. № 6*

## 156. Праграма Беларускай Сацыялістычнай Грамады. 1906 г.

Працовитая беднота ўсіх краёў злучайся!

Программа Белорусской социалистической громады.

[...] "Белорусска Социалистычна Громада", организуя працовиту бедноту Белорусского края без различия национальностей, имеет конечной целью замену капиталистического строя социалистическим, замену частной собственности на орудия производства и обращения – общественной, для организации общественного производства.

Признавая, что главным врагом всех освободительных стремлений "працовитой бедноты" в России является царское самодержавие, БСГ считает своей ближайшей политической задачей ниспровержение самодержавия, выступая в борьбе за осуществление этой задачи совместно с пролетариатом всей России. Стремясь заменить самодержавный строй Российской империи Государственной федеративно-демократической республикой с свободным самоопределением и культурно-национальной автономией народностей, входящих в состав государства, БСГ выставляет требование автономии Белорусского края с местным сеймом в Вильне.

Демократическая республика должна опираться на следующие основания:1) Законодательная власть народа, как санкцыя и как инициотива: сосредоточение верховной власти в руках законодательного собрания. 2) Всеобщее, прямое, равное избирательное право; тайное голосование при выборах, пропорциональные выборы. 3) Самое широкое областное, местное и т.п. самоуправление. 4) Равные права для всех народностей, живущих на одной территории (культурно-национальная автономия). 5) Равноправие всех граждан без различия пола, религии, национальности и расы; уничтожение сословий. 6) Выборность чиновников. 7) Даровой суд, выборные судьи; подсудность. 8) Полная свобода совести, слова, печати, собраний, союзов, стачек и забастовок. 9) Неприкосновенность личности и жилища. 10) Даровое полное обязательное образование для всех за счёт государства. 11) Уничтожение постоянного войска, всеобщее ополчение народа. 12) Уничтожение всех косвенных налогов, установление прогрессивного налога на доходы и наследства.

В целях охраны рабочего класса БСГ стремится осуществить следующие требования: 1) Установление 8-часового рабочего дня – кроме исключительных случаев в деревне. 2) Установление минимальной платы за работу. 3) Одинаковая плата мужчинам и женщинам за одинаковую работу. 4) Воспрещение ночного труда в принципе. 5) Безусловное воспрещение ночного труда для женщин. 6) Воспрещение предпринимателям пользоваться трудом детей до 14 лет; ограниче-

ние рабочего времени для подростков (от 14 лет до 18 лет) 6 часами в день. 7) Еженедельный отдых от работы не менее 42 часов без перерывов. 8) Воспрещение выдачи заработной платы товарами, по крайней мере еженедельная выдача заработной платы в рабочее время. 9) Гигиенические условия труда. 10) Даровая врачебная помощь. 11) Государственное страхование рабочих от несчастных случаев, болезни, старости и недостатка работы. 12) Фабричная и сельская инспекция, избираемая рабочими. 13) Охрана отхожих работников. 14) Биржи труда и секретариат работников. 15) Свобода стачек и забастовок.

Принимая во внимание: 1) что невозможное, тяжёлое положение безземельных и малоземельных трудящихся масс сельского населения, являющееся следствием недостатка земли и бесправия и основанная на этом эксплуатация и земельная кабала привлекли к пауперизму (обеднению) со всеми его преследованиями и 2) что для выхода из этого положения и развития производительных сил страны необходима коренная аграрная реформа, расширяющая прежде всего землепользование малоземельных сельских трудящихся масс, БСГ, стремясь к переходу всей земли в общественную собственность, выставляет в момент революционной реорганизации государственного строя на демократических началах с самым широким областным и местным самоуправлением – требование следующей аграрной реформы:

1) Образование областных земельных фондов из казённых, удельных, кабинетских, церковных, костельных, монастырских и частновладельческих земель.

2) Малоземельным и безземельным трудящимся на земле необходимо прежде всего открыть свободный доступ к земле для пожизненного пользования; преимущество по пользованию участком общественной земли, оставленной земледельцем по неработоспособности, смерти и пр. предоставляется его ближайшим сотрудникам.

Доступ к земле по возможности должен быть обеспечен материальной поддержкой нуждающимся в ней для заведения хозяйства.

3) Земельная рента должна быть собственностью края и перейти в пользу самотрудящихся областной организации.

4) Областная государственная организация определяет форму и порядок конфискации земель.

5) Мелкие самоуправляющиеся организации определяют количество земли, нужное для обеспечения трудящегося на земле. Б.С.Г. требует перехода в общественную собственность лесов, пастбищ и водяной силы.

Для осуществления всех указанных выше политических и социальных преобразований Б.С.Г. считает необходимым при революци-

онном низвержении самодержавия созыв Учредительного Сейма для Белорусского края на основании всеобщего, равного, тайного и прямого избирательного права.

*Издание I Кр[аевого] Ком[итета] Б.С.Громады. Октябрь 1906.*
*Печатано собст. типогр. 2-м издан.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Як адрэагавалі рабочыя Беларусі на “крывавую нядзелю”?

2. Ахарактарызуйце рашэнні сакавіцкага (1905) сялянскага з’езда. Які характар набылі сялянскія хваляванні летам 1905 г.?

3. Пералічыце найбольш значныя падзеі, якія адбыліся ў кастрычніку 1905 г. у Мінску. На якія ўступкі быў вымушаны пайсці царскі ўрад пад ціскам Кастрычніцкай стачкі? Ці можна сцвярджаць, што з Маніфестам ад 17 кастрычніка 1905 г. Расія ўступіла на шлях канстытуцыйнага абмежавання самаўладдзя?

4. Якое месца ў падзеях рэвалюцыі занялі яўрэйскія пагромы? Як мінскія рабочыя адрэагавалі на звесткі пра падрыхтоўку яўрэйскага пагрома?

5. Чаму аграрнае пытанне стала галоўным аб’ектам увагі і працы І Дзяржаўнай думы?

6. Як улады ўмешваліся ў ход думскіх выбараў?

7. Дайце ацэнку асноўных палажэнняў праграмы БСГ, прынятай у студзені 1906 г.

А) з пункту погляду сацыяльнага і нацыянальнага становішча ў Расійскай імперыі на пачатку XX ст.;

Б) з пункту погляду сённяшняга дня.

## “НАША НІВА” І БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ

### 157. Нараджэнне “Нашай Нівы”. 10 лістапада 1906 г.

Пачынаючы выдаваць беларускую газету “Наша Ніва”, хочам трохі пагаварыць з усімі, каму ў той чы іншы спосаб залежыць на нашай працы, хочам адкрыць свае думкі, каб усе маглі нас пазнаць.

“Наша Ніва” будзе другой беларускай газетай. Першая газета “Наша Доля” не жывець: яна была надта нядоўга, бліснула як маланка і згінула дзесьці. Разумеем мы, як важна цяпер беларуская газета, разумеем, якую вялікую работу яна можа зрабіць. І дзеля таго мы будзем старацца, каб наша газетка заглянула ўсюды, каб папала яна і пад страху беднай курной хаты мужыка-беларуса. Ні думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не!

Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу, пастараемся быць люстром жыцця, каб ад нас, як ад люстра, свет падаў у цёмнасць... Мы будзем браць усё ад усіх і, злажыўшы ў парадак, зноў аддаваць. Ведайце добра, што "Наша Ніва" газета не рэдакцыі, а ўсіх беларусаў і ўсіх тых, хто ім спагадае. Кожны мае права быць выслуханым на старонках нашай газеты і кіраваць ёю, толькі каб было разумне. Мы з сваёй стараны будзем старацца, каб усе беларусы, што не ведаюць, хто яны ёсць, зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае права і памаглі нам у нашай рабоце.

Не будзем пісаць громка. Будзем спакойна, цвёрда кідаць усім праўду ў вочы, пастараемся быць цярплівымі і панаваць над сабою: няхай халодны розум моцна трымае ў руках гарачае сэрца...

А цяпер прызываем усіх тых, хто разумее нашы цэлі, адчувае тое, што мы чуем, і захоча нам памагчы: ПАДТРЫМАЙЦЕ НАС У РАБОЦЕ, ШТО ЦЯПЕР ПАЧЫНАЕЦЦА!

*Наша Ніва. 1906. № 1*

### 158. "Наша Ніва" пра беларускую школу. Сакавік 1907 г.

Толькі бліснулі "дні свабоды", як усе народы ў Расеі на першае месца сярод сваіх намаганняў паставілі трэбаванне нацыяналізацыі школы. І мы думаемо, што яны зрабілі гэта не па простаму здарэнню, а глыбока і з усіх старон, абдумаўшы свае патрэбы. І праўда. Многа кожны народ маець сваіх асобных патрэб.[...] Але гэтыя патрэбы могуць быць задаволены толькі тады, як увесь народ цвёрда пераканаецца, што без іх ён не можець жыць. Цяпер народ хаця і відзіць, што яму цяжка жывецца на свеце, а чаму гэта цяжка і як палепшыць жыццё, ён не ведаець. Зразумець сваю нядолю і ўгледзіць, дзе яго шчасце, народ зможэць толькі тады, як скінець сваю цемнату і прасветленымі вачамі зірнець вакол сябе на Божы свет... Тады народ знойдзець і праўдзівую дарогу, каб дабіцца лепшай долі.

А самым першым і, канешне, патрэбным варункам для народнага прасвятлення ёсць нацыянальная школа, г.зн. што ў школе павінны вучыцца роднае мовы і ўсе навукі павінны тлумачыцца панятнаю гутаркаю, а калі дзеці добра навучацца па-свойму, то ім лягчэй будзе вывучыць і ўсякую другую гутарку.

Толькі тады народная прасвета станець на цвёрдым грунце, толькі тады скончыўшыя школу дзеці не будуць забываць граматы, і самая грамата будзе шчыраю памочніцаю жыцця, як школа ў нас будзе нацыянальная.

У апошні год рускае правіцельства як бы адказалася ад абрусення школы і як бы "пайшло на сустрэчу з народным жаданнем". У некаторых месцах у народных у школах вучацца ўжо на сваёй мове. Але,

як прыглядзімся мы, дзе, у каго ўстанавіліся ў школах такія парадкі, дык убачымо, што правіцельству не надта такая навізна падабаецца, а дзеля таго яно і ўступіла толькі ў тых месцах, дзе народ сам не спаў, а дружна, узняўшыся, адваяваў сабе нацыянальную школу.

Хто болей дамагаўся, той болей і палучыў. У Польшчы і ў Літве дзеці вучацца ў школах на родных мовах, а гэта затым, што тамака ўвесь народ, дамагаючыся многа чаго другога, усё такі завіхнуўся на сам перад забраць у свае рукі школу.

Шырокая работа за нацыяналізацыю школы ідзець цяпер на Украіне, або ў Маларосіі. І просты народ, і вучанікі розных школ: нізшых, сярэдніх і высшых, і просьбамі, і петыцыямі, і трэбаваннямі, і ўсялякімі іншымі спосабамі дамагаюцца яны свае нацыянальнае школы.[...]

Пара і нам сказаць сваё слова, патрабаваць свае школы. І ў гэтым вялікім, святым дзеле першымі павінны выступіць тыя, што вышаўшы самы з цёмнага беларускага народу і добра ведаюць яго цемнату. Мы гаворымо об вучыцельскім інстытуце, вучыцельскіх семінарыях і аб вучыцелях агулам. [...]

*Наша Ніва. 1907. № 11*

**159. Год выдання “Нашай Нівы”.**

Вось ужо год жыцця “Нашай Нівы”. За гэты кароткі час маленькая беларуская газета паспела шмат чаго перажыць. Яе ганілі, лаялі, бэсцілі, называлі “вредным листком” [...] усе тыя, каму карысна цемень і слепата мужыцкая, каму добра цягаць карасі з каламутнай вады. На яе нападалі старраннікі насільнага абрусення, тыя шаўцы, што хочуць шыць усе боты на адзін капыл; яна папала ў гнеў бацюшак і прабошчаў.

Разоў колькі яе канфіскавалі, не дапускалі ў вёскі. Не будзем шмат гаварыць аб гэтым. Прыпомнім толькі тыя цэлі і задання, спаўнення каторых дабівалася і дабіваецца “Наша Ніва”, тады будзе ясна, чаму не ўсе яе ўлюбілі.

“Наша Ніва” – газета для беларускай беднаты працавітай; для тых 8 мільёнаў мужыкоў-беларусаў, чыю мову так доўга гналі і высмейвалі; для тых мужыкоў, каторыя цягнулі самае цяжкае ярмо паншчыны, каторых у канец збілі з толку ўсякія лекары, знахары і дабрадзеі народныя...

“Наша Ніва” ідзе на помач цёмнаму беларусу, хоча паказаць яму, што і ён не горшы за другіх людзей; хоча закінуць у яго загнаную душу зерне праўды і свету, жаданне лепшага жыцця, дый выклікаць да работы яго дрэмлючы розум, каб смела аглядзеўся вакруг, каб спытаўся: “Хто ж ворагі нашы?” І каб дазнаўся, што найгоршы наш вораг – цем-

ната векавая. А ў гэтай цемнаце ўсе карэнні пакуты і неўстройства жыцця.

Каб споўніць гэтае заданне, трэба знаць душу беларуса, яго радасці і гора, яго звычаі і мову, і трэба іх "уважыць". І "Наша Ніва" гаворыць да яго ў роднай яго мове, каб ён сам разумеў усё, каб ведаў, што яго мова, як і ўсякая другая, ёсць мова чалавека, на каторую ён мае святое права. Толькі такім спосабам можна давесці да таго, каб мужык-беларус пачуў у сабе чалавека, роўнага ўсім.

Гэтым ніхто не забараняе беларусу знаць мову суседніх нацый – расейскую і польскую, ад каторых яму ёсць чаго навучыцца: расейскі і польскі народ маюць вялікую навуку – вялікую культуру. Не карыстаючыся з іх, беларус не зможа развівацца, не зможа дайсці свету навукі; вось чаму варта і трэба пазнаваць тыя мовы. Ад шчырага сэрца мы радзім: "Свайго не цурайся – чужому навучайся!" Абы гэта было добра і разумна.

*Наша Ніва. 1907. № 33*

### 160. З артыкула Лявона Гмырака. 1913 г.

"Чужому навучайцеся, свайго не чурайцеся", гэтыя словы вялікага ўкраінскага паэта Шаўчэнкі заўсягды трэба памятаць і ніколі нельга забываць нам, беларусам. Нашы ворагі ўсімі годнымі, а яшчэ часцей усімі нягоднымі спосабамі стараюцца давесці нас да таго, каб мы свайго адчураліся, забыліся, хто мы такія, перасталі быць беларусамі і перарабіліся на расейцаў ці на палякаў. Іхняя работа даўно ужо вядзецца – дужы надта нашы ворагі, – у кабальнай, эканамічнай і ўсякай іншай залежнасці ад іх знаходзіцца наш народ. Недзіва, што і шмат такі яны патрапілі нам нашкодзіць. Не ўдалося, праўда, ім дабіцца таго, каб увесь народ перастаў гаварыць роднай мовай, сваіх абычаяў усіх адрокся; але ўдалося задурыць народу галаву так, што народ наш стаў думаць, быццам яго мова і звычаі нейкія "простыя" і кожны бязмала беларус, якому ўдалося дабіцца трошкі лепшых варункаў жыцця, ухапіць трошку асветы, ужо станавіўся саўсем чужы народу, з якого выйшаў, і,гледзячы па веры, лічыў сябе ці расейцам, ці палякам.

Калі пачалося беларускае адраджэнне, калі з'явіліся людзі, глыбока адчуваючыя сваю кроўную сувязь з беларускім народам, людзі, хочучыя шчыра працаваць для яго лепшай долі, то ім стала ясна, што свайго чурацца нельга, бо толькі стоячы на сваёй нацыянальнай аснове, народ можа нармальна развівацца і рабіць свой уклад у агульналюдскую культуру. Але побач з гэтым гаварылася, што і "чужому навучацца трэба". Спору ў нас наконт гэтага не было – гэта праўда элементарная і ўсімі прызнаная. Словы "свайго не чурайцеся, чужому

навучайцеся” пішуцца як эпіграф на беларускіх кніжках. І гэта думка праводзіцца ў іх газетах. [...]

Той народ, які гэтай праўды, што і чужому навучацца трэба, не разумее ці не хоча разумець, праз гэта асуджае сябе на культурны застой, таксама, як той народ, які чураецца свайго, асуджае сябе на пагібель. Адным словам, са скарбаў агульналюдской культуры павінны мы карыстацца, але разам з тым павінны мы і самі жыць сваім культурным жыццём, каб магчы даць і сваю долю ў скарбніцу агульналюдской культуры, а даць тады толькі зможам, калі будзем стаяць на сваёй нацыянальнай аснове, калі свайго не будзем чурацца.

*Гмырак Л. Творы: проза, крытыка, публіцыстыка. Мінск, 1992. С. 128–130*

**161. Максім Багдановіч пра значэнне “Нашай Нівы”.**

[...] “Наша Ніва” вела неустанную просветительскую работу. Ставя своей целью всестороннее возрождение белорусской народной культуры и, следовательно, твёрдо стоя на определённой демократической позиции, она пробила себе дорогу в самые глухие уголки Белоруссии, в самые тёмные слои населения. Для многих тысяч людей она явилась первой газетой, прочитанной ими, первым источником знания, не носившего казённой печати, изложенного простым и ясным языком.

К белорусскому крестьянину, сжившемуся с мыслью, что он хам, а его “мова” – хамская, “Наша Ніва” печатно обратилась на этой мове, вызывая в нём тем самым уважение и к ней, и к самому себе, пробуждая в нём чувство собственного достоинства. В белорусском крае, истерзанном национальной борьбой, “Наша Ніва” неустанно напоминала о необходимости чтить права каждого народа, ценить всякую культуру и, закрепляя свои национальные устои, широко пользоваться приобретениями культуры как польской, так и великорусской и украинской.

[...]

Вот уже девятый год работает “Наша Ніва” в этом направлении. Она подвергалась неоднократным конфискациям, редактор отсиживал в тюрьме, воспрещалось чтение её и для военных, и для духовенства, и для народных учителей, и для учеников учительских семинарий, и ещё для целого ряда лиц. Субсидируемая русская пресса травила её, утверждая, что она издаётся на польские деньги для ослабления в крае великорусских позиций и для подготовки почвы к ополячению его. В свою очередь органы польского шовинистического национализма видят в ней тонкое средство для обрусения белорусов-католиков, созданное на деньги казны. Но всё это не сломило энергии из-

дателей "Нашай Нівы" и не смогло задержать развитие белорусского движения. В настоящее время "Наша Ніва" идёт в крестьянство, как ни один орган целого края. Со всех сторон в неё льются, писаные неискусной рукой крестьянина-белоруса, корреспонденции, стихи, рассказы, статьи [...]

*Багдановіч М. Беларускае адраджэнне. Мінск, 1994. С. 25–26*

**162. Загадка Максіма Багдановіча.**

Як няпроста было Багдановічу стаць беларускім паэтам! Пачаць хаця б з таго, што сваёй мове ён павінен быў вучыцца, як чужой: напачатку ён проста не ведаў яе! І, што самае прыкрае для пісьменніка, не ведаў яе жывых гаворак. Не ведаў ён, вядома, не па сваёй віне. Проста так складвалася ягонае жыццё. Усё бы знарок было супраць таго, каб ён адчуў сябе беларусам. Упершыню на Радзіму ён прыязджае ў дваццаць гадоў. [...]

Сам факт з'яўлення Багдановіча – ці не быў ён яшчэ адным, можа, самым сур'ёзным пацвярджэннем важнасці і жыццёвасці той справы, якой аддавалі ўсе свае сілы лепшыя з беларускіх інтэлігентаў? [...]

Ён, які амаль усё свядомае жыццё пражыў у рускім асяроддзі, і пісаў, і думаў па-беларуску. Ён пісаў і па-руску, і па-ўкраінску, але мастаком ён быў толькі на роднай беларускай мове. Гэта ісціна, якую няцяжка даказаць. Справа аблягчаецца тым, што мы маем пераклады вершаў Багдановіча на рускую мову, зробленыя ім самім.

[...] Спынімся на вершы "Возера" і на яго рускім варыянце. Для зручнасці аналізу параўнаем толькі першыя строфы.

Стаяў калісь тут бор стары,
І жыў лясун у тым бары.
Зрубалі бор – лясун загінуў.
Во след яго ад той пары
Сваё люстэрка ён пакінуў.

Цытуем па-руску:

Тут рос густой, суровый бор.
И леший жил; когда ж топор
В бору раздался – леший сгинул.
И, уж невиданный с тех пор,
Нам зеркальце сваё покинул.

[...] У беларускім варыянце – выразнасць інтанацыі і выразнасць малюнка. Зайздросны лаканізм формы. Пачатак, энергічны і адна-

часова сціплы, нагадвае зачын казкі ці народнага апавядання. У перакладзе ўдакладненне “густой суровый бор” выдаецца і непатрэбным, і вялым, і трафарэтным. “Во след яго ад той пары”. Тут выразна адчуваецца і сам апавядальнік, і яго інтанацыйны жэст – зноў жа энергічны і выразны. Варта звярнуць увагу і яшчэ на адну акалічнасць: у кожным з трох першых радкоў беларускага верша – новая думка, якая паслядоўна вынікае з папярэдняй. Радок метрычна, інтанацыйна супадае з думкай. Два ж апошніх радкі – дзве грані адной думкі ці, дакладней, гэта думка і яе адбітак. Гэтаксама, як люстэрка – возера – адбітак лесуновага следу.

Прыемна усё-ткі мець справу з Багдановічам-паэтам! Здаецца, просценькі вершык, а прыглядзішся – якое майстэрства! І думка не замінае пачуццю, а пачуццё – думцы. Нават не хочацца пасля гэтага вяртацца да другога лесуна, “лешего”, які чамусьці “невиданный”, замест таго каб быць “неведомым”, “незнаемым” ці яшчэ якім.

Не, выдатна мысліў і адчуваў па-беларуску Багдановіч! Інтуіцыя мастака перамагла недастатковае веданне мовы, каб сцвердзіць сябе ў ёй, і толькі ў ёй. Во дзе загадка і во дзе дзіва! Дык што ж: пачнём разгадваць яе? Але ці зможам і ці трэба гэта? Бо, урэшце, разгадаць загадку ці тайну – гэта значыць напалову пазбавіць яе прывабнасці.

Падзівімся лепш на гэтую загадку і на тайну Багдановіча.

*Стральцоў М. Загадка Багдановіча //*
*Перад дарогай. Мінск, 1994. С. 217–224*

### 163. Беларуская культурная вечарына ў Вільні. 12 лютага 1910 г.

Дзяўчаты зіхацелі пекнымі андаракамі, гарсэтамі, вышыванымі кашулямі, устужкамі, пацеркамі; на дзявочых галоўках былі пекна павязаныя чырвоныя хустачкі, белыя наміткі. Хлопцы бялелі ў магілёўскіх світках, абшытых па краях чырвоным шнурком і падпярэзаных прыгожымі вузкімі і шырокім белымі паясамі; на іншых былі белыя валеныя шапкі. І паліліся хвалі тонаў песні прад заціхшай у залі тысячнай грамадой [...].

Чутно было ў песні не разгул велікароса з-пад Волгі, не бойкую гульню паляка, але замкнутую ў сабе самой душу нашага беларуса з лясіста-балоцістай старой нашай бацькаўшчыны.

[...]

Уся зала стала быццам бурным морам народным, уся траслася ад клікаў: “Брава! Брава! Беларусы!” Хору прыйшлося на колькі разоў пяяць некаторыя песні, што найбольш схапілі людзей за сэрца і душу сваімі словамі, музыкай. Так віталі людзі ўсіх нацыяў беларускую

песню, каторая дагэтуль лілася і развівалася толькі на палёх і палесках, а цяпер адразу выйшла на свет шырокі. Чуцен быў скрозь гоман: “Мы ня ведалі, што ёсць беларуская песня і што яна асобная, свая, беларуская, мае свой дух” [...]

*Наша Ніва. 1910. № 8*

### 164. Вацлаў Ластоўскі. Прадмова да “Кароткай гісторыі Беларусі”.

Гісторыя – гэта фундамэнт, на каторым будуецца жыцьцё народу. І нам, каб адбудаваць сваё жыцьцё, трэба пачаць з фундамэнту, каб будынак быў моцны. А фундамэнт у нас важны, гісторыя наша багата: “жатва многа, а делатель мало”, як кажэ сьвятое пісаньне. Поле пустое, бо сыны бацькоўшчыны нашай к чужым у найміты пайшлі, чужыя гумны і засекі багацяць!

Беручыся пісаць кароткі гэты нарыс гісторыі нашай, ня меў я змогі даць навучны твор, плод доўгіх навуковых досьледаў, – даў тое, на што было маёй змогі: сабраў з расейкіх, польскіх ды ўкраінскіх гісторыкаў тое, што мне вядома было аб гісторыі нашага краю і народу, злажыўшы ў парадак, які кожнаму здарэньню вызначало жыцьцё.

Працу гэтую ахвярую сыном маладой Беларусі, каб хаця з гэтай кароткай і няпоўнай працы маглі пазнаваць гісторыю бацькоўшчыны ў сваёй роднай мове. Для вучоных новага няма тут нічога; усё, што сказана тут, знойдуць яны параскіданае ў працах аўтараў, спісок каторых падаю ніжэй. Адно толькі пазволіў я сабе: некаторыя здарэньня асудзізь па свойму з techановішча карысцей і шкод беларускага народу. [...]

*Ластоўскі В. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910. С. 5*

### 165. Значэнне “Кароткай гісторыі Беларусі” Вацлава Ластоўскага.

У чым вартасць гэтай кнігі? [...] Перш за усё трэба сказаць, што яе аўтар – чалавек з неардынарным і, на жаль, трагічным лёсам. Ён не толькі гісторык, але і пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч, адзін з ініцыятараў беларускага культурнага адраджэння пачатку XX ст.[...] А ягоны гістарычны твор – “Кароткая гісторыя Беларусі” – гэта першая папулярная гісторыя Беларусі, напісаная беларусам і для беларусаў. Праўда, і раней выходзілі працы па гісторыі нашага краю, але выдавалі іх або рускія, або польскія [...] вучоныя. Яны адпаведна разгля-

далі Беларусь або як “Северо-Западный край Российской империи”, або як правінцыю былой Польскай дзяржавы. [...]

Адным словам, Вацлаў Ластоўскі [...] быў першым беларускім гісторыкам, пішучым пра Беларусь і для беларусаў.

*Грыцкевіч А. Пасляслоўе // В. Ластоўскі. Кароткая гісторыя Беларусі. Мінск, 1992. С. 111–119*

### 166. Вацлаў Ластоўскі. Родная мова. 1914 г. Фрагмент артыкула.

Кожны народ гаворыць аб дабрэ і зле сваёй мовай, і гэта яго права, бо мова – гэта плод геаграфічных і гістарычных варункаў народа, яго звычаяў і абычаяў.

І болей: мова кожнага асобнага народа – гэта сума пераЖыванняў, сума душ яго жывых і даўно адышоўшых у вечнасць пакаленняў.

Родная мова – гэта мільёны жывых клетачак мозгу, унаследаваных чалавекам ад папярэдзіўшых яго пакаленняў, мільёны пераЖыванняў красы, дабра і зла, згукаў і форм, несчысленае багацце душы, каторае адкрываецца толькі пад дотыкам тых самых згукаў, каторыя нарадзілі іх калісь у душах далёкіх пакаленняў.

Родная мова – гэта музыка душы, каторай Найвышні Стварыцель адарыў чалавека, гэта натуральны фундамент, на каторым чалавек павінен будаваць дом сваёй сілы духоўнай, свайго розуму, пачуцці дабра і зла, справядлівасці і крыўды, красы і брыдзі.

[...]

Сыны Народа павінны любіць і шанаваць яе, бо адна яна жывая крыніца нашага розуму, пачуццяў і семя душы нашай, яна чароўны лек і аружжа проці смерці. Толькі яе чароўная музыка мае сілу будзіць душы памершых нашых дзядоў і адкрыць перад намі бесканечнасць пераЖыванняў тых, каторыя радзілі нас і адышлі ў вечнасць. Іх душы жывуць у мільёнах нашых мазгавых клетак, у фібрах душы і ажываюць толькі пад гудзьбу згукаў роднае мовы.

Родная мова для нас – гэта музыка ўсіх пачуццяў, якія пераЖываў народ наш: яго болесцей і радасцей, голас яго сэрца і святло розуму.

*Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мінск, 1997. С. 280*

### 167. Лявон Гмырак [Мечыслаў Бабровіч]. Нацыя і рэлігія. 1913 г.

“Наша Ніва” і невялічкі спачатку, а пасля ўсё болей і болей разрастаючыся гурток яе супрацоўнікаў і прыхільнікаў праз сем гадоў сваёй нялёгкай, бо пад градам розных нападаў і аплёвывання, працы, усё ж такі зрабілі тое, што шмат беларусаў сталі нацыянальна свядомымі,

што цяпер хутка расходзяцца ў народзе беларускія газеты і кніжкі, а побач з імі шырацца і нацыянальныя думкі.

Але, бачачы гэта, нельга забываць і таго, што дагэтуль нацыянальна свядомым стаў не ўвесь дзесяцімільённы беларускі народ, а толькі, калі прыраўняць, невялічкая частка яго, што шэрая, цёмная, у большай частцы непісьменная маса беларускага сялянства дагэтуль стаіць у баку ад беларускага руху, нават самога слова "беларус" не чула, ні беларускай кніжкі ды газеты не бачыла і часта не ведае, што яны на свеце ёсць.

Мы цвёрда верым у тое, што калі нашы думкі да іх дойдуць, калі ўвесь народ будзе мець змогу даць свой голас у гэтай справе, здаровы розум, патрэбы штодзённага жыцця і тлеючаяся ў глыбіні душы, нягледзячы ні на што, інстынктыўная любоў да свайго пераможа і ўвесь народ стане разам з намі дамагацца правоў для сваёй мовы, захоча чуць яе ўсюды: у царкве, у касцёле, у школе і г.д., стане будаваць сваю нацыянальную культуру. Мы верым, што гэта так будзе, але пакуль што, калі запытацца ў цёмнага неразвітага беларуса: "Хто ты такі?", ён пачухае патыліцу ды і адкажа: "Тутэйшы" або, гледзячы па веры: "Рускі", "праваслаўны", ці "Паляк", "каталік". Адным словам, пачуццё нацыянальнай асобнасці ў ім надта слабае, і два, не маючых нічога супольнага паміж сабой паняцці – нацыя і рэлігія, – ён змешвае і лічыць сябе "рускім" ці "палякам" за тое, што ён праваслаўны ці каталік.

Вось гэту справу трэба разглядзець і абгаварыць, бо ў ёй блытаюцца і робяць памылковыя высноўкі не толькі саўсем цёмныя, непісьменныя людзі, але часам і тыя, хто і асветы трошку ўхапіў дзе.

[...]

Нацыю складаюць людзі, якія гавораць адной мовай і адчуваюць сувязь паміж сабой; прызнаюць сваю даную мову ці культуру. [...] Нацый на свеце болей, як вер, і набярэцца іх болей 3000. Вось тут адразу кідаецца ў вочы тое, што нацыя і рэлігія не адно і тое ж, калі нацый ёсць болей, як вер. Далей мы ведаем, што, часта бывае, адной веры ёсць некалькі народаў. [...] Часамі бывае, што якую-небудзь веру прызнае толькі адзін народ, напр., іудзейскай веры – на свеце адны толькі жыды. Але найчасцей бывае, што ў адным і тым жа народзе часць народу трымаецца адной веры, а часць другой. [...] І – што маем далёка хадзіць – мы, беларусы, будучы адным суцэльным народам, гаворым адной мовай, таксама раздзяляемся па веры: паміж намі ёсць і праваслаўныя і каталікі. Багата ўсялякіх прычын зладжылася на тое, чаму той ці іншы народ трымаецца цяпер гэтай, а не іншай веры; чаму бывае, што часць яго адной веры, а часць – другой. Ці багата было прычын таго, чаму ў нас на Беларусі так пастаўлена справа, раз-

сімпатыю і дапамогу братоў-дэмакратаў іншых народаў. Народ, які не дабіўся нацыянальнай свабоды, не можа жыць поўным жыццём, таму патрабаваннем кожнага шчырага дэмакрата з'яўляецца ліквідацыя ўсіх формаў гвалту. Пакуль будуць існаваць перашкоды, якія затрымліваюць гаспадарчае або культурна-нацыянальнае развіццё хоць бы адной з супольнасцяў нашага Краю, да таго часу дэмакратыя не спыніць сваіх намаганняў дзеля набліжэння лепшай будучыні нашай агульнай Айчыны.

*Веслаў Каліноўскі [А. Луцкевіч]. Выбар дарогі // Кур'ер краёвы. 1913. № 258*

### 172. Беларуская нацыянальная ідэя на пачатку XX ст.

[...]

Спроба сфармуляваць сацыялістычны варыянт нацыянальнай ідэі

Выпрацоўка беларускай нацыянальнай ідэі[3] адбывалася ў XX ст. Відавочна існаванне некалькіх варыянтаў гэтай ідэі ўжо на пачатку стагоддзя. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі першыя беларускія палітычныя арганізацыі – Беларуская рэвалюцыйная партыя, заснаваная Вацлавам Іваноўскім, і Беларуская рэвалюцыйная Грамада. Праўда, як заўважыў Юры Туронак, абедзьве гэтыя арганізацыі больш нагадвалі інтэлігенцкі клуб, чым палітычную арганізацыю. Станаўленню першай беларускай палітычнай партыі паспрыяла рэвалюцыя 1905–1907 гг., у якую яна ўступіла пад назвай Беларускай сацыялістычнай Грамады. Гэта была сацыялістычная партыя леванародніцкага тыпу. У праграме 1903 г. Грамада характарызавала сябе як "сацыяльна-палітычную арганізацыю беларускага працавітага народа", не падзяляючы апошні на сялян і рабочых. Але ў якасці партыйнага дэвіза партыя выкарыстоўвала марксісцкі заклік "Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!". Звяртае на сябе ўвагу прысутнасць у I праграме палажэння пра стварэнне незалежнай дэмакратычнай рэспублікі. М. Біч лічыў, што ўключэнне гэтага палажэння адбылося выключна пад уплывам ППС і ЛСДП.

На II з'ездзе (студзень 1906 г.) яна самавызначылася як партыя "працавітай беднаты Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцяў". У якасці партыйнага дэвіза быў зацверджаны народніцкі заклік: "Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся!" Менавіта БСГ прапанавала першы варыянт беларускай нацыянальнай ідэі, які знайшоў сваё адлюстраванне на старонках газеты "Наша Доля". У праграмным

[3] Паняцце "беларуская нацыянальная ідэя" трактуецца ўслед за А. Латышонкам як "ідэя існавання нацыі менавіта беларускай " (Латышонак А. Беларуская нацыянальная ідэя // Свіцязь. 1994. № 2. С. 30).

артыкуле першага нумару газеты (01.09.1906) рэдакцыя абяцала змагацца за сацыяльныя і нацыянальныя свабоды, асвету на беларускай мове, за Адраджэнне Беларусі, якое трактавалася адпаведна сацыялістычнай ідэалогіі. Першачарговую ролю адыгрывалі пытанні класавай барацьбы. На старонках “Нашай Долі” беларуская ідэя выступала, у першую чаргу, як ідэя сацыяльнага вызвалення беларускай беднаты ад расійскага царызму і памешчыкаў. Уласна нацыянальны кампанент беларускай ідэі разглядаўся хутчэй як сродак сацыяльнай мабілізацыі беларускага сялянства на палітычную барацьбу. Фактычна была зроблена спроба сфармуляваць **сацыялістычны варыянт нацыянальнай ідэі**. Як вядома, газета праіснавала нядоўга. У снежні 1906 г. яна была забароненая.

### “Наша Ніва” і этнічна-моўны варыянт нацыянальнай ідэі

Яшчэ да закрыцця “Нашай Долі” яе рэдакцыя раскалолася. Шэраг супрацоўнікаў (у т.л. браты Луцкевічы) перайшлі на больш ліберальныя пазіцыі, спадзеючыся выкарыстаць палітычныя перамены, якія прынесла рэвалюцыя. Яны і сталі ініцыятарамі выдання новага штотыднёвіка “Наша Ніва”, які на працягу 9 гадоў (1906–1915) з’яўляўся цэнтрам беларускага нацыянальнага жыцця. У рэдакцыйным артыкуле першага нумара заснавальнікі газеты абяцалі чытачам “служыць усему беларускаму скрыўджэнаму народу”, называлі сваё выданне газетай “усіх беларусоў і ўсіх тых, хто ім спагадае” і абяцалі імкнуцца да таго, каб “усе беларусы, што ня ведаюць, хто яны ёсць, – зразумелі, што яны беларусы”.

“Наша Ніва” здолела аб’яднаць аўтараў розных веравызнанняў і сацыяльных арыентацый, якія выступалі за нацыянальна-культурнае Адраджэнне беларусаў. Тыднёвік спрыяў “творчаму нараджэнню” шэрага класікаў беларускай літаратуры, у т.л. Я. Купалы, М. Багдановіча, Я. Коласа ды іншых. У рэдакцыі працавалі найбольш вядомыя беларускія літаратары, публіцысты і палітыкі. Да 1912 г. газета друкавалася кірыліцай і лацінкай. Рэдакцыя паслядоўна прапагандавала канцэпцыю адзінства беларускай нацыі, якая культурна і духоўна розніцца ад польскай і расейскай.

Міхал Ромэр у сваім Дзённіку пакінуў вельмі цікавую характарыстыку рэдакцыі “Нашай Нівы”: “Кола супрацоўнікаў “Нашай Нівы”, – пісаў ён, – для мяне з’яўляецца адным з самых прывабных і сімпатычных у Вільні. Ёсць у іх вялікая шчырасць волі, моцная адданасць справе, якая ўспрымаецца імі не як механічная работа або прафесійны абавязак, а як жывая творчасць, як найбольш поўная праява іх жыцця, іх энергіі, іх волі. Яны цалкам паглыбленыя ў сваю справу, толькі ёй і жывуць. Кожны з іх – адметная асоба, кожны мае

выразную і непаўторную індывідуальнасць. Пэўная шаблоннасць думак і дзеянняў, якую часта нараджае калектыўная праца, у беларусаў цалкам адсутнічае. Яркая індывідуальнасць кожнага з іх тлумачыцца шчырымі, сумленнымі адносінамі да справы. Пры энергічнай дзейнасці індывідуальнасць не нівеліруецца паводле пэўнага шаблону, а развіваецца, набывае выразныя контуры, што спрыяе найбольш поўнаму выяўленню асобы”.

У “нашаніўскім” варыянце беларускай нацыянальнай ідэі найважнейшае месца займалі пытанні, звязаныя з лёсам беларускай мовы і беларускамоўнай адукацыяй. “Наша Ніва” прапагандавала ідэю выкладання Закона Божага (катэхізацыі) на роднай мове і ўвядзення яе ў касцёл і царкву ў якасці мовы дадатковага набажэнства.

Газета імкнулася ўзняць сацыяльны прэстыж беларускай мовы, нагадваючы чытачам, што ў ВКЛ гэтая мова мела статус дзяржаўнай, што менавіта на ёй пісаліся законы. Яе аўтары прапагандавалі ідэю святасці роднай мовы для кожнага беларуса і заклікалі шанаваць і абараняць яе, выказвалі аптымізм і веру ў поспех беларускай справы. “Наша Ніва” рэгулярна паведамляла пра беларускія кніжныя навінкі і ў першую чаргу пра падручнікі на роднай мове. На яе старонках складваліся лексічныя і граматычныя нормы новай беларускай літаратурнай мовы. Невыпадкова Захар Шыбека ў *Нарысе гісторыі Беларусі...* назваў яе “лінгвістычнай акадэміяй”.

Адным з пастаянных аўтараў газеты быў Мечыслаў Бабровіч (псеўданім *Лявон Гмырак*), якому належыць наступнае вызначэнне нацыі: “Нацыю складаюць людзі, якія гавораць адной мовай і адчуваюць сувязь паміж сабой; прызнаюць сваю даную мову ці культуру”.

Шмат увагі “Наша Ніва” надавала такому важнаму кампаненту нацыянальнай свядомасці, як гістарычная памяць. Ідэолагі беларускага руху разумелі, што ўсведамленне ўласным народам (у першую чаргу элітай) і ягонымі суседзямі адметнага месца беларусаў у гісторыі з’яўляецца пэўнай гарантыяй таго, што нацыя стане суб’ектам сучаснага палітычнага і нацыянальнага жыцця. У 1910 г. на старонках газеты друкавалася Кароткая гісторыя Беларусі Вацлава Ластоўскага, якая была першай спробай асэнсаваць мінулае беларускай зямлі і яе народаў з беларускага пункту гледзішча. Аўтар імкнуўся паказаць уласна беларускі ўклад у гісторыю і, напрыклад, паланізацыю характарызаваў як самаапалячванне. Упершыню ў гістарыяграфіі беларусы трактаваліся як галоўны народ краю, які вызначаў ягоны гістарычны лёс.

Можна сцвярджаць, што “Наша Ніва” актыўна распаўсюджвала **этнічна-моўны варыянт нацыянальнай ідэалогіі**, цэнтральнае месца ў якім займала ідэя захавання і развіцця роднай мовы, па-

шырэння яе ўжывання ў адукацыі, рэлігіі і грамадска-палітычным жыцці.

Пры гэтым характэрнай рысай публікацый “Нашай Нівы” было асуджэнне ўсялякага шавінізму, у т.л. і беларускага. На яе старонках, напрыклад, сцвярджалася, што ненавідзець палякаў за тое, што яны палякі, або рускіх за тое, што яны рускія, можа толькі псіхічна ненармальны ці аслеплены фальшывым патрыятызмам чалавек.

### Адносіны да краёвасці як дзяржаўніцкага (грамадзянскага) варыянта нацыянальнай ідэалогіі

Высокі ўзровень талеранцыі “нашаніўскага кола”, магчыма, быў абумоўлены тым, што сярод беларускай эліты паступова распаўсюдзіўся яшчэ адзін варыянт нацыянальнай ідэалогіі, з’яўленне якога было звязана з палітычнай актыўнасцю літоўскіх і беларускіх палякаў. Менавіта ў іх асяроддзі ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. былі выпрацаваныя асновы г.зв. “краёвай ідэалогіі”. Яе стваральнікі (Міхал Ромэр, Раман Скірмунт, Канстанцыя Скірмунт і Балеслаў Ялавецкі) прадстаўлялі тую частку мясцовай польскай грамадскасці, якая захоўвала традыцыі дзяржаўнай і культурнай адметнасці земляў былога ВКЛ. Яны адчувалі сябе грамадзянамі Вялікага княства Літоўскага і менавіта яго, а не Польшчу лічылі сваёй Радзімай. Падмуркам краёвасці была ідэя дзяржаўнай або грамадзянскай нацыі. Паводле ідэолагаў краёвасці, кожны, хто адчуваў сябе грамадзянінам Краю, належаў да краёвай нацыі (часта яе называлі “нацыяй літвінаў”). Этнічныя і культурныя адметнасці, на іх думку, не адыгрывалі вялікай ролі. У пэўным сэнсе краёвасць была працягам традыцыі ліцвінства. Варта таксама адзначыць два накірункі краёвай ідэалогіі – дэмакратычны, у вытокаў якога стаяла асоба Міхала Ромэра (1880–1945), і кансерватыўна-ліберальны, у стварэнні якога вялікую ролю адыграў Раман Скірмунт (1868–1939).

Кантакты паміж польскімі краёўцамі дэмакратычнай плыні і дзеячамі беларускага руху спрыялі таму, што краёвую ідэю пачалі прапагандаваць таксама беларускія палітыкі. У першую чаргу трэба згадаць братоў Луцкевічаў. Менавіта яны былі ініцыятарамі ажыццяўлення незвычайнага беларускага выдавецкага праекта – выдання штодзённай газеты на рускай мове і штотыднёвіка на польскай. У 1912 г. у Вільне пачала выходзіць “Вечерняя газета”, да якой хутка далучыўся “Кур’ер Краёвы”. Выдаўцамі і рэдактарамі гэтых ліберальна-дэмакратычных выданняў былі беларускія дзеячы, у т.л. браты Луцкевічы. Але паходжанне новых віленскіх газет трымалася ў таямніцы ад шырокай грамадскасці.

У праграмных артыкулах першых нумароў гэтых дзвюх газет Антон Луцкевіч сфармуляваў іх галоўныя задачы, якія цалкам адпавядалі дзяржаўніцкаму варыянту нацыястваральнай ідэалогіі. Напрыклад, на старонках "Вечерней газеты" адзначалася: "У нас ніякім чынам нельга зыходзіць з інтарэсаў якой-небудзь адной нацыянальнай групы. Ва ўмовах разнастайнасці нацыянальнага складу насельніцтва трэба ўвесь час мець на ўвазе інтарэсы краю як адзінага цэлага. Толькі ў гэтым выпадку магчыма нармальнае развіццё кожнай асобнай народнасці. Усведамленне, што ўсе мы, жыхары гэтай зямлі, з'яўляемся грамадзянамі Краю – вось нашая зыходная кропка пры высвятленні патрабаванняў розных груп насельніцтва".

У іншай публікацыі А. Луцкевіч сцвярджаў, што інтарэсы асобнай нацыі не заўсёды адпавядаюць інтарэсам усяго Краю. Але толькі стварэнне ўмоваў для гаспадарчага і культурнага развіцця ўсяго Краю можа стаць падмуркам росквіту кожнага з яго народаў. Усведамленне, што ўсе жыхары Краю з'яўляюцца яго грамадзянамі, што іх будучыня непарыўна звязана з перспектывамі развіцця Краю, лічылася неабходнай умовай вырашэння ўсіх краёвых праблем.

У рэдакцыйным артыкуле першага нумара "Кур'ера краёвага" (8.11.1912) А. Луцкевіч звяртаў увагу на пагрозу з боку ваяўнічага нацыяналізму, які абвастрае сітуацыю ў Краі. Беларускі палітык заклікаў дэмакратычныя сілы ўсіх нацый Беларусі і Літвы да супрацоўніцтва на карысць народу і роднай зямлі: "Да гарадоў і мястэчак, да палацаў і сялянскіх хат прыходзіць найгоршы вораг народаў – нацыяналізм. Ён прыносіць узаемную нянавісць і распальвае ўнутраную барацьбу ў народнай масе, пагражаючы распадам Краю і стратай ім магчымасці абараняцца ад людзей, якія імкнуцца знішчыць на гэтай зямлі ўсялякае пачуццё самабытнасці". Між тым "у Краі, дзе побач з літоўцам жыве паляк, побач з беларусам – яўрэй, у Краі, няшчасны лёс якога прадвызначыў ягонае адставанне і пазбавіў магчымасці свабоднага развіцця, няма месца для ўнутранай барацьбы".

А. Луцкевіч заклікаў усіх "грамадзян Краю" да працы на ягоную карысць і на карысць прыгнечанага народа. Тэрмін "грамадзянін Краю", адзін з асноўных у канцэпцыі дзяржаўнай (грамадзянскай) нацыі, шырока ўжываўся на старонках "Кур'ера" і "Вечерней газеты". Аўтары публікацый даводзілі, што жыццёва важныя для Краю пытанні павінны вырашацца з улікам інтарэсаў усіх этнасаў Беларусі і Літвы, асуджалі велікарускі і велікапольскі шавінізм, заяўлялі пра неабходнасць барацьбы з праявамі шавінізму сярод беларусаў і літоўцаў ды інш. Згаданыя беларускія газеты стваралі ідэйную канкурэнцыю "Нашай Ніве". Яны прапагандавалі дэмакратычны накірунак краё-

вай ідэалогіі альбо **дэмакратычны варыянт ідэалогіі нацыі “дзяржаўнага” тыпу**.

Але наўрад ці краёвую пазіцыю “Вечерней газеты” і “Кур’ера краёвага” можна лічыць асобным варыянтам беларускай нацыянальнай ідэі. Аналіз крыніц, якія маюцца ў нашым распараджэнні, дазваляе казаць пра выключна прагматычнае выкарыстанне беларусамі краёвай ідэалогіі. Краёвасць дазваляла значна пашырыць сацыяльную і этнакультурную базу прапаганды ідэалогіі беларускага Адраджэння. Яна стварала выдатныя магчымасці для наладжвання сувязяў з дзеячамі іншых нацыянальных рухаў. Фактычна краёвая ідэя разглядалася ў якасці сродка ўмацавання пазіцый беларусаў у нацыянальна-культурным і грамадска-палітычным жыцці. Так, напрыклад, агітацыя неабходнасці паразумення палякаў з беларусамі аргументавалася ў першую чаргу адсутнасцю перспектыў далейшага развіцця польскага руху ў Беларуска-Літоўскім краі. Кіраўнікі беларускага руху былі ўпэўненыя, што літоўскія і беларускія палякі з’яўляюцца выключна нашчадкамі паланізаваных літоўцаў і беларусаў. З гэтага рабілася выснова, што польская грамадскасць павінна працаваць толькі дзеля развіцця свядомасці і культуры беларусаў і літоўцаў. Відавочны “беларускі ўхіл” краёвасці Антона Луцкевіча і іншых дзеячоў “нашаніўскага” кола.

Затое кансерватыўна-ліберальны накірунак краёвай ідэалогіі стаўся ідэйнай асновай выпрацоўкі **кансерватыўнага варыянта** беларускай нацыянальнай ідэі. Вялікую ролю ў гэтым адыграў Раман Скірмунт, які, дарэчы, з’яўляўся адным з галоўных ідэолагаў гэтай краёвай плыні. Ад большасці краёўцаў-кансерватараў яго адрозніваў выразны лібералізм у пытаннях палітычнага жыцця і імкненне публічна дыстанцыравацца ад польскасці як нацыянальна-палітычнай катэгорыі.

Ужо ў 1907 г. Раман Скірмунт выступіў з ініцыятывай стварэння міжнацыянальнага Краёвага саюза як кансерватыўна-ліберальнай партыі, у складзе якой павінна была існаваць аўтаномная беларуская палітычная арганізацыя (разам з польскай і літоўскай). Такую партыю стварыць не атрымалася, бо большасць землеўласнікаў з ліку літоўскіх і беларускіх палякаў, якія падтрымалі ініцыятыву Р. Скірмунта, успрымалі краёвасць толькі як сродак абароны ўласнай маёмасці ва ўмовах хуткай радыкалізацыі сацыяльных і абвастрэння нацыянальных адносін.

Аднак краёвыя погляды Р. Скірмунта і паслярэвалюцыйная лібералізацыя пазіцыі дзеячаў “нашаніўскага кола” разам з іх прыхільнасцю да краёвасці паспрыялі наладжванню кантактаў паміж імі. У гістарычнай літаратуры ёсць звесткі пра тое, што ў міжрэвалюцыйны перыяд за пасрэдніцтвам княгіні Марыі Магдалены Радзівіл

адбываліся сустрэчы і перамовы паміж Р. Скірмунтам, з аднаго боку, і братамі Луцкевічамі, В. Іваноўскім і А. Уласавым – з другога. Было дасягнутае пэўнае паразуменне, што, верагодна, забяспечыла па меншай меры фінансавую падтрымку культурных ініцыятыў сяброў былой БСГ.

Раман Скірмунт не пакінуў спробаў стварэння беларускай кансерватыўнай ці кансерватыўна-ліберальнай партыі. Паводле В. Гадлеўскага, увесну 1917 г. ён спрабаваў арганізаваць "беларускую абшарніцкую партыю" і прыцягнуць да палітычнай працы на карысць Беларусі прадстаўнікоў колішніх магнацкіх родаў. У лютым 1918 г. ён амаль дасягнуў свайго, заснаваўшы ў Менску Беларускае народнае прадстаўніцтва як палітычную партыю, што знаходзілася ў апазіцыі да грамадаўскага Народнага сакратарыяту. Аднак трагізм сітуацыі быў у тым, што Р. Скірмунт не мог знайсці ў Беларусі масавай падтрымкі сваёй палітычнай пазіцыі. Як заўважыў яшчэ ў 1918 г. Яўсей Канчар, выхадцы з сацыяльных нізоў за Скірмунтам не пойдуць, а сярод маёмасных класаў амаль няма арганізаваных людзей, якія б усведамлялі сябе беларусамі.

### "Клерыкальна-патрыятычны" варыянт нацыянальнай ідэі

У 1913 г. пачалася выпрацоўка яшчэ аднаго варыянта беларускай нацыянальнай ідэі, які Антон Луцкевіч называў **"клерыкальна-патрыятычным"**. Гэты варыянт беларускай ідэі быў прадстаўлены на старонках тыднёвіка "Беларус" (выдаўцы і рэдактары – А. Бычкоўскі і Б. Пачопка). У праграмным артыкуле першага нумару газеты рэдакцыя заявіла, што "будзе стаяць заўсёды на грунце хрысціянска-каталіцкім, баронячы справу хрысціянскую і беларускую", паважаючы іншыя народнасці і веравызнанні.

Асаблівасцю гэтага варыянта нацыянальнай ідэі было адзінства нацыянальнай культуры, асветы і хрысціянскай веры. Газета прапагандавала развіццё нацыянальнай свядомасці сярод беларусаў-каталікоў, заахвочвала каталіцкі клір да ўжывання беларускай мовы ў набажэнстве, арыентавалася на сацыяльную гармонію і эвалюцыйны шлях развіцця грамадства. Якраз пра гэта пісаў на старонках газеты яе рэдактар Баляслаў Пачобка: "Сапраўдны беларус той, хто гаворыць: Я беларус, люблю сваю бацькаўшчыну і мову і колькі магу працую дзеля яе". У іншым артыкуле ён жа даказваў неабходнасць увядзення беларускай мовы ў каталіцкі касцёл, а таксама выдання беларускамоўнай літаратуры для набажэнства. Рэдакцыя заклікала беларусаў да актыўнай гістарычнай творчасці, адстойвала ідэю беларускага нацыянальнага адзінства праваслаўных і каталікоў, змагалася з русіфікацыяй і паланізацыяй беларусаў.

Выданне “Беларуса” з’яўлялася спробай паяднання хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіі з беларускім нацыянальным рухам і этнічна-моўным варыянтам беларускай нацыянальнай ідэі. У сацыяльна-палітычным плане пачалося стварэнне падмуркаў беларускай кансерватыўнай думкі, што было рэакцыяй на пашырэнне сацыялістычнай ідэі асабліва сярод моладзі. Аднак пазнейшыя палітычныя і ваенныя падзеі перапынілі гэтую працу.

Такім чынам, у беларускім нацыянальна-культурным Адраджэнні пачатку XX ст. праявілася заканамернасць, характэрная для большасці нацый Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Дамінуючым варыянтам нацыянальнай ідэалогіі стаўся этнічна-моўны варыянт, які паслядоўна прапагандавала і адстойвала “Наша Ніва”. Аднак звяртае на сябе ўвагу імкненне беларусаў парушыць ягоныя межы. Ва ўмовах моцных уплываў з боку польскай і расійскай культур беларускія палітыкі дзеля сацыяльнай і нацыянальна-культурнай мабілізацыі насельніцтва актыўна выкарыстоўвалі магчымасці дзяржаўніцкага (грамадзянскага) варыянту нацыянальнай ідэалогіі (маецца на ўвазе дэмакратычная і кансерватыўна-ліберальная плыні краёвасці), шукалі магчымасці паяднання беларускай ідэі з сацыялістычнай, хрысціянска-дэмакратычнай і кансерватыўнай ідэалагічнымі канцэпцыямі. Аднак гэтыя спробы аказаліся малаэфектыўнымі. Адсутнічала дзяржава, якая магла б з’яднаць усе этнасы краю ў беларускую нацыю дзяржаўнага тыпу. Большасць каталіцкага і праваслаўнага духавенства аказалася ўцягнутай у расійска-польскае змаганне за г.зв. “Паўночна-Заходні край” або “ўсходнія крэсы”, а пралетарыят і буржуазія, свядомыя ўласнай беларускасці, не існавалі як палітычная сіла. У тагачасных ўмовах этнічна-моўны варыянт нацыянальнай ідэалогіі беларускага руху не меў альтэрнатывы.

*Смалянчук А. Беларуская ідэя ў кантэксце нацыястваральных працэсаў у Еўропе (пачатак XX ст.) // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя. Мінск, 2006. С. 303–310.*

## 173. Становішча польскай грамадскасці. Пачатак XX ст.

Пасля 1863 г. палякі ў Літве апынуліся ў адчайным становішчы. Раней яны, калі не панавалі, то, па меньшай меры, з’яўляліся самай уплывовай грамадскай сілай. Пасля паўстання палякі былі адкінуты на задворкі грамадскага жыцця і асуджаны на пагібель. [...]

Адхіленыя ад усіх дзяржаўных пасад, пад пагрозай паступовага адчужэння зямель, пазбаўленыя магчымасці развіваць уласную культуру і нават размаўляць на вуліцы па-польску, палякі павінны былі прадпрымаць звышчалавечыя намаганні, каб не загінуць.

І палякі не загінулі. Праўда, знешняя русіфікацыя дасягнула пэўных поспехаў, уплывы пальшчызны значна аслабелі. Было відавочным адступленне ў галіне культуры. Аднак самыя цяжкія часы палякі здолелі ператрываць. [...] Землеўладальнікі моцна трымаліся зямлі, якая засталася ім ад продкаў. Насельніцтва гарадоў і вёсак як магло абараняла пальшчызну. І, калі на пачатку стагоддзя пачаліся перамены, палякі паказалі, што з'яўляюцца такім фактарам, з якім у Літве ўсе павінны лічыцца.

Па меры таго як ваенныя паражэнні і вызваленчы рух ламаюць падмуркі былога дзяржаўнага ладу, палякі вяртаюць страчаныя пазіцыі. Пасля 40-гадовага маўчання адрадзіўся польскі друк. У Вільні пачаў выходзіць "Кур'ер літэўскі". Прайшлі гастролі польскага тэатра, а тэатральныя пастаноўкі на польскай мове адбыліся ва ўсіх гарадах Літвы. На вуліцах гарадоў з'явіліся польскія шыльды. Польская мова загучала на паседжаннях таварыстваў і публічных сходах. Узніклі польскія бібліятэкі і чытальні. Палякі змагаюцца за стварэнне польскіх пачатковых школ.

[...]

Палякі актыўна ўдзельнічаюць у палітычным руху. Пасяхова закончыліся для іх думскія выбары. Прычым не толькі ў Віленскай і Мінскай губ., але і ў Віцебскай, дзе не так ужо і шмат палякаў. У Дзяржаўны савет з усіх губерняў Літва накіравала толькі палякаў.

Усё гэта сведчыць пра вялікія жыццёвыя сілы польскай нацыі. Праўда, некаторыя з дасягненняў ужо адняла рэакцыя. Так, у народных школах зноў забаронена польская мова [...] Забаронена ўжыванне польскай мовы на паседжаннях таварыстваў. Але гэтыя забароны носяць часовы характар. Далейшае развіццё падзей павінна даць палякам роўнасць, а польскай культуры магчымасць свабоднага развіцця і супрацоўніцтва з культурамі іншых народаў.

*Wasilewski L. Litwa i jej ludy. Warszawa, 1907. S. 63–64*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Як фармулявалася галоўная задача дзейнасці "Нашай Нівы" ў рэдакцыйным артыкуле яе першага нумара?
2. Якое значэнне дзеячы беларускага руху надавалі існаванню нацыянальнай школы? Ці згодны вы з імі? Абгрунтуйце сваю думку.
3. Ахарактарызуйце пазіцыю, якую займала "Наша Ніва" і кіраўнікі беларускага руху ў нацыянальным пытанні.
4. Ахарактарызуйце значэнне беларускай мовы для працэсаў нацыянальна-культурнага і палітычнага адраджэння Беларусі.
5. Якое значэнне для пашырэння нацыянальнай свядомасці мела выданне "Кароткай гісторыі Беларусі" В. Ластоўскага?

6. Што можна лічыць галоўным поспехам і галоўнай няўдачай беларускага Адраджэння пачатку XX ст.?

7. Сфармуліруйце асноўныя палажэнні краёвай ідэалогіі.

8. Якую ролю ў грамадска-палітычным і нацыянальна-культурным жыцці Беларусі пачатку XX ст. адыгрываў польскі нацыянальны рух? Ці не перашкаджала развіццё польскай культуры беларускаму нацыянальна-культурнаму адраджэнню? Абгрунтуйце свой адказ.

## СТАНОВІШЧА ЭКАНОМІКІ Ў 1907–1914 гг. РЭФОРМЫ ПЯТРА СТАЛЫПІНА

### 174. Колькасць прамысловых прадпрыемстваў і рабочых. 1906–1913 гг. Табліца.

| Губерні | 1906 | | 1913 | |
|---|---|---|---|---|
| | прадпр. | рабочыя | прадпр. | рабочыя |
| Віцебская | 82 | 6 231 | 106 | 8 440 |
| Віленская | 255 | 9 239 | 225 | 12 291 |
| Гродзенская | 414 | 13 900 | 569 | 7 874 |
| Мінская | 218 | 8 606 | 282 | 12 848 |
| Магілёўская | 87 | 6 223 | 124 | 8 307 |
| Усяго па беларускіх губ. | 1 056 | 44 199 | 1 306 | 59 760 |
| Усяго па Расіі | 14 190 | 1 723 177 | 17 877 | 2 319 577 |

*Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. III. С. 76*

### 175. Акцыянерныя таварыствы з капіталам 2 млн руб. і болей, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі. 1912 г. Табліца.

| Назва, год заснавання, месца знаходжання праўлення | Назва прадпрыемстваў, гандлёвых кампаній і складаў, якія ўваходзілі ў таварыства | Сума капітала (у рублях) |
|---|---|---|
| Таварыства Жырардоўскіх мануфактур. 1885, п. Жырардоў. | Гандаль тканямі і трыкатажнымі вырабамі ў Вільні, Дзвінску і Віцебску | 9 000 000 |
| Таварыства гарадскіх і прыгарадных конна-чыгуначных дарог у Расіі. 1890, Масква | Конна-чыгуначныя дарогі ў Мінску і Вільні | 2 000 000 |
| Прамысловае тав. механічных заводаў. 1873, Варшава | Прадстаўнік у Мінску | 4 000 000 |

| | | |
|---|---|---|
| Маскоўскае лесапрамысловае таварыства. 1883, Масква | Лясная гаспадарка ў Мінскай губ. | 2 000 000 |
| Таварыства тытунёвай фабрыкі ў Гродне. 1906 | Тытунёвая фабрыка ў Гродне, склады ў Вільні і Дзвінску | 2 000 000 |

*Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. III. С. 68-70*

## 176. Банкаўскія аб'яднанні на тэрыторыі Беларусі з капіталам 2 млн руб. і болей. 1912 г. Табліца.

| Назва, год заснавання, месца знаходжання праўлення | Аддзяленні ў Беларусі | Сума капітала (у рублях) |
|---|---|---|
| Азова-Данскі камерцыйны банк.1871, Санкт-Пецярбург | Мінск, Магілёў, Пінск | 30 000 000 |
| Віленскі зямельны банк.1872, Вільня | Вільня | 10 161 000 |
| Віленскі прыватны камерцыйны банк. 1872, Вільня | Беласток, Бабруйск, Гомель | 2 000 000 |
| Камерцыйны банк у Беластоку. 1897 | Гродна, Слонім | 2 000 000 |
| Маскоўскі банк. 1912 | Віцебск | 50 000 000 |
| Руска-Азіяцкі банк. 1910, Санкт-Пецярбург. | Вільня, Віцебск, Гомель, Мінск | 35 000 000 |
| Аб'яднаны банк.1909, Масква | Бабруйск, Вільня, Віцебск, Дзвінск, Магілёў | 30 000 000 |
| Пецярбургска-Тульскі пазямельны банк. 1872, Санкт-Пецярбург | Выдача ссуд у Віленскай і Гродзенскай губ. | 8 000 000 |

*Документы и материалы по истории Белорусии. Т. III. С. 147–148*

## 177. Сталыпінская аграрная рэформа. З Указа Мікалая II ад 9 лістапада 1906 г.

Манифестом нашим от 3 ноября 1905 г. взимание с крестьян выкупных платежей за надельные земли отменяется с 1 января 1907 г. С этого срока означенные земли освобождаются от лежавших на них в силу выкупного долга ограничений и крестьяне приобретают право свободного выхода из общины, с укреплением в собственность отдельных домохозяев, переходящих к личному владению, участков из мирского надела.

[…] Постановить нижеследующие правила:

1.Каждый домохозяин, владеющий надельной землёй на общинном праве, может во всякое время требовать укрепления за собой в личную собственность причитающейся ему части из означенной земли.

2. В обществах, в коих не было общих переделов в течение 24 лет, предшествующих заявлению отдельных домохозяев о желании перейти от общинного владения к личному, за каждым таким домохозяином укрепляются в личную собственность, сверх усадебного участка, все участки общинной земли, состоящие в его постоянном (не арендном) пользовании.

3. В обществах, в коих в течение 24 лет, предшествующих заявлению отдельных домохозяев о желании перейти от общинного владения к личному, были общие переделы, за каждым, сделавшим такое заявление, домохозяином укрепляются в личную собственность, сверх усадебного участка, все те участки общинной земли, которые предоставлены ему обществом в постоянное, впредь до следующего общего передела, пользование. […]

4. Домохозяева, за коими укреплены в личную собственность участки общинной земли, состоящей в постоянном пользовании (ст.1–3), сохраняют за собой право пользования в неизменной доле теми сенокосными, лесными и другими угодьями, которые переделяются на особых основаниях […], а также право участия в пользовании, на принятых в обществе основаниях, непеределяемыми угодьями, как-то: мирской усадебной землёй, выгонами, пастбищами […].

12. Каждый домохозяин, за коим укреплены участки надельной земли […] имеет право во всякое время требовать, чтобы общество выделило ему взамен сих участков соответственный участок по возможности к одному месту. […]

Переход целых обществ как с общинным, так и с подворным землепользованием к владению в отрубных участках совершается по приговорам, постановленным большинством двух третей крестьян, имеющих право голоса на сходе.[…]

*Документы и материалы по истории Белоруссии.*
*Т. III. С. 638–639*

**178. Хутарскія гаспадаркі Беларусі.**

До 1914 г. главной доходной статьёй у хуторян служило льноводство, однако, в последние годы оно стало всё больше вытесняться быстро растущим молочным скотоводством.

[…]

Газета “Могилёвский вестник” указывала, что хуторяне [...] “охотно покупают пароконные передковые плуги однолемешные, пружинные бороны, рядовые сеялки, косилки, конные грабли, жнейки, лучшие приводные молотилки, веялки-сортировки, льномолотилки и льномялки, сепараторы и маслобойки для переработки молока. Улучшают рогатый скот, интересуются молочным хозяйством”.

В пределах волости имелось несколько “образцовых” хуторов, которые служили показательными хозяйствами. Один из таких хуторов – “Подворотище” [Микулинской вол., Оршанскага пов., Могилёвской губ.] крестьянина Волчкова раскинулся на площади 80 дес., из которых 55 составила пашня. В хозяйстве был заведён восьмипольный севооборот с посевом клевера на корм и на семена. Лошадей было 12, крупного рогатого скота – 25 голов. Содержалось стадо чистокровных серых романовских овец, было много свиней английской породы (беркшир). Весь избыток приплода от рогатого скота, овец и свиней раскупался крестьянами на племя. Значительный доход приносило молочное хозяйство, которое набирало всё большую силу. Для переработки молока применялись сепаратор “Альфа-Колибри” и маслобойка “Виктория”, а масло продавалось в прессованном виде.

Это хозяйство было создано при поддержке властей и при помощи агрономов с тем, чтобы оно одновременно служило показательным хутором, прокатной станцией орудий и машин, зерноочистительным пунктом и рассадником племенных животных. [...]

Хозяйство Волчкова представляло собой своеобразное небольшое капиталистическое имение, где каждая отрасль приспосабливалась к запросам рынка и служила торговым целям. Другая характерная черта его – многоотраслевая система земледелия. На хуторе “Подворотище” владелец занимался одновременно зерновым хозяйством, картофелеводством, льноводством, садоводством, огородничеством, пчеловодством, овцеводством, свиноводством и молочным хозяйством. Такая шырокая специализация диктовалась местными условиями, стремлением использовать любую возможность повышения рентабельности земледелия.

Подобные примеры были не единичными, о чём свидетельствует сообщение из Верховской вол. Витебского у. “Крестьяне нашей волости, – писали оттуда, – почти все расселились на хутора и мало-помалу вводят у себя травосеяние, многополье и постепенно начинают переходить от зернового хозяйства к молочному... Они уже подумывают об открытии в деревнях общественных маслобоек и сыроварень”.

*Липинский Л. Крестьянское движение в Белоруссии в 1914–1917 гг. Минск, 1975. С. 66–67*

### 179. З паведамлення газеты “Речь”. 25 ліпеня 1910 г.

В дер. Лыково Могилёвской губ. произошли беспорядки при применении закона 9 ноября. Четверо богатых крестьян названной деревни, имеющие вместе около 100 десятин земли, пожелали выйти из общины. Общество протестовало, ссылаясь на малоземелье. Однако его не послушали, и в деревню был командирован землемер для выдела. Приехавшего землемера встретили бабы. Землемер попробовал подействовать на женщин убеждением и стал доказывать им, что он только исполняет закон. Крестьянки отказывались этому верить и кричали в ответ:

– Это всё начальство выдумывает. Такого закона нет.

Пришлось сложить астролябию и ехать обратно. По дороге землемер встретил непременного члена землеустроительной комиссии и вернулся с ним в дер. Лыково.

На этот раз их встретила уже толпа мужиков, человек в 200, с палками и кольями в руках. Видя возбуждение собравшихся, непременный член и землемер повернули назад. Вдогонку им полетели палки. Непременный член получил удар в спину. На поле находился один из пожелавших выдела. “Проводив” чиновников, толпа схватила его и сильно избила. На следующий день в деревню прибыли стражники, под охраной которых землемер и произвёл выдел. Около 20 участников беспорядков подвергнуты административному взысканию.

*Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. III. С. 653*

### 180. “Сталыпінскія” земствы.
### З артыкула ў газеце “Звезда”. 9 красавіка 1914 г.

Проведённый “в порядке 87 статьи” закон о введении земства в шести западных губерниях обеспечивает полное господство в крае крупных землевладельцев и русского чиновничества. Несмотря на созданные имущественные перегородки (высокий имущественный ценз), законом уже наперёд установлено и число избираемых представителей от различных слоёв населения. “Таким образом, – пишет одна из местных газет, – напр., в Двинском у. Витебской губ. на 34 члена местного земства полагается по закону только 11 крестьянских представителей, в Режицком у. на 24 члена – 8 крестьян, в Люцинском на 25 членов – 8 крестьян”.

Что крестьяне не могут участвовать при выборах в качестве земельных собственников и получить больше установленного числа членов, это ясно уже из того, что, например, в Двинском и Режицком у. установлен избирательный ценз в 75, а в Люцинском – даже 100 дес. Таких крестьян вы у нас не найдёте. Собственники 15–25 дес. тут

считаются уже зажиточными хуторянами. Обыкновенно же местные крестьяне владеют 4–8 дес. земли. Что рабочие совершенно удалены от участия в земстве, это само собой разумеется, хотя, напр., в Двинском у. занято в различных предприятиях около 3 376 рабочих, в Режицком – 1 036.

Кроме того, новый закон даёт привилегированное положение одним народностям за счёт других. Во-первых, от участия в земстве устранены все евреи, которых по переписи 1897 г. в Западных губ. считается 1915782 чел. Все же прочие национальности поставлены под опекой русских. Параграф 22 закона устанавливает, что в Двинском, Режицком и Люцинском у. большинство членов должно быть выбрано из русского населения. Далее закон говорит, что “представителями училищных комиссий могут быть только русские”.

“Соответствуют ли преимущества, представленные в земствах русской части населения, его значению и весу в местной жизни?” – спрашивает газета и отвечает: “Ничего подобного. По переписи 1897 г. считается русских в Двинском у. 28,8 проц., Режицком 29,8 проц. и Люцинском 27,5 проц.” “Тут же должны заметить, что треть числа русских находится на действительной службе в армии. Другая часть составляет главным образом пришельцев – чиновничество, чуждое интересам местной жизни. Количество же оседлого русского населения не превышает 10–15 проц. и этому меньшинству предоставлена преобладающая роль в самоуправлении краем”. [...]

Таким образом, новый закон создаёт выгодное положение для имущих классов вообще и для реакционных элементов русского населения в частности.

*Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. III. С. 769*

**ПЫТАННІ І ЗАДАННІ**

1. Якія працэсы адбываліся ў прамысловасці з 1907 па 1914 г.?
2. Чаму менавіта Указ ад 9 лістапада 1906 г. стаў асноватворным для правядзення аграрнай рэформы?
3. Якія перамены адбываліся на вёсцы ў выніку правядзення гэтай рэформы?
4. Чаму хутарызацыя выклікала незадавальненне бяднейшай часткі сялянства?
5. Якім чынам многія хутарскія гаспадаркі ператвараліся ў высокаэфектыўныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы?
6. Дайце ацэнку ўзроўню эканамічнага развіцця Беларусі на пачатку XX ст. і эфектыўнасці сталыпінскай аграрнай рэформы?
7. Што рабілася царскім урадам, каб забяспечыць панаванне на Беларусі рускіх памешчыкаў і чыноўнікаў?

## БЕЛАРУСЬ У ГАДЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

### 181. З маніфеста Мікалая II пра ўступленне Расіі ў вайну. 20 ліпеня 1914 г.

Божие милостью, Мы, Николай II Император и Самодержец Всероссийский, Царь Польский, Великий князь Финляндский, и прочая, и прочая, и прочая, объявляем всем нашим верным подданным: следуя историческим своим заветам, Россия, единая по вере и крови с славянскими народами, никогда не взирала на их судьбу безучастно. С полным единодушием и братскою силою пробудились братские чувства Русского народа к славянам в последние дни, когда Австро-Венгрия предъявила Сербии заведомо неприемлемые для державного Государства, требования.

Презрев уступчивый и миролюбивый ответ Сербского правительства, Австрия поспешно перешла в вооружённое нападение, открыв бомбардировку беззащитного Белграда. Вынужденные в силу создавшихся условий принять необходимые меры предосторожности, Мы повелели перевести армию и флот на военное положение, но, дорожа кровью и достоянием наших подданных, прилагали все усилия к мирному исходу. [...]

Союзная Австрии Германия вопреки нашим надеждам на вековое доброе соседство и не внемля заверению нашему, что принятые меры отнюдь не имеют враждебных ей целей, стала домогаться немедленной отмены и, встретив отказ в этом требовании, внезапно объявила России войну. Ныне предстоит уже не только заступаться за несправедливо обиженную родственную нам страну, но оградить честь, достоинство, целость России и положение её среди великих держав.

Мы непоколебимо верим, что на защиту Русской земли дружно и самоотверженно встанут все наши подданные. В грозный час испытания да будут забыты внутренние распри, да укрепится ещё теснее единение царя с его народом, и да отразит Россия, поднявшаяся как один человек, дерзкий натиск врага с глубокою верою в правоту нашего дела и смиренным упованием на всемогущий промысел. Мы молитвенно призываем на святую Русь и доблесные войска наши Божие благословение.

Дан в Санкт-Петербурге, в двадцатый день июля в лето от Рождества Христова 1914, в царствование же нашее в двадцатое.

На подлинном собственною Его Императорского Величества рукою написано: Николай.

*НГА РБ у Мінску. Ф. 295, воп. 1, ад. з. 8591б, арк. 84*

**182. З журнала ваенных дзеянняў 24 пяхотнага Сімбірскага палка. Люты 1915 г. Раён г. Гродна.**

11 февраля. В 5 часов вечера получено приказание атаковать высоту 100.3. Начало атаки – 6 часов вечера. Три батальона, быстро развернувшись, почти в сумерках начали наступление. [...] Неприятельская артиллерия открыла сильнейший огонь. Одновременно с этим был открыт и ружейный огонь. Полк дошёл до проволочных заграждений, где понёс значительные потери и принужден был отойти. Через три часа была призведена вторичная атака. Но с тем же результатом. Артиллерийский, ружейный и пулемётный огонь буквально косил людей. Укрыться от него хоть на время не было никакой возможности.

12 февраля. Полк находился в окопах Петрозаводского полка, укрепил их и вёл непрерывную перестрелку с противником. Окопы обстреливались артиллерией противника. Упало несколько снарядов крепостной артиллерии нашей. Убитых и раненых нижних чинов около 50 человек.

13 февраля. Полк также находился под огнём противника и потерял за этот день 1 раненого офицера и около 80 нижних чинов.

14 февраля. В 6 часов утра полку приказано атаковать с занимаемых позиций высоту 100.3, занять её и укрепиться по обе стороны шоссе. Ровно в 6 часов утра полк вышел из окопов и пошёл в атаку, занял высоту, взяв пленными около 100 человек и две батареи. Батареи за неимением людей не могли быть вывезены. Огонь противника был гораздо слабее, чем в атаках с 11 на 12 февраля. Полк дошёл до южной окраины дер. Ратичи, но, оставленный с обеих флангов соседом, принужден был отойти на высоту 100.3, а потом и в окопы Петрозаводского полка. В одной из атак на высоту 100.3 ранен командир полка [...] лично взявший высоту с остатками полка.

В 7 часов вечера вновь было приказано атаковать высоту совместно с батальоном Челябинского полка. Нашему полку удалось набрать не более 200 человек без офицеров. Полк принял командир 3 батальона подполковник Тупицын. Атака была скоротечной. Немцы открыли только ружейный огонь. Но и его было достаточно. Челябинцы потеряли около 120 нижних чинов и 2 офицеров. Отошли в окопы.

Потери за все атаки с 11-го по 14-е включительно выразились: офицеров – убитых 10, раненых 31, контуженных – 2; нижних чинов – убитых, раненых и без вести пропавших 2 988 чел. Полк занял северную окраину дер. Ратичи около 7 часов вечера.

*РДВГА. Ф. 2638, воп. 1, ад. з. 31, арк. 6–7*

**183. Восьмая гадавіна выхаду “Нашай Нівы”.**

Невясёлая гэтая новая гадавіна нарадзін “Нашай Нівы”. У цяжкі, сумны час падыйшла яна. Ліюцца рэкі крыві. Сотні, тысячы ваякоў косіць вайна кожны дзень сваёй вострай касой. А па ўсёй нашай старонцы, што так многа ахвяр аддала вайне і людзьмі і багацьцем сваім, пануе сум-смутак. І ў дзень, калі, здаецца, трэба цешыцца, што-ткі, нягледзячы на ўсё, “жыве Беларусь”, – і ў гэты дзень няма мейсца для ўцехі. Трэба сур’ёзна глянуць на тое, што творыцца навакол нас, трэба, абапіраючыся на наш прыбытак за мінулыя гады, разважаць аб будучыне.

“Наша Ніва” нарадзілася ў той момант, калі беларуская нацыянальная сьвядомасьць першы раз зьбудзілася ў шырокіх кругах народных, калі з’усюль чутны былі галасы, што нам без газеты ніяк нельга быць. Нарадзілася яна як едыная беларуская газэта, як першы расток на ніве народнай. А як за першым усходам зерняці на полі вырастае густая зялёная рунь, што суліць багаты ўраджай, – так праз восем гадоў з’яўляліся ўсё новыя і новыя газэціны і кніжкі беларускія, аткрываліся хаўрусы (аб”яднанні. – *А.С.*) і суполкі выдавецкія, закладаліся таварыствы, кружкі, кааператывы і іншыя беларускія грамадзянскія арганізацыі. За “Нашай Нівай” пайшла “Маладая Беларусь”, “Саха”, “Беларус”, “Лучынка”, “Раніца”. Поруч з нашай першай петраградскай суполкай “Загляне сонца і ў нашэ ваконцэ” пачалі выдаваць беларускія кніжкі “Наша хата”, “Мінчук”, “Полочанін”, Беларускае выдавецкае таварыства, “Беларус” і ўсе яны навэдлуг сіл і можнасьці працавалі і працуюць дзеля справы адраджэньня беларускага народу. У Вільні, Мінску і Полацку пааткрываліся беларускія кнігарні.

Поруч з віленскім “Беларускім музычна-драматычным гуртком” арганізуюцца гэткія ж гурткі ў Менску, Петраградзе і інш. А ў апошні час перад вайной грамадка беларускіх працаўнікоў ладзілася аткрыць у Вільні беларускае навуковае таварыства і музэй.

Гэтак ідзе скрозь спорная культурная работа беларусаў. Гусьцее і расьце рунь на нашым полі, і хоць вайна з яе страшэнствамі прымарозіла маладыя ўсходы, хоць багата рабочых рук адарвала ад роднай нівы і паставіла ў рады войск, хоць агульны застой стрымлівае ўзрост беларускага нацыянальнага руху – мы верым у сілу і моц культуры, каторая адбудуе ўсе страты нашыя ад вайны, верым, што мінецца сьцюжа з марозамі, што ізноў заясьнее над намі яснае сонейка, – абы толькі мы самі перамагалі час ліхалецьця, абы асталіся цьвёрдымі і моцнымі ды не загубілі сваіх найдаражэйшых ідэалаў і нашай веры ў іх.

*Наша Ніва. 1914. № 44*

### 184. З пісьма двараніна К. Мрачкоўскага. 31 жніўня 1915 г.

Крестьяне же – это хлеборобы полунищие, полуголодные. Хаты их с соломенными крышами, покрывающимися от старости мхом, местами даже травой. Крестьянские лачуги ничем не отличаются от позади стоящих хлевов, амбаров и коровников, разве только несколькими отверстиями в стенах, называемыми окнами, в большинстве без окон и заткнутыми старой свиткой или онучами.

Проходишь через село и слышишь разговоры нарекающие и даже угрозы. Спокойный белорус озадачен только тем, “возьмуць ці не возьмуць мяне, сінябілетніка, не возьмуць – так выселяць, кажуць, ён (немцы) недалеча, а возьмуць – дзе і каму пакіну Марыну з сынком, красаўцам Аўхімам”. Не один озадачен подобной мыслью. Помещики и крестьяне спешат собрать с поля весь урожай, засеять озимые хлеба, пока не пришёл “ён”, распродают за бесценок скотину и лошадей, чтобы “як будуць высяляць не было цягаты”. Не слышится разговоров среди крестьян, затрагивающих сельскохозяйственные вопросы, как это было 3–4 месяца тому назад. При встрече обычный вопрос: “Ну, як там з вайною, што чуваць, кажуць “ён” блізка ўжо ад Мінска і Пінска, што гэта будзе? Няўжо-ж нашы не здзержаць яго. Столькі-ж народу пабралі са ўсёй Расіі. Але-ж снарадаў няма, кажуць, і начальства ўзяткі бярэ і прадае крэпасці і планы. У нас заўсягды так. Таперача снарадаў няма; а што рабіла начальства да вайны і ў час вайны – ганяла налогі, акцызы, толькі глядзела, як-бы гэта астатнюю капейку з мужыкоў здзерці. А начальства многа: і земскі, і станавы, іураднік, і стражнік, і старшына, і пісар. Поп і той цягне – ці за вянчанне, ці за хрэзьбіны, усяк мяркуе, як бы венцей (больше) здзерці, а як прыйшла вайна, так падстаўляюць тож мужыцкую спіну. Паны пахаваліся ў Красны хрэст, у санітары і марынуюць бедны народ, пасылаючы яго з голымі рукамі”.

Большая часть крестьян, спина которых ещё чешется от заживающих синяков – ласк любвеобильного “начальства и помещиков”, – настроена очень враждебно, и они категорически заявляют: “Пушчай уб’юць, а зямлю не пакіну, і так нагараваўся. З жонкай і малымі на зіму, на холад-голад не пайду”.

И каждый из них с затаённой злобой, редко удачно скрываемой, влачит своё жалкое существование. Некоторые запасные раненые, посланные на поправку, а ныне, вызванные к воинским начальникам на комиссии, враждебно расположены не только к начальству-панам, но и к помазаннику божьему. “Все злодеи, казнокрады, – говорит фельдфебель, – Варшаву сдали, Ковну… Ново-Георгиевск… Ивангород… Осовец… Вильно… Пинск… Прибалтику… все отступают, жгут

добро бедных людей, казаки грабят свой русский славянский народ, бьют нагайками, забирают последние гроши от выгоняемых принудительно “бежанцаў”, делятся с начальством. Отступают и будут отступать до Камчатки, – желают отдать – продать немцам нашу землю, а нами заселить Сибирь и Камчатку”. [...]

*Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. III. С. 824*

### 185. Становішча сялян. 1915 г.

Крайне бедствовали бедняцкие и середняцкие хозяйства, которые испытывали острый недостаток рабочих рук. В преобладающей части крестьянских семей тяжёлые работы легли на плечи женщин и подростков. Из Борисовского у. сообщали весной 1915 г., что “в деревнях рабочих рук не хватает”, отчего “нередко можно видеть, как пашут бабы и небольшие мальчуганы, которые едва достигают рукоятки плуга”.

Агроном Возненко, совершивший в мае 1915 г. поездку по Борисовскому у., писал: “В с. Бегомле, проезжая, я видел такую картину: ведёт под уздцы девочка лет 8-ми лошадёнку, которая, едва переставляя ноги, тащила по дороге воз навоза, а на возу сидела её сестрёнка лет 4-х и помогала погонять лошадь понукиванием... Я спросил: “Где же мать и отец?” Старшая ответила: “Отец на немца пошёл, а мати пашет”. [...]

Из Полоцкого у. Витебской губ. сообщали: “Среди работающих преобладают женщины. Бабы и косят, и жнут, и возят возы. Война всему их научила”. [...]

Сокращение рабочей силы в деревне, реквизиция лошадей и крупного рогатого скота значительно ослабили сельское хозяйство в Могилёвской губ. “Много бед внесено в трудную крестьянскую жизнь, – отмечал “Вестник Могилёвского земства”. – Многие крестьянские семьи с призывом запасных и ополченцев лишились работников... Такие семьи очутились в отчаянном положении. Пришлось некоторым продать часть земли, чтобы поддержать своё существование. Другие семьи, раньше бравшие в аренду землю, теперь оказались вынужденными отказаться от аренды, так как у них некому обрабатывать землю”. Однако в целом в этой губ. положение было лучшим, чем в прифронтовой Минской. [...]

Крестьянство тяжело страдало от непрерывных реквизиций лошадей, скота, хлеба, фуража и т.п., проводимых военным ведомством. Если в первые месяцы войны все необходимые потребности армии удовлетворялись за счёт закупки продовольствия и скота главным образом в прифронтовых губ., то затем финансовые возможности казны истощились и пришлось прибегнуть к массовым реквизициям. Уже 17 февраля 1915 г. царское правительство было вынуждено издать закон,

которым предоставляло право командующим армиями в случае необходимости проводить реквизицию продовольствия, а также устанавливать цены на продукты, покупаемые для войск.[...]

В результате реквизиций деревня была подвергнута массовому разграблению. [...] У крестьян часто забиралось всё до последнего зерна, что делало их положение отчаянным. [...]

Что несла с собой реквизиция для крестьянского населения в финансовом выражении, свидетельствуют следующие цифры. Только в двух местностях Минской губ. – Ерёмичах и Мире, а также п. Городке к октябрю 1916 г. было реквизировано у крестьян различного имущества (скота, хлеба, соломы, сена, повозок и т.п.) на общую сумму 198 080 руб. Это означало полное разорение крестьянских хозяйств. Чтобы как-то приукрасить положение [...] печать вовсю трубила о том, что крестьянство якобы сильно выиграло от войны, получило большие денежные суммы от поставок армии хлеба и лошадей. [...]

Однако эти бумажные деньги в результате непреклонно растущей инфляции очень мало стоили.

*Липинский Л. Крестьянское движение в Белоруссии в 1914–1917 гг. С. 96–103*

### 186. Бежанцы. 1915 г.

Гэтая вайна перш за ўсё закранула лёс насельніцтва прыфрантавой паласы, у прыватнасці, ад Беластока да Віцебска і Мінска, якое масава пакідала свае мясціны, сваю родную зямельку. І на тое былі прычыны. Па-першае, грамадская думка Расійскай імперыі, добра кіруемая ўрадам, апраўдвала тактыку “выжженной земли”. [...] Як пісаў тагачасны часопіс: “Разрушают обе стороны всё, что возможно”. Тактыка “выжженной земли” тычылася нават Сіноду, якому быў адданы загад здымаць званы з цэркваў. Таму і не здзіўляе загад ад 25 мая 1915 г. па рускай арміі, у якім патрабавалася: “Уводить мужское население с возрастом от 18 до 50 лет, местных жителей... с домашним необходимым имуществом”. Успамінае жыхар Гродзенскай губ.: “Казакі акружылі нашу вёску і прымусілі нас пакінуць свае хаты...”

Толькі пазней царскі ўрад зразумеў, што “поток беженцев обострил бедствия, увлекая Россию в революцию”. Генерал Аляксееў тэлефанаваў у губернскія гарады, што “необходимо устранить всякий признак насильственного удаления населения”. Але на справе ўсё выглядала інакш. Для тых, хто не хацеў пакідаць родную хату, прымусова ствараліся ўмовы, пры якіх заставацца далей пры фронце было немагчыма з-за рэквізіцый: “Тем, кто не выходит из дому, оставлять одну корову и сенажа на один месяц”. Тыя ж, хто “добровольно угоняет скот и увозит припасы в тыл армии, не подлежит реквизиции”.

